# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 26 Сшыткі 1–2 (50–51) Снежань 2019

## ЗМЕСТ

### Артыкулы



### Крыніцазнаўства



### Архівалії



### Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі

# Саборы ўніяцкага духавенства Кіева-Віленскай архіепархіі ў эпоху канфесіяналізацыі (канец XVI – пачатак XVII ст.)

**Ігар Скачыляс**

### Уступныя заўвагі

Нароўні з дзяржаўнымі структурамі Вялікага Княства Літоўскага і органамі самакіравання (магістраты, брацтвы і г. д.) у стварэнні жыццёвай прасторы функцыянавання беларускага этнасу і геаграфічных межаў сучаснай Беларусі, протанацыянальнай ідэнтычнасці і інстытуцыянальных формаў самавыяўлення ліцвінаў / русінаў і беларускай культуры ў раннемадэрны перыяд важную ролю (некаторыя лічаць – галоўную) выканалі арганізацыйныя структуры хрысціянскіх канфесій – Праваслаўная, Рыма-каталіцкая і Уніяцкая цэрквы. Царкоўныя структуры на тэрыторыі ВКЛ аказаліся асяроддзем, у рамках якога фармавалася канфесійная самасвядомасць, цесна звязаная з протанацыянальнымі і нацыянальнымі ідэнтычнасцямі, узнікненнем этнасаў, сярэднявечных і раннемадэрных дыскурсаў. Мяркуецца, што ва ўсходніх славян самасвядомасць пераасэнсоўвалася і артыкулявалася ва ўяўленнях не толькі пра дынастыю і дзяржаву, але і пра рэлігію і тэрыторыю, на якой гэты этнас жыў[1].

[1] Дмитриев М. В. Проблематика исследовательского проекта “Confessiones et nationes. Конфессиональные традиции и протонациональные дискурсы в истории Европы” // Религиозные и этнические традиции в формировании национальных идентичностей в Европе. Средние века – новое время. Москва, 2008. С. 15–16, 18–19, 22–31, 38–42.

Структуры Усходняй царквы славяна-візантыйскага абраду інстытуцыйна былі аб’яднаны ў шматлікія епархіі Кіеўскай мітраполіі. На абшарах ВКЛ самую вялікую тэрыторыю займала Кіеўская (Кіева-Віленская) мітраполія, якая была заснавана, як мяркуецца, ужо ў 70-я і 80-я г. XI ст.[2]. Пасля Люблінскай уніі 1569 г. архіепархія ахоплівала Віленскае, Мінскае, Наваградскае і Троцкае ваяводствы, мяжуючы на поўначы з Жамойцю і Курляндыяй, на паўночным усходзе і ўсходзе – з Полацкай архіепархіяй, на поўдні – з Уладзіміра-Берасцейскім і Турава-Пінскім уладыцтвамі і далей пашыраючыся на Кіеўскае і Брацлаўскае ваяводствы, а на захадзе ўтвараючы мяжу з Прусіяй і Каронай Польскай[3].

Адным з цэнтральных інстытутаў адміністрацыі і кананічнай структуры Кіева-Віленскай архіепархіі выступалі епархіяльныя саборы (іх яшчэ называлі генеральнымі сінодамі дэканаў, кангрэгацыямі, сінодамі) духавенства і міран. У сацыяльна-культурных рэаліях дамадэрнай эпохі гэтыя публічныя форумы адначасова выконвалі важную ролю рэпрэзентацыі і дысцыплінавання рускай этнаканфесійнай супольнасці, а таксама кадыфікацыі яе ўсходнехрысціянскага этасу і канструявання тагачаснай тоеснасці праваслаўных і ўніятаў. У XVI–XVIII ст. епархіяльныя саборы сталі дзейнай

[2] Найноўшае калектыўнае даследаванне пра фармаванне тэрыторыі архіепархіі, развіццё яе арганізацыйных структур і юрысдыкцыйны статус: Назаренко А. В., Пидгайко В. Г., Прокопюк О. Б., Тимошенко Л. В., Флоря Б. Н. Киевская епархия // Православная энциклопедия. Москва, 2013. Т. 33. С. 151–290.

[3] Гл. картаграфічныя дадаткі да сінтэзы польскіх навукоўцаў (Bieńkowski L. Organizacja Kościoła wschodniego w Polsce // Kościół w Polsce. Studia nad historią Kościoła katolickiego w Polsce / pod red. J. Kłoczowskiego. Kraków, 1969. T. 2), а таксама падрыхтаваныя беларускімі калегамі карты адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Кіеўскай мітраполіі на тэрыторыі ВКЛ: “Праваслаўная Царква ў другой палове XVI – XVIII ст.” і “Уніяцкая царква ў XVII–XVIII стст.” (Вялікі гістарычны атлас Беларусі: у 4 т. Мінск, 2013. Т. 2. С. 16, 60–61).

інстытуцыяй, у рамках якой русіны маглі сфармуляваць сваю культурную, рэлігійную і нават грамадскую праграму. На гэтых публічных форумах "людзі грэцкай веры" абаранялі правы і прывілеі "рускай нацыі", выяўлялі свой традыцыйны этас і г. д.

Згодна з царкоўным законам, сабор – гэта "сход святароў і іншых прадстаўнікоў мясцовай Царквы, закліканых дапамагаць епархіяльнаму епіскапу на карысць усёй епархіяльнай супольнасці". Такі сабор праводзіцца для абмеркавання і вырашэння пытанняў веравучэння, рэлігійна-маральнага жыцця, структуры, кіравання і дысцыпліны вераспавядальных хрысціянскіх супольнасцяў[4]. Усходняя тэалогія разглядае сабор як "сход членаў Царквы з Хрыстом", што мае кафалічную прыроду і з'яўляецца "канкрэтным выражэннем еднасці Царквы ў мностве яе эмпірычных аспектаў". Каналісты Рускай уніяцкай царквы акрэслівалі епархіяльны сабор як "пэўны сход у адным месцы царкоўных асоб, скліканых епіскапам, для пахвалы Бога і выратавання чалавечых душ". У прыватнасці, падручнік пастырскага багаслоўя кіеўскага мітрапаліта Льва (Кішкі) "Собрание припадков краткое" 1722 г. вызначае яго як "сход вернікаў Хрыстовых, якія клапоцяцца пра душы хрысціянскія"[5].

Мэтай сабораў у Кіеўскай мітраполіі, што выконвалі ролю прадстаўнічага органа духавенства і вернікаў епархіі, было "выпраўленне царкоўных рэчаў", "добрае кіраванне епархіяй і высвятленне ўсіх патрэб духавенства і свецкіх асоб", а таксама непасрэднае злучэнне епархіі з яе ўладыкам. Падставай для існавання саборнага інстытута ў Царкве служыць веравучэнне заснавальніка Царквы (Мц. 18:18, 15–20; Ян 17:17, 21–26), прыклад апосталаў (Дзеі 15), а таксама правілы Усяленскіх памесных сабораў і партыкулярнае заканадаўства

[4] Никодимъ, епископ. Правила Православной Церкви с толкованиями. [Москва], 1994. Т. 1. С. 609–610; Pallath P. The Synod of Bishops of Catholic Oriental Churches. Rome, 1994. P. 98–99. Афанасьев Н. Церковные соборы и их происхождение. Москва, 2003. С. 6–7, 13, 16, 19–21, 36, 39, 60, 181.

[5] Szczurowski T. Prawo kanoniczne. Supraśl 1792. S. 138−139.

мясцовых цэркваў[6] (у гэтым выпадку Кіеўскай мітраполіі).

Рускай спецыфікай саборавання была даўняя царкоўная практыка (уласцівая як праваслаўным, так і ўніятам) аб’яднання інстытута епархіяльных сабораў з судовым інстытутам і пастырскімі візітацыямі. Відавочна, што ўвядзенне уніі не змяніла гэтай сістэмы царкоўнага кіравання. У епархіях Кіеўскай мітраполіі і пазней захавалася традыцыя папярэдніх стагоддзяў, якая прадугледжвала выкарыстанне своеасаблівай “трыяды” (візітацыя = сабор = духоўны суд) для падтрымання трывалай інстытуцыйнай сувязі іерархіі з духавенствам і вернікамі, для забеспячэння выканання судовых рашэнняў у аддаленых ад епіскапскай кафедры мясцовасцях і захаванне прынцыпу саборнасці Усходняй царквы[7]. На працягу XVII ст. гэтая сістэма зазнала значныя змены ў бок прыстасавання яе да лацінскай пастырскай мадэлі, але грунтоўных пераўтварэнняў у яе функцыянаванні ўсё ж не адбылося.

Паводле мэтаў сходу і зместу праграмы епархіяльныя саборы Кіеўскай мітраполіі падзяляюцца на *звычайныя* (*штогадовыя*), *элекцыйныя* (*выбарчыя*) і *ўнійныя* (*аб’яднальныя*). Паводле юрысдыкцыйнага характару і канфесійнай прыналежнасці ўдзельнікаў вылучаюць *праваслаўныя* і *ўніяцкія* епархіяльныя саборы. Абодва апошнія тыпы сходаў кліру функцыянавалі адначасова на тэрыторыі Кіева-Віленскай архіепархіі пачынаючы з 20-х г. XVII ст. Элекцыйныя ж саборы тут не адбываліся, бо ў гэтым не было патрэбы, таму што мясцовага ардынарыя, улічваючы яго статус кіраўніка Рускай царквы, выбіраў мітрапаліцкі сабор (які складаўся з уладык), а не епархіяльны.

[6] Лотоцький О. Українські джерела церковного права. Варшава, 1931. С. 102, 175–176. Pallath P. The Synod of Bishops. P. 41–44; Афанасьев Н. Церковные соборы. С. 6–7, 13, 40.

[7] Практыка функцыянавання гэтай “трыяды” на епархіяльным узроўні апісана ў: Скочиляс І. Генеральні візитації в українсько-білоруських єпархіях Київської уніатської митрополії. 1596–1720 роки // Записки НТШ. 1999. Т. 238. С. 46–94.

## "Саборная трыяда" як форма камунікацыі, кіравання і кантролю

Пасля абвяшчэння Берасцейскай царкоўнай уніі ў 1596 г. нечакана пачалося шматгадовае супрацьстаянне паміж вернікамі і духавенствам аднаго абраду, але рознай царкоўнай накіраванасці, што прывяло да тэрытарыяльных і інстытуцыянальных размежаванняў у некалі адзінай Рускай мітраполіі. З'яўленне ў межах Кіева-Віленскай архіепархіі лакальных супольнасцяў і адміністрацыйных утварэнняў, падпарадкаваных кіраўніку іншай Царквы, азначала частковую легітымізацыю перад свецкай і духоўнай уладай тых груп насельніцтва, якія прымалі іншую канфесійную ідэнтычнасць у мікрасоцыуме, дзе панавала гамагенная большасць. Даследаванне гэтых працэсаў у перспектыве дапаможа адказаць на пытанне, наколькі такія трансфармацыі змянілі культурнае і рэлігійнае аблічча ўкраінска-беларускага "суперэтнасу" ў паслябрасцейскую эпоху, стварылі яго рэгіянальную варыяцыйнасць і ўрэшце паўплывалі на фармаванне мадэрных нацый у Цэнтральна-Усходняй Еўропе.

Гэты перыяд у гісторыі Кіеўскай мітраполіі таксама быў эпохай мадэрнізацыі і канфесіяналізацыі рэлігійнай культуры русінаў абедзвюх канфесій – праваслаўнай і ўніяцкай. "Тэхнічна" гэтыя інавацыі ўвайшлі ў рэфармацыйную практыку посттрыдэнцкага лацінскага хрысціянства, а ментальна былі ўкаранёныя ў шматвяковы досвед існавання "грэцкай веры" ў шматэтнічнай і поліканфесійнай Польска-Літоўскай дзяржаве. Канфесіяналізацыя ў яе рускай (украінска-беларускай) версіі прадугледжвала перш за ўсё цеснае супрацоўніцтва паміж Царквой (Кіеўскай мітраполіяй) і велікакняскай (каралеўскай) уладай, магнатэрыяй, шляхецкай карпарацыяй і магістратамі гарадоў з мэтай дасягнення агульнай мэты – пабудовы ўніфікавана і добра структураванай супольнасці. Вынікам рэалізацыі гэтай праграмы мелі стаць крышталізацыя дагматычных асноў веры, стварэнне "сваіх" тэалагічных навучальных устаноў і выдавецкіх цэнтраў, дысцыпліна рэлігійных практык, узнікненне рэлігійнага

эксклюзівізму і выражэнне спецыфічна канфесійнай самасвядомасці – працэсаў, вядомых у Заходняй Еўропе пад зборным паняццем *Konfessionsbildung*[8]. Найбольш эфектыўнымі эклезіяльнымі інстытутамі і механізмамі, з дапамогай якіх Царква і дзяржава канфесіяналізавалі грамадскую прастору, былі духоўныя суды, пастырскія візітацыі, епіскапскія і мітрапаліцкія саборы (сіноды).

Не пазней за 80-я г. XVI ст. на тэрыторыі Кіева-Віленскай архіепархіі сфармавалася своеасаблівая дуалістычная сістэма саборавання, у рамках якой паралельна функцыянавалі роднасныя паміж сабой, але адрозныя тэрытарыяльнай юрысдыкцыяй і складам удзельнікаў тыпы сходаў кіроўнага архірэя, кліру і міран. Такая сістэма ўключала:

[8] Пэўным вынікам цяперашніх штудый працэсаў канфесіяналізацыі можна назваць: Die Katolische Konfessionalisierung. Wissenschaftliches Symposion der Geselschaft zur Herausgabe des Corpus Catholicorum und des Vereins für Reformationsgeschichte 1993 / hrssg. W. Reinhard, H. Schilling. Gütersloh, 1995. Сучасныя дыскусіі пра гэты канцэпт абагульняе артыкул: Deventer J. “Confessionalisation” – a Useful Theoretical Concept for the Stude of Religion, Politics, and Society in Early Modern East-Central Europe? // European Review of History. 2004. Vol. 11. Nr. 3. S. 403–425. Праблему канфесіяналізацыі рускай супольнасці ў Рэчы Паспалітай аналізуе: Дмитриев М. В. Православная культура Московской и Литовской Руси в XVI ст.: степень общности и различий // Белоруссия и Украина: История и культура. Ежегодник 2003. Москва, 2003. С. 22, 87–88; Dmitriev M. V. Die Kirchenunion von Brest (1596) und die Konfessionalisierung der polnischen Ostpolitik in der Regirungszeit Sigismunds III // Russland, Polen und Österreich in der frühen Neuzeit: Festschrift für Walter Leitsch zum 75. Geburstag / hrsg. Ch. Augustynowicz, A. Kappeler, M. D. Peyfuss, I. Schwarcz, M. Wakounig. Wien; Köln; Weimar; Böhlau, 2003. S. 159–177. Арыгінальную канцэпцыю канфесіяналізацыі раннемадэрнага грамадства на ўкраінскім матэрыяле прапанаваў: Plokhy S. The Cossacks and Religion in Early Modern Ukraine. New York, 2001. У кантэксце Цэнтральнай і Усходняй Еўропы канфесіяналізацыйныя працэсы разглядаюцца ў: Churches and Confessions in East Central Europe / Ed. H. Łaszkiewicz. Lublin, 1999; Konfessionalisierung in Ostmitteleuropa: Wirkungen des religiösen Wandels im 16. und 17. Jahrhundert in Staat, Gesellschaft und Kultur / hrssg. J. Bahlcke, A. Strohmeyer. Stuttgart, 1999.

1) штогадовае скліканне духавенства на “генеральны” сабор у сталіцу епархіі ці іншы адміністрацыйны цэнтр; 2) правядзенне “двухгадовых (трохгадовых) памесных” (па іншай тэрміналогіі “частковых”) сабораў для асобных частак епархіі, падзеленай на саборныя акругі па колькасці кафедраў (у Кіеўскай архіепархіі іх было пераважна дзве – Мінская і Наваградская, і ў асобныя перыяды існавалі таксама Віленская, Кіеўская і Львоўская); 3) арганізацыю “епіскапскіх саборыкаў”, збіранне на якія ў межах мітрапаліцкай архіепархіі (у адрозненне ад Львоўскага і Холмскага ўладыцтваў[9]) па крыніцах прасачыць не ўдалося. У канцы XVII ст. колькасць саборных акруг павялічылася да чатырох. Паводле звестак “Processus informationis”, які праводзіўся Рымскай курыяй у 1695 г. з мэтай высветліць актуальны стан Кіеўскай мітраполіі (у сувязі з абраннем новага кіраўніка Уніяцкай царквы), у той час архіепархія налічвала чатыры кафедральныя саборы – у Вільні, Горадні, Мінску і Наваградку[10].

Існаванне побач з “генеральнымі кангрэгацыямі” інстытута “памесных сабораў” тлумачыцца спецыфічнымі геаграфічнымі ўмовамі, а менавіта вялікай тэрыторыяй епархій Рускай царквы (і асабліва мітрапаліцкай архіепархіі). “Памесныя саборы” скліка́ліся для таго, каб даць магчымасць святарам удзельнічаць у штогадовых сходах на чале з епіскапам, такім чынам епіскап спрабаваў забяспечыць максімальны ўдзел парафіяльнага духавенства ў кангрэгацыі, а таксама больш уважліва вывучыць сітуацыю на месцы. Гэтая традыцыя ўзыходзіць да ранняга хрысціянства. Паводле паданняў, каб Царква пераканалася ў тым, што ўладыка справядліва вынесе свой прысуд аб адлучэнні

[9] Канцэпцыя “саборнай трыяды” і яе пастырская практыка на матэрыялах дзвюх іншых рускіх епархій разглядаецца ў працах: Собори Львівської єпархії XVI–XVIII століть / упоряд. та іст. нарис І. Скочиляса. Львів, 2006. С. LXXI–LXXVIII; Skoczylas I. Sobory eparchii chełmskiej XVII wieku. Program religijny Slavia Unita w Rzeczypospolitej. Lublin, 2008. S. 23–42.

[10] Рункевич С. Г. Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. С.-Петербург, 1897. Т. 1. С. 389–391 (№ 1034).

вернікаў ад рэлігійнай абшчыны, сабор трэба было склікаць у кожнай епархіі двойчы на год: увосень і напярэдадні посту, каб з чыстым сумленнем прынесці Богу ахвяру[11]. "Памесныя" саборы звычайна арганізоўваліся ў кафедральных цэнтрах Кіева-Віленскай архіепархіі – Вільні[12], Мінску[13]

[11] Лотоцький О. Українські джерела церковного права. Варшава, 1931. С. 102.

[12] Адзін з такіх сабораў адбыўся ў сталіцы ВКЛ у ліпені 1609 г. (Vilniaus universiteto biblioteka. Rankraščių skyrius (далей VUB RS). F. 5. Bylų A-83. Nr 12223. P. 58r–58v). Пасля Іпація (Пацея) тагачасныя крыніцы (актавыя і эпісталярныя) засведчылі сталае знаходжанне ў гэтым горадзе і яго наступніка – мітрапаліта Язэпа (Веляміна Руцкага). Духоўнае станаўленне Руцкага і яго царкоўная кар'ера былі цесна звязаны з базыльянскім Свята-Троіцкім манастыром і ўвогуле "Civitas Ruthenica" Вільні – вялікім гарадскім кварталам, заселеным пераважна русінамі ("Rusią tuteczną wileńską") у межах мітрапаліцкай юрыдыкі (гэты выраз належыць віленскаму лацінскаму епіскапу Яўстаху Валовічу (1616–1630), які ўжыў яго 16 лютага 1622 г. у лісце канцлеру Льву Сапегу: Kempa T. Nieznane listy biskupów unickich do kanclerza Lwa Sapiehy – źródła ukazujące sytuację wyznaniową w Wielkim Księstwie Litewskim w pierwszej połowie XVII wieku // Zapiski Historyczne. 2004. T. 22. Nr. 8. S. 208. Руцкі быў у горадзе ў лютым, сакавіку, чэрвені і снежні 1621 г. (г. зн. фактычна на працягу ўсяго каляндарнага года), у лютым, красавіку, траўні 1622 г., жніўні 1626 г. (Тамсама, с. 196, 198–212, 220–221). У Вільні ўладыка Язэп звычайна знаходзіўся пры мітрапаліцкім саборы Успення Багародзіцы, апякуючыся разнастайнымі пастырскімі, адміністрацыйнымі і маёмаснымі справамі (напрыклад, справа "брацтваў мядовых рускіх", якія рабілі штогадовыя ўнёскі на віленскія ўніяцкія храмы). Пра гэта даведваемся з яго ліста Л. Сапегу ад 14 студзеня 1621 г., у якім уніяцкі іерарх заўважае, што "mi też pod ten czas i przy swojej cerkwi katedralnej rezydować w Wilnie potrzeba" (Тамсама, с. 193). Адначасова рэзідэнцыяй мітрапаліта мог быць і Свята-Троіцкі базыльянскі манастыр, паслушнікам, ігуменам і архімандрытам якога ён быў у свой час.

[13] Мінская саборная акруга як "дыяцэзія наша Мінская" згадваецца ў грамате мітрапаліта Язэпа (Руцкага) ад 25 кастрычніка 1635 г. пра намінацыю генеральнага намесніка "в Богоспасаемом граде Минскомъ", "бо вялікае ў многіх рэчах паміж святарамі свецкімі бясчынне бывае, якому часта і пратапопы перашкодзіць не могуць, самі заўсёды прысутнымі ў месце

і Наваградку[14], часам у Кіеве[15], а таксама ў найбольш важных для Уніяцкай царквы духоўных асяродках (напрыклад, Жыровіцкім базыльянскім манастыры, які ў першыя дзесяцігоддзі XVII ст. ператварыўся ў галоўны марыянскі санктуарый для русінаў ВКЛ) або сталовых маёнтках мітраполіі (напрыклад, Руце[16]), і часта разглядаліся як сесіі адзінага епархіяльнага сходу.

Першыя звесткі аб практыкаванні гэтай сабornай сістэмы паходзяць з Полацкай архіепархіі. У "Правілах для святароў" Язафата (Кунцэвіча) гаворыцца пра трохступенную структуру епархіяльных сабораў у гэтым уладыцтве, уведзеную, напэўна, у пачатку 1620-х г.[17]. У Холмскай

Мінскім з-за шырокасці дыяцэзіі мітраполіяй быць не могучы" (Российский государственный исторический архив, С.-Петербург; далей РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 702. Л. 1об.).

14 У даследаваны перыяд большасць сходаў духавенства адбывалася ў Наваградку, дзе размяшчалася рэзідэнцыя кіеўскага мітрапаліта, месца знаходжання мітрапаліцкага двара, генеральнай кансісторыі і духоўнага суда. Напрыклад, амаль усе лісты і пасланні Міхаіла (Рагозы) 1590-х г. былі адпраўлены якраз з таго горада: Беларуская даўніна. Studia et fontes. Мінск, 2015. Вып. 2. С. 276–277; Documenta Unionis Berestensis eius que Auctorum (1590–1600) / ed. A. G. Welykyj. Romae, 1970 (далей DUB). P. 35–36, 39–40, 78–79, 118–119, 127–128, 138–139, 162–164, 172–173 (дак. № 18, 20, 44, 66, 80, 87, 102, 112). Пераважна з Наваградка адсылаў сваю карэспандэнцыю і адзін з яго пераемнікаў – Язэп (Руцкі) (гл.: Kempa T. Nieznane listy biskupów unickich do kanclerza Lwa Sapiehy. S. 192–196).

15 Пра Кіеўскае генеральнае намесніцтва мітрапаліцкай архіепархіі гаворыцца ў лісце 1610 г. Жыгімонта III кіеўскім мяшчанам (РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 316. Л. 8).

16 Так, у снежні 1624 г. тут быў Язэп (Руцкі) (T. Kempa. Nieznane listy biskupów unickich do kanclerza Lwa Sapiehy. S. 216).

17 "Паколькі для святароў з аддаленых парафій абавязак прыбыцця на Сінод, прызначаны на першую нядзелю Вялікага Посту, з-за разліву рэк можа звязвацца з пэўнымі цяжкасцямі, Мы, прыслухоўваючыся да просьбаў святароў, сабраных тут, на Сінодзе, для іхняй большай зручнасці пастанавілі наступнае. У гэты час, а менавіта: у першую нядзелю Вялікага Посту на штогадовы Сінод прыбыць у Полацк павінны толькі тыя святары, якія жывуць недалёка ад Полацка… Для [акругі] Віцебска прызначаем час на штогадовыя Сіноды на свята

епархіі ў пачатку 1680-х г. адбыліся, “адпаведна звычаю”, два памесныя сходы – у Белзе і Холме (21 верасня на Раство Багародзіцы і 19 студзеня на Богаяўленне Гасподняе)[18]. У Львоўскай епархіі класічная “саборная трыяда” дакументальна фіксуецца з 1669 г.[19].

Усталяваную ў Кіеўскай архіепархіі практыку склікання некалькіх такіх сходаў цягам аднаго года вельмі добра ілюструе рэляцыя 1632 г. тагачаснага каад’ютара Рускай царквы Рафаіла (Корсака) у Рым: “Уся мітрапаліцкая епархія дзеліцца на тры часткі – Кіеўскую, якую ўсю заняў псеўдамітрапаліт, Мінскую і Наваградскую, – і кожная з іх праводзіць свае асобныя саборы з-за вялікай аддаленасці і неабсяжнасці епархіі”[20]. Іншыя крыніцы таксама пацвярджаюць шырокае выкарыстанне такога прынцыпу пачарговага правядзення епархіяльнага “парламента” ў галоўных адміністрацыйных цэнтрах мітрапаліцкай архіепархіі[21] – Мінску і Наваградку, і ўключэнне ў гэтую “саборную трыяду” Полацка як сталіцы ўладыцтва, якое таксама ўзначальваў мітрапаліт. Так, у рэляцыі Кіпрыяна (Жахоўскага) 1671 г. апісаны падыход тлумачыцца

Успення Божай Маці, г. зн. 23 жніўня, і ў іх павінны ўдзельнічаць усе найбліжэйшыя дэканы разам з падначаленымі ім святарамі… Час штогадовага Сіноду для [акругі] Мсціслава вызначаем на Раство Божай Маці, г. зн. на 8 верасня… У вышэйназваны час павінны з’язджацца ўсе дэканы і святары без якіх-небудзь нашых выклікаў” (цыт. паводле: Святий Йосафат Кунцевич. Документи щодо беатифікації / упор. та пер. з лат. о. Й. Романика. Жовква, 2010. С. 311; гл. таксама: Пануцэвіч В. Сьвяты Язафат, архіяпіскап полацкі. Полацак, 2000. С. 245–246; Guépin A. Un apotre de l’Union des Églises au XVIIe siècle. Saint Josaphat et l’Église Greco-Slave en Pologne et en Russie. Paris, 1897. Vol. 1. P. 30–31).

18 Skoczylas I. Sobory eparchii chełmskiej. S. 156–166.

19 Собори Львівської єпархії. С. LXXVIII.

20 Città del Vaticano (Roma), Archivio Storico “De Propaganda Fide”, Scritture riferite nei Congressi Generali. Vol. 75. Fol. 372v.

21 На гэтыя абставіны ўжо звярталася даследчыцкая ўвага: Сеник С. Українська Церква в XVII столітті // Ковчег: Науковий збірник із церковної історії. 1993. Число 1. С. 54–55; Senyk S. The Ukrainian Church in the Seventeenth Century // Analecta OSBM. 1996. Vol. 15. Fasc. 1–4. P. 366.

практычнымі патрэбамі царкоўнага кіравання вялікай тэрыторыяй: “Паколькі цэрквы знаходзяцца вельмі далёка адна ад адной, праводзіць епархіяльны сабор у адным прызначаным месцы было б вельмі нязручна для прэсвітараў. Таму мітрапаліты вырашылі склікаць згаданыя саборы па чарзе праз год у трох месцах, а менавіта ў горадзе Полацку, у горадзе Мінску, у горадзе Навагрудку, каб настаяцелям [размешчаных] паблізу цэркваў было зручна дабрацца на сабор; і кожны год непарушна гэтага прытрымліваюцца”[22].

Як і ў іншых уладыцтвах, “памесныя” саборы на тэрыторыі Кіева-Віленскай архіепархіі звычайна адбываліся кожныя тры гады. Такую рэгулярную перыядычнасць засведчыла падатковая дэкларацыя айцоў Навагрудскай кангрэгацыі ад кастрычніка 1626 г., згодна з якой “гэты ўнёсак [на епархіяльную семінарыю] павінны ўсе цалкам аддаць на наступным саборы года тысяча шэсцьсот дваццаць восьмага”[23]. У другой палове XVII ст. інстытут саборавання на землях ВКЛ функцыянаваў настолькі добра, што нават стаў асновай для фармавання адміністрацыйна-тэрытарыяльнай структуры мітрапаліцкай архіепархіі. Калі на пачатку 1680-х г. па ініцыятыве Жахоўскага адбывалася генеральная візітацыя ўніяцкіх цэркваў на гэтай тэрыторыі, то духоўныя камісары абследавалі асобныя пратапопіі менавіта ў межах дзвюх саборных акруг – Мінскай (“сабор Мінскі”) і Навагрудскай (“сабор Навагрудскі”)[24].

[22] Città del Vaticano (Roma), Archivio Storico “De Propaganda Fide”, Fondo “Congressi: Moscovia, Polonia, Ruteni”. Vol. 1. Fol. 425v–426r.

[23] РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 536. Л. 1об.

[24] Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680–1682 гг.: зб. дак. / скл. Д. В. Лісейчыкаў. Мінск, 2009. С. 31.

## Інстытут сабаравання ў падзеленай Русі: пастырскі досвед Міхаіла (Рагозы)[25]

[25] Будучы кіраўнік Рускай царквы нарадзіўся на пераломе 20–30-х г. XVI ст. у сям'і сярэднезаможных шляхцічаў Мінскага ваяводства. У час літоўска-маскоўскіх войнаў разам з братам Юрыем трапіў у палон. У 1570-я г. выконваў абавязкі пісара пры двары валынскага ваяводы князя Богуша Карэцкага, а ў лютым 1579 г., па просьбе праваслаўнай шляхты Мінскага павета, атрымаў ад Стэфана Баторыя манаршую намінацыю на пасаду архімандрыта Узнясенскага манастыра ў Мінску. У тым жа годзе прыняў габіт – манаскую расу, а перад 1582 г. быў рукапакладзены на іераманаха. Ужо ў жніўні 1582 г. стаў архімандрытам Свята-Троіцкага манастыра ў Слуцку, а ў 1589 г. – таксама настаяцелем манастыра ў Морачы. З ініцыятывы князя Канстанціна Астрожскага ды іншых прадстаўнікоў рускай магнатэрыі кароль і вялікі князь Жыгімонт III 27 ліпеня 1589 г. выдаў прывілей Рагозу на Кіеўскую мітраполію, а 1 жніўня ў Вільні адбылося яго ўрачыстае ўзвядзенне на пасаду кіраўніка Рускай царквы канстанцінопальскім патрыярхам Іерэміем II Траносам. У першай палове 1590-х г. Рагоза правёў некалькі мітрапаліцкіх сабораў з шырокай праграмай рэфармавання праваслаўнай веры, а 6−10 кастрычніка 1596 г. узначаліў Берасцейскі ўніяцкі сабор, які абвясціў еднасць Кіеўскай мітраполіі з Рымскай Апостальскай сталіцай (Назарко І. І. Київські і галицькі митрополити: Біографічні нариси (1590–1960). Рим, 1962. С. 1–5; Kempa T. Metropolita Michał Rahoza a unia brzeska // Klio: Czasopismo poświęcone dziejom Polskim i powszechnym. 2002. T. 2. S. 49–51). Вельмі цікавая і адначасова спрэчная постаць гэтага кіеўскага архіпастыра так і не дачакалася манаграфічнай апрацоўкі. Вартыя ўвагі і ўвядзення ў навуковы зварот новыя матэрыялы крыніц пра Рагозу (гл.: DUB. P. 5–7, 35–36, 78–79, 118–119, 127–128, 138–139, 162–164, 172–173, 359–363, 366–370 (№ 1, 18, 44, 66, 80, 87, 102, 112, 231–232, 235–236); Тимошенко Л. В. Невідомий василіянський життепис митрополита Михайла Рагози // Вісник [Київського національного університету імені Тараса Шевченка]. Історія. 2001. Т. 58. С. 5–7; Яго ж. Берестейська унія Михайла Рагози // Різдво Христове 2000. Статті й матеріали. Львів, 2001. С. 52–58; Яго ж. Михайло Рагоза і Берестейська унія // Київська старовина. 2000. № 5. С. 96–105), спробы напісання яго біяграфічнага партрэта (гл.: Флоря Б. Н. Михаил Рагоза (Рогоза) // Православная энциклопедия. Москва, 2017. Т. 45. С. 648–652; Kumor B. Rahoza Michał // Polski Słownik Biograficzny. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk; Łódź, 1987.

Ужо ў першае пасляберасцейскае дзесяцігоддзе стала зразумела, што прыняцце уніі шмат у чым залежала ад намаганняў асобных епіскапаў[26]. Традыцыйнае для кіеўскіх мітрапалітаў бачанне сваіх задач выразна прасочваецца ў выказваннях Іпація (Пацея, 1600–1613): "Абавязак кожнага пастыра… – клапаціцца пра даручаны яму статак і даглядаць яго… Таму ім як пастырам і слугам Божай Царквы, якім даручаны… статак разумных Хрыстовых авечак, трэба як мага лепш дбаць, каб ён не быў раскіданы"[27]. Характэрнае праяўленне царкоўнай свядомасці рускага каталіцкага епіскапату першай паловы XVII ст. – адказ ("Zwierciadło albo zasłona") турава-пінскага ўладыкі Пахомія (Аранскага, 1637–1653) на папрокі былога ўніята, які перайшоў у лацінства, Касьяна (Саковіча). Аранскі, спрабуючы пераканаць свайго апанента, што Уніяцкая царква ўсё яшчэ намагаецца пазбавіцца неадукаванасці парафіяльнага духавенства і непарадку ў сваіх арганізацыйных структурах, як прыклад такіх захадаў называў епархіяльныя саборы і кананічныя візітацыі, якія,

Т. 30. S. 453–457) і ацэнкі эклезіялогіі ды матывацыі яго ўчынкаў (гл.: Дмитриев М. Еще раз о митрополите Михаиле Рагозе и Брестских соборах октября 1596 года // Крізь століття: Студії на пошану Миколи Крикуна з нагоди 80-річчя. Львів, 2012. С. 358–369; Тимошенко Л. Митрополит Михайло (Рагоза) і підготовка собору Київської митрополії в Бересті 1596 року в контексті документальних джерел // Записки НТШ. Львів, 2018. Т. 271. С. 16–38; Його ж. Михайло Рагоза і Берестейська унія // Київська старовина. 2000. № 5. С. 96–105). На больш шырокім фоне рэформаў у Кіеўскай мітраполіі постаць Рагозы паказана ў: Ґудзяк Б. Криза і реформа, Київська митрополія, Царгородський патріархат і генеза Берестейської унії. Львів, 2000. С. 257–264; Дмитриев М. В. Между Римом и Царьградом: генезис Брестской церковной унии 1595–1596 гг. Москва, 2003. С. 136–210, 225–229.

26 Сеник С. Українська Церква в XVII столітті. С. 30; Senyk S. The Ukrainian Church in the Seventeenth Century. P. 345.

27 Цыт. (з нязначнымі скарачэннямі) паводле: Сеник С. Два митрополити – Потій і Рутський // Історичний контекст укладення Берестейської унії і перше поунійне покоління: матер. перших "Берестейських читань" (Львів, Івано-Франківськ, 1–6 жовтня 1994 р.) / за ред. Б. Ґудзяка, співред. О. Турія. Львів, 1995. С. 144.

на яго думку, павінны дапамагчы незайздроснаму стану яго эклезіяльнай супольнасці[28]. Пра епархіяльныя саборы як звычайную пастырскую практыку XVII ст. гаварыў і холмскі ўладыка Якуб (Суша, 1662–1687) у сваім вядомым творы "De laboribus unitorum". Апісваючы ўніяцкую дзейнасць аб'яднаных з Рымам іерархаў, ён падкрэсліваў, што тыя сістэматычна склікалі духавенства[29].

Пераасэнсаванне новых пастырскіх рэалій канфесійна падзеленай Кіеўскай мітраполіі запатрабавала абнаўлення інстытуту епархіяльных сабораў. Упершыню гэтая праблема была разгледжана і часткова вырашана на правінцыйным саборы Уніяцкай царквы ў Кобрыне ў 1626 г. Тады яго ўдзельнікі звярнулі ўвагу на важнасць епархіяльнага сходу для арганізацыі багаслоўскага навучання кандыдатаў: "Кожны з іх міласцяў айцоў епіскапаў на сваім сінодзе нагадваць павінен святарам, каб сыноў сваіх змоладу навучалі як у навуках, так і ў звычаях, якія належаць святарскаму стану". Акрамя таго, была падкрэслена неабходнасць абвяшчэння на такіх царкоўных з'ездах усіх распараджэнняў епіскапаў, што тычыліся фактаў сіманійнага атрымання парафіяльных храмаў і царкоўных бенефіцый: "Шкоднае набыванне царквы, гэта значыць шляхам унясення сумы, каб зусім выкаранена было, што мае быць агучана на сінодах епіскапскіх і віна іх вырашана"[30]. Кананічныя прынцыпы епархіяльных

[28] Грушевський М. Історія України-Руси (репр. вид.). Київ, 1995. Т. 8. Ч. 2. С. 104.

[29] "Caeterum qiudquid possunt, praelati uniti agunt, quo ad fidem s. promovendam Synodos quolibet anno pro excolendo clero instituunt, oves suas suosque religiosos vel dictos perbyteros visitant" (цыт. паводле: Harasiewicz M. Annales Ecclesiae Ruthenae. Leopoli, 1862. P. 339).

[30] Цыт. паводле тагачаснай царкоўнаславянскай версіі пастаноў сабору: Рудович І. Кобринський синод 1626 р. // Богословія. 1924. Т. 2. Вип. 1–4. С. 7; Федорів Ю. Кобринський синод 1626 р. (критичний огляд доби і ситуації) // Тамсама. 1974. Т. 38. С. 76–78. Гл. таксама лацінамоўны тэкст ухвал сабору: Тамсама, с. 65; Monumenta Ukrainae historica / collegit metropolita Andreas Šeptyckyj (далей MUH). Romae 1971. Vol. 9–10. P. 558–562 (№ 449).

ходаў уніяцкай іерархіі планавалася абмеркаваць на правінцыйным саборы Кіеўскай мітраполіі ў Наваградку 6 лютага 1684 г., але да яго склікання так і не дайшло[31].

Адначасова ў першыя дзесяцігоддзі XVII ст. рускія ўладыкі нечакана для сябе сутыкнуліся з яшчэ адной праблемай, звязанай з арганізацыяй епархіяльных сабораў. У гэты час лацінскі епіскапат Рэчы Паспалітай пачаў прэтэндаваць на выключную юрысдыкцыю над каталіцкім духавенствам усходняга абраду, сярод іншага ставячы пад сумнеў права ўладык збіраць падначаленых ім святароў. У верасні 1627 г. мітрапаліт Язэп (Велямін Руцкі, 1613–1637) і яго каад'ютар Рафаіл (Корсак) накіравалі ў Кангрэгацыю пашырэння веры ў Рыме шэраг "пунктаў" адносна статусу уніі на ўкраінска-беларускіх землях. Абодва іерархі скардзіліся на палітыку "культурнага імперыялізму" мясцовых рыма-каталікоў, якія адстойвалі кананічнае права ўніяцкага епіскапату без спецыяльнага дазволу праводзіць саборы духавенства і візітаваць цэрквы[32]. Рускія ўладыкі настойліва абаранялі свае іерархічныя прэрагатывы, у тым ліку права склікаць падначаленае ім духавенства[33]. У наступныя дзесяцігоддзі гэтыя папрокі не былі зняты з парадку дня, і ў 1643 г. Кангрэгацыя была нават вымушана паўторна падаць справу ("Status Causae in negotio Jurisdictionis Episcoporum Unitorum") для вырашэння Найсвяцейшаму Айцу[34]. У канчатковым выніку

[31] Гл. раздзел 7 праекта пастаноў Наваградскага сабору "Пра царкоўныя пакаранні" (Львівська національна наукова бібліотека ім. В. Стефаника (далей ЛННБ). Відділ рідкісної книги. Ст–103747).

[32] Litterae episcoporum historiam Ucrainae illustrantes (1600–1900) / ed. A. G. Welykyj, P. B. Pidrutchnyj (далей Litterae episcoporum). Romae, 1972. Vol. 1. P. 149–150 (дак. № 81).

[33] Гл. ліст Руцкага з Наваградка ў Рымскую Апостальскую сталіцу ад 24 кастрычніка 1619 г. пра яго права як епіскапа ўладзіміра-берасцейскага: Epistolae Josephi Velamin Rutskyj, metropolitae kioviensis catholici (1613−1637) / ed. T. Haluščynskyj, A. G. Welykyj. Romae, 1956 (далей Epistolae Josephi Velamin Rutskyj). P. 6 (дак. № I).

[34] Supplicationes Ecclesiae Unitae Ucrainae et Bielorusjae / ed. A. G. Welykyj. Romae, 1960. Vol. 1. P. 130 (дак. № 190).

ўніяцкія мітрапаліты змаглі абараніць перад Рымскай курыяй свае права на сход з падпарадкаваным ім клірам.

Пасля абвяшчэння Берасцейскай уніі ўжо першы кіеўскі мітрапаліт, які вызнаваў адзінства з Рымам, Міхаіл (Рагоза, 1589–1599), сутыкнуўся і з іншымі сур'ёзнымі цяжкасцямі ў ажыццяўленні сваёй юрысдыкцыі на тагачасных літоўска-беларускіх тэрыторыях[35]. У межах

[35] З прац беларускіх навукоўцаў пра гісторыю Уніяцкай царквы ў Беларусі і яе ўплыў на беларускі этнас і культуру асобна трэба вылучыць такія: Лісейчыкаў Д. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596–1839 гг. Мінск, 2015; Яго ж. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх земель 1720–1839 гг. Мінск, 2011; Марозава С. Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596–1839 гг.). Гродна, 2001; Падокшын С. Унія. Дзяржаўнасць. Культура: (Філас.-гіст. аналіз). Мінск, 1998; Сагановіч Г. Берасцейская унія: планы і вынікі // Яго ж. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мінск, 2001. С. 234–246. Асобныя этапы даследавання ўніяцкай праблематыкі рэпрэзентуюць зборнікі артыкулаў і бібліяграфічныя агляды: Брэсцкай царкоўнай уніі − 400: Матэр. міжнар. навук. канф. Брэст, 1997; З гісторыі ўніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі) / скл. С. Марозава, Т. Казакова, Ю. Бохан і інш.; пад рэд. М. Біча і П. Лойкі. Мінск, 1996; Марозава С. Берасцейская царкоўная унія 1596 г. у беларускай гістарыяграфіі. Гродна, 2002; Яе ж. Беларуская гістарыяграфія (1996–2006) Берасцейскай царкоўнай уніі // Берестейська унія (1596) в історії та історіографії: Матер. міжнар. наук. діалогу про Берестейську унію фундації PRO ORIENTE (третя зустріч: Львів, 21–23 серпня 2006 р.) та Міжнар. наук. симпозіуму Інституту історії Церкви Українського Католицького Університету "Берестейська церковна унія: перспективи наукового консенсусу в контексті національно-конфесійного дискурсу" (Львів, 24–27 серпня 2006 р.) / за ред. Й. Марте й О. Турія (далей PRO ORIENTE). Львів, 2008. С. 116–129. Вартыя ўвагі даведачныя выданні і публікацыі крыніц: Архіў уніяцкіх мітрапалітаў: Дакументы да гісторыі царквы ў Беларусі XV–XIX стст. у фондзе "Канцылярыя мітрапаліта грэка-ўніяцкіх цэркваў у Расіі": давед. Мінск, Полацк, 1999; Уния в документах. Минск, 1997. Гл. таксама артыкулы: Конан У. Уніяцтва на Беларусі: да праблемы рэлігійнай адаптацыі ў нацыянальнай культуры // Наш радавод. Матэрыялы міжнар. навук. канф. "Гістарычная памяць народаў Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі. XIII–XX ст."

ВКЛ і ў Кіеве большасць духавенства ды манаства і іх прыходы і манастыры адмовіліся падпарадкоўвацца кіраўніку Уніяцкай царквы, нягледзячы на падтрымку манарха і некаторых прадстаўнікоў магнатэрыі. Таму ў час яго пастырскіх падарожжаў, як адзначаюць даследчыкі, “у многіх месцах народ узбунтаваўся супраць яго і не прызнаў сваім архіпастырам”[36]. Тыповым прыкладам бескампраміснай апазіцыі да мітрапаліта ў першыя пасляўнійныя гады былі падзеі ўлетку 1597 г. у Слуцку, дзе мясцовыя жыхары ледзь не забілі камянямі зверхніка Аб’яднанай Царквы, калі той прыехаў у горад, у тым ліку і як архімандрыт мясцовага Свята-Троіцкага манастыра[37]. І хоць пры дапамозе каляратараў сітуацыю ў праваслаўных асяродках Слуцкага княства ўдалося стабілізаваць (сюды ў чэрвені 1598 г. Рагоза паставіў свайго намесніка, айца Атанасія Спаскага, “абы во*д*лугъ стародавного звычаю в цє*р*ква*х* Божъихъ фала Божаѩ и вшєлѩкиє справы дȣховныє по прєданию и правиломъ свєтыхъ апостолъ и б[о]гоносныхъ свєты*х* ѡтє*ц* завъшє ѿправованы были”)[38], архірэй і пазней сутыкаўся з сур’ёзнымі праблемамі з легітымізацыяй сваёй асобы як кіраўніка Уніяцкай царквы ў рускай этнаканфесійнай супольнасці Рэчы Паспалітай. Ужо ў кастрычніку таго ж года ён быў вымушаны зноў звярнуцца з пасланнем да слуцкага кліру, патрабуючы ад яго, каб айцу Атанасію, “ѩко намєсника нашого, во всєм послушъными были”[39].

(Гродна, 3–5 ліпеня 1996 г.). Гродна, 1996. Кн. 7. С. 334–336; Саганович Г. Берестейська унія в контексті політичної історії Білорусі XVII ст. і проблема національної самосвідомості білорусів // PRO ORIENTE. С. 469–483.

36 Пекар А. Іпатій Потій – провісник з’єднення // Analecta OSBM. 1996. Vol. 15. P. 190.

37 Litterae episcoporum. Vol. 2. P. 301.

38 РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 223. Л. 1. Гл. таксама: Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою коммиссиею (далей Акты ЗР). С.-Петербург, 1851. Т. 4. С. 186–187 (дак. № 133); Рункевич С. Г. Описание документов. С. 100 (№ 223).

39 РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 226. Л. 1–1об. Гл. таксама: Рункевич С. Г. Описание документов. С. 101 (№ 226).

Праваслаўныя апаненты распачалі шырокую кампанію дыскрэдытацыі Міхаіла (Рагозы), якая суправаджалася маральным ціскам, судовымі перasледамі і асабістымі пагрозамі ўладыку. 2 снежня 1597 г. Жыгімонт III нават выдаў спецыяльны ўказ, у якім забараніў лідару праваслаўных русінаў, кіеўскаму ваяводу князю Канстанціну Астрожскаму чыніць любыя дзеянні супраць кіеўскага мітрапаліта пад заклад 100 000 коп літоўскіх грошаў[40]. Захаванае ліставанне Рагозы сведчыць[41], што ў другой палове 90-х г. XVI ст. ён, хоць і заставаўся непахісным лідарам уніі, перажываў глыбокі ўнутраны крызіс, выкліканы канфесійным падзелам Рускай царквы, адсутнасцю істотнай падтрымкі з боку варшаўскага манаршага двара, шляхецкай эліты і мясцовых рыма-каталікоў.

Усё гэта паўплывала на пастырскую дзейнасць мітрапаліта Міхаіла, які звычайна жыў у Навагрудку, не робячы актыўных крокаў для гвалтоўнага ўсталявання сваёй юрысдыкцыі над апазіцыйнымі яму інстытуцыямі і толькі час ад часу выязджаючы на тэрыторыі сваёй архіепархіі. Таму не дзіўна, што з пасляберасцейскага перыяду архірэйскага служэння Рагозы да нашых дзён дайшла толькі адна дакументальная звестка пра спробу склікаць ім сабор духавенства ў Мінску вясной 1597 г.[42], што адбывалася на фоне вострага міжканфесійнага канфлікту ў мясцовай рускай супольнасці[43].

У суботу 1 сакавіка 1597 г. кіраўнік Уніяцкай царквы прыбыў у манастыр Узнясення Гасподняга, размешчаны

[40] Рункевич С. Г. Описание документов. С. 100 (№ 221).

[41] Kempa T. Metropolita Michał Rahoza a unia brzeska // Klio. 2002. T. 2. S. 95–96.

[42] На візіт Рагозы ў Мінск звярнуў увагу: Мікульскі Ю. М. Гісторыя іконы Божай Маці Менскай (да XVIII ст.) // Беларуская даўніна. Мінск, 2014. Вып. 1. С. 67–69.

[43] Гл. пра гэта падрабязней: Іванова Л. С. Этнаканфесійныя адносіны ў першай палове XVII ст. (на матэрыялах актавых кніг Менскага гродскага суда) // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы юбілейнай навук.-практ. канф., прысв. 70-годдзю Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (Мінск, 8 ліпеня 2008 г.) / рэд. У. І. Адамушка. Мінск, 2008. С. 90–94.

ў паўднёва-ўсходняй частцы Троіцкай гары, непадалёк ад Віленскага тракту (манастыр функцыянаваў як мінімум з XV ст.; першая згадка – 1499 г.)[44]. "Па старадаўнім хрысціянскім звычаі" кір Міхаіл запрасіў на вячэрню мінскага намесніка а. Радзівона Троіцкага ды іншых святароў, якія павінны былі на наступны дзень "служыць Службу Божую ў сабornай царкве ў Мінскім замку"[45]. Гэта была традыцыйная падрыхтоўка да епархіяльнага сабору, які павінен быў узначаліць архіпастыр з удзелам іерэяў, манахаў, прадстаўнікоў брацтваў, гарадскога патрыцыяту і рускай шляхты.

Але на гэты раз большасць мясцовага духавенства і міран адмовіліся прызнаваць Рагозу сваім пастырам, бо ён стаў уніятам. Дэманстрацыяй гэтага стала адмова пратапопа Радзівона разам са святарамі служыць з мітрапалітам і падтрымліваць з ім кантакты. Акрамя самога намесніка, правадырамі апазіцыі выступілі мінскія мяшчане Андрэй Масленка, Лукаш Пашкевіч і Міхаіл Філіповіч. На просьбу ўладыкі скласці яму паслух мінскі пратапоп адказаў: "Нам да Яго міласці хадзіць не казалі Паны бурмістры і ўся гарадская рада… і іншыя тутэйшыя мінскія мяшчане, кажучы, што Яго міласць, маўляў, не мітрапаліт"[46]. Калі на наступны дзень, у нядзелю, уніяцкі кіраўнік прыбыў на архірэйскую літургію у сабор Прачысценскай царквы ў Мінскім замку, ён заспеў у ім толькі аднаго іерэя, іншыя ж духоўныя асобы і мяшчане праігнаравалі візіт Рагозы ў саборны храм, сабраўшыся асобна ў брацкім доме пры царкве Святых пакутнікаў Кузьмы і Дзям'яна. Важна і тое, што напярэдадні прыезду мітрапаліта магістрат

[44] Гиль А. Униатский архимандрит Минский и епископ Холмский Афанасий Пакоста и его завещание // Завещания униатских иерархов Киевской митрополии XVII и XVIII вв. как пример религиозной культуры общества Речи Посполитой. Люблин, 2013. С. 23–30; Chomik P. Monaster Wniebowstąpienia w Mińsku do końca XVI wieku // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2012. T. 38. S. 58–69 (даследаваны пераважна маёнткавы статус манастыра і маёмасныя стасункі паміж узнясенскімі архімандрытамі і кцітарамі манастыра).

[45] РГИА. Ф. 823. Оп. 2. Д. 2130. Л. 1–1об. (копія 1774 г.).

[46] Тамсама. Л. 1об.–2.

забраў з замкавага храма літургічнае абсталяванне, святарскія рызы і літургічныя кнігі (за выключэннем напрастольнага Евангелля), што не дало ўладыку магчымасці правесці архірэйскую літургію. Рагозу больш за ўсё ўразіла тое, што з цудатворнага абраза Мінскай Багародзіцы мяшчане дэманстратыўна знялі ўсю аздобу і воты: “Пытаўся Яго міласць у таго панамара, куды б [маглі] дзецца грыўны, ланцугі, кляйноды залатыя, чырвоныя талеры і пярсцёнкі ад таго абраза Прачыстай, які [абраз] дала слаўнай і святой памяці каралева Алена”[47]. Абраз меў асаблівае значэнне для кіра Міхаіла, бо гэта была старажытная рэліквія, з’яўленне якой у горадзе на мяжы XV–XVI ст. звязваюць з кцітарскай дзейнасцю Алены (1476–1513), жонкі вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягайлавіча (1492–1506)[48].

На наступны дзень Міхаіл (Рагоза) паскардзіўся ў мінскі гродскі суд на дзеянні магістрата, мяшчан і мясцовага духавенства, але яго скаргу разглядалі тыя самыя асобы, якія арганізавалі супрацiўленне мітрапаліту. Удзельнікам канфлікту былі зададзены супярэчлівыя пытанні, таму адказы сведак і абвінавачаных былі палавіністыя і размытыя[49]. А ў канцы сакавіка ўжо праваслаўныя мінскага магістрата падалі ў гродскі суд заяву супраць ўніяцкага ўладыкі, абараняючы намесніка а. Радзівона ды іншых гарадскіх клірыкаў, апраўдваючы іх тым, што яны не забіралі з замкавага саборнага храма царкоўнае начынне і не перашкаджалі Рагозу ў адпраўленні архірэйскай літургіі і ў спробе арганізаваць епархіяльны сход[50]. Як бы там ні было, але большасць мясцовых святароў і манахаў адмовілася прызнаць зверхніка Уніяцкай царквы,

[47] Тамсама. Л. 1–4.

[48] У 1616 г. абраз паводле загаду мітрапаліта Язэпа (Руцкага) быў перанесены з саборнага храма Раства Багародзіцы ў базыльянскую царкву Святога Духа (Высоцкая Н. Ф. Исследования Минской иконы Божией Матери в XX в. // Пятисотлетие явления Минской иконы Божией Матери / сост. Д. Строцев. Минск, 2000. С. 60–67; Мікульскі Ю. М. Гісторыя іконы Божай Маці Менскай. С. 67–92).

[49] Мікульскі Ю. М. Гісторыя іконы Божай Маці Менскай. С. 67–70, 72–73.

[50] РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 2. Д. 2131. Л. 1–2 (копія 1774 г.).

праігнараваўшы яго візіт у горад. Такім чынам, правядзенне епархіяльнага сабору 1597 г. у Мінску было сарвана, што зрабіла немагчымым усталяванне тут юрысдыкцыі Рагозы як уніяцкага мітрапаліта. Пасля смерці кіра Міхаіла ў чэрвені – ліпені 1599 г. яго пераемнік Іпацій (Пацей) прыйшоў да высновы, што "нябожчыка не што іншае, як клопаты, а акрамя таго, як я мяркую, і рукі людскія давялі да труны"[51], таксама падкрэсліваючы ў адным са сваіх зваротаў да праваслаўных, што айцец Міхаіл Рагоза, мітрапаліт кіеўскі, "заховивался съ вами богобойнѣ"[52].

## Саборы Іпація (Пацея) на тэрыторыі ВКЛ: уніяцкія канверсіі і аднаўленне духоўнай юрысдыкцыі

Часткова апублікаваная перапіска Іпація (Пацея)[53] сведчыць пра інстытуцыянальны крызіс Уніяцкай царквы

[51] "nieboszczyka, nie co inszego jedno kłopoty, a ktemu jako słyszę, ręce ludzkie w grób wegnały" (DUB. P. 484 (дак. № 326)).

[52] Гл. лісты Пацея слуцкаму духавенству ад 29 траўня і 3 чэрвеня 1600 г.: Акты ЗР. Т. 4. С. 240 (дак. № 153).

[53] Гл.: Мицик Ю. Листи Іпатія Потія до Льва Сапіги // Католицький щорічник. 2000 / упор. і ред. Н. Климчук. Київ, 2003. С. 73–204; Сінкевич Н. Неопубліковані листи Іпатія Потія – ще одне джерело до історії Київської митрополії початку XVII ст. // Лаврський альманах: зб. наук. праць. 2009. № 24. С. 190–198; Тимошенко Л. Два листи Іпатія Потія до Лева Сапеги // Київська старовина. 2002. № 1. С. 103–113; Його ж. Невідомі листи Іпатія Потія до Жигимонта III // Історія релігій в Україні. Праці XI Міжнар. наук. конф. Львів, 2001. Кн. 1. С. 438–443; Archivum domu Sapiehów. Wydane staraniem rodziny. Lwów, 1892. T. 1 / oprac. A. Prochaska. S. 160–476; DUB. P. 61–67, 211–215; Kempa T. Metropolita kijowski Hipacy Pociej w świetle swojej korespondencji // Epistolografia w dawnej Rzeczypospolitej. Kraków, 2011. T. 1 / red. P. Borek, M. Olma. S. 141–171; Ejusd. Nieznane listy do genezy unii brzeskiej (1595/1596) // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 2000. T. 4. S. 107–128; Ejusd. Nieznane listy metropolity kijowskiego Hipacego Pocieja – ważne źródło do początków unii brzeskiej // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 2010. T. 54. S. 179–218; Ejusd. Unknown letters of the Metropolitan of Kiev Hipacy Pociej, an important source on the beginnings of the Brest Union // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Special Issue. 2014. S. 221–258; Litterae episcoporum. Vol. 1. P. 19–41.

і надзвычай складаную сітуацыю, у якой апынуўся кіеўскі мітрапаліт на пачатку XVII ст., зведаўшы асабістую абструкцыю як з боку рускай супольнасці Вялікага Княства Літоўскага (у прыватнасці ў сталічнай Вільні), так і шляхецкага соцыуму ды дзяржаўных структур Рэчы Паспалітай. У адным з лістоў вялікаму канцлеру літоўскаму Льву Сапегу (1557–1633), заўзятаму абаронцу ідэі царкоўнага адзінства[54], Пацей з роспаччу пісаў, што, знаходзячыся ў сваім мітрапаліцкім доме ў Вільні, мы, уніяты, "толькі намінальна, а не на самай справе, з'яўляемся ўладыкамі"[55]. Не вельмі дапамагала і падтрымка манаршага двара Жыгімонта III (1576–1632), які выдаў некалькі дакументаў пра падпарадкаванасць рускага святарства вярхоўнай уладзе кіеўскага мітрапаліта. У адным з лістоў 1602 г. каралю і вялікаму князю Іпацій (Пацей) скардзіўся, што "прыезджыя епіскапы" ў яго "ўсю ўладу і юрысдыкцыю забралі", а духавенства яго "ні ў што не ставіць"[56].

Тым не менш неўзабаве пасля ўваходжання на мітрапаліцкі пасад Іпацій (Пацей)[57] паспрабаваў устанавіць

[54] Гэты факт заўважыў Т. Кемпа. Гл.: Kempa T. Kanclerz Lew Sapieha a Kościół unicki // Sapiehowie epoki Kodnia i Krasiczyna / red. K. Stępnik. Lublin, 2007. S. 27–42.

[55] Kempa T. Unknown letters of the Metropolitan of Kiev Hipacy Pociej. S. 237–238.

[56] Тамсама. S. 245–246.

[57] Біяграфіі Іпація (Пацея) прысвечана нямала публікацый, аднак асобнай манаграфіі пра гэтую выдатную постаць украінска-беларускай культуры ўсё яшчэ няма (гл. падагульняльны артыкул: Тимошенко Л. Постать Іпатія Потія у світлі нововіднайдених джерел та новітніх досліджень // Іпатій Потій: зб. наук. статей / упоряд. Л. Моравська, І. Паславський. Львів, 2013. С. 44–85). Сярод вучоных постсавецкага перыяду толькі Сямён Падокшын з Мінска і Руслан Ткачук з Кіева прысвяцілі ўладыку Іпацію асобныя кнігі (гл.: Падокшын С. А. Іпацій Пацей: Царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох. Мінск, 2001; Ткачук Р. Творчість митрополита Іпатія Потія та полемічна література на межі XVI – початку XVII ст.: Джерела. Риторика. Діалог. Київ, 2011). Вартыя ўвагі таксама іншыя працы: Пекар А. Іпатій Потій – провісник з'єднання // Analecta OSBM. 1996. Vol. 15. P. 145–246; Пигулевская И. В. Киевский митрополит Ипатий Потий (1541–1613). Биографический очерк // Славян-

сапраўдную духоўную юрысдыкцыю над клірам Кіеўскай архіепархіі. 29 траўня 1600 г. ён выдаў пастырскае пасланне, адрасаванае “сослꙋжителем нашым и брати[и] ѡ Хрест[е] возлюленно[м] свещенником града Слꙋцкого епархии н[а]шое митрополеи Киевское”. У ім мітрапаліт патрабаваў ад слуцкіх святароў і мяшчан поўнай паслухмянасці і падпарадкавання яго ўладзе, а ў выпадку далейшага супраціву адкрыта заявіў, што “коротко мовечы, на мене, не на Рагозꙋ трафите”[58]. Праз некалькі дзён кір Іпацій накіраваў свайго візітатара Атанасія Гарасімовіча (той быў парафіяльным святаром дзвюх цэркваў у Слуцку і намеснікам) у Слуцкую пратапопію “справы духоўныя даглядаць” і “хвалу Божую памнажаць”[59]. Адной з задач Гарасімовіча стала перадача тамтэйшым айцам Святога Міра і збор “старадаўніх куніц”. Падобныя захады Пацей

ский альманах. 2001. Москва, 2002. С. 97–107; Поплавська Н. М. Полемісти. Риторика. Переконування. (Українська полемічно-публіцистична проза кінця XVI – початку XVII ст.). Тернопіль, 2007. С. 208–231; Сеник С. Два митрополити – Потій і Рутський. С. 139–141, 149–172 (дискусія); Тимошенко Л. Невідомий життєпис Іпатія Потія (фрагмент “Генеалогії митрополитів київських” з Віленського монастиря Святої Трійці) // Український історичний журнал. 2000. № 6. С. 105–113; Його ж. Унійна діяльність Іпатія Потія // Його ж. Берестейська унія 1596 р. Дрогобич, 2004. С. 58–79; Dzięgielewski J. Pociej Hipacy // Polski Słownik Biograficzny. Wrocław, 1982–1983. T. 27. S. 29–34). Некаторыя з прац кіеўскага мітрапаліта дачакаліся асобных крытычных выданняў: Pociej Hipacy. Antirresis abo apologija przeciwko Krzysztofowi Philaletowi / oprac. J. Byliński, J. Długosz. Wrocław, 1997. Не страцілі актуальнасці і ранейшыя даследаванні: Трипольский Н. Униатский митрополит Ипатий Потий и его проповедническая деятельность // Труды Киевской духовной академии. 1877. Т. 10. С. 123–181; Левицкий О. Ипатий Потей, киевский униатский митрополит // Памятники русской старины в западных губерниях. С.-Петербург, 1885. Т. 8. С. 342–374; Чубатий М. Митрополит Іпатій Потій – апостол церковної єдності // Ювілейна книга в 300-і роковини смерті митр. І. Потія. Львів, 1914. С. 31–133.

58 РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 240. Л. 1–1об.

59 Российская национальная библиотека (С.-Петербург) (далей РНБ СПб). Отдел рукописей. Ф. 678. № 26. Л. 9 (арыгінал пастырскага ліста, засведчаны аўтографам і пячаткай мітрапаліта).

ужыў і ў дачыненні да Дабравешчанскага манастыра ў Супраслі, дзе мясцовы архімандрыт Іларыён (Масальскі) пасля некаторых ваганняў прызнаў юрысдыкцыю ўніяцкага мітрапаліта[60]. Іпацій (Пацей) паслядоўна зацвярджаў на духоўных пасадах тых прадстаўнікоў кліру, якія выяўлялі лаяльнасць да яго і хоць бы фармальна дэкларавалі еднасць з Рымскай Апостальскай сталіцай. Так ён зрабіў 16 чэрвеня 1600 г., калі надаў пацвярджальную грамату іераманаху Міну (Васілевічу) на ігуменства ў Гродзаўскім манастыры Святога Мікалая[61].

У той жа час нават укладзенае ва ўніяцкім асяродку ў пачатку XVIII ст. рукапіснае жыццё Іпацыя (Пацея)[62] прызнае вялікія цяжкасці мітрапаліта на пачатковым этапе яго архіпастырскага служэння. Рускае духавенства, залежнае ад свецкіх мецэнатаў і заахвочанае праваслаўнымі актывістамі, масава адмаўлялася ў послуху кіраўніку Уніяцкай царквы. У жыцці Пацея выразна сказана, што святары "пагарджалі мітрапаліцкімі ўніверсаламі і на саборы з'яўляцца не хацелі"[63].

Першыя згадкі пра імаверную арганізацыю Іпаціем (Пацеем) епархіяльных сабораў датуюцца пачаткам чэрвеня 1601 г., калі ўладыка пісьмова паведаміў пра свой намер выехаць з Вільні "ў Мінск на візітацыю", на зваротным

60 Dobrowolski R. Konfesyjne zmiany klasztoru supraskiego na przełomie XVI/XVII w. – ludzie, kulisy, wydarzenia i ich następstwa // Dzieje opactwa supraskiego / red. R. Dobrowolski, M. Zemło. Rzym, Lublin, Mińsk, 2015. S. 80–90; Maroszek J. Monografia miasta i gminy Supraśl. Supraśl, 2013. S. 123–126.

61 РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 241. Л. 1.

62 Genealogia metropolitow Kijowskich w jedności z Kościołem Rzymskim zostaiących. Także y tych metropolitow denominacya, kturzy za odszczepieństwem greckim od Koscioła Rzymskiego patryarchow carogrodykich nasladowali, y schyzmę w narodzie ruskim pomnazali, zaczynaiąc od synodu Floreńskiego, y od Izydora metropolity, aż do odnowioney na synodzie Brzeskim jedności w roku 1596, z wyrażeniem tych wszytkich metropolitow, kturzy iuż potym w posłuszeństwie papieżow rzymskich zostawali (РНБ СПб. Фонд Польск. Q I. № 160).

63 "lekce sobie uniwersały metropolitańskie wasyli y na sobory przybywać nie chcieli" (РНБ СПб. Фонд Польск. Q I. № 160. Л. 56об.–57).

шляху наведаць і Наваградак[64]. Запланаванае Пацеем падарожжа на самай справе адбылося, бо ў канцы верасня таго ж года ён інфармаваў троцкага ваяводу, што ўсё яшчэ знаходзіцца ў Наваградку, "чакаючы Божай міласэрнасці" з улікам эпідэміі чумы ў краі і масавага голаду, выкліканага неўраджаем[65]. У значнай ступені абмяжоўвала пастырскія намаганні мітрапаліта яго пасада ўладзіміра-берасцейскага епіскапа, з-за чаго ён вымушаны быў доўга знаходзіцца на Валыні і Палессі, адкуль перыядычна "ездзіў у Літву"[66].

Адной з найважнейшых мэтаў Іпація (Пацея) было падпарадкаванне рускага духавенства ў сталіцы ВКЛ. Першым юрысдыкцыю ўладыкі ў горадзе адчуў віленскі пратапоп Іван Парфяновіч – галоўная фігура ў адміністрацыйнай структуры Рускай царквы на тэрыторыі Вільні. Паводле загаду мітрапаліта апячаталі манастырскі храм Прасвятой Тройцы, дзе прапаведаваў знакаміты Стэфан Зізаній, і пад пагрозай пазбаўлення волі пратапоп быў вымушаны пакінуць горад. Яшчэ двум праваслаўным святарам абвясцілі баніцыю, г. зн. пажыццёвае выгнанне за межы дзяржавы. Выключную юрысдыкцыю ўніяцкага архіпастыра над "людзьмі грэцкай веры" ў Вільні замацавалі соймавыя канстытуцыі 1603 і 1605 г., выводзячы праваслаўных з публічнай прасторы. І толькі Свята-Духаваму манастыру (разам з брацтвам і храмам) удалося абараніць сваю незалежнасць ад кіеўскага мітрапаліта[67]. У адказ

[64] Kempa T. Unknown letters of the Metropolitan of Kiev Hipacy Pociej. P. 242.

[65] Ibid. P. 243.

[66] Так, 9 лістапада 1611 г. мітрапаліт яшчэ быў ва Уладзіміры, 27 снежня таго года пісаў ліст ужо з Наваградка, а 17 чэрвеня 1612 г. здзяйсняў пантыфікацыйныя чыннасці ў Вільні (Kempa T. Unknown letters of the Metropolitan of Kiev Hipacy Pociej. P. 254, 256).

[67] Дэталёва гэтыя пачатковыя захады Пацея з узнаўлення яго духоўнай улады ў сталіцы ВКЛ апісваюць: Timošenka L. Dvi "Rusios" ir religinė polemika // Kultūrų kryžkelė: Vilniaus Švč. Trejybės šventovė ir vienuolynas / red. A. Bumblauskas, S. Kulevičius, I. Skočiliasas. Vilnius, 2017. P. 69–71); Kempa T. Konflikty wyznaniowe w Wilnie od początku reformacji do końca XVII wieku. Toruń, 2016. S. 249–256.

праваслаўныя арганізавалі акцыю ў сталіцы ВКЛ па дыскрэдытацыі кіра Іпація, адначасова аказваючы маральны ціск на тых русінаў, якія наведвалі набажэнствы і іншыя рэлігійныя дзеі ўніятаў. У іншым сваім лісце троцкаму ваяводу Мікалаю Крыштафу Радзівілу Сіротку ад 1 чэрвеня 1601 г. Пацей скардзіўся, што “я тут, у Вільні, хіба што муры вартую”[68].

У послуху мітрапаліту таксама адмовіў клір двух іншых кафедральных сабораў – Горадні і Наваградка. 25 красавіка 1609 г. манарх Жыгімонт III звярнуў увагу Фёдара Скуміна-Тышкевіча (1538–1618), наваградскага ваяводы і гродзенскага ды алыцкага старасты, што абодва пратапопы з тых гарадоў, згаварыўшыся з Віленскім праваслаўным брацтвам Святога Духа, падбухторваюць мяшчан ды іерэяў супраць Пацея. Валадар даручыў Скуміну-Тышкевічу суцішыць мяцежнае духавенства і прымусіць яго прызнаць духоўны аўтарытэт кіраўніка Уніяцкай царквы[69]. Відавочна, што непасрэднае ўмяшанне ў канфлікт мясцовай адміністрацыі старасты не дапамагло гэтай справе, і Іпацій (Пацей) разам са сваім архідыяканам Антоніем (Граковічам) у панядзелак, 15 чэрвеня 1609 г., асабіста прыехаў у Навагрaдак, “до столицы своєє аръхиєпископъскоє, которꙋю ѿ лѣтъ дєсєти в споко*й*но*м* д*єр*жаню м*єл*”[70]. Напэўна, гаворка ішла пра выкананне мітрапалітам звыклых для таго часу пантыфікацыйных чыннасцяў – правядзенне пастырскай візітацыі кафедральнага асяродку, скліканне сабору духавенства і арганізацыю паседжанняў духоўнага суда. Калі ж Пацей прыбыў у саборны храм Святых пакутнікаў Барыса і Глеба, каб узначаліць Службу Божую, мясцовы пратапоп Канстанцін Грыгаровіч-Краскевіч (які ўзначальваў

68 Kempa T. Unknown letters of the Metropolitan of Kiev Hipacy Pociej. P. 241.
69 РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 300. Л. 1об.
70 РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 306. Л. 1–1об. Гл. таксама: Жукович П. Н. Последняя борьба духовенства митрополичьей епархии с Потеем и унией (1609–1611) // Христианское чтение. 1901. № 8. С. 281–302.

кліраршан Наваградскага кліраса-капітула)[71], замест таго каб належным чынам сустрэць свайго архіпастыра, у той самы час дэманстратыўна правіў літургію разам з манахам-“бегуном” Паўлам у новазбудаванай, але не асвечанай царкве Святой Тройцы ў Наваградку. Патрабаванне ўладыкі прыехаць у сабор а. Грыгаровіч праігнараваў і, як гаворыцца ў скарзе Пацея, “праводзіў нейкія сходы па кутках, і людзей настройваў супраць мітрапаліта, і не прыбыў да яго, каб павітацца, і ўцёк ад яго, не зрабіўшы

[71] Як мяркуюць, Канстанцін Грыгаровіч паходзіў з роду рускіх мяшчан Наваградка Літоўскага, а яго бацькам быў, магчыма, Рыгор Шчокат, які ў другой палове XVI ст. ахвяраваў саборнай царкве Прасвятой Багародзіцы срэбны пазалочаны пацір (літургійную чашу). У 1594–1596 г. Канстанцін Грыгаровіч фігуруе ў крыніцах як святар кафедральнага Барысаглебскага сабора, які належаў да блізкага атачэння мітрапаліта Міхаіла (Рагозы) і выконваў яго разнастайныя адміністрацыйныя даручэнні, наведваючы, у прыватнасці, Кіева-Пячэрскую лаўру. У 1601 г. Грыгаровіч ужо быў настаяцелем храма Св. Параскевы Пятніцы ў Наваградку і, магчыма, ужо тады быў у апазіцыі да новага кіраўніка Уніяцкай царквы Іпація (Патея). Айцец Канстанцін, імаверна, меў сына Паўла Краскевіча, які ў 1643 г. служыў у мясцовым Прачысценскім саборы, а ў 1654–1672 г., як і яго бацька, займаў пасаду наваградскага пратапопа (інфармацыя пра гэтую выдатную асобу: Лісейчыкаў Д. В. “Сооружены ест коштом и накладом отца Константына”: срэбраны напрастольны крыж з Новагародка і лёс яго стваральніка // Архіварыус: зб. навук. паведамленняў і артыкулаў. Мінск, 2019. Вып. 17. С. 170–183). У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь у Мінску зберагаецца напрастольны крыж, укладзены Канстанцінам Грыгаровічам у 1625 г. царкве Св. Мікалая Цудатворца ў Наваградку. Пра гэта сведчыць вотыўны запіс, адчаканены на крыжы царкоўнаславянскай мовай пасля смерці пратапопа: “Сеи крест соѡрѹжены ест коштом і накладом ѿца Константына, протопопы новгород[ского], рок[у] ахкє. м[еся]ца априлѧ в҃. днѧ. Того ж рок[у] престависѧ м[еся]ца ноѧбр[я] є. днѧ. Даи, Г[оспо]ді, емѹ Ц[а]рство Н[е]б[е]сное” (цыт. паводле: Лісейчыкаў Д. В. “Сооружены ест коштом и накладом отца Константына”. С. 170, 173). Рэліквія вагой 500 г выканана з дрэва і пакрыта ліставым срэбрам высокай пробы. На верхнім баку крыжа гравёр змясціў пазалочанае распяцце, а пасярэдзіне крыжа знаходзіцца каштоўны камень малахіт (гл. выяву крыжа на вэб-старонцы адной з выставаў, арганізаваных музеем у 2014 г.: http://artbelarus.by/be/gallery/443.html (дата доступу: 30.XII.2019)).

справаздачы пра скарбніцу і акты, парушаючы паспаліты спакой і падтрымліваючы мяцежнікаў”[72].

У адказ кір Іпацій, не маючы магчымасці кантраляваць сітуацыю ў горадзе, звярнуўся па дапамогу да вялікага князя і караля, і той 17 чэрвеня 1609 г. выдаў позву наваградскаму пратапопу як мешчаніну, каб з’явіўся на задворны суд “за здраду мітрапаліту і парушэнне грамадскага спакою”. У верасні таго ж года кіраўнік Уніяцкай царквы зноў прыехаў у Наваградак і звярнуўся да сілавых сродкаў “уціхамірвання” кліру і міран усходняга абраду. Аднаго з мясцовых актыўных мяшчан, Ціхана Беткялевіча, загадам Пацея 23 верасня пасадзілі ў турму, і толькі ў дзень ад’езду з горада (27 верасня) архірэй яго памілаваў, бо той прызнаў кіра Іпацiя “сапраўдным пастырам”[73].

Такім жа чынам развіваліся падзеі ў Горадні, дзе мясцовы пратапоп Васіль Вербавіцкі не дапусціў мітрапаліцкіхураднікаў у рускія храмы – перш за ўсё ў манастырскую царкву Святых Барыса і Глеба ў прадмесці Каложа (пабудавана яшчэ ў 1180-я гады на правым беразе Нёмана[74]) ды ў мураваны сабор Раства Прасвятой Багародзіцы, “Прачысценскі”, у цэнтры (лакалізуецца на гравюры Тамаша Макоўскага 1600 г. паміж Старым замкам і “фарай Вітаўта” як храм з шатровым верхам[75]). Аднак параўнальна хутка Іпацій (Пацей) здолеў узяць сітуацыю ў горадзе пад свой кантроль. За прысваенне царкоўнай маёмасці

[72] РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 306. Л. 1–1об.

[73] РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 313. Л. 3–4об.

[74] Выява храма ёсць на панараме горада, зафіксаванай на медзярыце 1560-х г. (гл.: Сліж Н. Гравюра Гародні Адэльгаўзера-Цюндта 1567–1568 гг. як адлюстраванне міжнародных падзей на фоне гарадскога жыцця // ARCHE-Пачатак: Навуковы, навукова-папулярны, грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс. 2017. № 2. С. 9–105).

[75] Сліж Н. З гісторыі Прачысценскай царквы ў Гародні. XVI–XVIII ст. // Гарадзенскі палімпсест. XII–XX ст.: матэр. міжнар. навук. канф. (Горадня, 7 лістапада 2008 г.) / пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. Горадня, Беласток, 2008. С. 64–95. Гл. таксама: Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня, Вроцлаў, 2008. С. 76–77; Borowik P. Jurydyki miasta Grodna w XV–XVIII wieku. Stanowy podział nieruchomości. Supraśl, 2005. S. 32, 63, 118.

гарадзенскі пратапоп быў адлучаны і пазбаўлены духоўнага сану, а велікакняскі суд прысудзіў яго да выгнання[76].

29 кастрычніка 1609 г. два праваслаўныя манахі – Павел і Пафнуцій – падалі скаргу ў Галоўны літоўскі трыбунал на кіеўскага мітрапаліта, абвінаваціўшы яго ў пераследзе мяшчан "грэцкай веры" і рускага духавенства ў Вільні, Горадні, Мінску і Навагрúdку, а таксама ў гвалтоўным пераводзе іх у унію. У прыватнасці, з гэтага пратэсту мы даведаемся, што манаха Пафнуція Пацей выклікаў у суд, які забараніў мінчанам пад пагрозай штрафу ў 10 000 коп літоўскіх грошаў падтрымліваць любыя кантакты з праваслаўным інакам[77]. Аднак ужо ў наступным годзе ўніяты выйгралі гэтую ды іншыя судовыя справы ў сваіх апанентаў[78], што азначала аднаўленне юрысдыкцыі кіеўскіх мітрапалітаў над русінамі ў галоўных адміністрацыйных цэнтрах архіепархіі.

Пераломным момантам ва ўстанаўленні Іпаціем (Пацеем) сваёй рэальнай духоўнай улады ў мітрапаліцкай архіепархіі сталі падзеі 1608–1609 г. у сталіцы ВКЛ – Вільні, дзе ўладыка быў уцягнуты ў вострае процістаянне з мясцовым рускім духавенствам, амаль усе прадстаўнікі якога адмовілі яму ў послуху. Архімандрыт Свята-Троіцкага манастыра Самойла (Сінчыла) і генеральны намеснік Варфаламей Зашкоўскі разам з Успенскім кафедральным кліpасам-капітулай арганізавалі супраціў мітрапаліту, выкарыстоўваючы рыторыку абароны праваслаўнай веры, у тым ліку для рэалізацыі ўласных амбіцый і вырашэння маёмасных пытанняў. А ў снежні 1608 г. Сінчыла і Зашкоўскі разам з саборным кліpасам увайшлі ў праваслаўнае брацтва Святога Духа, прысягнулі на вернасць канстанцінопальскаму патрыярху і нават паспрабавалі сілай захапіць Свята-Троіцкі манастыр, але безвынікова[79]. Пацей, са свайго боку, адлучыў іх абодвух і ў снеж-

[76] РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 306. Л. 1–1об.
[77] РГИА СПб. Ф. 823. Оп. 1. Д. 313. Л. 3–4об.
[78] Тамсама. Л. 8–8об., 10а–11.
[79] Kempa T. Konflikty wyznaniowe w Wilnie. S. 259–295; Ejusd. Wydarzenia wileńskie z lat 1608–1609 – konflikt duchowieństwa obrządku greckiego z metropolitą kijowskim Hipacym Pociejem //

ні 1608 г. адхіліў ад святарства, што прывяло да абурэння ўсяго рускага кліру Вільні і апазіцыі ў дачыненні да архірэя віленскага магістрата. Пасля працяглага судовага разгляду справы ў Літоўскім трыбунале Жыгімонт III улетку 1609 г. рашуча падтрымаў Іпація (Пацея) у яго супрацьстаянні з праваслаўнымі і асудзіў лідараў апазіцыі Самойлу (Сінчылу), Варфаламея Зашкоўскага і бурмістраў Івана Тупеку ды Ісака Канановіча, абвінавачаных у здрадзе[80].

Трыумфам кіеўскага мітрапаліта ў супрацьстаянні з віленскім клірам і яго паствай стаў епархіяльны сабор, скліканы Пацеем у сталіцы ВКЛ 25 ліпеня 1609 г.[81]. На пачатку XVII ст. Вільня заставалася мультыкультурным, поліканфесійным і шматнацыянальным кангламератам з выразным падзелам на “лацінскую” і “рускую” часткі, дзе звычайна мірна суіснавалі кальвіністы, лютэране, мусульмане, праваслаўныя, рыма-каталікі і яўрэі[82]. У той

Przegląd Wschodni. 2010. R. 11. T. 3 (43). S. 457–488.

80 Падрабязнае абмеркаванне тых падзей можна знайсці ў: Пекар А. Іпатій Потій – провісник з’єдинення. С. 210–218; Kempa T. Konflikty wyznaniowe w Wilnie. P. 249–256; Timošenka L. Dvi “Rusios” ir religinė polemika. P. 72–73.

81 Упершыню дэкларацыю вернасці духавенства Кіеўскай архіепархіі гэтаму мітрапаліту ад 25 ліпеня 1609 г. звязаў з епархіяльным саборам базыльянскі гісторык а. Атанасій (Пекар); гл. Пекар А. Іпатій Потій – провісник з’єдинення. С. 217. Яшчэ на пачатку XX ст. падзея звярнула на сябе ўвагу расійскіх праваслаўных даследчыкаў: Жукович П. Н. Последняя борьба духовенства митрополичьей епархии. С. 370–371.

82 У першыя дзесяцігоддзі XVII ст. тут функцыянавала больш як 30 хрысціянскіх святынь: 23 – лацінскага абраду, дзевяць уніяцкіх, праваслаўны манастыр Святога Духа ды па адным лютэранскім і кальвінісцкім храме, дзейнічалі таксама рэлігійныя супольнасці яўрэяў і татараў (Герасимова И. Под властью русского царя: Социокультурная среда Вильны в середине XVII века. С.-Петербург, 2015. С. 49–52; Frick D. Five Confessions in One City: Multiconfessionalism in Early Modern Wilno // A Companion for Multiconfessionalism in Early Modern World / Ed. T. Saftey. Leiden, 2011. P. 423–429; Ejusd. Kith, Kin, and Neighbors: Communities and Confessions in Seventeenth Century Wilno. Ithaca; London, 2013. P. 290–291; Łowmiańska M. Wilno przed najazdem moskiewskim w 1655 roku. Wilna, 1929. S. 46–47; Maroszek J. Wilno jako Slavia Orthodoxa czy Slavia Unita

час Прачысценскі сабор (з цудатворным абразам Віленскай Божай Маці[83]) і размешчаны абапал яго мітрапаліцкі двор (“церковъ соборную Виленскую залеженья Пречыстое Богородицы и дворъ съ каменицею митрополею при той церкви”[84]), дзе пераважна і знаходзіўся зверхнік Рускай царквы, працягваў кантраляваць яго апанент – кафедральны наменік Варфаламей Зашкоўскі[85]. Таму, хутчэй за ўсё, гэты сход духавенства адбыўся ў Свята-Троіцкім манастыры, у якім з лютага да сакавіка таго ж года пасаду архімандрыта займаў энергічны і адданы уніі Язэп (Вялямін Руцкі), генеральны намеснік Пацея ў ВКЛ[86].

w dziejach Wielkiego Księstwa Litewskiego // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštijos istorijos ir tradicijos fenomenai: tautų atminties vietos / Ed. A. Bumblauskas, G. Potašenko. Vilnius, 2013. P. 82–86).

83 Цудатворны абраз Віленскай Божай Маці ў час праваслаўна-ўніяцкага канфлікту ў горадзе часова перанеслі ў 1608 г. з Успенскага сабора ў царкву Св. Мікалая, але ўжо ў наступным годзе вярнулі ў мітрапаліцкі храм. Храм гарэў у 1610 г., і хоць пра два гады ён быў адноўлены, рэліквію ў 1613 г. перанеслі ў базыльянскі манастыр Прасвятой Тройцы (найноўшае даследаванне пра абраз: Janonienė R. Vilniaus Dievo Motinos ikona ir jos kultas Švč. Trejybės cerkvėje // Menotyra. Vilnius 2017. Vol. 24. № 1. P. 1–16).

84 Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси (далей АСД). Вильна, 1869. Т. 6. С. 147 (дак. № 71); Пекар А. Іпатій Потій – провісник з’єдинення. С. 213.

85 8 ліпеня 1609 г. кароль выдаў рэскрыпт пра перадачу мітрапаліцкага сабора разам з рэзідэнцыяй і дваром Іпацію (Пацею). Але толькі 6 жніўня каралеўскія ўраднікі ў прысутнасці гарадскіх возных і прадстаўнікоў шляхты выканалі манаршы загад, а Зашкоўскі быў пазбаўлены сваёй пасады (АСД. Т. 6. С. 153 (дак. № 72); Пекар А. Іпатій Потій – провісник з’єдинення. С. 216).

86 У час архімандрыцтва Язэпа (Веляміна Руцкага) Віленскі ўніяцкі манастыр налічваў да 60 паслушнікаў, а напрыканцы 1640-х г. тут жылі прыблізна 20 інакаў. Тройчы запар (у 1636, 1642 і 1650 г.) у сценах гэтага манастыра адбываліся генеральныя капітулы (з’езды) базыльянскай Кангрэгацыі Прасвятой Тройцы (АСД. Вильна, 1900. Т. 12. С. 46–49, 92–102; Підручний П., П’єтночко Б. Василіянські генеральні капітули від 1617 по 1636 рік = Capitula Generalia Basilianorum ab Anno 1617 ad annum 1636. Рим; Львів, 2017. С. 17, 279–367; Litterae basilianorum in terris Ucrainae et Bielarusjae / ed. A. G. Welykyj, P. B. Pidrutchnyj. Romae, 1979. Vol. 1. P. 59 (№ 29)).

Згодна з саборнай дэкларацыяй 1609 г., у гэтым шматлюдным царкоўным форуме ўдзельнічалі "архімандрыты, ігумены, пратапопы, іераманахі, клірыкі і святары"[87]. Акрамя самога Іпація (Пацея), прыбылі 32 духоўныя асобы – архімандрыты трох манастыроў (Віленскага, Гарадзенскага і Мінскага), пісар Віленскага кафедральнага кліраса-капітулы Аляксандр Львоў, намеснікі шасці пратапопій (Гарадзенскай, Любартаўскай, Мінскай, Наваградскай, Торчынскай, Цырынскай), дзесяць парафіяльных іерэяў, шэсць манахаў (у тым ліку будучы ўніяцкі ўладыка Язафат (Кунцэвіч) і Антоній-Анастас (Сялява)) і пяць іерадыяканаў (у тым ліку і мітрапаліцкі)[88]. Імаверна, колькасць саборных айцоў была большай, але менавіта гэтыя духоўныя асобы падпісаліся пад публічнай дэкларацыяй – надзвычай важным дакументам, які легітымізаваў аднаўленне юрысдыкцыі мітрапаліта над рускімі святарамі і міранамі ўсходняга абраду ў Вільні і кананічна дазволіў пераход у унію духавенства Кіеўскай епархіі.

Ліпеньская дэкларацыя перш за ўсё асуджала дзеянні "праціўнікаў святой еднасці, а менавіта брацтва віленскага новай царквы Святога Духа, а потым і яўных здраднікаў і адступнікаў [ад] вярхоўнага пастыра нашага" (гаварылася, зразумела, пра В. Зашкоўскага і Самойлу (Сінчылу)). Па-другое, клірыкі публічна каяліся перад Іпаціем (Пацеем) за свой удзел у выступах супраць яго ("змову"), за тое, што паддаліся агітацыі праваслаўных і распаўсюджваным імі пагалоскам, што "нібы Яго міласць айцец мітрапаліт разам з іншымі сваімі памочнікамі нібыта збіраўся праз тую еднасць з Рымскай царквой усю праваслаўную веру, ад Святых Айцоў Грэцкіх нам перададзеную, ад [самых] асноў выкараніць і старажытныя абрады Усходняй царквы адмяніць ды ў нішто ператварыць, і нас да нязвыклых рэчаў прымусіць"[89]. Патрэцяе, удзельнікі Віленскага сабору, упэўніўшыся, што

[87] VUB. Rankraščių skyrius. F. 5. Bylų A-83. Nr 12223. P. 58.
[88] Ibid. P. 58r–58v.
[89] Ibid. P. 58r.

"ўвесь той іх аповед – няпраўда", падалі "да ведама ўсіх праваслаўных хрысціян" сваю скаргу на "тых згаданых апанентаў, што яны парушаюць наша спакойнае жыццё, люд паспаліты да беспарадкаў даводзяць, у сумленні чыняць вялікую трывогу і выклікаюць легкадумнасць вяршэнства [улады] нашых пастыраў"[90]. І нарэшце ўсе прысутныя на сходзе святары і манахі прынялі прысягу "пад пагрозай вечнага праклёну" пра асабісты послух уніяцкаму іерарху, а таксама заявілі пра гатоўнасць "тую еднасць святую ўсімі спосабамі бараніць"[91].

У хуткім часе пасля епархіяльнага сабору, 11 жніўня 1609 г., пад духоўную юрысдыкцыю Іпація (Пацея) былі пераведзены ўсе рускія храмы Вільні, прычым авалодванне манастыром Святой Тройцы адбывалася ў прысутнасці велікакняскай пяхоты, а ў манастырскай званіцы ўтрымлівалі зняволеных праваслаўных іерэяў. У той жа дзень нават дайшло да замаху на мітрапаліта: на рынку перад ратушай на Пацея напаў нейкі гайдук, які параніў яму руку, адсекшы два пальцы[92]. Пасля трыумфу ў сталіцы Пацей перадаў большасць сваіх адміністрацыйных і пастырскіх паўнамоцтваў на тэрыторыі ВКЛ генеральнаму намесніку (афіцыялу) Язэпу (Руцкаму), які ў 1611 г. быў высвечаны на тытулярнага епіскапа галіцкага. У прыватнасці, яму было дэлегавана права праводзіць візітацыі, "штогод склікаць мітрапаліцкія саборы" і высвячаць клірыкаў[93]. Але ўжо ў 1612 г. уладыка Іпацій часткова абмежаваў гэтыя прэрагатывы, абавязаўшы свайго каад'ютара не склікаць бабораў без дазволу мітрапаліта, не асвячаць антымінсы без яго подпісу, забіраць

[90] Ibid.

[91] Ibid. P. 58r–58v.

[92] Гл. рэляцыю нунцыя: Litterae nuntiorum apostolicorum historiam Ucrainae illustrantes / ed. A. G. Welykyj. Romae, 1959. Vol. 3. P. 30–32. Падзею таксама каментуе: Жукович П. Н. Последняя борьба духовенства митрополичьей епархии. № 9. С. 372–377.

[93] "totus Archidiecesis amplissimae se dedit visitationi, Synodum quotannis Metropolitanam celebrando, sacerdotes confessando" (Epistolae Josephi Velamin Rutskyj. P. 6 (дак. № I)).

сабе толькі палову падатку (катэдрацікa), а ў выпадку “прыезду ў Літву” зверхніка Уніяцкай царквы прыпыняць усе гэтыя паўнамоцтвы[94].

Нягледзячы на такія абмежаванні, Руцкаму ўдалося пашырыць свой кантроль над большасцю парафій і манастыроў у мітрапаліцкай архіепархіі. Менавіта з уладыкам Язэпам варта звязваць аднаўленне тут сістэматычнай практыкі правядзення епархіяльных сходаў, у тым ліку ў галоўным кафедральным цэнтры і фактычнай сталіцы Кіеўскай мітраполіі – горадзе Вільні. Рукапіснае жыціе Руцкага ўсяляк адзначала пастырскае старанне гэтага адданага уніі дзеяча, згадваючы сярод іншага і яго саборную актыўнасць: “На гэтай пасадзе [генеральнага намесніка] быў такім стaранным у сваіх абавязках, што сам праводзіў візітацыі, штогод маючы сабор, навучаў святароў у святой каталіцкай веры і сцвярджаў у святой еднасці”[95].

## Заключныя меркаванні

У эпоху адраджэння “рускай веры” канца XVI ст. і ў пасляберасцейскі перыяд у Кіева-Віленскай мітрапаліцкай архіепархіі ажывілася і пастырская дзейнасць кіраўнікоў Уніяцкай царквы ў выглядзе “саборнай трыяды”. Мітрапаліты Міхаіл (Рагоза) і Іпацій (Пацей) выкарыстоўвалі інстытут епархіяльных сабораў для асабістай камунікацыі са свецкім духавенствам і манаствам, спрабуючы, у дыскурсе эпохі канфесіяналізацыі, дысцыплінаваць клір і свецкіх актывістаў ды ўсталяваць эфектыўны кантроль над падлеглай ім тэрыторыяй. Калі Рагоза гэтага зрабіць не змог (яго спробы арганізаваць некалькі епархіяльных

94 Пазднякоў В. С. Архіў праваслаўных і грэка-каталіцкіх мітрапалітаў Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVIII стст. (гісторыя, структура, склад). Мінск, 2014. С. 257; Реєстр митрополичого архіву Унійної Церкви 1763 року / упор. та вступ. ст. О. Вінниченка. Львів, 2017. С. 62.

95 “na którym urzędzie tak był gorliwym w powinności swojey, że sam visity odprawował, co rok synod mając, kapłanów w wierze ś[więtej] katholickiey cwiczył, y w jedności świętej umacniał” (РНБ СПб. Фонд Польск. Q I. № 160. Л. 80).

сабораў зазналі няўдачу), то Пацею адміністрацыйнымі метадамі і пастырскімі намаганнямі пры падтрымцы манаршага двара, мясцовай велікакняскай улады і часткі набілітэту ды магістратаў гарадоў удалося аднавіць функцыянаванне сабораў духавенства ў найгалоўнейшых цэнтрах архіепархіі – Вільні і Наваградку. Акрамя пытанняў, якія тычыліся жыцця мясцовых хрысціянскіх супольнасцяў і традыцыйных для таго часу пастырскіх, адміністрацыйна-дысцыплінарных і судовых функцый, саборы Кіева-Віленскай архіепархіі ў першым дзесяцігоддзі XVII ст. выконвалі важную для ўніятаў канфесійную ролю – сцвярджалі новую культурна-рэлігійную ідэнтычнасць *Slavia Unita* ў асяроддзі кліру, манахаў і міран, выкарыстоўваючы ў тым ліку іерархічны прымус для навяртання праваслаўных хрысціян у еднасць з Рымскай Апостальскай сталіцай. З аднаго боку, канфесійная праграма епархіяльных сабораў паглыбляла балючы падзел русінаў і правакавала шматлікія канфлікты, а з іншага – спрыяла стабілізацыі пастырскіх і адміністрацыйных структур Кіева-Віленскай архіепархіі і аднаўленню інстытуцыйных, асабістых і рэгіянальных сувязяў “людзей грэцкай веры” на вялікіх абшарах ВКЛ. Урэшце гэта дало магчымасць працягнуць пачатыя ў канцы XVI ст. рэформы і сцвярджэнне на сучасных беларускіх і літоўскіх землях Уніяцкай царквы, якая ў часы мітрапаліта Язэпа (Веляміна Руцкага, 1613–1637) ператварылася ў аднаго з галоўных прадстаўнікоў “рускай нацыі” Рэчы Паспалітай.

# Unity clergy councils of the Kyiv-Vilnia Archdiocese in the era of confessionalization (end of XVI – beginning of XVII centuries)

**Ihor Skochylias**

The article is dedicated to one of the brightest phenomena of the pre-modern Ruthenian Church – Councils of the Kyiv-Vilnia Metropolitanate Archeparchy. The gatherings of the clergy and laypeople took place in the major administrative centers of the Archeparchy (in Vilnia, Hrodna, Minsk and Navahradak) and, in terms of territory, embraced the lands of contemporary Belarus, Lithuania and Ukraine, as well as Latvia, Poland and Russia. During the $17^{th}$ century eparchial councils were the basis for organizing and canonical structuring of the Uniate Church, as well as the significant public forum for articulating cultural and religious agenda of the *Ruthenian (Belarusian) nation* within the Grand Duchy of Lithuania.

# Скарбовы Трыбунал ВКЛ 1700 года

**Дзмітрый Віцько**

Супрацьстаянне палітычных груповак у ВКЛ у XVII ст. праяўлялася ў розных сферах, і адной з галоўных быў кантроль над дзяржаўнымі фінансамі. Пасля перадачы ў 1697 г. збору асноўных падаткаў ад скарбу органам шляхецкага самакіравання напружанасць у гэтай сферы павялічылася. У кожным павеце барацьба ішла ў тым ліку вакол абрання асобаў, адказных за збор падаткаў. Па-другое, у групоўкі, якая кантралявала павет, з’явілася магчымасць пры зборы падаткаў больш паблажліва ставіцца да сваіх прыхільнікаў і больш жорстка да ворагаў. Усё гэта не спрыяла паспяховаму вырашэнню пытання запазычанасці перад войскам. Узброенае супрацьстаянне паміж групоўкамі Сапегаў і рэспубліканцаў, якое пачалося ў час бескаралеўя 1696–1697 г. і працягвалася ў наступныя гады, таксама не садзейнічала вырашэнню праблем з падаткамі. У баявых дзеяннях гэтага перыяду было некалькі перапынкаў, звязаных са склiканнем соймаў. Так, адной са спробаў пакласці канец варажнечы быў пацыфікацыйны сойм 1699 г., які павінен быў вырашыць і іншыя надзённыя праблемы, што стаялі перад ВКЛ і Рэччу Паспалітай[1].

Адным з найважнейшых рашэнняў гэтага сойма было прызначэнне Скарбовага Трыбунала ВКЛ, які павінен быў заняцца разглядам запазычанасці па выплаце

1 Пра яго гл.: Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny w 1699 r. Toruń, 1699; Wićko D. Kampania przedsejmowa 1699 roku w Wielkim Księstwie Litewskim // Zapiski Historyczne. T. LXXIX. R. 2014. Z. 2. S. 29–51.

падаткаў за перыяд з 1667 г.[2]. Праўда, у хуткім часе высветлілася, што частка шляхты ВКЛ (рэспубліканцы) нязгодная з такім рашэннем і нават катэгарычна адмаўляе, што сойм прыняў такую пастанову. Гэта прывяло да зацяжнога канфлікту, значэнне якога ў шэрагу падзеяў пераломнага для ВКЛ 1700 года патрабуе высвятлення[3].

Па версіі рэспубліканцаў, праект канстытуцыі аб Скарбовым Трыбунале абмяркоўваўся на правінцыйных сесіях ВКЛ, але згода па ім дасягнута не была. Больш за тое, сам гетман Казімір Ян Сапега пратэставаў супраць яго на правінцыйнай сесіі ў апошні дзень працы сойма, а пасля заканчэння паседжанняў на сходзе паслоў ВКЛ гэтае пытанне

[2] Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny… S. 173–174; Volumina legum. T. VI. Petersburg, 1860. S. 40–41; Archiwum Główne Akt Dawnych (AGAD). Archiwum Publiczne Potockich (APP). Sygn. 34. T. II. S. 97–99 (арыгінал канстытуцыі аб Скарбовым Трыбунале). З канстытуцый, якія датычылі ВКЛ, асноўнае значэнне мелі дзве: “Скарбовы Трыбунал ВКЛ” і “Працяг часу Трыбунала ВКЛ”. Апошняя зацвярджала ардынацыю Галоўнага Трыбунала ВКЛ 1698 г., анулявала яго рашэнні па справах, дзе істцамі выступалі самі дэпутаты, працягвала час дзейнасці Галоўнага Трыбунала (пачынаючы з наступнага) і прызначала ў якасці аховы яму харугву венгерскай пяхоты: Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny… S. 173; Volumina legum. T. VI. S. 40; Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697–1794): spis / pod red. A. Rachuby; oprac. A. Rachuba i P. P. Romaniuk przy współpr. A. Macuka i J. Aniszczenki. Warszawa, 2004. S. 9.

[3] Дзейнасць Скарбовага Трыбунала закранаў у сваіх даследаваннях А. Рахуба, ацэньваючы барацьбу Сапегаў з рэспубліканцамі з перспектывы тагачаснага права: Rachuba A. Prawo w wojnie domowej na przykładzie konfliktu tzw. republikantów z Sapiehami // Вялікае Княства Літоўскае і суседзі: Права. Вайна. Дыпламатыя / пад рэд. С. Ф. Сокала, А. М. Янушкевіча. Мінск, 2012. С. 143. Пра рашэнне сойма аб яго скліканні пісаў Б. Дыбась: Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny… S. 173–174. Непасрэдна да тэмы звяртаўся Г. Слесарунас: Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje – politinių grupuočių susidūrimų arena // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės istorijos atodangos: profesoriaus Mečislovo Jučo 90-mečio jubiliejui skirtas mokslinių straipsnių rinkinys / sud. V. Dolinskas, R. Petrauskas, E. Rimša. Vilnius, 2016. S. 410–424. Аднак, відавочна, тэма патрабуе больш шырокага разгляду.

падняў канцлер Караль Станіслаў Радзівіл, аднак тады супраць гэтай канстытуцыі выступілі лідскія паслы. У пазнейшым перказе іх аргументы гучалі так: супраць асобных палажэнняў пастановы на сойме пратэставала шмат паслоў, якія ўжо раз'ехаліся, і наогул сойм скончыўся, таму абмяркоўваць няма чаго і канстытуцыю трэба лічыць непрынятай. Таксама яны звярталі ўвагу, што "ў адпаведнасці з даўнім звычаем нашай Рэчы Паспалітай" канстытуцыі на працягу трох дзён не былі пададзены ў гродскі суд. Лідскія паслы нібыта хацелі скласці пратэстацыю ў варшаўскім гродскім судзе, але яе там не прынялі, тады яны паспрабавалі зрабіць гэта ў ліўскім, з тым жа вынікам, і ўрэшце склалі яе ў гарадзенскім[4]. Сама пратэстацыя лідскіх паслоў невядомая. З усёй гэтай інфармацыі іншымі крыніцамі пацвярджаецца выступленне Казіміра Яна Сапегі. Вялікі гетман пратэставаў супраць палажэння аб верыфікацыі падаткаў з 1667 г., а не з 1690 г., паколькі яго брат, вялікі падскарбі Бенядзікт Павел Сапега, у 1690 г. ужо склаў на сойме справаздачу пра сваю дзейнасць за ранейшы перыяд[5].

Прапанову склікаць Скарбовы Трыбунал выказаў 23 ліпеня на сойме ваўкавыскі пасол, кухмістр ВКЛ Крыштаф Камароўскі[6], звязаны з рэспубліканцамі. Падрыхтоўкай соймавых пастаноў (канстытуцый), у тым ліку гэтай, займалася дэпутацыя, у склад якой уваходзілі трое сенатараў (ад ВКЛ – менскі ваявода Уладзіслаў Язафат Сапега), маршалак сойма Станіслаў Антоній Шчука (атрымаў на гэтым сойме ўрад падканцлера ВКЛ) і шэсць паслоў (у тым ліку двое ад ВКЛ – полацкі харужы Крыштаф Неміровіч-Шчыт і згаданы Крыштаф Камароўскі). Гэта былі дасведчаныя парламентарыі, якія ўжо не першы раз удзельнічалі ў працы сойма[7]. За ўключэнне

[4] Vilniaus universiteto biblioteka. Rankraščių skyrius (VUB RS). F. 7. Sign. 15, 20-5974. L. 17–18 (рэспубліканская пратэстацыя ў сувязі з пачаткам дзейнасці Скарбовага Трыбунала; пададзена ў троцкі гродскі суд 8 студзеня 1700 г.).

[5] Wiśniowiecki J.A. Ilias Polski (1700–1710) / wyd. P. P. Romaniuk i J. Burdowicz-Nowicki. Warszawa, 2018. S. 75.

[6] Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny… S. 173.

[7] Ibidem. S. 111, 119, 129, 130.

Шчыта ў склад дэпутацыі хадайнічаў падканцлер Караль Станіслаў Радзівіл (атрымаў на гэтым сойме урад канцлера)[8]. Праўда, подпіс Шчыта пад арыгіналам канстытуцыі адсутнічае[9]. Але з пазнейшых яго выказванняў вынікае, што ён увесь час падтрымліваў скліканне і дзейнасць Трыбунала, а рэспубліканцы, якія падтрымлівалі гэтую ідэю на сойме, потым змянілі сваю думку[10]. Таксама другі з дэпутатаў, Крыштаф Камароўскі, непасрэдна ў дзень адкрыцця Скарбовага Трыбунала засведчыў, што пры чытанні канстытуцыі пратэстаў не было[11].

Тым не менш, зацвярджэнне гэтай пастановы соймам – пытанне ўсё ж спрэчнае. Багуслаў Дыбась крыху памыляецца, калі сцвярджае, што паслы падтрымалі ўхваленне канстытуцыі аб Скарбовым Трыбунале ў сваіх дэкларацыях[12]. На самай справе ў падатковых дэкларацыях згадкі пра яе адсутнічаюць (за выключэннем дэкларацыі інфлянцкіх паслоў, але даволі няпэўнай – тыя пагаджаліся з любым *магчымым* рашэннем наконт месца і часу склікання гэтага Трыбунала). Да гэтага факта – адсутнасці згадак – апелявалі пазней і рэспубліканцы[13]. Больш за тое, у сваіх дэкларацыях лідскія, жамойцкія, наваградскія і аршанскія паслы выказваліся супраць уключэння ў "Volumina legum" канстытуцый, якія не былі зачытаны ў зале паседжанняў або пярэчылі пастанове 1697 г. аб ураўнаванні правоў (каэквацыі), хоць і не ўдакладнялі, што маюць на ўвазе[14]. Пры гэтым паслы многіх

[8] AGAD. APP. Sygn. 163. T. III. S. 767 (К. С. Радзівіл да С. А. Шчукі, б. д. [ліпень 1699 г.]).

[9] Ibidem. Sygn. 34. T. II. S. 99.

[10] Ibidem. Sygn. 163a. T. 29. S. 358–360 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 9 траўня 1700 г.). Полацкі харужы пісаў, што тыя, каму не падабаецца Скарбовы Трыбунал, цяпер "падаюць справу інакш, чым у сваіх выступленнях на сойме і на сесіях (правінцыйных ВКЛ. – *Д. В.*)".

[11] Ibidem. Archiwum Radziwiłłowskie (AR). Dz. V. Sygn. 18782. S. 10 (К. Златкоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.).

[12] Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny… S. 174.

[13] Пра гэтыя іх аргументы пісаў, напрыклад, К. Неміровіч-Шчыт: AGAD. APP. Sygn. 163a. T. 29. S. 253 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 8 чэрвеня 1700 г.).

[14] Volumina legum. T. VI. S. 43–46.

паветаў выказвалі згоду з канстытуцыяй пра Галоўны Трыбунал. Такая сітуацыя з пастановай аб Трыбунале Скарбовым тым больш дзіўная з улікам бурнага абмеркавання яе праекта на сойме. Усё гэта можа выклікаць сумненні, што яна была прынятая ва ўстаноўленым парадку.

У большасці соймавых дыярыушаў звесткі пра зацвярджэнне канстытуцыі аб Скарбовым Трыбунале ВКЛ адсутнічаюць. Яе праект выносіўся на разгляд сойма 27 ліпеня, аднак на яго не было згоды, і кароль адаслаў яго разам з іншымі праектамі на правінцыйныя сесіі, якія адбыліся назаўтра[15]. Відаць, на гэтай сесіі і пратэставаў вялікі гетман (фармальна гэта быў апошні дзень працы сойма, але было вырашана працягнуць яго яшчэ на два дні, кампенсаваўшы святы). Аднак згадку пра зацвярджэнне гэтай пастановы можна сустрэць у дыярыушы з архіва маршалка сойма Станіслава Антонія Шчукі. Там яна называецца сярод іншых канстытуцый, прынятых 29 ліпеня (як "Камісія літоўскага скарбу", але, відавочна, размова пра Трыбунал). Сказана, што ў гэты дзень усе ранейшыя праекты былі "рэкапітуляваныя" (падсумаваныя, сабраныя разам) і зацверджаныя[16]. Відаць, на гэты раз іх сапраўды цалкам не чыталі. Ва ўсялякім разе, іначай складана растлумачыць такую сітуацыю.

У канстытуцыі галоўнай прычынай склікання Скарбовага Трыбунала называлася выплата даўгоў па заробку войску ВКЛ, а менавіта чатырох чвэрцяў (прадугледжаных Пузавіцкім пагадненнем 1698 г.). Да разгляду таксама прымаліся справы па затрымцы заробку за тры чвэрці 1699 г. Пасля выплаты даўгоў рэшту войска, якая засталася пасля роспуску большай часткі жаўнераў у 1698 г., планавалася таксама распусціць. Рашэнне мусіла быць прынятае на сойме (магчыма, ужо на наступным). На 1700 г.

[15] Archiwum Państwowe w Toruniu (APT). Kat. II. Dz. XIII. Sygn. 35. S. 308.

[16] AGAD. APP. Sygn. 34. T. II. S. 37; тое самае: Biblioteka Książąt Czartoryskich w Krakowie (BCz). Rkps. 522. K. 604. Спіс уключае 14 пунктаў (у некаторых з іх пералічана ці коратка выкладзена па некалькі канстытуцый). Пункт 6 сфармуляваны вельмі коратка: "Зацверджана камісія літоўскага скарбу, а таксама канстытуцыя аб Галоўным Трыбунале".

з падаткаў былі ўхвалены толькі татарскае і жыдоўскае пагалоўнае ды тытунёвая манаполія[17].

Увогуле такі ход падзей задаволіў бы рэспубліканцаў (у падатковых дэкларацыях поўнага роспуску войска дамагаліся троцкія, ваўкавыскія і пінскія паслы[18]). Але, відаць, з іх боку былі і іншыя прычыны спачатку не выступаць супраць Скарбовага Трыбунала. Наколькі можна зразумець з тлумачэнняў Януша Антонія Вішнявецкага (па выніках сойма атрымаў урад надворнага маршалка ВКЛ), Казімір Ян Сапега пад уплывам брата Бенядзікта ў якасці кампрамісу адмовіўся ад сваёй пратэстацыі і пагадзіўся на верыфікацыю падаткаў не з 1690, а з 1667 г. Рэспубліканцы спадзяваліся выявіць за гэты перыяд скарбовыя махінацыі. Але Вішнявецкі ацэньваў іх спадзяванні скептычна, паколькі шмат адказных асобаў на той час ужо памерла і не ўсе падатковыя дакументы захаваліся. Акрамя таго, было дамоўлена, што падскарбі складзе чарговую справаздачу са сваёй дзейнасці на наступным сойме[19].

Скарбовы Трыбунал быў прызначаны на 4 студзеня і павінен быў судзіць восем тыдняў (дзве кадэнцыі па чатыры тыдні). У яго склад былі ўключаны вялікі гетман Казімір Ян Сапега, палявы гетман Юзаф Багуслаў Слушка, канцлер Караль Станіслаў Радзівіл, падканцлер Станіслаў Антоній Шчука, вялікі падскарбі Бенядзікт Павел Сапега, віцебскі ваявода Андрэй Казімір Крышпін-Кіршэнштэйн (да 1698 г. – палявы пісар), чыя дзейнасць мела дачыненне да вайскова-скарбовай сферы[20]. У дадатак да іх Аўгуст II прызначыў наступных сенатараў: віленскага біскупа Канстанцыя Казіміра Бжастоўскага, полацкага ваяводу Дамініка Міхала Слушку, менскага ваяводу Уладзіслава Язафата Сапегу і віцебскага кашталяна Міхала Казіміра Коцела[21]. З гэтых дзесяці чалавек чатырох можна аднесці да групоўкі

[17] Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny… S. 174; Volumina legum. T. VI. S. 41.

[18] Volumina legum. T. VI. S. 43–45.

[19] Wiśniowiecki J.A. Ilias Polski… S. 75.

[20] Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny… S. 173; Volumina legum. T. VI. S. 41; AGAD. APP. Sygn. 34. T. II. S. 97–99.

[21] AGAD. APP. Sygn. 34. T. II. S. 125–126 (К. С. Радзівіл да С. А. Шчукі, [Варшава], б. д.).

Сапегаў (абодва гетманы, падскарбі і полацкі ваявода), у той час як да адкрытых рэспубліканцаў належалі толькі віцебскія ваявода і кашталян. Яшчэ чацвёра маглі сябе павесці па-рознаму: біскуп Бжастоўскі і канцлер Радзівіл больш схіляліся да супрацоўніцтва з рэспубліканцамі, хоць у залежнасці ад сітуацыі маглі падтрымаць і Сапегаў, падканцлер Шчука быў звязаны з дваром, а менскі ваявода Сапега трымаўся ўбаку ад палітычных баталій, але падтрымліваў цесныя адносіны з Радзівілам. Рэшту дэпутатаў належала абраць на рэляцыйных сойміках (па адным з павета). Абмежаванне пры гэтым было зроблена для асобаў, адказных за збор падаткаў (камісараў, адміністратараў, зборшчыкаў і люстратараў). Акрамя таго, шляхта павінна была прыслаць на Трыбунал “асаблівых камісараў”, якія б прывезлі ўсю падатковую дакументацыю за апошнія гады[22].

Да гэтага ў XVII ст. дэпутаты Скарбовага Трыбунала ВКЛ, як з сената, так і ад шляхты (з ліку паслоў), прызначаліся на сойме, а кіраваў яго дзейнасцю вялікі падскарбі. Відавочна, цяпер за ўзор быў прыняты польскі Скарбовы Трыбунал, які фармаваўся падобным чынам, у тым ліку праз абранне часткі дэпутатаў[23]. Такое рашэнне варта разглядаць у кантэксце каэквацыі, пад якой разумелася не толькі аднайменная соймавая пастанова, але і ў цэлым тэндэнцыя да ўніфікацыі дзяржаўнага ладу ВКЛ і Польшчы.

Ужо пасля завяршэння сойма кароль распарадзіўся, каб Шчука ўпісаў у канстытуцыю ў дадатак да прызначаных сенатараў таксама наваградскага кашталяна Стафана Яўстахія Александровіча[24]. Гэта істотна ўзмацняла

[22] Dybaś B. Sejm pacyfikacyjny… S. 173; Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 416; Volumina legum. T. VI. S. 41; AGAD. APP. Sygn. 34. T. II. S. 97–99 (арыгінал канстытуцыі).

[23] Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 410, 416. Таксама Г. Слесарунас адзначае, што абранне дэпутатаў на сойміках (праўда, на грамнічных) было ініцыятывай рэспубліканцаў, выказанай у Пузавіцкай пастанове 1698 г.: Ibidem. S. 414.

[24] AGAD. APP. Sygn. 34. T. II. S. 131 (Аўгуст II да С. А. Шчукі, Варшава, жнівень 1699 г.). У арыгінале канстытуцыі, падпісанай дэпутатамі, Александровіч быў дапісаны пазней на палях.

пазіцыі Сапегаў, да таго ж рабілася відавочным спрыянне ім двара. Верагодна, хутка ўзнікла асцярога, што Сапегі могуць атрымаць большасць і выкарыстаць гэты Трыбунал для звядзення рахункаў. Пасля Пузавіцкага пагаднення асігнацыі харугвам на атрыманне заробку выдаваў Міхал Казімір Коцел як генеральны палкоўнік ВКЛ, ён жа ў 1697 г. займаўся падрыхтоўкай падатковага тарыфу ВКЛ. Да таго ж у пачатку 1698 г., на грамнічных сойміках, калі большасць паветаў абірала зборшчыкаў і адміністратараў падаткаў, рэспубліканцы атрымалі перамогу і, адпаведна, мусілі адказваць за выплату заробку жаўнерам.

Пазіцыя двара мела вялікі ўплыў на рашэнні сойма – асабліва ўлічваючы ролю маршалка Шчукі, які адказваў у тым ліку за падрыхтоўку пастаноў. Сучаснікі наўпрост пісалі, што Сапегі ў гэты час пачалі карыстацца прыхільнасцю і даверам караля, а рэспубліканцы – губляць іх[25]. Зацікаўленасць Аўгуста II у зближэнні з Сапегамі вынікала з яго ваенных планаў. Па-першае, каралю патрэбна было пакінуць у ВКЛ саксонскія войскі, якія можна было б выкарыстаць у вайне са Швецыяй[26]. Па-другое, як паказалі падзеі наступнага года, Аўгуст II быў не супраць выкарыстаць і войска ВКЛ.

За месяц да адкрыцця Скарбовага Трыбунала вялікі гетман Казімір Ян Сапега разаслаў універсалы да войска (у тым ліку да жаўнераў распушчаных харугваў) і заклікаў прысылаць для разлікаў сваіх прадстаўнікоў. Пры гэтым Сапега абвінаваціў Міхала Казіміра Коцела, лідара

[25] Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego (1666–1721) / wyd. J. Bartoszewicz. Warszawa, 1862. S. 204.

[26] Вядома, што Аўгуст II падзяліўся сваімі намерамі з некаторымі найвышэйшымі ўраднікамі Рэчы Паспалітай, у тым ліку з прымасам і Сапегамі. Цяжка сказаць дакладна, калі гэта адбылося, аднак, відаць, не раней за другую дэкаду жніўня: Устрялов Н. История царствования Петра Великого. Т. III. С.-Петербург, 1858. С. 503–504; Budrowicz-Nowicki J. Piotr I, August II i Rzeczpospolita 1697–1706. Kraków, 2010. S. 254–255; Flemming J.H. Pamiętniki o elekcji Augusta II na króla polskiego i o początkach wojny północnej (1696–1702) / wyd. U. Kosińska; tłumacz. K. Zaleska i M. Gołębiewska-Bijak. Warszawa, 2017. S. 413.

рэспубліканцаў, што той “з вялікай крыўдай цэлага войска без майго гетманскага рэестра… выдаваў і адмяняў асігнацыі, пераносячы іх з павета на павет”, у выніку чаго жаўнерам не былі цалкам выплачаны заробак і чатыры чвэрці доўгу. Гэта ўжо павінна было б устрывожыць рэспубліканцаў, хоць невядома, ці паспеў той жа Коцел пазнаёміцца з універсалам перад пачаткам Трыбунала[27].

Як і варта было чакаць, канфлікт вакол Скарбовага Трыбунала быў востры. У Вільню з’ехаліся як прыхільнікі яго склікання, так і праціўнікі. Паслы ад паветаў, якія былі супраць, прыбылі загадзя і накіраваліся да віленскага біскупа Канстанцыя Казіміра Бжастоўскага, “як першага сенатара ВКЛ”, якому паведамілі, што збіраюцца пратэставаць[28]. Разумеючы гэта, прыхільнікі склікання Трыбунала спрабавалі прадухіліць непажаданае развіццё падзей. Асабліва прыкладаў да гэтага намаганні вялікі падскарбі Бенядзікт Павел Сапега. Разам з полацкім ваяводам Дамінікам Міхалам Слушкам за два дні да адкрыцця Трыбунала яму ўдалося прымірыць гетмана Сапегу і біскупа Бжастоўскага[29]. Пасля гэтага падскарбі і віленскі біскуп ужо разам пачалі перамовы з рэспубліканцамі. Лідары апошніх, віцебскі кашталян Міхал Казімір Коцел і жамойцкі староста Грыгорый Антоній Агінскі, са свайго боку прыслалі браслаўскага маршалка Казіміра Уладзіслава Бяганскага, які заявіў, што пастанова аб Скарбовым Трыбунале не была прынятая соймам і нават не выносілася на разгляд. Падскарбі Сапега спрабаваў яму давесці, што гэта не так, але, відаць, у сітуацыі, калі пазіцыі рэспубліканцаў вызначыліся, шансаў іх пераканаць было няшмат[30].

[27] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 1733. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 221–221адв. (універсал К. Я. Сапегі да войска ВКЛ, Горадня, 10 снежня 1699 г.; пададзены ў пінскі гродскі суд 6 снежня 1700 г.).

[28] VUB RS. F. 7. Sign. 15, 20-5974. L. 17v.

[29] AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 1513/II. S. 4 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.).

[30] Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 417–418.

4 студзеня на нарадзе ў палявога гетмана Юзафа Багуслава Слушкі з удзелам вялікага гетмана і падскарбія, якая адбылася перад самым адкрыццём Трыбунала, было вырашана не слухаць пратэстацый, паколькі нельга пратэставаць супраць рашэнняў сойма пасля яго заканчэння. Удзельнікі нарады сышліся на тым, што ўсе незадаволеныя могуць апеляваць на наступным сойме, і калі ён прызнае, што пастанова прынята з парушэннямі, то і рашэнні гэтага Трыбунала будуць скасаваны, а пакуль што ён павінен судзіць ва ўстаноўленым парадку. У гэты час у Слушкі сабралася шмат шляхты, якая прыехала на адкрыццё Трыбунала. Сюды ж завіталі і Крыштаф Камароўскі з Казімірам Бяганскім. Гетман Сапега жартам прапанаваў, каб рэспубліканцы забралі сабе Камароўскага і пасеклі яго на кавалкі, бо той склаў дрэнную канстытуцыю. Апошні "апраўдваўся хваробай у той час, калі гэтую канстытуцыю пасля сойма правілі", але прызнаў, што на самім сойме яна была прынята без пратэстаў (параўнанне з арыгіналам канстытуцыі паказвае, што адзінай істотнай праўкай было даданне да ліку дэпутатаў Александровіча).

Пасля гэтага ўсе рушылі на набажэнства ў кафедральны касцёл. Яшчэ раней сюды прыбылі праціўнікі Трыбунала – "усе як ашпараныя", бо іх сабралася, паводле ацэнкі радзівілаўскага слугі Казіміра Златкоўскага, разоў у дзесяць менш, чым прыхільнікаў. Разам з Коцелам і Агінскім тут былі жамойцкі харужы Казімір Заранак, падстолі ВКЛ Лявон Казімір Агінскі, краснасельскі стараста Казімір Кміціч, ашмянскі маршалак Крыштаф Зяновіч і іншыя рэспубліканцы, пераважна з Ашмянскага павета[31].

Пасля набажэнства, якое адслужыў віленскі біскуп, прысутныя на ім падзяліліся на дзве групы. Асноўная частка накіравалася да памяшкання на Замкавай гары,

[31] AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 18782. S. 8–11 (К. Златкоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.). Пра Казіміра Златкоўскага гл.: Rachuba A. Kazimierz Antoni Złotkowski, uczony sługa Radziwiłłów // Магнацкі двор і сацыяльнае ўзаемадзеянне (XV–XVIII стст.) / пад рэд. А. М. Янушкевіча. Мінск, 2014. С. 412–420.

дзе звычайна праходзілі соймікі і пачыналіся Трыбуналы. З сенатараў тут прысутнічалі віленскі біскуп Канстанцый Казімір Бжастоўскі, віленскі ваявода і вялікі гетман Казімір Ян Сапега, віленскі кашталян і палявы гетман Юзаф Багуслаў Слушка, полацкі ваявода Дамінік Міхал Слушка, віцебскі кашталян Міхал Казімір Коцел, наваградскі кашталян Стафан Яўстахій Александровіч і вялікі падскарбі Бенядзікт Павел Сапега; прыбылі таксама 15 павятовых дэпутатаў. На чале другой групы быў жамойцкі стараста Агінскі. Выйшаўшы з касцёла, ён заявіў, што не збіраецца сядзець пад аховай драгунаў, расстаўленых па замкавым дзядзінцы, таму пратэстуе супраць Трыбунала тут. Пасля гэтага са сваімі прыхільнікамі (Заранак і інш.) ён накіраваўся да капітуляра пры касцёле, дзе праседзеў, пакуль не скончылася цырымонія адкрыцця. На пытанне ксяндза, чаму ён не разам з усімі, Агінскі адказаў, што “прыехаў біцца, а не ра́дзіцца”.

Адкрыў паседжанні біскуп Бжастоўскі, які адзначыў у прамове, што Трыбунал сабраўся на законных падставах, але заклікаў пры гэтым да згоды. За ім выступаў Казімір Ян Сапега, які выказаў надзею, што праца гэтага Трыбунала паспрыяе выплаце запазычанасці перад войскам. Пасля яго ўзяў слова Юзаф Багуслаў Слушка. Не шкадуючы выразаў, ён абрынуўся на лідараў рэспубліканцаў: заявіў, што трэба кіравацца правам, а не іх “фантазіямі”, ды абвінаваціў Коцела і Агінскага ў рабаванні шляхты, у выбіранні і прыўлашчванні велізарных сум у час выступленняў апошніх гадоў. Паўтараючы “Божа, забі іх!” і называючы віцебскага кашталяна і жамойцкага старасту “паганскімі дзецьмі”, Слушка выказаў надзею, што гэты Трыбунал выявіць усе іх злоўжыванні, ды паабяцаў асабіста паехаць па галаву Коцела, калі будзе такі вырак. Пры гэтым палявы гетман заявіў, што гэта ён аўтар каэквацыі (соймавай пастановы 1697 г.), ды папракнуў сваіх былых саюзнікаў, для якіх гэта быў асноўны лозунг, што, адстойваючы гэтую пастанову, яны зайшлі занадта далёка, ператварыўшыся ў звычайных рабаўнікоў; таксама папракаў іх у сувязі з роспускам войска і ануляваннем яму доўгу. Слушка казаў гэта, звяртаючыся непасрэдна да Коцела, з якога яшчэ

і пакпіў, павіншаваўшы з пячаткай (той прайграў на сойме барацьбу за ўрад падканцлера)[32].

Віцебскі кашталян, па сведчаннях прысутных, збялеў і палічыў за лепшае не адказваць. Аднак іншыя рэспубліканцы спрабавалі пратэставаць. Так, прасілі слова, каб зачытаць дадзеную ім інструкцыю, менскія паслы (холмскі гараднічы Павел Станіслаў Свянціцкі і менскі гродскі суддзіч Давід Міцкевіч). Але ім адмовілі і сталі пагражаць. Пачалася сварка, у час якой тыя, відаць, заявілі пратэст супраць дзейнасці Трыбунала, аднак не ўсе маглі яго пачуць, бо ім актыўна перашкаджалі, у тым ліку іншая шляхта з Менскага павета. Гучалі пагрозы і на адрас іншых прыхільнікаў Коцела. Так, лідар ашмянскіх сапежанцаў Станіслаў Пазняк аблаяў правадыра мясцовых рэспубліканцаў Крыштафа Зяновіча ("сказаўшы некалькі слоў па матцы") і абвінаваціў яго, што той "абакраў Ашмянскі павет".

Не зважаючы на гэта, дэпутаты перайшлі да складання прысягі. Пры гэтым усплыло пытанне законнасці абрання гарадзенскага дэпутата, Крыштафа Міцуты, мясцовага падкаморыя, і да канца разбіральніцтва ён быў адхілены ад прысягі. Акрамя таго, не склалі прысягу Міхал Казімір Коцел, які папрасіў дазволу зрабіць гэта назаўтра, і лідскі падкаморы Уладзіслаў Нарбут, які адмовіўся, заявіўшы, што ўжо зрабіў гэта ў Лідзе. Пасля гэтага для абрання дырэктара папрасілі застацца толькі дэпутатаў, астатніх – пакінуць памяшканне. Паколькі прысутныя не спяшаліся, то давялося папрасіць выйсці ўсіх (прыклад паказалі сенатары), а потым запрасіць адных дэпутатаў. Прычым сярод тых, хто вярнуўся, не было ўжо Коцела, хоць яго і запрашаў падскарбі Сапега. Не вярнуўся ён і пазней і ў працы Трыбунала не ўдзельнічаў.

Пасля гэтага зноў выступіў біскуп Бжастоўскі, які прапанаваў абраць дырэктарам вялікага гетмана Сапегу. Апошні, у сваю чаргу, прапанаваў палявога гетмана

[32] Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 418; AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 1–5 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 8 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 18782. S. 11–14 (К. Златкоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.).

Слушку. Аднак той адмовіўся, спаслаўшыся на каэквацыю і заявіўшы, што ў Польшчы, калі на Скарбовым Трыбунале прысутнічае вялікі гетман, то ён і становіцца дырэктарам. У выніку ўсе адзінагалосна падтрымалі Казіміра Яна Сапегу. Але вялікі гетман прапанаваў кожнаму прагаласаваць асабіста (відаць, каб не засталося сумненняў у законнасці абрання), аднак адкрытым галасаваннем – і такім чынам быў абраны дырэктарам. Месца пісара Трыбунала было загадзя паабяцана слонімскаму дэпутату Казіміру Аляксандру Валовічу (віленскаму земскаму пісару), але яму давялося саступіць, і пісарам быў абраны віленскі дэпутат – познанскі стольнік Францішак Скарбек-Кялчоўскі. Потым дырэктар прызначыў рэгентам Трыбунала віленскага войта Яна Казіміра Ляшкевіча[33].

З уплывовых дэпутатаў, на якіх разлічвалі прыхільнікі Скарбовага Трыбунала, на адкрыцці і пазней адсутнічалі канцлер Радзівіл і падканцлер Шчука. Апошні як маршалак сойма мог бы сваёй прысутнасцю развеяць сумненні адносна правамоцнасці Трыбунала. Але калі Шчука быў звязаны больш з Польшчай, чым з ВКЛ, то адсутнасць Радзівіла не прайшла незаўважана. Сапежанцы спрабавалі падаць справу такім чынам, што канцлер паверыў Коцелу, нібы Трыбунал будзе ўсё адно сарваны, таму і не паехаў[34].

[33] Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 418–419; AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 5–6 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 8 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 1513/II. S. 3 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 18782. S. 13–15 (К. Златкоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.); VUB RS. F. 7. Sign. 15, 20-5974. L. 27. У. Я. Сапега пісаў, што на адкрыцці ніхто не пратэставаў, толькі ў самым пачатку двое прысутных прасілі слова, але ім адмовілі. Пра пратэсты не згадвае і К. Златкоўскі. Паводле яго, слова прасіў Міцкевіч, слуга Коцела (магчыма, памылкова прыняў менскага пасла за яго слугу, палічыўшы, што ён хоча абараніць Коцела, або той сапраўды быў звязаны з віцебскім кашталянам). Аднак у той жа час біскуп Бжастоўскі пісаў да Радзівіла, што “наслухаўся ўчора пратэстацый”. Выразна прапісаны гэты момант і ў навінах (прычым вытрыманых, хутчэй, прыхільна да Сапегаў).

[34] Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 419.

У той жа час рэспубліканцы таксама на яго наракалі[35]. Відавочна, пазіцыя Радзівіла была крыху двухсэнсоўнай. З аднаго боку, нараканні былі звязаныя з тым, што як канцлер ён падпісаў і замацаваў пячаткай надрукаваныя канстытуцыі[36]. Таксама з Берасцейскага павета, дзе Радзівіл карыстаўся ўплывам, і, верагодна, на сойміку, дзе ён быў дырэктарам, шляхта абрала на гэты Трыбунал дэпутата – берасцейскага падкаморыя і стражніка ВКЛ Людвіка Канстанцыя Пацея[37]. З другога боку, канцлер, магчыма, не хацеў занадта адкрыта падтрымліваць Сапегаў.

Два наступныя дні пайшлі на перамовы з лідарамі рэспубліканцаў, якіх Сапегі не трацілі надзеі схіліць да прызнання Трыбунала. У якасці пасрэдніка іх спрабаваў угаварыць біскуп Бжастоўскі, дапамагалі яму берасцейскі дэпутат Пацей ды жонка палявога гетмана Тэрэза Слушка. 5 студзеня ў апошняй пры пасрэдніцтве біскупа адбыліся перамовы Агінскага і Пацея з падскарбіем Сапегам і палявым гетманам Слушкам. Прысутнічала і шмат іншых дэпутатаў. Рэспубліканцы як адну з галоўных умоў выставілі поўны роспуск войска, патрабавалі таксама не адмяняць рашэнні павятовых скарбовых судоў. Слушка на гэта зноў абвінаваціў іх у прысваенні грошай і адкінуў магчымасць роспуску войска без выплаты заробку. Відаць, як варыянт для выплаты даўгоў было прапанавана працягнуць збор падаткаў, але палявы гетман адкінуў і яго, паколькі без рашэння сойма гэта было незаконна. Слушка заявіў

[35] Тэадор Антоній Ванькові́ч, які напярэдадні адкрыцця Трыбунала быў у Міхала Казіміра Коцела, пісаў 5 студзеня з Вільні Каралю Станіславу Радзівілу, што віцебскі кашталян скардзіўся на яго "з плачам": «Адвёўшы мяне ўбок, вельмі наракаў на няласку Вашай княскай міласці, дабрадзея, кажучы: "Пакінуў нас князь Яго міласць, дабрадзей" <…>. Нагадваў гарадзенскія падзеі і г. д.»: AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 16963. S. 21. У апошнім выпадку Коцел меў на ўвазе супрацьстаянне ў 1698 г. паспалітага рушання і войска ВКЛ у Гарадзенскім павеце. Радзівіл падпісаў тады Пузавіцкую пастанову, прынятую рэспубліканцамі.

[36] AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 17977. S. 13 (М. Б. Валовіч да К. С. Радзівіла, Вільня, 9 студзеня 1700 г.).

[37] Ibidem. Dz. VI. Sygn. II-79. K. 34v–35.

рэспубліканцам, каб не спадзяваліся, што шляхта зноў за імі пойдзе, бо ўжо зразумела, што з яе падаткаў "першыя асобы падзялілі паміж сабой мільёны", ды рытарычна спытаўся ў Агінскага, чаму той пабаяўся ехаць на жамойцкі рэляцыйны соймік. Назаўтра Агінскі і Коцел прапанавалі, каб Сапегі адмовіліся ад сваіх фінансавых прэтэнзій, але і з гэтага нічога не атрымалася[38]. Што рэспубліканцы дарэмна спадзяюцца на сваю папулярнасць, лічыў не толькі Слушка – такое меркаванне выказваў і біскуп Бжастоўскі ў адным з лістоў да канцлера Радзівіла. Ён жа дапускаў, што Агінскі і Коцел зноў звернуцца па дапамогу саксонскага войска для роспуску рэшты літоўскага[39]. Увогуле, з прамоваў Слушкі рэспубліканцам мусіла стаць ясна, што на Трыбунале іх збіраюцца судзіць за злоўжыванні.

Пасля адкрыцця Трыбунала паўстала пытанне выбару месца для яго паседжанняў. Спачатку як варыянт разглядалася ратуша, потым цэйхгаўз, але ў выніку спыніліся на Скарбовай камяніцы[40]. Там 7 студзеня Скарбовы Трыбунал і пачаў сваю працу. Пры гэтым да суддзяў далучыліся яшчэ гарадзенскі (Крыштаф Міцута) і інфлянцкі (Ян Людвік Плятар) дэпутаты, якія склалі прысягу ў гэты дзень. Францішак Кялчоўскі, пісар Трыбунала, карыстаючыся тым, што рэгент яшчэ прысягі не склаў, дабіўся яго замены, заявіўшы, што прызначэнне рэгента – гэта яго

[38] Ibidem. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 6–8 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 8 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 1513/II. S. 3–4 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.); Ibidem. S. 5–6 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 8 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 18782. S. 15 (К. Златкоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.); APT. Kat. II. Dz. XIII. Sygn. 35. S. 511 (навіны з Вільні, 9 студзеня 1700 г.).

[39] AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 1513/II. S. 9 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 13 студзеня 1700 г.). Відаць, гэта было звязана з пагрозамі Агінскага: Ibidem. Sygn. 18782. S. 15 (К. Златкоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.).

[40] Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 418; AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 1513/II. S. 3 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 5 студзеня 1700 г.). Ратушу разглядалі па аналогіі з месцам паседжанняў польскага Скарбовага Трыбунала ў Радаме. Але ад гэтага варыянта адмовіліся, каб не парушаць гарадскія прывілеі Вільні.

прэрагатыва, ды пагражаючы адмовай ад пісарства і дэпутацтва. У выніку рэгентам стаў троцкі войскі Яўстахій Ян Бурба. Пасля гэтага пачалі чытаць ранейшую ардынацыю Скарбовага Трыбунала і стала зразумела, што яе трэба паправіць, каб яна адпавядала каэквацыі. Для гэтага былі прызначаны аршанскі і слонімскі дэпутаты (Мікалай Станіслаў Галінскі і Казімір Аляксандр Валовіч), якія разам з падскарбіем павінны былі падрыхтаваць тэкст новай ардынацыі. Вынік сваёй працы яны меліся прэзентаваць 8 студзеня. Верагодна, у гэты дзень яна і была зацверджаная[41].

Акрамя пакрыцця запазычанасці перад войскам яшчэ адной важнай задачай Трыбунала ў ардынацыі называлася падрыхтоўка дакументаў для справаздачы падскарбія на наступным сойме. У выпадку недабору падаткаў Трыбунал разглядаў справы зборшчыкаў, скарбовых дваран, камісараў, адміністратараў, падрадчыкаў і г. д. Што тычыцца апошніх гадоў, калі збор адбываўся ў адпаведнасці з каэквацыяй, то для разлікаў за гэтыя гады ў Вільню выклікаліся павятовыя камісары, якія адказвалі за выплаты жаўнерам, а ў іх адсутнасць – адміністратары і зборшчыкі. Выракі Трыбунала накіроўваліся для выканання ў паветы. У адпаведнасці з імі мясцовыя ўраднікі павінны былі забяспечыць (калі трэба – склікаўшы шляхту) прымусовае спагнанне даўгоў. У адваротным выпадку на суд выклікаліся ўжо яны. Таксама ў Трыбунал заклікалі звяртацца прадстаўнікоў тых харугваў, якія не атрымалі чатырох чвэрцяў у адпаведнасці з Пузавіцкім пагадненнем. Істцом выступаў і сам падскарбі, які заявіў, што скарб па старых кантрактах з падрадчыкамі чопавага, шэлежнага і мыта недаатрымаў некалькі соцень тысяч злотых[42].

[41] AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 8–9 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 8 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 1513/II. S. 5–6 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 8 студзеня 1700 г.).

[42] Ordinacia Trybunału Skarbowego Wielkiego Xięstwa Litewskiego w Wilnie dnia 4 Ianuarij Anno Domini 1700 zaczętego. Wilno, 1700. Ардынацыя датаваная 7 студзеня, але ў гэты дзень яна была толькі падрыхтавана, а зацверджана назаўтра.

Ардынацыя Скарбовага Трыбунала была надрукавана да сярэдзіны гэтага месяца[43]. Відаць, адначасова з ёй была надрукавана і дэкларацыя Трыбунала ад 9 студзеня, якая забараняла ў час яго працы дзейнасць павятовых скарбовых судоў – каб не затрымліваць асобаў, адказных за збор падаткаў, якія выклікаліся ў Вільню[44]. Гэтае патрабаванне грунтавалася на соймавай канстытуцыі, якая патрабавала, каб скарбовыя суды разгледзелі справы пра недабор падаткаў перад пачаткам Трыбунала. Але частка паветаў, відаць, была настроена гэта ігнараваць.

Пачатак працы Трыбунала паставіў пад пытанне мэтазгоднасць далейшых перамоў. 8 студзеня абраныя на рэляцыйных сойміках паслы-рэспубліканцы з чатырох паветаў склалі пратэстацыю супраць яго дзейнасці ў троцкім гродскім судзе. Пратэставалі упіцкія (менскі кашталяніч Юзаф Антоній Пузына, ваўкавыскі стольнік Ян Эмануэль Талочка і Крыштаф Гамбровіч), аршанскія (інфлянцкі падчашы Валяр'ян Борк і берасцейскі скарбнік Уладзіслаў Кажанеўскі), мсціслаўскія (Крыштаф Самуэль Гедройць і мсціслаўскі канюшы Марцін Казімір Панятоўскі) і менскія паслы (Павел Станіслаў Свянціцкі і Давід Міцкевіч). Паводле іх, праект пастановы аб Скарбовым Трыбунале абмяркоўваўся на сойме, але згода на яго дасягнута не была. У сувязі з гэтым на адкрыцці Трыбунала яны пратэставалі супраць яго дзейнасці ў адпаведнасці з дадзенымі сабе інструкцыямі, хоць іх і спрабавалі заглушыць. Адначасова, па іх словах, на адкрыцці былі прэзентаваны інфаміі, якія меліся ў трох дэпутатаў: Марцін Цюфяй прэзентаваў атрыманую Казімірам Янам Сапегам, падстолі ВКЛ Казімір Лявон Агінскі – дзве, атрыманыя Бенядзіктам Паўлам Сапегам, троцкі кашталян Марцін Міхал Крышпін-Кіршэнштэйн – атрыманую Стафанам Яўстахіем Александровічам. Таксама сапежанцаў абвінавачвалі, што тыя "прыбралі сабе" дэпутата з Троцкага

[43] AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 14 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 16 студзеня 1700 г.).

[44] Deklaracia woiewództw y powiatów W. X. Litt. ratione niesądzenia sądów fiskalnych durantibus modernis iudicijs. [Wilno], 1700.

павета, які не быў абраны на рэляцыйным сойміку (невядома, хто меўся на ўвазе, але ў працы Трыбунала не ўдзельнічаў. – *Д. В.*). Нарэшце паслы паабяцалі, што выракі гэтага Трыбунала на тэрыторыі іх паветаў выконвацца не будуць[45]. Лявон Казімір Агінскі занёс пратэстацыю на Сапегу асобна. Ён сцвярджаў, што спрабаваў перашкодзіць выкананню прысягі падскарбіем, але яго праігнаравалі[46].

Да гэтых пратэстаў далучыліся і двое дэпутатаў: Уладзіслаў Нарбут і Стафан Кужанецкі, абраныя ў Лідзе і Пінску адпаведна. Нарбут, які на адкрыцці ўхіліўся ад прысягі, заявіў, што яму было даручана ў інструкцыі, каб удзельнічаў у працы Трыбунала, толькі калі не будзе іншых пратэстаў. Ён жа паўтарыў сцверджанне, што адпаведная канстытуцыя на сойме прынятая не была, а варшаўскі гродскі суд пратэстацыю лідскіх паслоў не прыняў[47]. Стафан Кужанецкі атрымаў даручэнне ад шляхты свайго павета пратэставаць супраць дзейнасці Трыбунала, калі той зоймецца разглядам "даўнейшых" спраў. Пасля адкрыцця, з яго слоў, ён спадзяваўся, што будзе дасягнута паразуменне з тымі, хто пратэставаў у першы дзень, але цяпер, калі Трыбунал пачаў працу, прычым з разгляду старых спраў, ён таксама вырашыў далучыцца

[45] VUB RS. F. 7. Sign. 15, 20-5974. L. 17–18 (пратэстацыя упіцкіх, аршанскіх, мсціслаўскіх і менскіх паслоў супраць Скарбовага Трыбунала ВКЛ; пададзена ў троцкі гродскі суд 8 студзеня 1700 г.); AGAD. AR. Dz. II. Sygn. 1880. S. 1–4 (тое самае). К. С. Гедройць падпісаўся як мсціслаўскі войскі, хоць прывілей на гэты ўрад атрымаў толькі ў жніўні.

[46] VUB RS. F. 7. Sign. 15, 20-5974. L. 26–26v (пратэстацыя Л. К. Агінскага ў троцкім гродскім судзе, складзеная 8 студзеня 1700 г.). Размова, відавочна, ішла пра дзве справы з Сапегамі, выйграныя завочна ў Галоўным Трыбунале 1698 г., у тым ліку наконт узброенага нападу ў тым жа годзе, у ходзе якога падстолі атрымаў цяжкія раненні: Віцько Д. Галоўны Трыбунал ВКЛ 1698 г.: судовая расправа над Сапегамі // Arche. 2016. № 3. С. 115, 120. Бенядзікт Павел Сапега і яго сын Міхал Юзаф атрымалі глейт на вырак у справе нападу толькі 30 сакавіка 1700 г.: НГАБ. КМФ-18. Спр. 148. Арк. 356–357.

[47] VUB RS. F. 7. Sign. 15, 20-5974. L. 29–29v (пратэстацыя У. Нарбута ў троцкім гродскім судзе, складзеная 8 студзеня 1700 г.).

да пратэстаў[48]. Пра яго Крыштаф Завіша ў сваіх успамінах адзначыў, што ўсе прыступілі да працы, "адзін толькі Кужанецкі з Пінска, перамяніўшыся, на трэці дзень з мёртвых уваскрос і пратэставаў"[49]. Прыхільнікі Трыбунала, у сваю чаргу, лічылі, што на пратэсты супраць яго можна ўвагі не звяртаць, бо соймавая пастанова мае сілу закона[50]. Пра пачатак працы дэпутаты данеслі прымасу Радзяёўскаму, паведаміўшы яму, што супраць Трыбунала выступаюць тыя, хто не хоча перад ім адказваць[51].

Ардынацыю Скарбовага Трыбунала падпісалі 20 дэпутатаў, у тым ліку 3 ураднікі (з шасці), якія ўваходзілі па пасадзе, 4 прызначаныя сенатары (з пяці) і 13 абраных дэпутатаў[52]. Праз дэпутатаў была прадстаўлена роўна

[48] Ibidem, l. 27 (пратэстацыя С. Кужанецкага, Вільня, 11 (!) студзеня 1700 г.; пададзена ў троцкі гродскі суд 8 студзеня). Кужанецкі сцвярджаў, што дзейнічае таксама ў адпаведнасці з пратэстацыяй Яна Філона Вароніча, пінскага пасла на сойм 1699 г. Што гэта за пратэстацыя, дзе і калі яна была складзена, сказаць цяжка. Пінская шляхта на грамнічным сойміку ў лютым пацвердзіла, што Кужанецкі дзейнічаў у адпаведнасці з дадзенай яму інструкцыяй (сам ён казаў пра крэдэнс): НГАБ. Ф. 1733. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 288.

[49] Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy… S. 205.

[50] APT. Kat. II. Dz. XIII. Sygn. 35. S. 524 (навіны з Літвы, 22 студзеня 1700 г.).

[51] Biblioteka Narodowa w Warszawie (BN). Rkps. 6650. S. 286–287 (ліст Скарбовага Трыбунала да прымаса М. С. Радзяёўскага, б. д., за подпісамі дэпутатаў); AGAD. AR. Dz. II. Ks. 38. K. 240–241 (тое самае).

[52] Вялікі гетман Казімір Ян Сапега (маршалак Трыбунала), віленскі біскуп Канстанцый Казімір Бжастоўскі (дэпутат з сената), палявы гетман Юзаф Багуслаў (памылкова – Ян Багуслаў) Слушка, полацкі ваявода Дамінік Міхал Слушка (дэпутат з сената), менскі ваявода Уладзіслаў Сапега (дэпутат з сената), навагрудскі кашталян Стафан Александровіч (дэпутат з сената), вялікі падскарбі Бенядзікт Павел Сапега, Францішак Скарбек-Кялчоўскі (віленскі дэпутат), падкаморы ВКЛ і вількамірскі маршалак Ян Крыштаф Пац (вількамірскі дэпутат), гарадзенскі падкаморы Крыштаф Міцута (гарадзенскі дэпутат), ковенскі падчашы Сымон Забела (ковенскі дэпутат), гарадзенскі падстолі Ян Францішак Корвін-Гасеўскі (смаленскі дэпутат), Антоній Зяновіч (полацкі дэпутат), віленскі земскі суддзя Казімір Валовіч (слонімскі дэпутат), ваўкавыскі падстараста Мікалай Станіслаў Сухадоль-

палова паветаў ВКЛ, але з улікам Інфлянтаў атрымлівалася мінімальная большасць у аднаго дэпутата. У гэтым складзе Скарбовы Трыбунал і судзіў да канца першай кадэнцыі, хоць сітуацыя была даволі хісткая. У хуткім часе ад удзелу ў яго працы адмовіўся інстыгатар (абвінаваўца), рэспубліканец Станіслаў Ян Рукевіч, які ўначы 11 студзеня без тлумачэння прычын выехаў з Вільні. Замяніў яго віцэ-інстыгатар Андрэй Пяжарскі (удзельнічаў у працы гэтага Трыбунала як “surrogatus instigator”)[53]. Магчыма, нейкія праблемы былі і з пісарам Кялчоўскім, бо ў навінах паведамлялася, што “канцылярыя дэкрэтаў пісаць не хоча і, здаецца, бунтуе супраць Трыбунала”[54].

Перамовы з рэспубліканцамі, нягледзячы на занесеныя пратэстацыі, працягваліся, хоць і не так актыўна, да 13 студзеня, калі Агінскі і Коцел з прыхільнікамі выехалі з Вільні[55]. Набліжаліся грамнічныя соймікі, на якіх лідары рэспубліканцаў разлічвалі арганізаваць пратэсты супраць гэтага Трыбунала.

скі (ваўкавыскі дэпутат), вендэнскі войскі Ян Клусовіч (віцебскі дэпутат), аршанскі войскі і гродскі суддзя Мікалай Станіслаў Галімскі (аршанскі дэпутат), стражнік ВКЛ і берасцейскі падкаморы Людвік Канстанцый Пацей (берасцейскі дэпутат), мазырскі маршалак Фларыян Лявон Катоўскі (мазырскі дэпутат), дынабургскі староста Ян Людвік Плятар (інфлянцкі дэпутат).

53 AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 13 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 12 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 1513/II. S. 8 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 13 студзеня 1700 г.); APT. Kat. II. Dz. XIII. Sygn. 35. S. 519 (навіны з Літвы, 18 студзеня 1700 г.); НГАБ. КМФ-18. Воп. 1. Спр. 151. Арк. 45; Dekret generalny Trybunału Skarbowego Wielkiego Xięstwa Litewskiego cadency pierwszey, w Wilnie dnia pierwszego miesiąca Februarij Anno Domini 1700 ferowany. Vilnae, [1700]. K. E3–F.

54 APT. Kat. II. Dz. XIII. Sygn. 35. S. 519 (навіны ад 18 студзеня 1700 г.); BN. Rkps. III 3097. S. 221 (тое самае, 26 студзеня 1700 г.). У іншых крыніцах нейкіх звестак з пацверджаннем дадзенай інфармацыі няма, хоць іншыя звесткі з гэтага паведамлення пацвярджаюцца.

55 AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 13 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 12 студзеня 1700 г.); Ibidem. S. 14 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 16 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 1513/II. S. 10 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 13 студзеня 1700 г.).

Да 16 студзеня Трыбунал разглядаў больш старыя справы, з часоў Міхала Вішнявецкага і Яна Сабескага. Як пісаў біскуп Бжастоўскі канцлеру Радзівілу: "Малоцім старыя нядоімкі, але Бог яго ведае, які будзе плён, бо адны дваране не з'явіліся і асуджаны завочна, іншыя, прысутныя, забралі [свае справы] на разлікі [спачатку] у скарбе". З 18 студзеня дэпутаты збіраліся прыступіць да разгляду спраў за перыяд панавання Аўгуста II, калі дзейнічала ўжо новая сістэма збору падаткаў, уведзеная пастановай аб каэквацыі[56]. Асобы, адказныя за збор і выплату іх у гэты час, таксама спачатку атрымлівалі разлік у скарбе. Захавалася такая квітанцыя полацкім адміністратарам і зборшчыкам падаткаў за 1698–1699 г. Выплаты на войска з іх адбываліся мінаючы полацкага камісара Міхала Казіміра Жабу, таму ён у гэтых разліках не ўдзельнічаў. Акрамя недабору гіберны, тут выявілася таксама несупадзенне сумы, закладзенай Коцелам у падатковы тарыф ВКЛ 1697 г., і фактычнай сумы, якая атрымлівалася паводле тарыфу 1667 г. (рэспубліканцы аддавалі яму перавагу). Да таго ж жыдоўскага пагалоўнага з 5000 злотых атрымалася сабраць толькі 130. Тут жа былі зафіксаваны выплаты з гэтых грошай харугвам, прыпісаным да ваяводства[57].

Паводле Крыштафа Завішы, камісараў і зборшчыкаў, якія не хацелі адказваць, але прыязджалі па нейкіх справах у Вільню, бралі пад арышт і прымушалі разлічвацца ў скарбе[58]. Адным з іх быў краснасельскі староста Казімір Кміціч, камісар Аршанскага павета, двор якога быў узяты пад варту. Відаць, у гэтым жа кантэксце трэба разглядаць і затрыманне ротмістра трыбунальскай пяхоты

[56] Ibidem. Sygn. 1513/II. S. 8 (К. К. Бжастоўскі да К. С. Радзівіла, Вільня, 13 студзеня 1700 г.); Ibidem. Sygn. 13874/II. S. 14 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 16 студзеня 1700 г.).

[57] НГАБ. Ф. 1734. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 30–30адв. (скарбовая квітанцыя полацкім адміністратарам і зборшчыкам падаткаў, Вільня, 27 студзеня 1700 г., за подпісам ашмянскага падкаморыя і скарбовага пісара ВКЛ Юрыя Лаўрэна Жэмлы; упісана ў полацкія гродскія кнігі 15 красавіка 1700 г.).

[58] Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy… S. 205; Lietuvos mokslų akademijos Vrublievskių biblioteka. Rankraščių skyrius (LMAVB RS). F. 17. B. 177. L. 230v.

Якуба Казіміра Кіяноўскага, якога прымусова даставілі ў Вільню[59]. На чале аховы Галоўнага Трыбунала яго паставіў Коцел (на моцы Пузавіцкай пастановы), і для Сапегаў гэтае прызначэнне было як бяльмо на воку.

Асобных дэкрэтаў Скарбовага Трыбунала і звестак пра іх захавалася няшмат. Так, 26 студзеня быў вынесены завочны дэкрэт у справе наваградскага кашталяна і гарадзенскага войта Стафана Александровіча з гарадзенскім харужым (якога сапежанцы лічылі толькі падстарастам) Грыгорыем Катовічам і гарадзенскім кагалам за права размяшчэння крамаў і шынкоў у гарадской ратушы. Трыбунал вырашыў, што яны там размешчаны незаконна. Катовіч і кіраўніцтва кагалу атрымалі інфамію. Крамы і шынкі было пастаноўлена адтуль прыбраць, а гораду выплаціць кампенсацыю (3 тыс. злотых з Катовіча і 10 тыс. з кагалу). Выкананне рашэння было ўскладзена на гродскіхураднікаў суседніх паветаў[60].

30 студзеня Мар'яна Пац, удава жамойцкага старасты Пятра Міхала Паца, выйграла завочна справу ў берасцейскіх зборшчыкаў гіберны: гродскага суддзі Жыгімонта Бенядзікта і лоўчага Францішка Хшаноўскіх ды Казіміра Касцюшкі-Сяхновіцкага. Яны абвінавачваліся ў тым, што ў 1698–1699 г. узялі занадта шмат з яе Блудзенскага староства і не выдалі квітанцыі. Жыгімонт Хшаноўскі пазней адмаўляў, што быў зборшчыкам у 1699 г., а ў 1698 г., з яго слоў, Мар'яна Пац не хацела плаціць гіберну і не дапускала яе спагнання ў адпаведнасці з дэкрэтам берасцейскага скарбовага суда[61].

Судзіліся сапежанцы і паміж сабой. Так, Юзаф Багуслаў Слушка і яго жонка Тэрэза 30 снежня выйгралі завочна справу з менскім кашталянічам Станіславам Русецкім і Станіславам Тышкоўскім, берасцейскімі

[59] Niezabitowski S. Dzienniki, 1695–1700 / wyd. A. Sajkowski. Poznań, 1998. S. 260; AGAD. APP. Sygn. 133. S. 544–545, 554; Ibidem. AR. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 21; APT. Kat. II. Dz. XIII. Sygn. 35. S. 574; НГАБ. Ф. 1710. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 771.

[60] Львівська національна наукова бібліотека України ім. В. Стефаника. Відділ рукописів. Ф. 103. Воп. 1. Спр. 6551, б/н (дэкрэт Скарбовага Трыбунала ВКЛ, 26 студзеня 1700 г.).

[61] Пра гэты дэкрэт гл.: НГАБ. Ф. 1705. Воп. 1. Спр. 117. Арк. 149–152, 188–189.

адміністратарамі чопавага і шэлежнага за 1699 г., якія ў час збору падаткаў нанеслі шкоду іх уладанням Воўчын і Тэрэспаль (самі адміністратары гэта адмаўлялі)[62].

[62] Пра гэты дэкрэт гл.: Ibidem. Арк. 304. Акрамя таго, захавалася яшчэ некалькі рашэнняў гэтага Трыбунала. 29 студзеня была пастаўлена кропка ў спрэчцы паміж полацкімі езуітамі з аднаго боку ды зборшчыкамі гіберны і скарбовымі суддзямі Полацкага ваяводства з другога. У 1698 г. з езуіцкіх уладанняў рашэннем скарбовага суда была спагнана гіберна са штрафнымі санкцыямі ў памеры 5 тыс. злотых. Езуіты настойвалі, што іх уладанні – земскай фундацыі, а не каралеўскай, і плаціць гіберну яны не павінны. Пасля адваявання Полацка ў ходзе Інфлянцкай вайны езуітам былі перададзены ўладанні праваслаўнай царквы, нададзеныя яшчэ полацкімі князямі. Пытанне было ў тым, ці разглядаць іх нароўні з каралеўшчынамі. Сойм 1699 г. для яго вырашэння прызначыў камісію, якая вынесла свой вердыкт 16 снежня 1700 г. Відаць, ён быў на карысць езуітаў, і тыя звярнуліся ў Скарбовы Трыбунал з патрабаваннем адмены рашэння скарбовага суда і вяртання грошай. Адказчыкі ж настойвалі, што яны кіраваліся ранейшай практыкай, калі гіберна з гэтых уладанняў збіралася, бо яны разглядаліся як фундаваныя Стэфанам Баторыем, а рашэнне на карысць езуітаў было прынята пазней, таму грошы вяртаць яны не павінны. Пасля спрэчак бакоў Андрэй Пяжарскі, які замяняў інстыгатара, заявіў, што ў дадзеным выпадку неабходна прымаць пад увагу як грамадскія інтарэсы, так і правы езуітаў, таму зборшчыкі вяртаць грошы не абавязаныя, але на будучыню гэтыя ўладанні ад выплаты гіберны павінны быць вольныя. Трыбунал пагадзіўся з такой прапановай: НГАБ. КМФ-18. Воп. 1. Спр. 151. Арк. 42–47 (дэкрэт Скарбовага Трыбунала, 29 снежня 1700 г.); гл. таксама: Volumin legum. T. VI. S. 42–43.
1 лютага разглядалася справа Міхала Ханцэвіча, прадстаўніка пешага рэгімента Юзафа Багуслава Слушкі, з Аляксандрам Пшыборам, падстарастам і камісарам Мазырскага павета. Апошні не выплаціў Ханцэвічу ўзнагароджанне за паездку ў Мазыр па заробак рэгіменту. За Пшыбору заступіўся мазырскі маршалак Фларыян Лявон Катоўскі, дэпутат гэтага Трыбунала, які заявіў, што падстараста па дарозе ў Вільню цяжка захварэў, і прасіў адкласці разгляд справы на другую кадэнцыю, што і было зроблена: НГАБ. Ф. 1728. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 46–47 (рэмісійны дэкрэт Скарбовага Трыбунала ВКЛ, 1 лютага 1700 г.).
Нарэшце, захавалася дэкларацыя гэтага Трыбунала шляхце Мельніцкай зямлі ў справе пакрыцця страт, нанесеных пераходамі войска ВКЛ: AGAD. APP. Sygn. 55. S. I. K. 375 (дэкларацыя Скарбовага Трыбунала ВКЛ мельніцкаму стольніку і кароннаму віцэ-інстыгатару Яну Уладзіславу Кунату-Выразэмбскаму, 30 студзеня 1700 г.).

Закрыццё першай кадэнцыі адбылося позна вечарам 5 лютага. Спачатку быў зачытаны генеральны дэкрэт гэтай кадэнцыі. Падпісаны ўсімі дэпутатамі, верагодна, ён быў толькі назаўтра (сярод тых, хто спачатку не хацеў падпісваць – палявы гетман Слушка, у якога былі нейкія прэтэнзіі да Сапегаў). Дыскусію выклікаў тэрмін пачатку другой кадэнцыі. Біскуп Бжастоўскі заявіў, што ён не супраць адкласці яе на чэрвень ці верасень, як гэтага хочуць некаторыя дэпутаты ("бо я не быў тут дзесяць гадоў, напэўна, і больш не буду, бо мне і цяпер шкада, што я прыехаў"). Слушка, палявы гетман, настаяў на тым, каб звярнуцца ад імя Трыбунала да караля, заблакаваўшы, пакуль не будуць гатовыя ліст і інструкцыя паслам, працяг выступленняў. Пасламі да Аўгуста II на яго жаданне былі прызначаны двое дэпутатаў: ковенскі Сымон Забела і інфлянцкі Ян Людвік Плятар. Ад манарха патрабавалі, каб ён вярнуўся ў Рэч Паспалітую, пачаў выплату абяцаных у час бескаралеўя мільёнаў войску ВКЛ і вывеў з Княства саксонскія войскі. Што тычыцца другой кадэнцыі, то Слушка пагаджаўся на любы тэрмін, які будзе прызначаны, заявіўшы, праўда, што яго на ёй не будзе. Падпісаўшы падрыхтаваныя ліст і інструкцыю, палявы гетман развітаўся і пакінуў паседжанне, сказаўшы, што выязджае (хоць на самай справе застаўся ў Вільні яшчэ на грамнічны соймік). Тым часам большасць дэпутатаў выказалася за прызначэнне другой кадэнцыі на 10 траўня[63].

Генеральны дэкрэт першай кадэнцыі быў датаваны заднім днём 1 лютага. У хуткім часе яго надрукавалі ў віленскай друкарні францысканцаў. Дэпутаты падводзілі ў ім прамежкавыя вынікі сваёй дзейнасці. Па-першае, было канстатавана, што пытанне нядоімак за 1667–1670 г. было закрыта соймавай канстытуцыяй 1670 г. (не зусім зразумела, што гэта за пастанова. – *Д. В.*) ды ранейшымі Скарбовымі Трыбуналамі і камісіямі, таму і цяпер іх разглядаць не сталі. Спагнанне нядоімак па падатках, ухваленых у 1670–1690 г., рашэннямі Скарбовага Трыбунала 1691 г. і камісіі 1692 г. было даручана скарбовым дваранам. З іх на дадзены Трыбунал з'явіліся не

[63] AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 13874/II. S. 18–20 (У. Я. Сапега да К. С. Радзівіла, Вільня, 6 лютага 1700 г.).

ўсе. Тыя, што не з'явіліся, ці іх спадкаемцы былі асуджаны завочна. Іншыя ж засведчылі, што не змаглі выбраць запазычанасць з-за супраціўлення даўжнікоў. Было вырашана, што спагнаннем гэтых даўгоў скарбовыя дваране будуць займацца разам з прадстаўнікамі ("дэпутатамі") харугваў і гродскімі ўраднікамі. Яны мусілі выбраць грошы або перадаць уладанні даўжнікоў "дэпутатам". За тыдзень да другой кадэнцыі дваране мусілі скласці справаздачу са сваёй місіі ў скарбе. Калі б спагнанне сарвалася па віне кагосьці з адказных асоб, то на другой кадэнцыі судзілі б ужо іх.

Што тычыцца падаткаў, якія збіраліся паводле новай сістэмы пасля 1697 г., у тым ліку для выплаты чатырох чвэрцяў доўгу ў адпаведнасці з Пузавіцкім пагадненнем 1698 г. і трох чвэрцяў заробку за 1699 г., то тут правасуддзе напаткалі значныя праблемы. Частка павятовых камісараў, адказных за выплату заробку харугвам, на Трыбунал не з'явілася. Другая частка спачатку забрала свае справы для падвядзення рахункаў у скарбе. З гэтых падлікаў найперш выявіўся разнабой паміж падатковым тарыфам ВКЛ, складзеным Коцелам пасля сойма 1697 г. і пазней апублікаваным, ды яго копіямі, накіраванымі ім жа ў некаторыя паветы. У выніку па гэтых паветах атрымаўся недабор. Недабор таксама ўзнік у выніку адлічэнняў на ўзнагароджанне розным асобам, адказным за збор падаткаў. Акрамя таго, Коцел пасля заключэння Пузавіцкага пагаднення выдаваў асігнацыі некаторым харугвам, якія не ўваходзілі ў рэестр і не ўдзельнічалі ў вайне з Турцыяй, а некаторым рэестровым або не даў нічога, або выдаў на большую суму, чым належала. З некаторых паветаў ён патрабаваў зашмат. Таксама Коцел не выдаў асігнацый на вяртанне грошай вялікаму гетману, выдадзеных ім са сваёй кішэні на заробак войску ў час роспуску канфедэрацыі 1696 г. Тое самае датычыла 50 тыс. злотых, заплачаных ім жа віленскаму біскупу і духавенству за шкоды, якія войскі нанеслі іх уладанням. Да таго ж абодва гетманы не атрымалі заробку за два гады. Іншы лідар рэспубліканцаў, Грыгорый Антоній Агінскі, быў абвінавачаны ў самавольнай выдачы асігнацый харугвам, якія не значыліся ў рэестры і былі ім завербаваныя ў час узброенага супрацьстаяння апошніх гадоў.

Другая кадэнцыя прызначалася на 10 траўня. На яе выклікаліся камісары ці іншыя адказныя асобы, якія не змаглі прыбыць па важнай прычыне на першую або не скончылі на ёй падлікі ў скарбе. Хто іх скончыў, павінен быў выбраць нядоімкі, калі яны былі, і выплаціць войску, а на другой кадэнцыі скласці справаздачу. Таксама на другую адкладаліся пытанні, звязаныя з несупадзеннямі ў тарыфе. Выклікаліся на яе і Коцел з Агінскім, якіх пакуль не сталі судзіць завочна. У сувязі з нявыплатай заробку роспуск рэшты войска ВКЛ адкладаўся. У перыяд паміж кадэнцыямі забаранялася дзейнасць скарбовых судоў[64].

У навінах адзначалася, што, нягледзячы на вялікія прэтэнзіі да Коцела, у дэкрэце да яго паставіліся стрымана, каб пакінуць магчымасць дамовіцца[65]. Але шансы прымусіць ці пераканаць яго з'явіцца перад судом былі невялікія, і самі суддзі мусілі гэта разумець. Да таго ж адсутнасць паловы паветаў ставіла пад пытанне выкананне рашэнняў гэтага Трыбунала на іх тэрыторыі, а спробы прымусовага спагнання пагражалі новым вітком супрацьстаяння. Верагодна, такія спробы ў перапынку паміж кадэнцыямі мелі месца ў паветах, якія прызнавалі гэты Трыбунал і паспелі на ім разлічыцца[66]. Таксама захавалася некалькі выклікаў на яго другую кадэнцыю[67].

[64] Dekret generalny Trybvnału Skarbowego Wielkiego Xięstwa Litewskiego cadency pierwszey, w Wilnie dnia pierwszego miesiąca Februarij Anno Domini 1700 ferowany. Vilnae, [1700]. Дэкрэт падпісалі тыя самыя дэпутаты, што і ардынацыю.

[65] Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 420–421.

[66] Так, 15 лютага мсціслаўскі ваявода і вількамірскі гродскі староста Міхал Даўмонт-Сесіцкі пісаў да вількамірскага павятовага ротмістра Юрыя Касцялкоўскага, каб той даў суправаджэнне зборшчыкам, калі тыя ў адпаведнасці з дэкрэтамі Скарбовага Трыбунала будуць выязджаць да даўжнікоў для спагнання запазычанасці: VUB RS. F. 7. Sign. 32/13909. L. 105.

[67] Гэта былі позвы ў згаданых вышэй справах. Адказчыкі сцвярджалі, што дэкрэты па іх былі вынесены без належнага выкліку ў суд: НГАБ. Ф. 1705. Воп. 1. Спр. 117. Арк. 323–324 (позва С. Русецкага да Ю. Б. Слушкі, 5 красавіка 1700 г.); Ibidem. Арк. 285 (позва Ж. Б. Хшаноўскага, Ф. Хшаноўскага і К. Касцюшкі-Сяхновіцкага да М. Пац, 30 сакавіка 1700 г.); Ibidem. Арк. 325–326 (сустрэчная позва М. Пац да Хшаноўскіх і Касцюшкі, 7 красавіка 1700 г.).

Сумнеўна, што генеральны дэкрэт паспеў разысціся па паветах да грамнічных соймікаў, якія прыпадалі на 8 лютага, – пра яго прыняцце маглі даведацца хіба што ў бліжэйшых. Таму эфект ад яго быў невялікі. Але і вынікі агітацыі рэспубліканцаў былі не настолькі значнымі, як бы ім таго хацелася, хоць можна заўважыць радыкалізацыю пратэстаў. Супраць Скарбовага Трыбунала выступілі прынамсі пяць соймікаў: наваградскі, пінскі, віцебскі, аршанскі, мсціслаўскі.

На грамнічным сойміку ў Наваградку, паседжаннямі якога кіраваў мсціслаўскі войскі Станіслаў Міхал Маляўскі, адміністратар Нясвіжскага княства, спачатку склалі справаздачу паслы на сойм (рэляцыйны соймік тут быў сарваны). Яны заявілі, што на сойме не было згоды на скліканне Скарбовага Трыбунала і самі яны на гэта не пагаджаліся. Назаўтра, 9 лютага, тут прайшоў фіскальны соймік, паседжаннямі якога кіраваў той самы дырэктар. На ім была прынята пастанова, асноўнае месца ў якой адводзілася Скарбоваму Трыбуналу. Наваградская шляхта заявіла, што яго не прызнае, і забараніла выкананне яго рашэнняў на тэрыторыі павета[68].

Пінскі грамнічны соймік, які прайшоў пад дырэкцыяй канцлера Караля Станіслава Радзівіла, прыняў пастанову, якая прызнавала Скарбовы Трыбунал і ўсе яго выракі нелегітымнымі; выкананне іх на тэрыторыі павета таксама забаранялася[69]. Як бачым, пазіцыя Радзівіла істотна змянілася – канцлер вырашыў ужо падыграць рэспубліканцам.

Найбольш радыкальную пазіцыю занялі тры ўсходнія соймікі: віцебскі, аршанскі і мсціслаўскі. Віцебскі грамнічны соймік, які прайшоў 8–9 лютага пад дырэкцыяй

[68] AGAD. AR. Dz. II. Sygn. 1882. S. 1–7 (пастанова наваградскага грамнічнага і фіскальнага соймікаў, 9 лютага 1700 г.). Гэта пры тым, што адзін з паслоў, Станіслаў Корсак, раней, пасля сойма, пісаў, што Скарбовы Трыбунал “вельмі патрэбны”: AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 7303. S. 2 (ліст С. Корсака да К. С. Радзівіла, Ваўковічы, 27 кастрычніка 1700 г.). Ёсць падставы падазраваць уплыў на такую змену пазіцыі К. С. Радзівіла.

[69] НГАБ. Ф. 1733. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 288–289адв. (пастанова шляхты Пінскага павета, 8 лютага 1700 г.); AGAD. AR. Dz. VI. Sygn. II-51. S. 165–166 (тое самае); Віцько Д. Пінскі соймік у канцы XVII – пачатку XVIII ст.: функцыянаванне і палітычнае жыццё // Беларускі гістарычны часопіс. 2011. № 2. С. 26.

павятовага падкаморыя Адама Кісяля, накіраваў да караля паслоў: чарнігаўскага стольніка Войцеха Сабалеўскага і віцебскага харужыча Міхала Храпавіцкага. У дадзенай ім інструкцыі шляхта даводзіла, што канстытуцыя аб Скарбовым Трыбунале не была зацверджана і друкаваць яе было нельга, і што дэпутаты, прызначаныя на сойме для яе складання, перавысілі паўнамоцтвы, аддаўшы яе ў друк. Караля прасілі перашкодзіць падобным інцыдэнтам. Да таго ж шляхта сцвярджала, што дзейнасць гэтага Трыбунала парушае каэквацыю і юрысдыкцыю павятовых скарбовых судоў, што абраныя дэпутаты не маюць права судзіць, бо самі асуджаныя на баніцыю ды інфамію, і што справы на ім выносіліся на разгляд без уручэння позваў. Абурэнне ўдзельнікаў сойміка выклікалі таксама арышт Кіяноўскага і ўзяцце пад варту Кміціча. У сувязі з гэтым віцебская шляхта прасіла караля скласці конны сойм ды выдаць позвы на соймавы суд дэпутатам, якія пісалі канстытуцыю аб Скарбовым Трыбунале. Звычайны сойм, па яе словах, ужо не было сэнсу склікаць, бо “калі нашы паслы на нешта і не дадуць згоды, то што магнатам уздумаецца, тое і будзе надрукавана як права”. Калі не склікаць коннага сойма, то прапаноўвалася дазволіць ёй бараніцца самой, “паколькі натуральная абарона дазволена Богам нават неразумнай жывёліне”[70].

Соймік у Оршы прайшоў пад кіраўніцтвам мясцовага старасты Юрыя Гераніма Крышпіна-Кіршэнштэйна. Аршанская шляхта, таксама як і віцебская, адправіла паслоў да караля (старадубскага стольніка Дамініка Крукоўскага і чавускага войта Яна Мольскага). Нават дадзеная ім інструкцыя блізка нагадвае сваім зместам віцебскую: таксама дзейнасць Скарбовага Трыбунала разглядаецца як парушэнне каэквацыі і іншых правоў, а да караля звернута просьба склікаць конны сойм ды выдаць на яго позвы дэпутатам, якія пісалі канстытуцыю. Акрамя таго, у манарха прасілі папярэдзіць вялікага гетмана, каб да сойма не спрабаваў прыводзіць у выкананне выракі Скарбовага

[70] AGAD. APP. Sygn. 133. S. 544–550 (інструкцыя шляхты Віцебскага павета паслам да Аўгуста II, 8 лютага 1700 г.).

Трыбунала з дапамогай жаўнераў ці сваіх слуг. Нарэшце ўдзельнікі сойміка гэтаксама заступаліся за Кіяноўскага і Кміціча. Аднак з улікам таго, што двое прадстаўнікоў павета, аршанскія гродскі суддзя і войскі Мікалай Станіслаў Галінскі з падсудкам Альбрэхтам Рабеем, удзельнічалі ў працы Скарбовага Трыбунала (Галінскі – у якасці дэпутата), відаць, аднадушнасці сярод аршанскай шляхты не было. Вядома, што яны "пазаносілі маніфесты супраць пастановы грамнічнага сойміка", аднак не вядомыя ні сама пастанова, ні гэтыя пратэстацыі, хоць можна меркаваць, што яны таксама былі прысвечаны дадзенай тэме[71].

Грамнічны соймік у Мсціславе прайшоў 8 лютага пад кіраўніцтвам троцкага харужага Казіміра Пацея. Тут таксама вырашылі адправіць да Аўгуста II паслоў: мсціслаўскага гродскага суддзю Базыля Сухадольскага і хаславіцкага старасту Крыштафа Цеханавецкага (быў, відаць, яшчэ старосцічам. – *Д. В.*). У дадзенай ім інструкцыі мсціслаўская шляхта, падобна да шляхты Віцебскага і Аршанскага паветаў, сцвярджала, што Скарбовы Трыбунал нелегітымны, скардзілася на Сапегаў ды прасіла караля склікаць супраць іх паспалітае рушанне. Было таксама прапанавана выдаць позвы на соймавы суд быломy маршалку Шчуку і дэпутатам, якія рыхтавалі канстытуцыю аб Скарбовым Трыбунале[72].

Падобныя настроі праяўляліся і ў іншых паветах, але невядома, ці праціўнікі гэтага Трыбунала здабылі дзесьці яшчэ перамогу.

Пасля грамнічных соймікаў стала відавочна, што на месца маршалка Галоўнага Трыбунала прэтэндуе канцлер Радзівіл. Каб забяспечыць сабе падтрымку, ён разглядаў варыянт склікання паспалітага рушання на

[71] Ibidem. S. 552–557 (інструкцыя шляхты Аршанскага павета паслам да Аўгуста II, б. д.); Lietuvos valstybės istorijos archyvas (LVIA). Senieji aktai (SA). B. 387. L. 1753v.

[72] AGAD. APP. Sygn. 133. S. 532–542 (інструкцыя шляхты Мсціслаўскага ваяводства паслам да Аўгуста II, 8 лютага 1700 г.); Lulewicz H., Rachuba A., Sikorska-Kulesza J. (et al.). Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa (XIV–XXI w.). Warszawa, 2013. S. 158.

пачатак гэтага Трыбунала, разлічваючы, магчыма, і на падтрымку рэспубліканцаў. У другой палове сакавіка – першай палове красавіка Радзівіл і вялікі гетман Сапега вялі перамовы наконт таго, каму дастанецца кантроль над Галоўным Трыбуналам. Умяшаўся ў справу і кароль, які ў пачатку красавіка накіраваў лісты да гетмана Сапегі, віцебскага кашталяна Коцела, жамойцкага старасты Агінскага і канцлера Радзівіла з заклікам лімітаваць Скарбовы Трыбунал, які неўзабаве мусіў сабрацца, не прыводзіць у выкананне яго дэкрэты першай кадэнцыі і адмовіцца ад склікання паспалітага рушання на пачатак Галоўнага Трыбунала[73]. Паводле Крыштафа Немировіча-Шчыта, гэты ліст пісаў віленскі канонік і каралеўскі сакратар Крыштаф Белазор[74], фактычны прадстаўнік рэспубліканцаў пры двары, г. зн. ён з'явіўся пад уплывам іх захадаў. Сапегі пайшлі на саступкі. У сярэдзіне красавіка было дамоўлена, што маршалкам Галоўнага Трыбунала стане Караль Станіслаў Радзівіл, а Скарбовы Трыбунал будзе лімітаваны да восені[75]. Пагадненне было дасягнута за спінаю рэспубліканцаў, і хоць з пачаткам дзейнасці Галоўнага Трыбунала ягонае існаванне стала відавочным, але падрабязнасці наконт Скарбовага, відаць, засталіся невядомымі.

У дзень адкрыцця Галоўнага Трыбунала 26 красавіка рэспубліканцы пад кіраўніцтвам Міхала Казіміра Коцела сабралі ў Вільні з'езд шляхты розных паветаў і прынялі на ім маніфест, скіраваны супраць Сапегаў і палявога гетмана Слушкі. Галоўнай падзеяй у гэты час быў напад аховы Сапегаў на князёў Вішнявецкіх, які адбыўся напярэдадні і які ўдала выкарысталі ў сваёй прапагандзе рэспубліканцы. Але адной з галоўных прычын, якія выклікалі іх незадаволенасць, называлася і дзейнасць

[73] BCz. Rkps. 194. Nr 10. K. 61–62 (Аўгуст II да К. С. Радзівіла, Варшава, 6 красавіка 1700 г.); AGAD. APP. Sygn. 163a. T. 31. S. 42–43 (А. Уласкевіч да С. А. Шчукі, Варшава, 5 красавіка 1700 г.).

[74] AGAD. APP. Sygn. 163a. T. 29. S. 254 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 8 чэрвеня 1700 г.).

[75] Ibidem. S. 292–293 (ліст Я. Шрэтэра, Вільня, 18 красавіка 1700 г.).

Скарбовага Трыбунала. Прыгадалі Сапегам і затрыманне Кіяноўскага[76].

Пасля гэтага ў канцы красавіка – пачатку траўня былі яшчэ спробы вырашыць супярэчнасці праз перамовы[77]. Рэспубліканцы хацелі адкласці Скарбовы Трыбунал да наступнага сойма, каб той вырашыў, ці законна ён быў скліканы, Сапегі ж пагаджаліся толькі на лімітацыю. Паводле Коцела, з-за гэтых рознагалоссяў пагадненне дасягнуць не атрымалася[78].

10 траўня пачалася другая кадэнцыя Скарбовага Трыбунала, але ўжо 17 траўня ён быў лімітаваны да 20 лістапада гэтага ж года. У акце лімітацыі тлумачылася, што гэта робіцца ў сувязі з неабходнасцю ад'езду сенатараў, асабліва двух гетманаў, на раду ў Варшаве, дзе будзе абмяркоўвацца "знешняя небяспека" (насамрэч – удзел у вайне са Швецыяй). На самай справе ўсё гэта было вынікам усё тых жа дамоўленасцяў з Радзівіламі і дваром. Тут жа можна меркаваць, што было яшчэ паабяцана Сапегам за саступкі. Адмова ад роспуску рэшты войска абгрунтоўваецца ўжо не толькі даўгамі па заробку, але і неабходнасцю затрымаць гэтае войска на службе па просьбе караля з-за той самай "знешняй пагрозы" (г. зн. для ўдзелу ў баявых дзеяннях у Інфлянтах). Паколькі ў некаторых паветах паміж дзвюма кадэнцыямі Скарбовага Трыбунала працавалі скарбовыя суды, то рашэнні іх скасоўваліся. Быў асуджаны ўчынак інстыгатара ВКЛ Станіслава Яна Рукевіча, які ўхіліўся ад выканання абавязкаў на мінулай кадэнцыі. Акрамя гэтага, было прызнана, што

[76] Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763. Warszawa, 2002. S. 323; VUB RS. F. 7. Sign. 15, 20-5974. L. 252–256 (маніфест рэспубліканскага з'езда шляхты, 26 красавіка 1700 г.).

[77] Niezabitowski S. Dzienniki… S. 272; AGAD. APP. Sygn. 163a. T. 29. S. 358–360 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 9 траўня 1700 г.). У Незабітоўскага згадваецца спроба перамоваў 30 красавіка ў кляштары францішканцаў – відаць, Сапегі прысылалі да рэспубліканцаў сваіх прадстаўнікоў.

[78] AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 6970. S. 1–2 (М. К. Коцел да Ю. Б. Слушкі, Ганута, 5 чэрвеня 1700 г.); Ibidem. APP. Sygn. 163a. T. 29. S. 358–360 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 9 траўня 1700 г.). Са слоў Неміровіча-Шчыта можна зразумець, што Сапегі пагаджаліся лімітаваць яго да сойма.

ён не меў права спалучаць дадзены ўрад з абавязкамі павятовага камісара, зборшчыка падаткаў, скарбовага суддзі і дырэктара скарбовага суда (Гарадзенскага павета. – *Д. В.*). У сувязі з гэтым Скарбовы Трыбунал звярнуўся да караля з просьбай пазбавіць яго пасады за злоўжыванні і прызначыць у ВКЛ новага інстыгатара[79].

Скарбовы Трыбунал быў лімітаваны, але не адменены. Яшчэ ў пачатку чэрвеня супраць яго ў Галоўным Трыбунале дэпутаты-рэспубліканцы ініцыявалі пратэстацыю, але, мабыць, не сабралі для яе дастатковa галасоў[80].

19 жніўня, ужо на фоне збораў паспалітага рушання, у Вільні былі ўзноўлены перамовы паміж рэспубліканцамі на чале з Коцелам і сапежанцамі на чале з вялікім гетманам, якія праходзілі пад старшынствам канцлера Радзівіла[81]. Іх вынікам стала пагадненне, падпісанае 21 жніўня 1700 г. У адпаведнасці з ім Скарбовы Трыбунал было вырашана адкласці аж "да паспяховага заканчэння будучага сойма". Але галоўным патрабаваннем рэспубліканцаў быў на гэты раз ужо поўны роспуск войска, і Казімір Ян Сапега пайшоў у гэтым пытанні на саступкі[82]. Аднак яго брат Бенядыкт Павел, які адсутнічаў на перамовах, вярнуўшыся з Варшавы, "гэтую дамову зганіў і разладзіў"[83].

Пасля паражэння Сапегаў у бітве пад Алькенікамі на з'ездзе шляхты ў лагеры паспалітага рушання 24 лістапада 1700 г. была прынята т. зв. Алькеніцкая пастанова,

79 LVIA. SA. B. 4715. L. 1341–1344 (акт лімітацыі другой кадэнцыі Скарбовага Трыбунала, Вільня, 15 траўня 1700 г.); НГАБ. Ф. 1710. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 810–813 (тое самае, копія); VUB RS. F. 7. Sign. 32/13909. L. 109 (тое самае, канцоўка). Акт датаваны 15 траўня заднім днём, сама лімітацыя адбылася 17 траўня: Niezabitowski S. Dzienniki… S. 275; AGAD. AR. Dz. V. Sygn. 13847/II. S. 217 (К. Я. Сапега да Я. Е. Пшэбяндоўскага, Вільня, 16 траўня 1700 г.).

80 AGAD. APP. Sygn. 163a. T. 29. S. 251–254 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 8 чэрвеня 1700 г.).

81 Ibidem. AR. Dz. VI. Sygn. II-79. K. 38v.

82 LVIA. SA. B. 47. L. 1013–1014v (пагадненне паміж Сапегамі і рэспубліканцамі, Вільня, 21 жніўня 1700 г.; актыкаванае ў вячыстых кнігах Галоўнага Трыбунала ВКЛ 25 жніўня 1700 г.).

83 LMAVB RS. F. 17. B. 177. L. 248v.

адным з палажэнняў якой была адмена Скарбовага Трыбунала і скасаванне ўсіх яго рашэнняў[84].

Сітуацыя, якая склалася вакол Скарбовага Трыбунала, выступала як адзін з фактараў дэстабілізацыі палітычнай сітуацыі ў ВКЛ. Сапегі выкарысталі яго скліканне, каб перахапіць палітычную ініцыятыву, а рэспубліканцы аказаліся непадрыхтаванымі да такога развіцця падзеяў. Калі іх лідары зарыентаваліся, было ўжо позна – яны не паспелі арганізаваць пратэсты і не змаглі сарваць выбары дэпутатаў. Сапегі здолелі заручыцца падтрымкай шляхты паловы паветаў ВКЛ і большасці прызначаных сенатараў і ўраднікаў. Пасля адчувальных паражэнняў 1697–1698 г. гэта было нямала, хоць і было дасягнута за кошт супрацоўніцтва з дваром і Радзівіламі. З іншага боку, такая сітуацыя ставіла пад пытанне паспяховасць выканання рашэнняў гэтага Трыбунала. Коцел з Агінскім спрабавалі дамовіцца і вывесці сябе з-пад удару, аднак Сапегі ставілі за мэту зладзіць над імі паказальны суд і на саступкі не пайшлі. Падставаў для судовага пераследу шляхецкіх правадыроў было дастаткова, паколькі абодва дапусцілі шмат злоўжыванняў у час узброенага супрацьстаяння апошніх гадоў. Тады лідары рэспубліканцаў зноў звярнуліся да шляхты. Іх прыхільнікі таксама не былі зацікаўлены ў рэалізацыі рашэнняў гэтага Трыбунала, бо неслі адказнасць за збор і выплату падаткаў на войска за апошнія два гады. Гэта прывяло на грамнічных сойміках да больш радыкальных пратэстаў, хоць пакуль яшчэ і недастаткова шырокіх. Падагрэла настроі і сутыкненне ў час адкрыцця Галоўнага Трыбунала, пасля чаго рэспубліканцы пачалі падрыхтоўку да ўзброенага выступлення.

Не выклікае сумнення, што наступствам канфлікту вакол Скарбовага Трыбунала было аднаўленне і нарастанне варажнечы паміж палітычнымі групоўкамі ВКЛ. Відавочна, гэта была адна з асноўных прычын, якія прывялі да крывавай развязкі гэтага супрацьстаяння ў бітве пад Алькенікамі.

[84] Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės 1700 m. Iždo tribunolas Vilniuje… P. 422; Postanowienie generalne stanów W. X. Lit., wieczne i nigdy nienaruszone, na zieździe walnym woiewództw y powiatów, pospolitym ruszeniem pod Olkinikami uchwalone. Wilno, 1700. K. H–H1.

# Lithuanian Treasury Tribunal of 1700

**Dzmitry Vićko**

The article treats one of the episodes in the struggle between the republicans and the Sapiehas in the Grand Duchy of Lithuania which escalated into civil war in the late 17th century.

The attempted settlement of the conflict at the end of 1698 provided for the disbandment of the most of the GDL armed forces, the Sapiehas' support, and partial salary payment to them. In order to provide the pay of this money the Diet of 1699 made a ruling to convene the Lithuanian Treasury Tribunal. Its convocation was used by the Sapiehas to retrieve their influence in the GDL while the republicans tried to dispute the legitimacy of this Tribunal. They insisted on the fact that the Diet hadn't rendered a decision on its convocation, that there was nothing but the discussion of the project.

Finally, the Sapiehas managed to provide themselves with the support of the majority of the senators and the officials appointed into the Traesury Tribunal stuff as well as with the minimal majority (by one person) of the deputies elected from the districts. Nevertheless, the situation was unstable. The republicans addressed to the king Augustus II and as the result of trilateral agreement (the Sapiehas, the Radziwiłłs, the King) the second cadence of this Tribunal was postponed. As the first cadence revealed the serious financial abuse committed by republican leaders, they were interested in this Tribunal not to finish its work. The Treasury Tribunal activity led to the increase of tension in the GDL and became one of the reasons of the resumption of fighting between the groups which ended in failure of the Sapiehas in the battle of Alkieniki (Valkininkai) 18 November 1700.

# Дыверсійны рэйд Міхала Клеафаса Агінскага на Міншчыну ў 1794 годзе

**Яўген Анішчанка**

У 1793 г. пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай значная тэрыторыя Беларусі апынулася ў складзе Расійскай імперыі. Частка знаці і шляхты ўсвядоміла рэальнасць пагрозы знішчэння незалежнасці вольнай "шляхецкай рэспублікі" і яе канчатковага рассячэння паміж суседнімі агрэсіўнымі дзяржавамі. Вызваліцеляў краіны ў Польшчы і Літве ўзначаліў знакаміты генерал Тадэвуш Касцюшка.

Да іх вырашыў далучыцца і князь Міхал Клеафас Агінскі, які быў падскарбіем ВКЛ, удзельнічаў у Гарадзенскім сойме 1793 г., дзе падпісваў зневажальную дамову з Расіяй пра чарговы, другі, падзел краіны. Радыкальная частка змоўшчыкаў намервалася рашуча расправіцца з падобнымі здраднікамі Радзімы, якія супрацоўнічалі з Расіяй. Над М. К. Агінскім навісла пагроза пакарання смерцю разам з іншымі таргавічанамі ў Ваенна-Крымінальным судзе паўстання[1]. Каб пазбегнуць верагодных канфіскацый, яму неабходна было прадбачліва прадаць свае маёнткі. На гэта паказваюць такія факты.

Яшчэ 26 сакавіка 1791 г. Міхал Клеафас Агінскі як мечнік ВКЛ купіў у генерал-маёра расійскай службы Яна Салагуба за 1 млн. 400 тыс. злотых графства Ілія з 507 дварамі і ў іх 3123 душамі сялян абодвух полаў у 35 вёсках і засценках.

[1] Kądziela L. Fryderyk Moszyński w insurekcji Kościuszkowskiej. Warszawa, 2004. S. 270.

Графства мела 309 426 злотых доўгу[2]. Усіх жа абавязкаў на 11 маёнтках мечніка М. Агінскага лічылася 8 млн. злотых, з якіх па працэнтах узята больш як 3 млн. злотых, і да смерці трэба было выплаціць 40 тыс.[3]. І вось 21 сакавіка 1794 г. пад час навагрудскіх кантрактавых з'ездаў М. Агінскі прадаў у графстве Ілля Мінскага ваяводства фальваркі Абодаўцы, Забор'е, Сцёпкі з 27 вёскамі за 29 444 злотых Людвіцы Багдановіч і Людвіку Вышынскаму[4]. 19 сакавіка 1794 г. ён асабіста прадаў мсціслаўскаму старасту Яну Лапацінскаму за 2100 тыс. злотых[5] маёнтак Дрысвяты ў Браслаўскім павеце разам з мястэчкамі Дрысвяты, Новы Двор, Кавалеўшчына і Скірна. 22 красавіка 1794 г. Агінскі прадаў полацкаму стольніку Іосіфу Сяляву за 165 тыс. злотых 117 валок у графстве Ракаў, за 4 тыс. злотых – 4 валокі Адаму Хмару, тамсама 20 красавіка 1794 г. за 70 тыс. злотых – фальварак Наваполле з вёскамі Пелікша, Рудзеўцы, Жукі, Казакі, Зухі мінскаму гродскаму пісару Станіславу Лышкевічу, 19 красавіка 1794 г. за 35 тыс. злотых яшчэ тры вёскі мінскаму лоўчаму Тадэвушу Высагерду[6] і яшчэ з таго ж Ракаўскага графства 18 сакавіка 1794 г. за 100 тыс. злотых 4 вёскі з 45 валокамі ксяндзу Францішку Паўлікоўскаму Рыльскаму[7]. Да 22 красавіка 1794 г. Міхал Агінскі прадаў з маёнтка Ізабелін 15 вёсак з 179 валокамі за 100 тыс. злотых віленскаму краўчаму Вінцэнту Гецэвічу, за 77 тыс. злотых – тры вёскі віцебскаму

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей НГАБ). Ф. 1769. Воп. 1. Спр. 23. Арк. 343, 382; Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў (далей РДВГА). Ф. 1350. Воп. 312. Спр. 89. Арк. 369–379. Пазней гэтае графства дастанецца душыцелю паўстання Мікалаю Салтыкову.

[3] Гэта Обаль, Стараселле, Варшава Руская, Мікулічы на ўсходзе Беларусі, Навасёлкі ў Мінскім ваяводстве, Індуры ў Гродзенскім павеце, Іўе ў Ашмянскім, Судча, Чамерын, Махорава ў Пінскім, Цяцерын у Аршанскім паветах (НГАБ. Ф. 1755. Воп. 1. Спр. 80. Арк. 614–626).

[4] НГАБ. Ф. 1769. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 521. Спр. 33. Арк. 265. Ф. 1727. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 205–217.

[5] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей РДГА). Ф. 46. Воп. 1. Спр. 20. Арк. 3.

[6] НГАБ. Ф. 1769. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 521, 524, 416, 418. Ф. 1727. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 179–203.

[7] Тамсама. Ф. 1769. Спр. 27. Арк. 8.

стольніку Бернару Гурко і за 120 тыс. злотых некалькі вёсак харужаму гусар Фабіяну Ластоўскаму Храптовічу[8]. Усяго ён прадаў больш як тысячу двароў з 8 тыс. падданых абодвух полаў і займеў з таго 666 тыс. злотых. На момант канфіскацыі – 12 красавіка 1795 г. – за ўдзел у паўстанні ён пазбавіўся 4701 чалавека сялян-мужчын (усяго 9211 душ абодвух полаў), якія прыносілі яму прыбытак у паўмільёна злотых. Практычна ўсе гэтыя сяляне жылі ў межах Мінскай губерні і былі перададзены М. Агінскім або ў заставу, або ў арэнду. Напрыклад, мястэчка Ракаў з фальваркамі было закладзена за 200 тыс. злотых Іосіфу Тышкевічу[9].

Пра пачатак паўстання князь даведаўся за тры дні, 20 красавіка 1794 г., і паспяшаўся ў паўстанцкую сталіцу ВКЛ – Вільню[10]. І самае дзіўнае: яго не толькі не пакаралі радыкальныя прыхільнікі французскага тэрору, а наадварот, 5 траўня ўвялі ў склад Найвышэйшай Нацыянальнай рады паўстання. Матывы такога абыходжання не зусім зразумелыя. Магчыма, Агінскі змог даказаць там сваё жаданне змыць ганьбу гераізмам на полі змагання.

Прыбыўшы ў Вільню, Міхал Клеафас Агінскі 29 красавіка прысягнуў паўстанню і склаў з сябе пасаду падскарбія ВКЛ, заявіўшы, што “не прагне ў гэты момант нічога больш хвалебнага, чым тытул раўнівага абывацеля”[11]. Старажытны княскі герб князь замяніў патрыятычным дэвізам – “Свабода, вернасць і незалежнасць”. Як заўзяты патрыёт, князь асігнаваў на мэты паўстання 138 тыс. злотых[12] і адначасова даў 300 злотых на фонд дапамогі рыцараў для заахвочвання іх “мужнасці і адвагі”. 9 траўня ён паведаміў Радзе паўстання пра стварэнне за свой кошт корпуса “вольных стралкоў з асоб

8 Тамсама. Ф. 1769. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 712адв. Спр. 27. Арк. 12адв. Спр. 33. Арк. 221–242. Ф. 1727. Спр. 33. Арк. 247–256.

9 Архіў знешняй палітыкі Расійскай імперыі. Ф. 79. Воп. 6. Спр. 1548. Арк. 933адв.; НГАБ. Ф. 333. Воп. 1. Спр. 21. Арк. 124адв.

10 Sułek Z. Sprzysiężenie Jakuba Jasińskiego. Warszawa, 1982. S. 198.

11 Gazeta narodowa Wileńska. 1794. № 1. S. 2.

12 Libiszowska Z., Nowak-Romanowicz A. Michał Kleofas Ogiński // PSB. T. 23/4. Z. 99. S. 632; Шмигельските-Стукене Р. Михаил Клеофас Огинский. Политик. Дипломат. Министр. Минск, 2015. С. 144.

шляхецкага і купецкага саслоў'я" для абароны сталіцы[13]. Каб падняць іх маральны дух, ён стварыў для атрада некалькі ваенных песняў. Такі корпус, па яго ўласным запэўніванні, першапачаткова складаўся з 480 чалавек[14]. Тады ж ён прапанаваў сфармаваць тры такія атрады, кожны па некалькі сотняў чалавек, для выканання розных дыверсій на мяжы з Расіяй[15].

У канцы траўня Віленская Рада склала план такіх партызанскіх дыверсій на акупаванай Расіяй тэрыторыі, "каб учыніць адчувальныя рэпрэсіі парушальнікам правоў Бога, чалавецтва і народаў"[16]. Кіраўнік паўстання ў Літве палкоўнік інжынерыі Якуб Ясінскі 1 чэрвеня 1794 г. выдаў маніфест, у якім заклікаў патрыётаў урывацца з розных бакоў на акупаваную тэрыторыю і падымаць мясцовых насельнікаў на паўстанне[17]. Мясцовыя кіраўнікі (зямянскія генералы) павінны былі на працягу двух тыдняў сабраць "пад страхам пакарання смерцю" ў партызанскія атрады ўзброеную шляхту і "ўсіх без адрознення здаровых і моцных людзей"[18]. А потым кожны такі атрад колькасцю не меней 300 чал. урываўся б за мяжу другога падзелу і там мог бы рабаваць дзяржаўныя маёнткі, уладанні расійскіх дваран аж да поўнага знішчэння і выцяснення з краю ўсіх расійскіх акупантаў. Правадыры рэйдаў атрымлівалі таксама права караць кожнага шляхціча, які не з'явіцца на паспалітае рушанне (усеагульнае апалчэнне)[19].

На развіццё гэтага плана 2 чэрвеня Віленская Рада паслала свайго члена Іосіфа Кушалеўскага з інструкцыяй да

[13] Gazeta narodowa Wileńska. 1794. № 3. S. 2.

[14] Міхаіл Клеафас Агінскі. Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 да 1794 года // Arche. 2011. № 6 (105) С. 664; Шмигельските-Стукене Р. Михаил Клеофас Огинский. С. 146.

[15] Pamietniki Michala Ogińskiego o Polsce i polakach od roku 1788 aż do końca roku 1815. T. 1 // Pamiętniki z ośmnastego wieku. T. 11. C. 313.

[16] Mościcki H. General Jasiński i powstanie kościuszkowskie. Warszawa, 1917. S. 384. Лічыцца, что ініцыятарам ідэі быў М. Агінскі.

[17] Усе спасылкі на крыніцы ўзяты з кнігі: Анищенко Е. К. Восстание и война 1794 года в Литовской провинции (по документам российских архивов). Москва, 2000. С. 102–104.

[18] Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (далей РДАСА). Ф. 16. Воп. 1. Спр. 658. Ч. 2. Арк. 132.

[19] Powstanie kościuszkowskie 1794: dzieje militarne / pod red. T. Rawskiego. T. 1. Warszawa, 1994. C. 389.

ўсіх кіраўнікоў і пасэсараў Нясвіжскай ардынацыі малалетняга Дамініка Радзівіла з патрабаваннем сабраць казакоў, баяраў і стральцоў і даставіць іх у Вільню з належнай амуніцыяй і ўзбраеннем[20]. 7 чэрвеня ўслед рушыў універсал Рады да ўсіх татараў ВКЛ з заклікам да ўзброенай абароны Радзімы пад пагрозай пазбаўлення прывілеяў, падараванняў, чыноў і рангаў[21]. Крыху пазней, 14 чэрвеня, Віленская Рада заклікала да ўсеагульнага (паспалітага) рушання "людзей усялякага стану"[22], якое царскія вайскоўцы прадухілялі самымі жорсткімі мерамі. Праз цэрквы царскія генералы распаўсюджвалі ўказы, у якіх гаварылася, што з "мятежниками" жартаваць не збіраюцца, а "всех, кого с оружием в руках встретят" або "которые каким-то образом будут способствовать бунту или заговорам, те не только силой вооруженной будут поражаться, но с ними и их хуторами будет совершено как собственно с предателями и сущими врагами собственного их отечества".

Ініцыятары ўсеагульнага паўстання не сталі чакаць прытоку большых сіл з ускраін. Зямянскія генералы неакупаваных паветаў не выслалі ў вызначаны тэрмін партызанскія атрады, каб з іх дапамогай ускалыхнуць патрыятызм сонных ці абыякавых суайчыннікаў. М. Агінскі стаў першым і адзіным, хто ў той момант кінуўся ўвасабляць грандыёзную задуму, упэўнены, што "не спатрэбіцца вялікіх высілкаў для таго, каб абудзіць жыхароў гэтага краю"[23]. Ён відавочна разлічваў на асабісты гарачы прыклад.

З такой самаўпэўненасцю ён вырашыў здзейсніць са сваім атрадам дыверсійны рэйд у бок Мінска. Мэта яго палягала ў тым, каб уварвацца праз Мінск "у Белую Русь" і там падняць на ўзброенае паўстанне 12 тыс. сялян, вымусіўшы

[20] Некалі віленскі ваявода К. Радзівіл абяцаў выставіць на абарону краіны са сваіх Нясвіжскай і Слуцкай ардынацый легіён з 6210 салдат, маючы 2860 чал. пяхоты і каля 4 тыс. кавалерыі (Ratajczyk L. Wojsko i obronność Rzeczypospolitej. 1788–1792. Warszawa, 1975. S. 69).

[21] Gazeta narodowa Wileńska. 1794. № 11. C. 1. № 12. S. 1, 2.

[22] РДАСА. Ф. 16. Воп. 1. Спр. 758. Ч. 2. Арк. 226. Надрукавана: Анищенко Е. К. Восстание и война 1794 года… № 62.

[23] Шмигельските-Стукене Р. Михаил Клеофас Огинский. С. 151.

расійскія войскі адступіць “з усёй Літвы”. Верагодна, ён меў на ўвазе сялян, якія ў 1772 г. былі секвестраваны ў вялікага гетмана і віленскага ваяводы Міхаіла Казіміра Агінскага, а таксама ў віленскага кашталяна Ігнацыя Агінскага (усяго не меней як 18 тыс. душ абодвух полаў)[24]. Ён намерваўся даць асабістую волю сваім сялянам і ні слова не прамовіў пра падобнае імкненне на адрас усіх астатніх сялян. Гэта вызваленчая задума выказана М. Агінскім толькі ў яго ўспамінах і не знаходзіць пацверджання ў публічных актах паўстання. Генерал Якуб Ясінскі з ім пагадзіўся і дадаў да атрада Агінскага з 300 чал. стральцоў яшчэ дзве сотні вершнікаў пад камандай паручніка кавалерыі Каспара Людвікава Корсака[25]. 4 чэрвеня 1794 г. Ясінскі даручыў Агінскаму “ісці ў Мінскае ваяводства і там збіраць любым спосабам узброеную сілу ў згодзе з маёй пракламацыяй пра ўварванне ў расійскі кардон, выкарыстоўваць і прызначаць генерал-маёраў, ротмістраў, паштовых, выдаваць ім інструкцыі – словам усё, што палічыш патрэбным для ўзняцця Мінскага ваяводства на шчаслівую рэвалюцыю, усё выконваць будзе тваім абавязкам”[26].

Рэйд корпуса вольных стралкоў пачаўся 7 чэрвеня з імклівага авалодання мястэчкам Валожын, дзе Агінскі 14 чэрвеня, пасля некалькіх стрэлаў, заспеў знянацку 300 чал. расійскай пяхоты і 50 казакоў, з якіх паланіў 24 расійскіх

[24] Анищенко Е. К. В когтях двуглавого орла: Беларусь во времена Екатерины II (1772–1796 гг.). 2-е изд., доп. Минск, 2016. Гл. дадатак.

[25] У справаздачы ад 14 чэрвеня з Валожына сам М. Агінскі кажа пра адважнага паручніка Корсака (Gazeta narodowa Wileńska. 1794. № 14. S. 1). Каспар Людвікаў Корсак быў паручнікам у 2-й брыгадзе нацыянальнай кавалерыі (Żytkowicz L. Kasper Korsak // Polski Słownik Biograficzny. Wrocław, 1968. T. XIV/1. S. 110). Аўтары “Польскага біяграфічнага слоўніка” адназначна запісалі ў якасці ўдзельніка рэйда Каспара Корсака, хоць там жа можна сустрэць згадку пра маёра віленскай міліцыі Іосіфа Корсака (атрымаў чын маёра 31.08.1794) і Амбраізія Корсака, які 4.07.1794 г. атрымаў патэнт на чын маёра пяцігорскай брыгады (PSB. T. 14. S. 117). Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie… С. 207; Akty powstania Kościuszki. Kraków, 1955. T. 3. S. 181.

[26] Анищенко Е. К. Восстание и война 1794 года… С. 131.

егера, 2 сяржантаў, капрала і паручніка (28 чал.)[27]. Палонных разам з абозам ён адправіў у Ашмяну да Ясінскага.

Мяркуючы па сведчаннях манаха ракаўскага дамініканскага манастыра ксяндза Лявона Булгака, які сустрэў атрад Агінскага ў Валожыне, адтуль яны прайшлі да карчмы Сівіца. Тут Агінскі выправіў манаха ў Івянец даведацца, ці ёсць там расійскія войскі. Манах прыехаў у Івянец і паведамляў усім, каго сустракаў і хто знаходзіўся на кірмашы, што “ў Валожыне польскія войскі забралі расійскія і што раніцай Агінскі з войскам будзе ў Івянцы, раячы тамтэйшым жыдам, каб дзеля ўласнай бяспекі далі Агінскаму больш грошай”. Манах запэўніваў, што ён казаў гэта “без даручэння ад Агінскага ці ад іншых, бо Агінскі загадаў толькі паведаміць пра хуткае прыбыццё ў Івянец аднаго ксяндза Камінскага, які апавешчаны ім, Булгакам. У Івянцы, атрымаўшы ад знаёмага жыда Схалі каня з вазком, накіраваўся да тамтэйшага абшарніка, свайго прыяцеля Ратынскага, і з дарогі выправіў гэтага жыдоўскага пагоншчыка да Агінскага са слоўным паведамленнем, што ў Івянцы расійскіх каманд няма”.

Па сведчанні ксяндза Булгака і самога Агінскага, расійскія войскі спешна рэцыраваліся з Івянца, так што 80 вершнікаў М. Агінскага праскочылі пусты Івянец і спыніліся перад вёскай Навінкі. Тут яны паставілі пікет з 12 жаўнераў. Жыхары мястэчка сустракалі Агінскага 15 чэрвеня “з хлебам і соллю”. Увайшоўшы без перашкод у Івянец, Агінскі заспеў тут кінуты расійскімі войскамі абоз з 2 тыс. патронаў для 100 ружжаў, з нарабаваным у “велізарнай колькасці амуніцыяй, сукна, мундзіра і іншыя прадметы да экіпіравання войска, такія, як срэбныя, медныя, алавяныя і іншыя рэчы, разабраныя навакольнымі жыхарамі і раскіданыя ў розных складах і сховах. Я вагаўся перш чым прыняць цвёрдае рашэнне: ці рушыць далей, кінуўшы гэтую здабычу, якая была каштоўнасцю ў некалькі сотняў тысяч злотых польскіх, ці ж эскартаваць яе самому разам з усім маім атрадам, трымаючыся бакавой дарогі. Я пакінуў

[27] Gazeta narodowa Wileńska. 1794. № 14. S. 1. Рапарт надрукаваны 15 чэрвеня 1794 г.

ваганне, даведаўшыся, што губернатар Мінска Няплюеў[28] сабраў у горадзе цэлыя войскі з наваколляў, што ён забарыкадаваўся з усіх бакоў і паставіў за сценамі горада мноства ўзброеных сялян, каб выставіць іх на першы агонь".

Тады М. Агінскі вырашыў не нападаць на Мінск, а вярнуцца назад з захопленым абозам. Дапусцім, ён не ведаў, што Мінск ахоўвала ўсяго 2 роты пяхоты з 2 гарматамі. Але ж ён мог паслаць на выведку ў бок Мінска шпегаў, чаго не зрабіў. Ён мог падысці да Мінска, пабачыць там колькасць яго ахоўнікаў і ўвачавідкі, асабіста высветліць, чым яны ўзброены – каламі ці стрэльбамі. Калі ён не хацеў штурмаваць жывую сцяну з сялян вакол Мінска, тады пустым гукам выглядаюць яго словы пра тое, што ён у траўні 1794 г. сваёй палымянай гаворкай прымусіў плакаць 30-тысячны мітынг у Вільні[29]. Прычым Агінскі адводзіць у сваіх успамінах цэлыя 4 старонкі ў доказ магіі і сілы свайго красамоўства. Наш аратар мог гэтак жа палка выступіць перад сялянамі пад сценамі Мінска і ўзяць горад без стрэлу. Але ён павярнуў назад.

"Весткі схілялі мяне да злучэння з галоўным войскам; але цяжкасць складалася ў тым, каб знайсці сродак да транспартавання прадметаў, якія ледзь маглі змясціцца на 200 сялянскіх вазах. Выпадак вырашыў гэта, і я не замарудзіў скарыстацца такой выгадай. Раніцай (15 чэрвеня), прыбыўшы ў Івянец, я не знайшоў ні коней, ні вазоў, але паколькі тады быў дзень парафіяльнага свята [святога Антонія, 13 чэрвеня], то неўзабаве перад варотамі касцёла спынілася больш як 20 экіпажаў першых жыхароў з ваколіц са збруяй на 6 ці 4 конях, а потым яшчэ некалькі сотняў сялянскіх вазоў неўзабаве запоўнілі рынкавы пляц. Я паклікаў іх уладальнікаў, каб яны пазбавілі мяне ад клопатаў. Усе яны былі гатовыя добраахвотна мне дапамагчы. Яны загадалі распрэгчы лепшых коней, якіх запрэглі ў 20 маскоўскіх вазоў, запоўненых сукном і амуніцыяй. Сяляне па іх прыкладзе даставілі гэтулькі коней і калёс, колькі нам было трэба, і на працягу 6 гадзін часу 170 добра нагружаных калёс былі гатовыя пусціцца ў паход пад нашай аховай".

[28] Генерал-маёр Іван Мікалаевіч Няплюеў (1750–1823).
[29] Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce… S. 308–312.

Тым жа вечарам Агінскі пакінуў Івянец, абраўшы замест ранейшай новую дарогу, і рушыў на Бакшты. Бяскроўны поспех у Івянцы так акрыліў кіраўніка вольных стралкоў, што ён гатовы быў "тысячу разоў аддаць сваё жыццё за родную Айчыну" і запэўніваў у публічнай газеце паўстання, што ўвесь яго корпус "або вернецца авеяны славай, або стане кучай трупаў пры абароне Айчыны"[30].

У Івянцы 15 чэрвеня Агінскі агучыў свой заклік да жыхароў былога Мінскага ваяводства наступнага зместу.

*"Заклік М. Агінскага*

*да абывацеляў Мінскага ваяводства.*

*Жыхары, якія нарадзіліся ў адной айчыне, але якія вымагальніцкім чынам суседніх дзяржаваў з чэрава маці сваёй вырваны, скіньце з сябе ганебнае гэтае ярмо, якое вас з непадуладных палякаў робіць няшчаснымі нявольнікамі тырана, вазьміце ў рукі вашы зброю, якою продкі вашы так умела маглі ўтаймоўваць ворагаў айчыны, далучайцеся з вашымі сіламі да сілаў вашых братоў, як і добрыя сэрцы вашы сапраўды з імі злучаны. Хай засаромееццa ад адзінай і згоднай сілы подлы тыран, што перад вамі фанабэрыцца, які лічыць, што, прыгнятаючы паляка, здолее і сэрца ягонае зрабіць нізкім; хай здрыганецца дэспат, гледзячы на запал, які паходзіць ад дабрачыннасці і адчаю; кожны з вас хай далучыцца да святой сувязі, якая ўзноўлена актам Кракаўскім пад кіраўніцтвам Касцюшкі, няхай будзе ў душы вашай тая праўдзівая справядлівасць, што дабрачыннасць і аднадушша спалохаць могуць і наймацнейшага непрыяцеля, бо з уласнага вопыту я сам ведаю, што дзе толькі пакажацца жаўнер польскі, там заўсёды ці ахвяраю робіцца, ці бяжыць непрыяцель, які звык да грабежніцтва, але які бяззбройных толькі палохае, а вояў і сам баіцца. Уступленне маё ў межы Мінскага ваяводства засведчаць бедствы ад маскоўскіх войскаў, якія сапраўды штодзённа па дарозе бываюць разбітыя, і набыцця ад іх вялікай здабычы. І так мы, браты і жыхары, усе цяпер увогуле смела на тым стаім, што або вернем Айчыне вольнасць, або дамо сябе пахаваць у яе разваліна. А калі я пра гэта вам, жыхары, пасланы ад поўнага дабрачыннасці і мужнасці генерал-лейтэнанта*

[30] Gazeta narodowa Wileńska. 1794. № 14. S. 1.

*войскаў літоўскіх Ясінскага, паведамляю, то разам з тым і спадзяюся, што гэты мой заклік ажывіць у сэрцах вашых агонь. Універсал жа неперапаможнага Касцюшкі і Акт Кракаўскі пакажуць вам спосаб, якім чынам можаце з'яднацца з намі, а на гэты выпадак рэкамендую, каб гэты заклік разам з Актам Кракаўскім пры дзвярах касцельных быў прыбіты, а копіі з іх па ўсіх парафіях разасланыя былі б, і гэта здзейсніць прашу Вас любоўю да Айчыны.*

*Дадзены ў Івянцы 1794 г. чэрвеня 15. Міхал Агінскі, корпуса шэф, камандуючы вольнымі войскамі"*[31].

Заклік паказвае, што Агінскі распаўсюджваў у Івянцы таксама першыя ўніверсалы Касцюшкі пра пачатак узброенага паўстання. На гэтую тэму ён размаўляў са "сваім знаёмым, мінскім канюшым Ігнатам Ратынскім[32], з братам яго Антоніем, маёрам Эсткам[33], Тадэвушам Жаброўскім[34], шваграм яго Антоніем Коўзанам"[35], якія прыехалі да яго

[31] РДАСА. Ф. 16. Спр. 758. Ч. 2. Арк. 130–131адв.; РДВГА. Ф. ВПА. Спр. 282. Арк. 213, 214.

[32] Ратынскі Ігнат Феліцыянаў, мінскі канюшы, кавалер ордэна св. Станіслава, паводле рэвізскай сказкі 1795 г., меў жонку Канстанцыю Антонаву Аскерку, дзяцей Станіслава, Антона, Софью, валодаў 9 вёскамі ў Мінскім павеце і 17 вёскамі ў Вілейскім (НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 7. Арк. 938–943; Спр. 9. Арк. 534–563, 853, 872; Спр. 12. Арк. 11–17).

[33] Капітан з 1783 г., у 1786 г. секунд-маёр расійскай службы Якаў Міхайлавіч Эстка быў апекуном Аляксандра Раманіуса, сына расійскага генерала Аўрама Раманіуса.

[34] Жаброўскі Мартын Тадевуш, падчашыч, меў у Вілейскім павеце в. Падневічы з 11 дварамі і 73 душамі сялян (НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 12. Арк. 2). Гл.: Анищенко Е. К. Шляхта Минского воеводства. Список XVIII ст.: сборник. Минск, 2020. С. 72.

[35] Відаць, гаворка ідзе пра брацлаўскага лоўчага Коўзана Антона Антонавага, які трымаў у Вілейскім павеце маёнткі Суша і Сульжыцы (7 двароў з 69 душамі сялян абодвух полаў. НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 12. Арк. 2), а ў Мінскім павеце – Старынкі (НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 4. Арк. 369. Ф. 1727. Спр. 14. Арк. 789. Спр. 16. Арк. 250). Тамсама былі маёнткі іншых Коўзанаў – сыноў падчашага Антона і Вікторыі Навадворскай – ротмістра Фелікса, Аляксандра, паручніка Нікадзіма. Яны разам валодалі 17 дварамі з 49/53 душамі сялян (НГАБ. Ф. 1769. Спр. 18. Арк. 88. Ф. 1727. Спр. 12. Арк. 1295. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 12. Арк. 2). Гл: Анищенко Е. К. Шляхта Минского воеводства. Список XVIII ст. С. 95.

з Пераржыр. Як паказваў манах Булгак, «Агінскі прымушаў ксяндза Камінскага[36] чытаць паперы, але калі той адмовіўся са словамі, што абавязку на тое не мае і што за тое можа атрымаць пакаранне ад расійскіх войскаў, які ўчыніў прысягу, то Агінскі, не кажучы ніякіх грубіянстваў, перад усімі, што знаходзіліся ў хаце Камінскага, сам чытаў гэтыя паперы пад назвамі: першая "Водгук польскага народа да расійскіх салдатаў", друкаваная за подпісам Касцюшкі, іншыя, як універсал яго самога, Агінскага, пра ўсеагульнае паўстанне, і гэты апошні загадаў свайму ад'ютанту Грабоўскаму[37] прыбіць да касцельных дзвярэй, а першы, друкаваны, аддаў Камінскаму, ды, больш за тое, невядома які скрутак уручыў Эстку. Сакратар жа яго, Дзядзерка, шэсць такіх жа скруткаў вынес да тых, хто знаходзіўся на двары, але каму раздаў, ён, Булгак, не ведае».

"Агінскі, знаходзячыся ў Івянцы, размаўляў большай часткай з канюшым Ратынскім, паведамляючы яму, між іншым, што, прыехаўшы ў Івянец, забраў у расійскім абозе больш чым на трыста ці чатырыста тысяч злотых. Нарэшце падышоў да Эсткі і дастаў з ножан шаблю яго са словамі, што яна добрая на знішчэнне расійцаў. А Эстка, усміхаючыся, адказваў, што яна ўжо старая. Аддаўшы ж Эстку шаблю назад, гаварыў з ім вельмі ласкава, прапануючы ўсім наогул, каб для згуртаваных для выратавання Айчыны войскаў давалі грошы ці што хто мае. Прычым гэты Агінскі запэўніваў, што расійцаў страшыцца ўжо не варта, маючы ў адной Вільні больш як 36 000 польскага войска, добра ўзброенага і вельмі адважнага. Пасля загадваў яму, Булгаку, каб той, вярнуўшыся ў Ракаў, спаліў там замак, і пра тое даў да сваіх афіцыялістаў і ракаўскіх мяшчан пісьмовы загад, які ім, Булгакам, кінуты ў хаце

[36] Івянецкі плябан і альтарыст касцёла Іосіф Томашаў Камінскі (НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 11. Арк. 61–62, 63–69) у рэвізскіх сказках пісаўся смаленскім канцлерам генерала.

[37] Сам палонены сямнаццацігадовы Іахім Сухадольскі гаварыў, што ён быў ад'ютантам генерала Стэфана Грабоўскага, якога Агінскі выпрасіў сабе ў ад'ютанты (Энгель А. М. Архив Виленского генерал-губернаторства. С.-Петербург, 1870. Т. 2. Ч. 3. С. 268, 270, 271–272; Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie… С. 207).

ксяндза Камінскага"[38]. Прысутны тады шляхціч Іосіф Ляхоўскі страшыў яўрэяў "не падманваць сябе надзеяй думаць быць пад Расіяй, бо палякі ўжо ўвайшлі і вы не будзеце такімі меркамі віно прадаваць". Ён называў іх маскоўскімі шпегамі і пагражаў тым, што "вас палякі вешаюць і аднаго ўжо павесілі па дарозе на Ракаў"[39]. М. Агінскі пры гэтым заклікаў яўрэяў не шкадаваць грошай "дзеля іх уласнай бяспекі" і перад сыходам з мястэчка загадаў паставіць там 2 шыбеніцы[40]. Апошні факт немагчыма ні аспрэчыць, ні пацвердзіць.

А потым, "з паслядоўнікамі сваімі, выступіўшы з Івянца, Агінскі, якому Ратынскія, Жаброўскія, Эстка і іншыя, а з імі і народ, кланяючыся, жадалі шчаслівых поспехаў, заходзіў у Камень да тамтэйшага ўладальніка Юдыцкага (Іосіф Міхайлавіч Юдыцкі быў першы раз жанаты з Марыяй Агінскай, дачкой віцебскага ваяводы. – *Я. А.*), там частаваўся вячэрай і абедам, узяўшы ад яго на 300 чырвонцаў каня. Пры выездзе з Камянца бачыў яўрэяў, якія везлі аднаго свайго мёртвага, пра якога яны сказалі, што той павешаны ў час праходу войскаў польскіх па даносе хлопчыка за тое, што быў расійскім шпіёнам". Расійскія лазутчыкі даносілі, што ўжо 15 чэрвеня Агінскі нібыта пасылаў са сваіх 4 тыс. "возмутителей" рабаваць м. Камень Юдыцкага[41].

Сведчанні Л. Булгака асвятляюць некаторыя дэталі паходу М. Агінскага, якія ён прыхаваў у сваіх успамінах.

На момант прыходу яго ў мястэчка Івянец тут налічвалася 224 двароў з 717 мужчынамі і 671 жанчынай хрысціян і 102 / 143 чал. яўрэяў у 64 дварах[42]. Гэтае шматлюднае мястэчка з усім графствам пасля 1782 г. было ўласнасцю

[38] РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869. Ч. 1. Арк. 99адв. Адзін з Камінскіх, уніяцкі плябан Людвік Камінскі, меў у 37 населеных пунктах вакол мястечка Даўгінава 562 двароў з 2525 чал. падданных абодвух полаў (РДВГА. Ф. ВПА. Спр. 18839. Арк. 348–366).

[39] РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869. Арк. 89, 100.

[40] Шмигельските-Стукене Р. Михаил Клеофас Огинский. С. 151.

[41] РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869. Ч. 1. Арк. 100; Энгель А. М. Архив Виленского генерал-губернаторства. Т. 2. Ч. 3. С. 260.

[42] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 12. Арк. 2, 7адв. Усе згаданыя населеныя пункты пасля, у 1797 г., пяройдуць з Вілейскага павета ў склад Мінскага.

малалетняй графіні Дароты Ягоравай Салагуб, бацька якой – эйшышскі стараста Ягор Антонаў Салагуб – перадаў Івянец у апеку свайму брату, генерал-маёру расійскай службы Яну Салагубу, даўно адданаму царскаму трону. У 1783–1784 г. графства пайшло ў падзел (эксдывізію) па прэтэнзіях 238 крэдытораў, сярод якіх значыліся тры расійскія асобы[43].

Паводле дэкрэта ігуменскага эксдывізарскага суда ад 15 траўня і 8 кастрычніка 1784 г.[44] мястэчка Івянец у ліку 17 двароў з 39 / 31 сялянамі было перададзена да выплаты 42 000 чырвоных злотых (золатам) Аляксандру Аўрамавічу Раманіусу[45], малалетняму сыну генерал-паручніка Аўрама Іванавіча Раманіуса[46], які камандаваў корпусам войскаў для ажыццяўлення першага падзелу Рэчы Паспалітай. Апекуном Аляксандра Раманіуса стаў секунд-маёр расійскай службы Якаў Міхайлавіч Эстка. Якуб Эстка быў сынам ковенскага стольніка Міхала Якуба Эсткі, у 1745 г. значыўся ўжо капітанам на расійскай службе і меў брата Зыгмунта, таксама падпалкоўніка расійскай службы. Вядома, што ў 1820 г. Я. Эстка стаў суддзёй эксдывізарскага суда ў Барысаўскім павеце, тады ж ён значыўся ў масонскай ложы “Паўночная паходня” г. Мінска, а ў 1828 г. быў старшынёй Ігуменскага земскага суда[47]. Такім чынам, ён рабіў кар’еру ў Расіі. Гэты апякун аддаў маёру Яну Адамаву Бранікоўскаму ў заставу маёнтак Маскалеўшчыну ў Мінскам ваяводстве[48]. Пад час дзяльбы 1783 г. Я. Бранікоўскі запэўніваў, што Аўрам Раманіус не забіраў ніякай маёмасці з Івянца[49]. Перад намі тыповая практыка рабавання і раскрадання закладзенай маёмасці

[43] НГАБ. Ф. 1864. Воп. 1. Спр. 1 (пратаколы размежавання Івянецкага графства ў 1783–1784 гг.). Iwieniec.eu/eksdywizja/aktorzy
[44] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 12. Арк. 604адв.–605, 787адв.–788.
[45] Тамсама. Арк. 592адв.–593, 620адв.–621.
[46] Раманіус Аўрам Іванавіч (1724–1799) у 1771–1783 г. камандаваў корпусам у Рэчы Паспалітай і забяспечваў сілай рэалізацыю першага падзелу гэтай краіны да сваёй адстаўкі ў 1783 г.
[47] Kurier Litewski. 1820. № 140. 1829. № 49; Jusupović M. Prowincjonalna elita litewska w XVIII wieku. Działalność polityczna rodziny Zabiełłów w latach 1733–1795. Warszawa, 2014. С. 124.
[48] НГАБ. Ф. 1769. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 377, 382.
[49] Тамсама. Спр. 14. Арк. 370.

пад абаронай і з ужываннем расійскай зброі[50], часта з вывазам сялян углыб Расіі падобнымі апекунамі.

Наогул, Аўрам Раманіус атрымаў ад апекуноў малалетняй Салагубавай пад заклад за 20 579 чырвоных і 17 000 польскіх злотых 14 вёсак, у якіх, разам з часткай мястэчка Івянец, было 96 двароў з 279 / 295 сялянамі[51]. Гэтыя прыгонныя потым так ці інакш, праз перасаступкі і перазалогі іншых асоб, перайшлі да мінскага канюшага І. Ратынскага.

Канюшы І. Ратынскі, з якім Агінскі вёў гутаркі, меў у графстве Івянец, паводле дэкрэта ад 5 ліпеня і 8 кастрычніка 1783 г. па эксдывізіі (падзеле) графства паміж крэдыторамі 119 сялян абодвух полаў у 16 дварах пры мястэчку Івянец[52]. З усіх 1490 сялян у 262 дварах Івянецкага графства Ратынскаму належала 176 сялян у 23 дварах[53].

Секунд-маёр Я. М. Эстка па рашэнні таго ж івянецкага эксдывізарскага суда 1784 г. атрымаў ад графіні Салагуб за 1500 чырвоных і 30 тыс. польскіх злотых тры вёскі (Тоўпікі, Мешкуці, Навінкі), якія складаліся з 16 двароў з 54 / 37 сялянамі[54]. Акрамя таго, ён жа меў па асобнай пазыцы ў суме 1000 чырвоных у 1786 г. у самым Івянцы 5 двароў з 13 / 11 чал. і ў в. Абрамоўшчына 9 двароў з 32 / 34 сялянамі[55]. Фінансавыя інтарэсы Я. Эсткі перасякаліся з інтарэсамі І. Ратынскага ў в. Мешкуці, якую яны трымалі разам па заставе (закладзе) з моманту эксдывізіі Івянецкага графства.

Узнікае пытанне пра тое, які менавіта Эстка быў у кампаніі Агінскага. У Мінскім павеце ў 1794–1795 г. вёскай

[50] Анішчанка Я. Народжаны рабалепнічаць. Беларускія землі пры першым падзеле Рэчы Паспалітай. Мінск, 2007. С. 95, 98–99, 100, 109, 137, 192, 199, 204–205.

[51] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 12. Арк. 6, 365адв, 641, 647, 653, 670, 693, 751, 791, 808–809.

[52] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 4. Арк. 693адв., 791; Iwieniec.eu/eksdywizja/aktorzy. Графіня Салагуб мела ў Івянцы ўсяго 1129 душ абодвух полаў у 184 дварах.

[53] РДВГА. Ф. ВПА. № 18839. Спр. 70; РДГА. Ф. 1350. Воп. 312. Спр. 89. Раманіус атрымаў 199 сялян у 26 дварах.

[54] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 4. Арк. 622–623, 624–625, 626–627.

[55] Тамсама. Спр. 4. Арк. 649–650, 662–663.

Літвіны валодаў смаленскі стражнік Міхал Томашаў Эстка[56]. Аўтары "Польскага біяграфічнага слоўніка" запэўніваюць, што ў паўстанні 1794 г. праявіў сябе Станіслаў Тэадор Людвік Марцін Эстка (1763–1820), маёр стральцоў у 5-м палку Паўла Грабоўскага[57]. Ён быў сынам старэйшай і любімай сястры знакамітага кіраўніка паўстання Т. Касцюшкі – Ганны з Касцюшак. Гэты Эстка, пляменнік Касцюшкі, мог быць у атрадзе Агінскага сцягам і жупелам, які дадаваў славы камандзіру вольных стралкоў. Аднак Л. Булгак ясна кажа, што калі М. Агінскага выпраўлялі з Івянца ўдзельнікі гутарак з ім, то сярод іх адвітаўся з пажаданнямі ваеннага шчасця і Эстка. Апублікаваны А. Энгелем рапарт кадэта і разведчыка Івана Парадоўскага выразна гаворыць, што ён асабіста сустрэў пад вёскай Навінкі 16 чэрвеня адстаўнога секунд-маёра расійскай службы Якава Эстку, якога Агінскі пасадзіў пад каравул пасля адмовы прынесці таму прысягу.

Удзельнік паўстання 1794 г. Дамінік Дзядзерка быў палкоўнікам ВКЛ і шамбелянам, сынам Караля, аршанскага скарбніка[58]. Яго паслужны спіс наступны. 29.09.1777 г. ён стаў паручнікам і ад'ютантам караля, у 1777 г. – харужым, у 1782 г. – паручнікам ВКЛ, 16.12.1783 г. – капітанам, 8.10.1789 г. як аўдытар 2-й дывізіі прызначаны маёрам 1-га пяхотнага палка. У гэтым званні ён "праславіўся" (пасля здрадлівай здачы расійскаму войску Нясвіжа ў вайне 1792 г.) сваёй "тупасцю і баязлівасцю"[59]. Тым не менш, з 19.09.1791 г. ён стаў палкоўнікам 8-га пяхотнага палка ВКЛ[60]. Яго брат Казімір, аршанскі ротмістр і скарбнік, меў жонку Вікторыю Камінскую, якая была ў нейкім сваяцтве са згаданым ракаўскім ксяндзом Іосіфам Камінскім[61].

[56] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 9. Арк. 299адв.–300. Жонка Ганна Багуслававa.

[57] PSB. 1947. T. 6 (4). Z. 29. S. 300, 303.

[58] PSB. T. V/1. Z. 21. 1939. S. 47.

[59] Tadeusz Soplica (Adam Wolański). Wojna Polsko-Rosyjska 1792 r. T. 1. Poznań, 1924. S. 110.

[60] НГАБ. Ф. 389. Спр. 545. Арк. 95. Спр. 551. Арк. 734. Спр. 554. Арк. 535, 1171. Ф. 1727. Спр. 92. Арк. 229. Ф. 1774. Спр. 25. Арк. 501. Ф. 1767. Спр. 21. Арк. 740.

[61] Тамсама. Ф. 1711. Воп. 1. Спр. 67. Арк. 679.

Наогул род Дзядзеркаў вядомы сваёй разгалінаванай службай на грамадзянскіх і ваенных пасадах у Аршанскім павеце і Віцебскім ваяводстве. Яшчэ ў 1766 г. аршанскі ротмістр Казімір Дзядзерка выступаў упаўнаважаным мечніка ВКЛ Андрэя Агінскага і Франца-Ксаверыя Агінскага, гусарскага паручніка і прэвальскага старасты, пад час падзелу паміж імі ў Віцебскім ваяводстве маёнткаў Вялешкавічы, Вяледзічы і Марцыянава, якія дасталіся ім ад Тадэвуша Агінскага[62]. Прысутнасць Дамініка Дзядзеркі ў камандзе М. Агінскага ў якасці яго сакратара звязана, магчыма, з планамі палкаводца вызваліць вотчынных сялян на ўсходзе Беларусі і спыніць там ледзь не паўстанне. У любым выпадку, гэтай справе маглі паслужыць яго дзелавыя сувязі з нагоды службы там сваякоў.

Булгак гэтак жа выразна кажа, што М. Агінскі ўгаворваў усіх сваіх суразмоўцаў ахвяраваць на ўзброеных выратавальнікаў Айчыны грошы і ўсё, што можна. Гэта, трэба разумець, і складала галоўны змест іх гутарак. Сам Агінскі мог разлічваць на зварот 13 680 чырвоных злотых, за якія віленскі кашталян Міхал Геранім Агінскі ў 1780 г., тэрмінам да 1796 г., заклаў Дамініку Радзівілу вёскі Леднікі, Байдакі і Гаеўку ў Мінскім павеце[63]. У 1794 г. маёнткамі малалетняга Дамініка Радзівіла распараджаўся віленскі кашталян Мацей Радзівіл, які якраз значыўся членам Віленскай Рады паўстання[64] – органа, які жыхары паўсталай сталіцы падазравалі ў злачыннай маруднасці і здрадзе. Гэтыя грошы вынікала спагнаць са шляхцічаў, аканомаў закладзеных маёнткаў, у тым ліку і ў Івянецкім графстве, калі яны самі не хацелі садзіцца на коней і ўлівацца ў шэрагі дыверсійных атрадаў.

Нейкі час М. Агінскі мог шукаць рэчы параскраданага жыхарамі кінутага расійцамі абозу. Прадметам гутарак М. Агінскага ў Івянцы магло быць і вывучэнне ім становішча ў сувязі з апублікаваным яшчэ 22 красавіка 1794 г.

[62] Тамсама. Ф. 1751. Воп. 1. Спр. 31. Арк. 140.

[63] Тамсама. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 12. Арк. 545адв.–546, 563адв.–564.

[64] РДВГА. Ф. ВПА. Спр. 282. Арк. 322адв. Князь М. Радзівіл быў членам у 3-й дэпутацыі Крымінальнага суда.

планам царскай улады вярнуць ва ўлонне праваслаўя ўсіх уніятаў з дапамогай войскаў[65]. Гэты план супадаў з царскім указам ад 23 чэрвеня 1794 г. пра правядзенне 5-й чарговай рэвізіі, якое запісвала ў вечнае падданства Расійскай імперыі ўсіх жыхароў перапісаных маёнткаў і вёсак. Царскія войскі даводзілася распыляць і драбніць па маёнтках для забеспячэння поспеху гэтых дзвюх грандыёзных акцый. Не даводзіцца сумнявацца, што ўзброеныя рэйды, у тым ліку і Агінскага, мелі мэтай сарваць (і сапраўды дапамаглі адтэрмінаваць) прымусовую канверсію ўніятаў. Такая рэвізія праводзілася праз год, увосень 1795 г. У любым выпадку напалоханым рэйдамі паўстанцаў расійскім генералам даводзілася ўмацоўваць дадатковымі мерамі свае ўзброеныя цытадэлі накшталт Мінска, Слуцка, Нясвіжа і інш.

Па запэўніванні паручніка 2-й Пінскай брыгады Ягора Пятровіча, палоненага расійцамі, Агінскі меў загад адправіць са свайго атрада “100 чалавек вольных лепшых стралкоў і 50 чалавек кавалерыі” на дапамогу падпалкоўніку Мустафе Мірзе Ахматовічу, пасланаму на чале 600 чал. з Зэльвы на Пінск і адтуль да Слуцка. Сам жа Агінскі з астатнімі сіламі, а менавіта з 500 вольнымі стралкамі, 950 чалавекамі конніцы і з дзвюма гарматамі “ішоў неадкладна праз Івянец і Стоўбцы на Нясвіж”. На Мінск жа праз Глыбокае пайшоў чацвёрты полк з 500 чал. кавалерыі пад камандай Мікалая Сулістроўскага[66].

Гэты план сумесных дзеянняў праваліўся. Такім чынам, ні публічныя запэўніванні М. Агінскага выслаць поле бітвы трупамі герояў і вярнуцца авеяным славай, ні ўрачыстыя заявы пра сваю здольнасць лёгка падняць заваяваных Расіяй жыхароў на паўстанне, ні наяўнасць пры ім сумнеўных камандзіраў накшталт Д. Дзядзеркі і К. Корсака, не паўплывалі на цвёрдае рашэнне камандзіра вольных стралкоў адмовіцца наступаць на Мінск і павярнуць назад.

[65] Рункевич С. История Минской архиепископии. 1793–1832 гг. С.-Петербург, 1893. С. 235; Bilyk V. Царские репрессии относительно грекокатолической церкви на юго-восточной Речи Посполитой в конце XVIII века // Studia Koszalińsko-Kołobrzeske. 2019. Z. 26. S. 233–248.

[66] РДАСА. Ф. 16. Спр. 758. Ч. 2. Арк. 132, 138–184.

Услед за Агінскім кінуўся 48-гадовы генерал Лявон Бенігсен[67] з атрадам у складзе трох эскадронаў Ізюмскага лёгкаконнага палка (каля 420 чал.)[68], 4-га егерскага батальёна Эстляндскага корпуса (238 чал.)[69], дзвюх рот грэнадзёраў Нараўскага пяхотнага палка (387 чал.)[70], дзвюх рот Пскоўскага пяхотнага палка (да 400 чал.)[71], шасцідзесяці казакоў і пяці палкавых гармат (усяго каля 1500 чал.). Бенігсен 15 чэрвеня прыйшоў у Валожын, дзе даведаўся, што атрад Агінскага з 600 стралкоў і 1 тыс. вершнікаў мае намер прайсці праз мястэчка Вішнева[72]. Такім чынам, паводле дзвюх асобных даведак, Агінскі меў за сабой недзе паўтары тысячы каманды, і сілы яго з расійцамі былі роўныя.

Раніцай 17 чэрвеня Агінскі пакінуў Вішнева, а пры вёсцы Шаркаўшчына, за паўтары мілі ад Вішнева, перавёў уброд стральцоў з абозам, пераправіў кавалерыю па мосце, а потым "пераламаў мост, пакідаўшы ўвесь лес у раку на адлегласці чатырох сажань шырыні". Тут ён даведаўся, што яму засланілі дарогу на Баруны для злучэння з галоўнымі сіламі Я. Ясінскага. Пакуль ён разважаў над картай, расійцы за паўгадзіны збудавалі пераправу і ў дзевяць гадзін раніцы напалі на мястэчка Вішнева сіламі трох эскадронаў Ізюмскага палка (камандзір 37-гадовы палкоўнік Мікалай Якаўлевіч Трэгубаў) і шасцюдзесяццю казакамі (усяго каля 480 чал.). Конніца Трэгубава галопам праскакала цераз Вішнева і ўбачыла кавалерыю Агінскага, якая паспела выстраіцца ў баявы парадак і нават сустрэць ворага "самым жорсткім агнём" з адной малакалібернай гарматы. Трэгубаў выстраіў фронт,

[67] Бенігсен Лявон Лявонцьеў (1745–1826), барон, служыць пачаў з 14 гадоў, з 1787 г. камандзір Ізюмскага лёгкаконнага палка, чын генерал-маёра атрымаў за разгром паўстанцаў пад Ліпнішкамі і Соламі, а ордэн св. Георгія – за захоп Вільні.

[68] РДВГА. Ф. 489. Воп. 1. Спр. 2720. Арк. 1–121. Спр. 2721. Арк. 1–171. У палку лічылася 1045 чал. пры 907 конях.

[69] Тамсама. Ф. 489. Воп. 1. Спр. 1907. Арк. 92–122. Спр. 2040. Арк. 1–152.

[70] Тамсама. Ф. 489. Воп. 1. Спр. 539. Арк. 36. Спр. 540. Арк. 5–170.

[71] РДВГА. Ф. 489. Воп. 1. Спр. 2516. Арк. 1–101. Пскоўскі полк налічваў 1831 чал. пры 1860 конях.

[72] АЗПРІ. Ф. 79. Воп. 6. Спр. 1838. Арк. 165; РДАСА. Ф. 7. Воп. 2. Спр. 2869. Ч. 2. Арк. 99адв.

энергічна атакаваў і змяў непрыяцеля. Конніца Агінскага пры ўцёках на некаторай адлегласці зноў выстраілася, але палкоўнік Трэгубаў другі раз змяў яе і пераследаваў па кустах паабапал вялікай віленскай дарогі. Потым кавалерыя Агінскага па гэтай дарозе кінулася наўцёкі.

Стралкі Агінскага ў час гэтай справы паспелі заняць два пагоркі паміж вёскамі Сафінава і Люташы і пад заслонай лесу сустрэлі агнём правы фланг расійскай кавалерыі. Неўзабаве да першага ўзвышша падышла пяхота 4-га батальёна Эстляндскага егерскага корпуса. Па загадзе свайго камандзіра, Хрысціяна Давыдава Берха, яна выстраілася ў фронт і, са стратай некалькіх чалавек, пад моцным агнём непрыяцеля, заняла пагорак. Расійцы паставілі на ім 2 гарматы пад кіраўніцтвам капітана Наўгародскага пяхотнага палка (186 чал.) Мікалая Іванавіча Лідэрса, якія наносілі адчувальныя страты ворагу. Бенігсен тут жа паслаў падпалкоўніка камісарыята Паўла Пятровіча Зубава з 80 падлоўчымі і 60 чалавекамі пяхоты для дапамогі праваму крылу егерскага батальёна. Зубаў атакаваў непрыяцеля ў лесе і прагнаў яго, прычым быў лёгка паранены. З другога пагорка вольных стралкоў Агінскага прагналі дзве роты Пскоўскага пяхотнага палка пад камандай секунд-маёра Санктпецярбургскага грэнадзёрскага палка Отта Ягоравіча Эцінгена. Неўзабаве падбеглі 2 грэнадзёрскія роты Нараўскага пяхотнага палка пад камандай прэм’ер-маёра Івана Сцяпанавіча Раўтэнштэрна, якія канчаткова адкінулі стралкоў Агінскага. Наўздагон ім выправіўся падпаручнік Міхал Сцяпанавіч Пляханаў.

Конніца Агінскага ў ліку 150 шабель на шляху да вёскі паспрабавала яшчэ раз перастроіцца для адпору, але “палкоўнік Трэгубаў змяў яе трэці раз, вынішчыўшы вялікую частку яе. Эстляндскага ж корпуса 4-га егерскага батальёна секунд-маёр Бурхард Максімаў Берх, роўна пасланы са 150 падлоўчымі ўслед непрыяцелю, праявіў сябе, пакінуўшы на месцы мноства забітых”.

Па словах Л. Бенігсена, пад час бітвы, якая цягнулася з 9 гадзін раніцы да паловы дванаццатай, ён страціў 6 чалавек забітымі і 30 параненымі, а Агінскі забітымі і параненымі больш за 300 чалавек разам з 40 тыс. зарадаў да гарматы. У палоне апынуліся 64 чалавекі, “паміж якімі капітан

Іахім Сухадольскі, што камандаваў валанцёрамі ў былой бітве пры Ашмянах, і тры паручнікі. Непрыяцель вымушаны быў пакінуць нам як здабычу ўвесь свой абоз у колькасці больш як двухсот вазоў, у якіх знайшлося мноства выкрадзенага ў мястэчку Івянец"[73]. Па запэўніванні іншага расійскага генерала Б. Кнорынга, акружаны Агінскі выратаваў уцёкамі "не больш за сто чалавек вершнікаў і, кідаючыся то ў адзін, то ў другі бок, бо я перакрыў яму шляхі, знайшоў адзін толькі спосаб уцячы з вялікім спрытам праз Крэва, узяўшы там абывацельскіх коней, кінутых стомленымі, за паўгадзіны да прыбыцця ў гэтае мястэчка майго атрада, які дакладна схоплены і потым пабіты быў бы, калі б быў там, хоць крыху затрымаўшыся, каб адтуль выехаць". З Кнорынгам згодны і сам Агінскі, які піша, што ратаваўся ўцёкамі разам з 150 чал.[74]. Ён страціў пад Вішневам 64 салдаты і 4 афіцэры, у тым ліку забітымі 12 кавалерыстаў і 45 пехацінцаў, увесь захоплены ў Івянцы абоз на 280 вазах і касу з 7 тыс. чырвоных злотых[75]. Гэта значыць, ён страціў больш за 350 чал. з 500 чал. свайго першапачатковага атрада, насуперак сцвярджэнню польскіх аўтараў, якія кажуць пра страту 150–200 чалавек ці толькі трэці першага складу[76].

Калі давяраць звесткам пра роўныя суадносіны супернікаў, то выходзіць, што М. Агінскі пакрыў сябе сорамам, – з яго смяяліся нават сябры і паплечнікі, нібыта ён здзейсніў нейкую няўдалую дзіцячую забаву. Агінскі вярнуўся

[73] АЗПРІ. Ф. 79. Воп. 6. Спр. 1838. Арк. 165–166. Энгель А. М. Архив Виленского генерал-губернаторства. С. 276–280; Powstanie kościuszkowskie 1794: dzieje militarne / pod red. T. Rawskiego. Warszawa, 1994. T. 2. S. 397–398. Польскія аўтары спасылаюцца на мемуары Агінскага і таго ж А. М. Энгеля (Описание дел, хранящихся в архиве Виленского генерал-губернаторства / сост. А. Энгель (при содействии К. Н. Комолицкого). Т. 1–2. Вильно, 1870. Т. 2. Ч. 1: Письма и бумаги, относящиеся до польского восстания 1794 г. и до кампании против Костюшки, с 1 апреля по 19 мая 1794 г.).

[74] Мемуары Михаила Клеофаса Огинского о Польше и поляках с 1788 года до конца 1815 года. Т. 1. Минск, 2015. С. 323.

[75] Ogiński M. Pamiętniki… T. 1. S. 456. Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie… S. 207.

[76] Powstanie kościuszkowskie 1794: dzieje militarne. S. 398.

ў Вільню, а потым выправіўся прасіць дапамогі ў Варшаву, бо тэхнічнае забеспячэнне паўстанцкага войска, асабліва што да артылерыі, выявілася значна горшым, чым у расійскай арміі.

Насуперак першапачатковай задуме кіраўніцтва паўстаннем урывацца ў акупаваны край з розных бакоў і рознымі атрадамі маршрут туды пралажыў толькі М. К. Агінскі. Аднак яго дыверсія не была падрыхтавана належным чынам у розных адносінах, бо грунтавалася на самаўпэўненасці правадыра без праблем абудзіць патрыятычны запал маўклівых жыхароў акупаваных тэрыторый на падтрымку паўстання. Наадварот, там яго сустрэлі холад, страх і абыякавасць нават з боку вузкіх колаў знаці і шляхты. Такім чынам, М. Агінскі асабіста абвергнуў свае заявы пра тое, што яму не складзе ніякай цяжкасці падняць на слаўную рэвалюцыю жыхароў акупаванай тэрыторыі шляхам узброенай дыверсіі ўглыб яе. Гэта сарвала агульны план вызваленчых рэйдаў і іх ролю ў арганізацыі агульнага апалчэння і шмат у чым прадвызначыла агульную паразу ўсяго паўстання 1794 г. у наступным.

Агінскі не мог пахваліцца паспяховым прыцягненнем пад час дыверсіі ў склад сваёй каманды добраахвотнікаў з акупаваных тэрыторый. Ён нічым не засведчыў свае высілкі сабраць ваеннаабавязаных ротмістраў, як быццам не хацеў выконваць загад галоўнакамандуючага Я. Ясінскага, нібы сабатаваў агульную мэту. Гэтак жа не адзначае ён сам і фактаў радасці ад атрымання грашовых і іншых ахвяраванняў. Менавіта такая глухая рэакцыя жыхароў акупаванай тэрыторыі прымусіла яго павярнуць назад. Ён наогул страціў захоплены расійскі абоз з вялікай маёмасцю, пра які паспешна паведаміў у публічныя акты паўстання. Ён цалкам замоўчвае імкненне спагнаць грошы з яўрэяў і закладатрымальнікаў чужых вёсак і сялян, пра што ясна кажуць сведкі і дакументы. Агінскі ўжываў традыцыйныя пабory, ад якіх даўно цярпела наваколле. Гэта не магло не адштурхнуць жыхароў ад агітатара за свабоду. Правадыра вольных стралкоў пераўзышлі расійскія вайскаводы і па ваенна-тактычнай хватцы, і па аператыўным мысленні, і па службовым старанні. Як гэта ні горка цяпер усведамляць.

# An military raid of Michal Kleafas Ahinski into Minsk region in 1794

**Jaŭhien Aniščanka**

The article deals with one episode of the Tadeusz Kaściuszka uprising against Russian Imperia in 1794 – an armed raid of the duke Michal Kleafas Ahinski into the Polish-Lithuanians territory occupied by Russian. The published and archived materials are used for the detailed illumination of circumstances and results of those events token place near Minsk in today's Belarus. The campaign of the famous composer was connected with the plan to raise a mass revolt but it failed. The failure of this raid determined to some extent the defeat of the uprising on the whole.

# Партрэты разбойнікаў беларуска-літоўскіх губерняў (з гісторыі штодзённасці першай паловы XIX ст.)

**Наталля Анофранка**

Крымінальная сфера ў першай палове XIX ст. у беларуска-літоўскіх губернях[1] была стракатай. Як і ў любым іншым грамадстве, тут адбываліся больш ці менш цяжкія злачынствы супраць асобы (збіццё, цялесныя пашкоджанні, забойствы, гвалтаванні), а таксама супраць маёмасці (крадзяжы, грабяжы, махлярствы). Акрамя ўніверсальных злачынстваў, уласцівых любому гістарычнаму перыяду з прычыны чалавечай прыроды, былі злачынствы і правапарушэнні, якія абумоўліваліся тагачасным сацыяльным ладам (эканамічнымі і сацыяльнымі адносінамі ў грамадстве). Для беларуска-літоўскіх земляў у сувязі з іх уключэннем у склад Расійскай імперыі фактарамі, якія непасрэдна паўплывалі на крымінальную сферу, былі прыгонніцтва і рэкруцкая павіннасць. Іх "адваротам" была велізарная колькасць збеглых прыгонных і дэзерціраў[2]. Гэтыя людзі

[1] На падставе геаграфічнага (а не этнічнага) крытэрыю Віцебская і Магілёўская губерні называліся беларускімі, а Мінская, Гродзенская, Віленская – літоўскімі (Грамадска-палітычнае жыццё ў Беларусі, 1772–1917 гг. / [А. У. Унучак і інш.]. Мінск, 2018. С. 5.).

[2] Гл. больш падрабязна: Анофранка Н. Праблема вышуквання збеглых прыгонных, дэзерціраў і злачынцаў у беларуска-літоўскіх губернях у першай трэці XIX ст. // Беларусь, Іўеўскі край і Эдвард Вайніловіч: матэр. навук.-практ. канф., Іўе, 13 верас. 2019 г. / Ін-т гіст. НАН Беларусі; рэд. кал.: А. А. Каваленя (навук. рэд.) [і інш.]; У. С. Пуцік (адк. рэд.). Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2019. С. 149–161.

аўтаматычна рабіліся правапарушальнікамі. Яны ўжо не маглі легалізаваць сябе, каб не панесці пакаранне. У лепшым выпадку яны незаконна наймаліся на часовую працу або збіралі міласціну, у горшым – займаліся крадзяжамі, грабяжамі (рабаваннямі) і разбоямі[3].

[3] У заканадаўстве Расійскай імперыі першай паловы XIX ст. розніца паміж паняццямі *разбой* і *грабеж* не была істотнай. З 1781 г. *грабеж* інтэрпрэтаваўся наступным чынам: "Воровство грабеж есть, буде кто на сухом пути или на воде на кого нападет или остановит, стращая действием как то: орудием, или рукою, или иным чем, или словом, или кого уронит и нахально ограбит, или что отнимет, или дать себе принудит, или воспользуется страхом от пожара, или потопа, или от иного случая или темнотою кого ограбит, или отнимет у него деньги, или снимет с кого платье, или с повозок, или с коробля пожитки или иное движимое имение" (ПСЗРИ. Собр. 1. Т. 21. № 15147. С. 108.). Гэтая фармулёўка паўтаралася ў "Своде законов уголовных" 1833 г. (Свод законов уголовных. С.-Петербург, 1833. Кн. 1–2. С. 226. Ст. 726). *Разбой* паводле "Свода законов уголовных" 1833 г. вызначаўся наступным чынам: "Разбой есть нападение на какое-либо место, жительство, на деревню, на двор, или какое-либо здание, для похищения имущества, произведенное открытою силою и с явной опасностью для самого лица, насилием угрожаемого" (Свод законов уголовных. С.-Петербург, 1833. Кн. 1–2. С. 214. Ст. 679).
Паводле "Уложения о наказаниях" 1845 г. азначэнні *грабеж* і *разбой* крыху змяніліся. У артыкуле 2139 *грабяжом* лічылася: "во-первых, всякое у кого-либо отнятое принадлежащее ему или находящееся у него имущество с насилием или даже с угрозами, но такого рода, что если угрозы и сами насильственные действия не представляли опасность ни для жизни, ни для здоровья, или свободы такого лица; во-вторых, всякое хоть без угроз и насилия, но открытое похищение какого-либо имущества, в присутствии хозяина или других людей". У артыкуле 2129 *разбой* вызначаўся наступным чынам: "признается всякое на кого-либо для похищения, принадлежащего ему или находящегося у него имущества, нападение, когда оное учинено открытою силою с оружием или хотя и без оружия, но сопровождалось или убийством, или покушением на оное, или же нанесением увечия, ран, побоев или других телесных истязаний, или такого рода угрозами или иными действиями от которых представлялась явная опасность для жизни, здоровья или свободы лица или лиц, подвергавшихся нападению" (Колмаков Д. А. История развития уголовного законодательства о грабеже и разбое

Паліцэйскія дакументы, якія ў першай палове XIX ст. былі дастаткова скрупулёзнымі, захавалі вобразы такіх злачынцаў. Напрыклад, 17 лістапада 1831 г. паліцыя Себежа праводзіла допыт рэкрута-дэзерціра, які абвінавачваўся ў крадзяжах. Афіцыйныя звесткі пра яго былі наступныя: Восіп сын Ягора (без прозвішча), 34 гады, жанаты, належаў да рымска-каталіцкай канфесіі, штогод хадзіў да споведзі і прымаў камунію, пад суд не трапляў і ў штрафах не знаходзіўся, граматы не ведаў. Па словах Восіпа, да 1829 г., калі яго забралі ў рэкруты, ён быў селянінам маёнтка Узульмуйжа ў Рэжыцкім павеце. У час перамяшчэння рэкрутаў люцынскай інваліднай камандай з Люцына ў Себеж Восіп уцёк, знайшоў прытулак у селяніна Івана (аднак не ведаў ні яго імя па бацьку, ні якому памешчыку ён належаў) і хаваўся ў яго два дні. Тады ж разам з Іванам ён быў "на воровстве погоста". Акрамя таго 5 кастрычніка (на 4-ы дзень пасля свята Пакрова) ноччу праз праломіну ў даху яны ўлезлі ў чужы свіран, дзе было "два кубла" (два памяшканні), якія яны падзялілі.

Па словах Восіпа, у "сваім" пакоі ён знайшоў толькі 2 польскія манеты і 10 грошаў. Што знайшоў Іван, ён не бачыў, але чуў звон срэбра. Калі яны выйшлі са свірна, то Іван падзяліўся часткай сваёй здабычы з Восіпам – даў яму 15 рублёў срэбрам і кусок каляровага паркалю. Яшчэ ў свірне Восіп узяў кажух, а Іван – армяк і шапку. Потым яны дайшлі да паштовага тракту, дзе селянін на развітанне сказаў: "Не знай меня, а я тебя". На тым

в России // Вестник Тамбовского университета. Серия: Гуманитарные науки. Право. Вып. 11 (103). 2011. С. 374).
Пакаранне за разбой і грабеж з гвалтам было практычна аднолькавае: "виновные подлежат лишению всех прав состояния, наказанию кнутом и ссылке в каторжную работу" (Свод законов уголовных. С.-Петербург, 1833. Кн. 1–2. С. 214, 226). Паліцэйскім чыноўнікам першай паловы XIX ст. складана было зрабіць размежаванне паміж разбоем і грабяжом з гвалтам, што адлюстравалася ў паліцэйскіх дакументах, дзе гэтыя паняцці выкарыстоўваліся як сінонімы. Зыходзячы з мовы дакументаў, а таксама з улікам асаблівасцей беларускай мовы паняцці *разбой*, *грабеж* і *рабаванне* выкарыстоўваюцца ў артыкуле сінанімічна.

і разышліся[4]. Далей Восіп вырашыў рухацца ў родныя мясціны, але за горадам Люцынам (верагодна, калі ўжо перайшоў у Рэжыцкі павет) быў затрыманы ў прыдарожнай карчме. Карчмар адабраў у яго грошы і паркаль, а кажух забрала рэжыцкая земская паліцыя, якая і накіравала яго ў себежскую гарадскую паліцыю.

Восіп пераконваў себежскую паліцыю ў тым, што больш ні з кім нічога не краў, а ўсе яго паказанні зроблены "по сущей справедливости и долгу христианскому"[5]. У выніку пастанавілі, каб Восіп да заканчэння следства аб крадзяжах у Люцынскім і Рэжыцкім паветах заставаўся пад вартай у горадзе Себежы і, калі спатрэбіцца, пад вартай себежскай інваліднай каманды мог быць адпраўлены на месца следства[6].

Гісторыя Антона Капцалова сугучная з гісторыяй рэкрута-ўцекача Восіпа, але яго крымінальная біяграфія была даўжэйшай і колькасць датычных асоб – большай. Ягоны допыт 18 лютага 1836 г. праводзіўся рэжыцкім земскім судом у прысутнасці дэпутата ад ваеннага боку. Арыштаваны не стаў запірацца і па афіцыйнай форме падаў пра сябе наступныя звесткі: селянін, узрост – 35 гадоў, па веравызнанні старавер, бываў на споведзі, непісьменны, жанаты і мае дзяцей, у штрафах і пад судом не быў. Далей Антон Капцалоў паведаміў, што 8 гадоў таму, у 1828 г., быў здадзены ў рэкруты ад сялян вёскі Войнава маёнтка Феймана памешчыка Шадурскага Рэжыцкага павета. У час перамяшчэння рэкруцкай партыяй з Рэжыцы у Віцебск ён недалёка ад Люцына, "по шалости своей", уцёк і вярнуўся ў Рэжыцкі павет. Аднак беспакарана вярнуцца ў сваю вёску і наладзіць ранейшае жыццё Антон Капцалоў не мог, таму недалёка ад маёнтка Феймана ён знайшоў хлеў, дзе хаваўся ўсю зіму і харчаваўся крадзеным хлебам.

Вясной і летам Антон Капцалоў не меў "никакого постоянного передержательства" (пастаяннага сховішча) і бадзяўся па розных месцах Рэжыцкага павета, а каб пракарміць сябе, займаўся крадзяжамі і грабяжамі на дарозе. З наступленнем

4 НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 3557. Арк. 3адв.
5 Тамсама. Арк. 4.
6 Тамсама. Арк. 4–4адв.

восені Капцалоў выправіўся за раку Дзвіну, аднак не змог назваць ні павет, ні губерню, у якую трапіў. Там ён тры гады нелегальна наймаўся на часовую сельскагаспадарчую працу да розных прыказчыкаў. А потым накіраваўся ў Рыгу, дзе ў розных людзей таксама адпрацаваў тры гады[7].

Праз шэсць гадоў Антон Капцалоў вырашыў вярнуцца ў Рэжыцкі павет. Па дарозе ў родныя мясціны ў вёсцы Бычкі маёнтка Гарыколна памешчыка Леапольда Аскеркі ён папрасіўся абагрэцца да бабыліхі Мар'і. Жанчына пусціла яго ў хату, і ў час размоў Антон паскардзіўся, што не мае ніякага прытулку і не ведае, дзе знайсці працу. Мар'я паспачувала, запыталася, ці ведае ён шавецкую справу і, атрымаўшы станоўчы адказ, выйшла з хаты. Хутка яна вярнулася разам са старым шаўцом Антонам Толем, Іванавым сынам. Пасля знаёмства Капцалоў разам з Толем выправіліся шыць боты па розных вёсках і маёнтках. Але гэта быў не адзіны іх занятак. Так, паводле Капцалова, яны зайшлі ў невядомую вёску, улезлі ў свіран і ўкралі 10 локцяў шэрага самаробнага сукна і яшчэ нейкія рэчы. Антон Толь са сваёй часткай крадзенага выправіўся дадому, а Антон Капцалоў крадзеныя рэчы прынёс сваёй жонцы Пелагеі ў вёску Войнава. Пераначаваўшы ў роднай хаце, на наступны дзень накіраваўся ў Дынабургскі павет[8].

У Дынабургскім павеце ў вёсцы Сапушкі Антон Капцалоў знайшоў працу ў нейкага селяніна і ўсю зіму займаўся "сечением смолы на деготь". Вясной жа вырашыў знайсці Антона Толя, каб з ім пахадзіць па розных мясцінах і ўкрасці коней, і выправіўся ў Рэжыцкі павет. Аднак у Бычках Капцалоў не знайшоў Толя і пайшоў да ляснічага маёнтка Гарыколна Андрэя Вайчонка, дзе і заспеў свайго былога супольніка. Антон Капцалоў расказаў таму пра свой намер, і разам яны накіраваліся ў маёнтак Стыраны Рэжыцкага павета. Па дарозе ўкралі дваіх коней іх і прывялі да ляснічага Вайчонкі. Аднаго каня купіў сам Вайчонак за 12 руб. срэбрам, а другога Капцалоў і Толь адвялі ў Дынабургскі павет у вёску Сапушкі. Там прадалі

[7] НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 5804. Арк. 8.
[8] Тамсама. Арк. 8адв.

яго за 11 руб. срэбрам таму селяніну, у якога зімой працаваў Капцалоў. Праўда, селянін адразу даў ім 5 рублёў, а астатняе абяцаў заплаціць пазней.

Палічыўшы, што канакрадства – справа выгадная, Капцалоў і Толь выправіліся на гэты промысел у Люцынскі павет. Недалёка ад Люцына на полі яны ўбачылі дваіх коней і забралі іх. Хутка аднаго памянялі на нейкія рэчы, а другога прадалі нейкаму Андрэю Кузьміну. Падзяліўшы грошы, супольнікі разышліся, Антон Капцалоў зноў вярнуўся ў Дынабургскі павет у вёску Сапушкі, дзе наняўся да селяніна Гаўрылы Трафімава, у якога не хапала работнікаў[9].

На Трафімава Капцалоў працаваў усё лета, паспеў убраць жыта і ярыну з поля, калі раптам у Сапушкі прыйшла ягоная жонка Пелагея. Яна была не адна, а разам з бабыліхай Аксінняй Лазаравай і Мар’яй Фёдаравай – цёткай “галоўнага разбойніка” Дарафея Гарэліна, Мітрафанавага сына. Жанчыны знайшлі Антона Капцалова і пачалі ўгаворваць яго далучыцца да шайкі Гарэліна. Яны казалі: “Если есть желание иметь себе хороших товарищей, то ступай с нами, мы тебя к ним сведём. Они с тобой хотят отправиться в Пруссию и, как сказали, достанут для тебя паспорт”[10]. Антон Капцалоў пагадзіўся і разам з жанчынамі пайшоў у маёнтак Гарыколна да ляснічага Андрэя Вайчонка, які на сваіх конях падвёз іх да маёнтка Рыбінішкі. А далей яны пайшлі ў лес за Рыбінішкамі шукаць пристанішча разбойніка Дарафея Гарэліна і яго таварышаў. Гэтую банду яны знайшлі даволі хутка.

Антон Капцалоў пазнаёміўся з атаманам Дарафеем Гарэліным і ягоным братам Мікітам. Утрох яны прыйшлі да ляснічага Вайчонка, у якога папарыліся ў лазні і адпачылі, а потым выправіліся ў Дынабургскі павет у вёску Сапушкі. Там тры тыдні Капцалоў і Гарэліны жылі ў Гаўрылы Трафімава. Спачатку займаліся дробнымі крадзяжамі, а потым вырашылі атрымаць больш сур’ёзную здабычу. Трое разбойнікаў разам з Гаўрылам Трафімавым, узброеныя ружжом, пісталетам і тапаром, пайшлі ў вёску Лучкіна, якая

[9] Тамсама. Арк. 9.
[10] Тамсама. Арк. 9адв.

знаходзілася каля маёнтка Камянец памешчыка Рэута[11]. Там уначы яны ўлезлі ў нейкі дом, пачалі забіраць розныя рэчы і складаць у вялікую скураную торбу. Раптам гаспадары прачнуліся, пачалі крычаць і клікаць на дапамогу. У выніку рабаўнікам давялося ўцякаць. Антон Капцалоў сведчыў: "Мы свое действие оставив ушли от туда с тем, что успели забрать. А прочие вещи остались на дворе"[12].

Пасля гэтага не вельмі ўдалага нападу разбойнікам стала зразумела, што ў Сапушках, як і ўвогуле ў Дынабургскім павеце, заставацца небяспечна. Спачатку яны схаваліся ў блізкім лесе, а потым перабраліся ў Фейманскі лес Рэжыцкага павета. Па дарозе, у вёсцы Войнава, яны наведалі жонку Антона Капцалова. Пелагея іх накарміла, а яны сказалі пра свой намер дняваць у лесе. Нечакана ў Фейманскім лесе была праведзена аблава. Разбойнікам удалося ад яе ўцячы ў Стрэжвальдскі лес, дзе яны хаваліся тры тыдні. Аднойчы ноччу яны напалі з ружжом і каламі на карчму Страпіну. Але гаспадар карчмы стаў супраціўляцца, завязалася бойка. Дарафей Гарэлін ударыў карчмара дубінай, а яго брат нанёс моцны ўдар ружжом. Некалькі чалавек, якія былі ў карчме, не адважыліся ўступіць у бойку. Аднак з-за таго, што падняўся шум, разбойнікі пакінулі карчму і вырашылі абрабаваць дом ксяндза. Калі яны пачалі ламацца ў акно, ксёндз прачнуўся, закрычаў і, схапіўшы стрэльбу, кінуўся да акна. У выніку разбойнікі вымушаны былі ўцячы. Пацярпеўшы няўдачу, Капцалоў і браты Гарэліны вырашылі ўкрасці коней і ў пошуках больш-менш лёгкай здабычы адправіліся ў вёску Барысаўка, а потым у вёску Ломы. Нарэшце ім ўдалося ўкрасці трох коней, на якіх яны паехалі ў Рыгу[13].

Аднак у Рызе іх шанцаванне скончылася. Дарафея і Мікіту Гарэліных арыштавала паліцыя, а Антону Капцалову ўдалося ўцячы. Некаторы час ён хаваўся ў лесе за 40 вёрст ад Рыгі каля Лубанскай дарогі. Потым уладкаваўся на завод да немцаў, дзе сек дровы. Праз тры месяцы такая

[11] Тамсама.
[12] Тамсама. Арк. 10.
[13] Тамсама. Арк. 10–10адв.

праца яму надакучыла (або ўзнікла небяспека рэвізіі), і ён вярнуўся ў Рэжыцкі павет, дзе вырашыў зноў заняцца канакрадствам. Каля нейкай карчмы Капцалоў забраў прывязанага каня, але прадаць яго не паспеў – выпадкова сустрэў селяніна-латыша, які пазнаў свайго каня. Гэты латыш скруціў Антона Капцалова і даставіў у маёнтак Варкляны, а адтуль злодзея перадалі ў рэжыцкі ніжні земскі суд[14].

На допыце Антон Капцалоў пацвердзіў, што пасля знаёмства з Дарафеем і Мікітам Гарэлінымі ўдзельнічаў ва ўсіх іх сумесных крадзяжах і грабяжах, пра якія і расказаў. Аднак цалкам адмаўляў удзел у абрабаванні ў вёсцы Кіркалішкі мешчаніна Дзяніса Кірылава, на якога разбойнікі напалі з агнём, а таксама напад на двараніна Гаеўскага ў вёсцы Грышчаны. Акрамя таго Антон Капцалоў катэгарычна адмаўляў сваю сувязь з іншымі разбойнікамі, акрамя Гарэліных[15].

Як сведчаць паліцэйскія дакументы, учарашнія сяляне, здадзеныя ў рэкруты, уцякалі ў межах сваёй губерні, у той мясцовасці, дзе яны арыентаваліся. Не маючы патрэбы далёка адыходзіць ад сваёй вёскі, яны маглі не ведаць нават назвы суседніх губерняў. Збеглыя рэкруты не маглі адкрыта вярнуцца ў сваю вёску (іх родны дом быў страчаны назаўсёды), але першапачатковае ўкрыццё прасцей было знайсці ў мясцінах знаёмых і вядомых. Найлепшымі для часовага прытулку былі закінутыя або мала наведваныя хлеў ці свіран, а для ўкрыцця – лес. Крадзеж прадуктаў харчавання, асабліва ў зімовы час, першапачаткова быў вымушанай неабходнасцю. Гэта датычылася і цёплых рэчаў, што патрабавала больш сур'ёзных учынкаў – адбіранне вопраткі ў мінакоў на дарозе ці рабаванне дамоў. Уцекачы маглі нелегальна ўладкавацца на працу і атрымаць прытулак. Аднак меры барацьбы са збеглымі і бяспашпартнымі датычыліся не толькі непасрэдна ўцекачоў, але і тых, хто даваў ім працу і прытулак.

Што да сельскіх жыхароў, то яны досыць талерантна ставіліся да разбойнай дзейнасці. Сямейныя сувязі

[14] Тамсама. Арк. 11адв.
[15] Тамсама. Арк. 11–11адв.

з атаманам шайкі не хаваліся. Удзел у бандзе ў вачах сваякоў лічыўся не заганным, а наадварот – прыбытковым заняткам. Сяляне, знаёмыя з рабаўнікамі, давалі ім прытулак, куплялі крадзенае (ад тканін да коней), а часам і самі былі не супраць паўдзельнічаць у рабунках.

У такіх умовах крадзяжы, грабяжы і разбойніцкія напады рабіліся штодзённай практыкай, асаблівым ладам жыцця. Пры гэтым злачынцы засвойвалі пэўны арэал пражывання, дзе меліся знаёмствы, была наладжана сувязь і існавалі месцы для сховішча. Выхад за межы гэтай тэрыторыі (пераезд у малавядомы горад ці незнаёмы павет) павышаў рызыку быць схопленымі паліцыяй. Нярэдка, каб схавацца ад паліцыі, злодзеі імкнуліся выдаць сябе за іншых асоб. Прасцей гэта было рабіць у межах сваёй сацыяльнай групы, але эфектыўней было выйсці за яе рамкі. Такая сацыяльная мімікрыя станавілася паспяховай, калі злачынца выдаваў сябе за прадстаўніка больш нізкай сацыяльнай групы з ніжэйшым культурным і адукацыйным узроўнем. Напрыклад, у 1826 г. пасля забойства на дуэлі праціўніка памешчык Валынскай губерні дваранін Аліцкі некаторы час хаваўся ў Мінскай губерні ў горадзе Мазыры “под другим именем и в звании простолюдина”. З Мазыра ён перабраўся пад Пінск у маёнтак знаёмага памешчыка, дзе выдаваў сябе за лакея. Урэшце дваранін Аліцкаму ўдалося атрымаць фальшывы пашпарт на чужое імя і выехаць у Парыж[16].

Разбойнікі і правапарушальнікі з прыгонных сялян і збеглых рэкрутаў маглі называцца іншымі імёнамі, хлусіць адносна роду дзейнасці, месца нараджэння, узросту, матрыманіяльнага становішча і г. д., але не маглі схавацца за межамі сваёй сацыяльнай групы. Яны, знаходзячыся на ніжэйшай прыступцы сацыяльнай лесвіцы, з-за непісьменнасці і іншага культурнага асяроддзя не мелі шанцаў паспяхова выдаваць сябе за прадстаўнікоў вышэйшых саслоўяў. Але здараліся рэдкія выключэнні.

Дваранін Эразм Броніш з’явіўся ў Мінску ў чэрвені 1845 г.[17]. У адпаведнасці з правіламі ён пайшоў у Мінскую

[16] НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 273. Арк. 2адв.
[17] Тамсама. Арк. 19адв.

гарадскую паліцыю, дзе прад'явіў пашпарт і від на жыхарства[18]. У дакуменце, напісаным на гербавай паперы коштам 90 капеек з пячаткай рэжыцкага земскага суда, гаварылася: "По Указу Его Величества Государя императора Николая Павловича Самодержца Всероссийского <…> Витебской губернии Режицкого уезда Дворянин Еразм Адамов Брониш следует по собственным его делам в разные города <…> Всероссийской империи, которому благословенно было чинить свободный пропуск и беспрепятственное прожительствование в течении одного года. В чем и дан сей паспорт из Режицкого земского суда по <согласию> г-на здешнего Уездного Предводителя дворянства от 3 ноября 1845 г. № 449 на основании Указа Правительствующего Сената составленного в 7 день января 1835 года"[19].

Вырашыўшы ў гарадской паліцыі ўсе фармальнасці, Эразм Броніш пачаў абжывацца на новым месцы. Спачатку ён зняў кватэру на Францысканскай вуліцы ў доме яўрэя Гіршы Колграда, дзе пражыў каля трох тыдняў, а потым пачаў кватараваць у доме Шымона Фрыдэля (які займаў Айзік Бандэш) на Зыбіцкай вуліцы[20]. "Нанимал стол" Броніш у мінскай гараджанкі Канапліцкай[21], таксама харчаваўся ў карчме Цыбульскага[22]. Клапоцячыся пра чысціню вопраткі і знешні выгляд, ён карыстаўся паслугамі мясцовай прачкі[23]. На працягу часу свайго знаходжання ў Мінску Эразм Броніш імкнуўся наладзіць розныя кантакты і завесці знаёмствы. Па словах карчомных служак Францішка і Марыі, Броніш разам з мясцовымі чыноўнікамі (Марыя дакладна памятала паліцэйскага чыноўніка Савіцкага[24]) заходзіў у карчму Цыбульскага і "делал им угощения". Таксама ён хадзіў з імі "по всем кондитерским и кофейным домам"[25].

[18] НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Спр. 3595. Арк. 55.
[19] Тамсама. Арк. 29.
[20] Тамсама. Арк. 19адв., 21(б).
[21] Тамсама. Арк. 19адв.
[22] Тамсама. Арк. 8.
[23] Тамсама. Арк. 88адв.
[24] Тамсама. Арк. 19адв.
[25] Тамсама. Арк. 8.

Праўда, спроба наладзіць кантакт не заўсёды была паспяховай. Аднойчы, жадаючы звесці знаёмства з мінскім капельмайстрам Стэфановічам, Броніш пайшоў у гарадскі будынак, дзе месцілася “городская музыка” (знаходзіліся музычная школа і кватэра капельмайстра). Аднак да Стэфановіча ён з’явіўся ў нецвярозым стане і “склонял его идти вместе пить вино”. Калі капельмайстар ад гэтай прапановы адмовіўся, Броніш дастаў з кішэні “два трехрублёвых депозитные билеты” і прасіў служак прынесці шампанскае ў кватэру Стэфановіча. Музыкам жа загадаў граць што-небудзь для задавальнення.

Стэфановіч быў разззлаваны такімі паводзінамі візітоўца. Пакінуўшы Броніша ў класнай музычнай зале, ён накіраваўся ў горад. Пасля гэтага музыкі выконвалі для Броніша “некоторые пьесы, но запрещенные вовсе не играли, хотя и просил их о том”[26]. Па сведчанні Стэфановіча, Эразм Броніш з самага пачатку патрабаваў, каб музыкі гралі яму “похоронный марш злоумышленника эмисара Конарского[27], расстреляного в Вильне с другими ему подобными”[28]. На думку капельмайстра Стэфановіча, паліцыя павінна была прыняць “меры предосторожности” наконт палітычна нядобранадзейнага двараніна Броніша. Аднак адразу пра гэты інцыдэнт капельмайстар не данёс ні квартальным, ні прыставу часці Сушчынскаму[29].

Калі не ўлічваць візіт да капельмайстра Стэфановіча, дваранін Эразм Броніш не выклікаў ніякіх падазрэнняў ні ў жыхароў, ні ў ахоўнікаў правапарадку. Так, у лістападзе 1845 г. квартальны наглядчык Быкоўскі разам з яшчэ адным квартальным наглядчыкам Вернікоўскім, “отправясь по долгу службы во вверенный квартал”, пачаў правяраць

[26] Тамсама. Арк. 19адв.

[27] Шыман Канарскі (1808–1839) – удзельнік паўстання 1830–1831 гг., быў у эміграцыі ў Францыі. Нелегальна вярнуўся ў Расійскую імперыю і стварыў у Валынскай, Падольскай і беларуска-літоўскіх губернях таварыства “Садружнасць польскага народа” (1835–1838). У траўні 1838 г. быў арыштаваны і 27 лютага 1839 г. расстраляны ў Вільні.

[28] НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Спр. 3595. Арк. 8.

[29] Тамсама. Арк. 8, 20.

дамы на Зыбіцкай вуліцы. Нарэшце яны зайшлі ў дом Фрыдэля, у арандатара Айзіка Бандэша запатрабавалі дамавую кнігу і запыталіся, хто тут жыве. Бандэш адказаў, што нікога з іншагародніх няма, акрамя двараніна Броніша, які кватаруе ўжо з паўгода[30]. Каб больш даведацца пра гэтага пастаяльца, квартальныя наглядчыкі пайшлі ў названую кватэру.

Эразм Броніш быў дома і прад'явіў праваахоўнікам зарэгістраваны ў гарадской паліцыі пашпарт. Па сведчанні квартальных наглядчыкаў, гэты дакумент і “вежливое обращение” не выклікалі ў іх ніякіх падазрэнняў. Агледзеўшыся, яны ўбачылі ў кватэры шмат добрых рэчаў. Асаблівую ўвагу звярнулі на пару пісталетаў замежнай вытворчасці «с вызолоченными стволами и приложенными к ним старинными гербами на коих была довольно неприметная надпись совершенно мелкими польскими буквами: “Bog mi pow honor Polakowi”»[31]. На пытанне пра іх паходжанне Эразм Броніш адказаў, што пісталеты “его собственные доставшиеся ему от давних времен по наследству”. Пабачыўшы цікавасць паліцэйскіх да гэтай зброі, дадаў, што “он ныне, нуждаясь в деньгах, может продать за сходную цену”. Быкоўскі і Вернікоўскі параіліся і вырашылі, што “на сих пистлетах можно заработать»[32]. Урэшце іх набыў Быкоўскі і хутка перапрадаў памешчыку Яўстафію Тышкевічу[33].

Тым часам у Мінскую губерню быў камандзіраваны выконваючы абавязкі прыстава першай паліцэйскай часці горада Віцебска губернскі сакратар Паплаўскі. Ён быў накіраваны віцебскім губернатарам М. М. Кляменцьевым для вышуку злачынцаў, “совершавших значительные воровства по Витебской губернии”. Калі больш дакладна, у кастрычніку 1845 г. у Дрысенскім павеце ў маёнтку памешчыкаў Храпавіцкіх шасцю чалавекамі была абрабавана карчма Пушчавых. У ходзе следства паліцыі ўдалося высветліць імёны асноўных рабаўнікоў: Яўген Чарняўскі, Іван Чарноў і тры

30 Тамсама. Арк. 21(б).
31 Тамсама. Арк. 21(б)адв.
32 Тамсама.
33 Тамсама. Арк. 22.

браты Ульяноўскія – Мікалай, Сяргей, Фадзей. На падставе некаторых звестак з'явілася версія, што гэтыя злачынцы, даведаўшыся пра пераслед, уцяклі ў Мінскую губерню ў Бабруйскі павет "к тамошним раскольникам" (сярод якіх жылі два браты Ульяноўскія – Іван і Філімон). У Мінску ж, па меркаванні віцебскай паліцыі, злачынцы знялі кватэру, у якую "отправлены все лучшие ворованные вещи"[34].

28 снежня 1845 г. прыстаў першай часці Віцебска Паплаўскі прыбыў у Мінск і пры дапамозе мінскіх паліцэйскіх спрабаваў знайсці сляды злачынцаў. Аднак гэтыя высілкі не прынеслі плёну, і ўжо 31 снежня 1845 г. Паплаўскі паехаў для далейшых вышукаў у Бабруйск. Аднак у мінскай паліцыі ён пакінуў дакументы з апісаннем рабаўнікоў і крадзеных рэчаў "для наблюдения не появятся ли они в Минске"[35]. Менавіта гэтыя паперы ўбачыў наглядчык першага квартала Вернікоўскі і 10 студзеня 1846 г. паведаміў начальству, што па прыкметах, пакінутых віцебскім приставам, ім, верагодна, знойдзена кватэра, якая выкарыстоўвалася злачынцамі як сховішча. Аказалася, што гэта была кватэра двараніна Эразма Броніша[36].

Паліцыя накіравалася ў дом на Зыбіцкай, аднак дзверы ў кватэру двараніна Броніша былі замкнёныя на два замкі, а самога гаспадара не было не толькі дома, але і ў горадзе. На выпадак вяртання Броніша каля кватэры пакінулі вартавых. Тым часам паліцэйскае начальства распарадзілася правесці вобшук у кватэры, для чаго тэрмінова прызначылі следчую камісію. У чатыры гадзіны пасля палудня гэтая камісія на чале з квартальным Вернікоўскім зрабіла вобшук. Пазней Вернікоўскі атрымаў паведамленне, што Броніш з'явіўся ў Мінску. Яго бачылі на гнядой кабыле на заезным двары селяніна Крывашэева[37].

Эразм Броніш паспрабаваў уцячы, але быў схоплены і змешчаны пад варту. Пры затрыманні ў яго адабралі: наяўныя грошы (50 руб. 64 кап.); каня, вупраж і сані; срэбны

[34] Тамсама. Арк. 64, 78 адв.–79.
[35] Тамсама. Арк. 64.
[36] Тамсама. Арк. 78адв.
[37] Тамсама. Арк. 64–64адв., 78адв.–79.

кішэнны гадзіннік; халат бронзавага колеру; дзве штукі "жилетов материальных новых"; штаны суконныя чорныя; два "шейных платков материальных"; футра "из сивых овец", пакрытае сукном; падушку; "бумажный полощенный платок"; 6 срэбных сталовых лыжак; 6 чайных срэбных лыжачак; партфель чырвонага саф'яна; бронзавую заточаную спражку; двухствольную стрэльбу; парахаўніцу; "машинку на пистоны"; замшавую шротніцу і два патроны; каляровую насоўку. Усе гэтыя прадметы былі апісаны належным чынам[38].

Сам жа Эразм Броніш па прыкметах са спіса віцебскага прыстава Паўлоўскага аказаўся падобным на "главного из преступников" атамана шайкі Яўгена Чарняўскага, які даўно знаходзіўся ў вышуку[39]. Аднак пасля арышту Броніш "к действительному своему званию не признался" і на допыце 10 студзеня 1846 г. сцвярджаў, што сапраўды з'яўляецца дваранінам Эразмам Бронішам. Ён пераканаўча даводзіў паліцыі, што пяць гадоў да гэтага займаўся "измерением шоссе при городах Опочке и Острове", а цяпер імкнецца дзе-небудзь узяць на ўтрыманне фальварак. Паліцэйскія нічым не маглі абвергнуць гэтыя паказанні, як і іншыя ягоныя "изветы к сокрытию своих преступлений"[40].

Упартасць Броніша была зламана толькі дзякуючы таму, што 12 студзеня 1846 г. прыставы Паплаўскі і Сушчынскі прывезлі з Бабруйскага павета ў Мінск двух братоў Навума і Фадзея Ануфрыевых, якія некалі разам з Чарняўскім удзельнічалі ў грабяжах. Пад час вочнай стаўкі яны "уличали его в действительном его звании". Урэшце на допыце 14 студзеня 1846 г. дваранін Эразм Броніш прызнаўся, што ён сапраўды Яўген Чарняўскі, прыгонны селянін памешчыка Люцынскага павета Віцебскай губерні Адама Баніслаўскага[41].

У 1844 г. прыгонны селянін Яўген Чарняўскі, у змове з братам і бацькам, украў лён у карчме Дзісенскага павета. Паліцыя злодзеяў злавіла, але ў студзені 1845 г. пад час канваіравання на "становую квартиру" (у памяшканне,

[38] Тамсама. Арк. 88–88адв.
[39] Тамсама. Арк. 64.
[40] Тамсама. Арк. 79адв.
[41] Тамсама.

дзе знаходзілася паліцыя) Яўген Чарняўскі ўцёк і працягнуў "заниматься воровством и грабежом для улучшения своего состояния". Ведаючы пра тое, што ў ягонага ўладальніка ёсць добры капітал, Чарняўскі залез да яго ў дом і забраў грошы (319 рублёў срэбрам) і некаторыя рэчы[42]. Потым адзін украдзены пярсцёнак паспрабаваў прадаць у карчме Вальтэры бліз Дынабурга нейкаму Блафеевічу. Там Чарняўскага зноў затрымала паліцыя, але і на гэты раз яму пашанцавала ўцячы з-пад варты[43].

Самым блізкім месцам, дзе можна было схавацца, быў Дынабург. Там Чарняўскі сустрэўся са сваім старым знаёмым Бернатовічам. Апошні калісьці служыў у Вількамірскім павеце ў мястэчку Кутшты ў станавога прыстава Швайлоўскага, а потым быў пісарам у казённым маёнтку Анікшты. Адметна, што Бернатовіч ведаў некалькі моў – літоўскую, польскую, рускую, нямецкую і крыху французскую. Канцылярскі досвед, сувязі, а таксама дастатковая адукаванасць далі яму магчымасць якасна падрабляць дакументы. Гэтым і скарыстаўся Яўген Чарняўскі.

Знаёмцы сустрэліся ў Рызе, куды Бернатовіч прыехаў па пашпарце на імя купца нямецкага паходжання Даля. Там ён перадаў Чарняўскаму фальшывыя дакументы на імя двараніна Броніша, з якімі той і выправіўся ў Мінск[44]. Паводле Яўгена Чарняўскага, Бернатовіч быў чалавекам невялікага росту з белым чыстым тварам, меў рудыя валасы, насіў бакенбарды і бараду, апранаўся заўсёды "по последнему журналу"[45]. Гэтыя прыкметы былі перададзены рыжскай гарадской паліцыі. Аднак у траўні 1846 г. рыжскі паліцмайстар паведаміў ліфляндскаму губернатару, што, нягледзячы на старанны вышук, гарадской паліцыі не ўдалося знайсці "обвиняемого в делании фальшивых паспортов Усцина Бернатовича"[46].

У той час калі Яўген Чарняўскі жыў у Мінску пад выглядам Эразма Броніша, ён некалькі разоў ездзіў у Дынабург.

[42] Тамсама.
[43] Тамсама. Арк. 80.
[44] Тамсама. Арк. 80–80адв; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 12040. Арк. 22.
[45] НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 12040. Арк. 22.
[46] Тамсама. Арк. 97.

Там у змове з Бернатовічам ён “напал на двор графини Бржостовской и ограбил оный”. Потым яны абрабавалі двараніна Мейчытовіча, а таксама нейкага святара ў мястэчку Себеж. Разбойнікі бралі розныя рэчы – ад срэбных лыжак і відэльцаў да коней[47]. Пасля з украдзенымі рэчамі Яўген Чарняўскі вяртаўся ў Мінск і хаваў іх у кватэры на Зыбіцкай.

Пад час следства гэтыя рэчы былі ўнесены ў дакумент “Опись и оценка вещей по делу грабителя Чернявского или Брониша из подлинного дела”[48], у які з улікам рэчаў і грошай, адабраных пры затрыманні, была ўпісана 181 адзінка “предметов и денег” на суму 324 рублі 51 капейка[49]. Гэты аб’ёмны дакумент, па-першае, дае магчымасць уявіць сярэднія кошты і суадносіны цэн на рэчы і прадметы паўсядзённага ўжытку ў Мінску ў сярэдзіне XIX ст. (таму яны пакінуты ў ілюстрацыйных мэтах). Па-другое, вопіс дазваляе асобна вылучыць групу рэчаў і прадметаў, якія давалі магчымасць селяніну Яўгену Чарняўскаму падтрымліваць стыль жыцця двараніна Эразма Броніша, а па-трэцяе – вылучыць прадметы, якія ў сярэдзіне XIX ст. часта рабіліся аб’ектамі крадзяжу.

Знешні выгляд двараніна Яўгену Чарняўскаму дапамагаў падтрымліваць адпаведны гардэроб. У яго ўваходзілі: “шинель гранатового синяго сукна с шерстяною подбивкою плюсовым черным воротником” коштам 5 рублёў; “халат полосатый полушелковой материи подбитый пёстрым ситцем на вате (хлопкобумажный)” (1 руб.); атласная камізэлька з белымі кветкамі (75 кап.); камізелька белая на белай падбіўцы (5 кап.); суконная куртка аліўкавага колеру з каўняром (20 кап.); дзве паркалёвыя каляровыя і адна белая сарочкі (20 кап.); пяць палатняных кашуль (75 кап.); дзве пары споднікаў (30 кап.); сем манішак (35 кап.); дзесяць каўнерыкаў (10 кап.); тры пары манжэтаў (3 кап.). Вобраз дапаўнялі аксесуары: парасон з шаўковай тканіны (60 кап.) і два капшукі для тытуню – “биссерный в цветы с домминикатовою подбивкою” (30 кап.) і “биссерный с бронзовым золотом” (10 кап.)[50].

47 НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Спр. 3595. Арк. 80адв.
48 Тамсама. Арк. 86–88адв.
49 Тамсама. Арк. 89.
50 Тамсама. Арк. 86–86адв., 88адв.–89.

Праўда, разам з гэтымі рэчамі была знойдзена і іншая вопратка. У вопіс былі ўнесены: стары сурдут сіняга сукна са старым каўняром і разарванай подбіўкай (15 кап.); старыя штаны шэрага сукна (20 кап.); штаны шэрага сукна з палатнянай подбіўкай (10 кап.); старая суконная камізэлька (2 кап.); кашуля, споднікі, два "утиральника" і палатняная торба (4 кап.); пара старых скураных ботаў (5 кап.); пара старых з чорнай скуры "рускіх" ботаў (10 кап.); дзве пары старых шкарпэтак (2 кап.). Разам з мужчынскім адзеннем у кватэры Чарняўскага паліцыя знайшла і прадметы жаночага гардэробу, верагодна, крадзеныя: чорная мантылья "подбитая коленкором на вате" (1 руб.), жаночы салоп цёмна-зялёнага колеру з плісавым чорным каўняром "подбитый коленкором на вате" (1 руб. 20 кап.), а таксама чатыры пары жаночых панчох («две под буквами "ПМ" и две бумажные под буквами "АЦ"») (10 коп.)[51].

Са спіса рэчаў відаць, што Чарняўскі імкнуўся зрабіць свой побыт у Мінску дастаткова камфортным. У яго было дзве "перины сыпаные" вагой 35 фунтаў (4 руб. 50 кап.), дзве падушкі паласатыя "сыпаные с лощевыми наволочками" вагой 12 фунтаў (1 руб. 50 кап.), падушка ў скураной насыпцы (60 кап), дзве прасціны (60 кап.), белая паркалёвая навалка (60 кап.), чатыры штукі "утиральников" (20 кап.)[52].

З прадметаў мэблі ў паліцэйскі вопіс трапіў толькі туалетны столік "из красного дерева облеченный бронзом с зеркалом в средине с выдвижными ящиками, в коем в правой прегородке две бритвы в черных костяных черешках на них; во второй – одна бритва в черешках красного дерева, две бритвы в особом красном футляре с белыми черешками, булавка с костяною слоновою ручкою, кисть для бритья. В другом ящике старого чекана медною манетою 7 штук, мельница свинцовая, под низом тайник, в котором найден перочинный нож, под сим еще <…> в котором найдено маленьких пилочек пять. Всё это оценено в 8 рублей"[53]. У кватэры Чарняўскага былі разнастайныя

[51] Тамсама. Арк. 86–88.
[52] Тамсама.
[53] Тамсама. Арк. 87–87адв.

гадзіннікі: "часы стеклянные на пружине с медными весами суточные" (2 руб.), "часы каретные четвероугольные деревянной оправы суточные" (2 руб. 50 кап.), "часы компасные солнечные медные" (1 руб. 50 кап.), а таксама яшчэ адзін (першы быў адабраны ў Чарняўскага пры затрыманні) срэбны кішэнны гадзіннік (75 кап.). Да таго ж у вопіс трапілі дзве падзорныя трубы (першая коштам 2 руб., другая зламаная – 50 кап.), дзве табакеркі – "каменная оправленная в французское золото" (3 руб.) і "курантовая" (музычная. – *Н. А.*) коштам 2 руб. 50 кап.[54].

Мажліва, Яўген Чарняўскі бавіў вольны час за музыкай, бо ў паліцэйскім вопісе знаходзім іспанскую гітару (75 кап.) і "книгу под названием испанской 8-ми струнной гитары" (5 кап.). Акрамя таго былі выяўлены "книга польская хозяйственная" (5 кап.), а таксама гаспадарчыя інструменты: абцугі жалезныя (3 кап.), абцужкі маленькія жалезныя (3 кап.), "шруботок железный столовый и три напильника" (30 кап.), два старыя нажы (2 кап.) і г. д.[55].

Да іншай групы адносяцца рэчы і прадметы, якія можна было прадаць без вялікага клопату і рызыкі – посуд і сталовае начынне. Ювелірныя вырабы ў першай палове XIX ст., нават калі і не былі творамі мастацтва, заставаліся вырабамі ўнікальнымі. Ювеліры ("золотых и серебряных дел мастера") абавязаны былі атрымаць пасведчанне ў губернскай прабірнай палаце[56] на вытворчасць вырабаў, з'яўляцца туды "к сплавке и клеймению своих изделий" і да выплаты пошліны ў казну. Усё гэта рабіла крадзеныя ювелірныя вырабы пазнавальнымі і ў выпадку продажу (у чым Чарняўскі мог пераканацца на ўласным досведзе), і ў выпадку выкарыстання іх па прызначэнні – у якасці ўпрыгожанняў. У адрозненне ад ювелірных упрыгожанняў вытворчасць посуду і сталовага начыння была больш масавай, серыйнай. Такім чынам вышук крадзенага посуду для паліцыі быў больш

[54] Тамсама. Арк. 89.
[55] Тамсама. Арк. 87–87адв.
[56] Прабірная палата – установа для вызначэння якасці і колькасці каштоўных металаў (золата, срэбра, плаціны) у рудах, злітках і вырабах, а таксама для накладання прабірнага кляйма на вырабы з пазначэннем колькасці частак чыстага золата і срэбра.

складаным. Істотная вага срэбных сталовых прадметаў рабіла выгадным іх продаж ювелірам для пераплаўкі.

У адпаведнасці з паліцэйскім вопісам у кватэры Яўгена Чарняўскага знаходзіўся вельмі разнастайны посуд: новы самавар жоўтай медзі вагой 15 фунтаў (2 руб. 50 кап.), паднос пад самавар жоўтай медзі вагой 4 фунты (60 кап.), паднос жалезны (10 кап.), шэсць шклянак (10 кап.), пяць чайных "блюдок" (5 кап.), "хрустальная блюдочка" (2 кап.), дзве "салатки" сіняга шкла (2 кап.), дзве "вазки" і дзве талеркі (10 кап.). Акрамя таго, у спісе былі: тазік варшаўскага срэбра (20 кап.); кілішак "таково ж серебра вызолотою" (50 кап.); чатыры чайныя лыжачкі варшаўскага срэбра (20 кап.); шчыпцы да цукру варшаўскага срэбра (15 кап.)[57].

Што да сталовага срэбра, то гэта былі не ўсе крадзеныя рэчы. У ходзе следства стала вядома, што Яўген Чарняўскі ўжо прадаў у Мінску мясцовым яўрэям са сталовага срэбра – 12 сталовых лыжак і відэльцаў, 10 чайных і адну "блюдную ложку"[58]. Усе гэтыя прадметы, праз пасярэдніцтва яўрэя Вігдарчыка, набыў мінскі "серебряных дел мастер" яўрэй Файн. Але пры ўсіх намаганнях паліцэйскім не ўдалося высветліць, каму ён, у сваю чаргу, гэта перапрадаў[59].

У Мінску следства па справе Чарняўскага скончылася ў пачатку 1846 г., і злачынцаў да судовага разбіральніцтва адправілі ў Дрысенскі павет Віцебскай губерні, дзе змясцілі ў турэмны замак. Аднак умовы ўтрымання галоўных разбойнікаў – Яўгена Чарняўскага і Мікалая Ульяноўскага – непакоілі мясцовых чыноўнікаў. Так, 8 сакавіка 1846 г. ваенна-павятовы начальнік I акругі Віцебскай губерні падпалкоўнік Арнольд паведаміў віцебскаму губернатару, што ёсць небяспека ўцёкаў. Таксама перасцярогу выказваў павятовы страпчы. Ён пісаў, што злачынцы Чарняўскі і Ульяноўскі знаходзяцца асобна ад супольнікаў, але могуць мець з імі стасункі пад час вываду на чорны двор па натуральнай патрэбе. На гэтым двары ёсць варта, але "слабость караула доказана опытами".

[57] НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Спр. 3595. Арк. 86–88.
[58] Тамсама. Арк. 80адв.
[59] Тамсама. Арк. 20.

У павятовага страпчага былі падазрэнні, што Яўген Чарняўскі і Мікалай Ульяноўскі ("уходившие прежде по поимке из под стражи") ужо паспелі падмануць каравул і мелі зносіны з іншымі арыштаванымі злодзеямі[60].

Каб прадухіліць магчымасць уцёкаў, павятовы страпчы прапанаваў змясціць Яўгена Чарняўскага ў "коморе", якую займалі жанчыны-арыштанткі. Гэтае памяшканне мела толькі адно акно, і хоць краты на ім былі слабыя, затое яно выходзіла на тое месца, дзе заўсёды знаходзіўся вартавы. Жанчын прапанавалі размясціць або ў памяшканні на другім паверсе, або ў пакоі вартаўнікоў земскага суда ці ў пакоі, якія займаў магістрат. Для магістрата было прапанавана арандаваць прыватны дом[61]. Нягледзячы на прынятыя меры, прадчуванне чыноўнікаў цалкам апраўдалася. У ноч з 25 на 26 сакавіка 1846 г. Яўген Чарняўскі і яго таварыш Фадзей Ануфрыеў уцяклі пад час іх вываду на чорны двор па натуральнай патрэбе[62].

Аднак удача канчаткова адвярнулася ад Яўгена Чарняўскага. Па данясенні дрысенскага земскага спраўніка ад 1 красавіка 1846 г. ён быў схоплены ў ноч з 31 сакавіка на 1 красавіка 1846 г. за чатыры вярсты ад Дрысы і пад строгай вартай зноў дастаўлены ў дрысенскую турму[63].

У сувязі з уцёкамі двух арыштантаў з дрысенскага турэмнага замка і наступным затрыманнем Яўгена Чарняўскага новы віцебскі губернатар М. М. Татарынаў атрымаў ліст ад віцебскага, магілёўскага і смаленскага генерал-губернатара М. А. Галіцына (3 красавіка 1846 г.) і ад міністра юстыцыі В. М. Паніна (12 красавіка 1846 г.). Генерал-губернатар патрабаваў: па-першае, каб М. М. Татарынаў накіраваў ваенна-павятовага начальніка падпалкоўніка Плаксоўскага ў Дрысу для правядзення следства ў турэмным замку; па-другое, каб з мэтай паляпшэння функцыянавання дрысенскага турэмнага замка частка арыштантаў, якія ўтрымліваліся за "маловажные"

[60] НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 12040. Арк. 43адв.
[61] Тамсама. Арк. 44.
[62] Тамсама. Арк. 62.
[63] Тамсама. Арк. 62–62адв., 64.

злачынствы, была пераведзена ў полацкую турму[64]. Таксама М. А. Галіцын паведаміў, што зрабіў строгую вымову дрысенскаму гараднічаму і абвясціў падзяку дрысенскаму земскаму спраўніку і тым, хто яму дапамагаў у затрыманні збеглага арыштанта[65]. Са свайго боку міністр юстыцыі В. М. Панін паведаміў віцебскаму губернатару, што, паводле рапарта дрысенскага павятовага страпчага, Яўген Чарняўскі пасля затрымання быў жорстка збіты "ружейными шомполами" адным з ніжэйшых чыноў дрысенскай інваліднай каманды і цяпер знаходзіцца ў вельмі хворым стане[66]. Міністр юстыцыі загадаў М. М. Татарынаву зрабіць неабходныя захады "к прекращению впредь подобных своеволий нижних чинов инвалидных команд"[67].

Нягледзячы на жорсткія пабоі, Яўгену Чарняўскаму ўдалося ачуняць, і ён яшчэ два гады знаходзіўся ў дрысенскай турме, пакуль яго справа разглядалася дрысенскім павятовым судом. Са свайго боку, павятовы суд у рапарце на імя віцебскага губернатара ад 3 сакавіка 1848 г. апраўдваў зацягнутасць гэтай справы не сваёй маруднасцю і малаэфектыўнасцю, а вялікім аб'ёмам крымінальнай справы, якая патрабуе большых ведаў і намаганняў[68].

З адпраўкай разбойніка Чарняўскага з Мінска ў Віцебскую губерню для мінскіх паліцэйскіх чыноў гісторыя не скончылася. Тое, што Яўген Чарняўскі паўгода жыў у Мінску як дваранін Броніш, для мінскага грамадзянскага губернатара А. В. Сямёнава аказалася з'явай незвычайнай. Ён лічыў малаверагодным, каб прыгонны селянін без знешняй дапамогі так паспяхова імітаваў паводзіны прадстаўніка вышэйшага саслоўя. Пад падазрэнне ў сувязях са злачынцам трапілі прыстаў Сушчынскі і квартальны наглядчык Быкоўскі, якія адказвалі за паліцэйскую часць і квартал, дзе жыў Чарняўскі.

У сувязі з гэтымі падазрэннямі з 18 лютага 1846 г. мінская гарадская паліцыя даслала мінскаму губернатару А. В. Сямёнаву рапарт квартальнага наглядчыка Быкоўскага, дзе ён

[64] Тамсама. Арк. 62адв.
[65] Тамсама. Арк. 63.
[66] Тамсама. Арк. 87.
[67] Тамсама. Арк. 87адв.
[68] НГАБ. Ф. 1430. Спр. 14133, Арк. 56.

апісваў, "каким порядком достались ему пистолеты, бывшие у преступника Брониша". Быкоўскі тлумачыў, якім чынам ён разам з Вернікоўскім трапіў у кватэру да Чарняўскага. Ні абстаноўка кватэры, ні паводзіны гаспадара, ні яго дакументы на імя Эразма Броніша не давалі падстаў падазраваць у ім злачынцу. Таму нядорага купленыя ў яго пісталеты падаваліся выгадным набыткам. У сваё апраўданне квартальны Быкоўскі тлумачыў, што калі быў арыштаваны Чарняўскі, ён моцна захварэў і не ведаў пра тое. Толькі калі ачуняў ад хваробы, то даведаўся, што Броніш – гэта злачынца Чарняўскі. Тады Быкоўскі вырашыў, што пісталеты, набытыя ў яго, – крадзеныя, і "в самое скорейшее время возвратил их от помянутого Тышкевича" і перадаў начальству[69].

Гэтыя тлумачэнні не пераканалі А. В. Сямёнава, і 10 красавіка 1846 г. ён загадаў чыноўніку па асаблівых даручэннях Сасноўскаму "сделать розыск и стараться открыть в какой мере справедливо возводимое на полицейских чиновников обвинение"[70]. Рапарт ад Сасноўскага быў пададзены 25 красавіка 1846 г. Фактычна ў ім апавядалася гісторыя з'яўлення і знаходжання ў Мінску Чарняўскага пад імем Броніша. Аднак непасрэднай сувязі з ім прystава Сушчынскага і наглядчыка Быкоўскага выяўлена не было[71]. Гэты адказ не задаволіў мінскага грамадзянскага губернатара, і ён 27 мая 1846 г. загадаў Сасноўскаму яшчэ раз пераправерыць факты[72].

Следства аб нядобранадзейнасці паліцэйскіх працягнулася і ў 1847 г. Замест Сасноўскага яно было даручана чыноўніку па асаблівых даручэннях Пржыгодскаму і мінскаму павятоваму страпчаму Акулічу. Яны вырашылі яшчэ раз узяць тлумачэнні ў Сушчынскага, які на той момант быў прызначаны приставам першай Вастрабрамскай часці горада Вільні. Следчыя адаслалі яму запыт 24 верасня 1847 г., а адказ атрымалі толькі 11 сакавіка 1848 г. Сушчынскі яшчэ раз паўтарыў, што ў паліцыі не

[69] НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Спр. 3595. Арк. 22.
[70] Тамсама. Арк. 19.
[71] Тамсама. Арк. 19–20.
[72] Тамсама. Арк. 5.

было "повода воспретить пребывание" Бронішу ў Мінску. Пра тое, што Броніш аказаўся разбойнікам Чарняўскім, Сушчынскі даведаўся, калі знаходзіўся ў Бабруйскім павеце, дзе вёў следства пра напад на памешчыка Прушынскага, "а до этого не имел никакого повода задержать"[73].

Верагодна, чыноўніку па асаблівых даручэннях Пржыгодскаму і мінскаму павятоваму страпчаму Акулічу, як і раней чыноўніку па асаблівых даручэннях Сасноўскаму, не ўдалося знайсці дадатковых звестак пра сувязь Сушчынскага і Быкоўскага з Яўгенам Чарняўскім. І ў 1850 г. "вопрос о знакомстве полицейских с преступником" яшчэ не быў канчаткова вырашаны. Чарговаму следчаму па гэтай справе асэсару Мінскага губернскага праўлення Зяневічу таксама не ўдалося знайсці новых улік супраць Сушчынскага і Быкоўскага. Яго вышук паказаў, што асноўныя сведкі дзеўка Марыя і лакей Францішак, па паказаннях карчмара Цыбульскага, зніклі. Першая з'ехала невядома куды, а Францішак у час халеры памёр у гарадскім шпіталі[74]. У выніку справа аб нядобранадзейнасці мінскіх паліцэйскіх скончылася сама сабой.

Гісторыя разбойніка прыгоннага селяніна Яўгена Чарняўскага ў сваім родзе была ўнікальнай. Дакументы не адлюстроўваюць умоў яго выхавання і ўзроўню адукацыі, хоць дакладна ён быў пісьменны. Малаверагодна, што ён мог атрымаць паўнавартасную дваранскую адукацыю, але, магчыма, культурныя міжсаслоўныя бар'еры былі ніжэйшыя, чым уяўляецца. Дзякуючы сваім прыродным здольнасцям, назіральнасці і авантурнасці доўгі час яму ўдавалася паспяхова імітаваць лад жыцця, стыль і манеры прадстаўніка высакароднага саслоўя. Ні прадстаўнікі ніжэйшага саслоўя (карчомныя слугі), ні ювеліры, ні гарадскі капельмайстар не выказвалі сумневаў наконт сапраўднасці двараніна Эразма Броніша. Прад'яўленыя дакументы і ўпэўненыя паводзіны "двараніна" ў паліцэйскіх чыноўнікаў таксама не выклікалі падстаў для падазрэння. Фальшывасць двараніна Броніша была раскрыта не з-за памылкі Яўгена Чарняўскага ў час знаходжання ў Мінску, а дзякуючы выпадку і збегу абставін.

[73] Тамсама. Арк. 55–55адв.
[74] Тамсама. Арк. 69, 94–94адв.

# Portraits of robbers in the Belarusian/Lithuanian governorates (from the history of everyday life in the 1st half of the XIX century)

**Natallia Anofranka**

Robberies, including violent ones, were widely spread in the Belarusian/Lithuanian lands in the first half of the nineteenth century. These types of crime were committed by members of different social groups, but most commonly the offenders were from the lower orders, e.g. runaway conscripts and bonded serfs. Unable to obtain legal status, they were pushed to resort to a life of crime, engaging in thefts and robberies. Criminals came to control certain areas, where they organised gangs through establishing contact and cooperation with others. They would sometimes pass themselves for other individuals in order to hide from the police by adopting other names and giving false personal details, such as age and address. It was easier to do so if the outlaw kept to his own social group. However, breaking social boundaries turned out more effective. The article explores a case of such social mimicry, when a runaway bonded serf Jaŭhien Čarniaŭski settled in Minsk. He passed himself for a nobleman for a long time, without raising any suspicions among either the local people or the police.

# Беларусы і Кангрэс нацыянальных меншасцяў у перыяд з 1925 да 1938 г.[1]

**Мічыхіра Ясуі**

Кангрэс нацыянальных меншасцяў – міжнародны форум, які ладзіўся дзеля салідарызацыі высілкаў нацыянальных дыяспар Еўропы з 1925 да 1938 г., – стаў унікальным досведам супрацоўніцтва нацыянальных меншасцяў у міжваеннай Еўропе. Гэты кангрэс быў заснаваны ў 1925 г. па ініцыятыве шэрагу прадстаўнікоў нямецкай дыяспары з краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у прыватнасці Прыбалтыкі.

У 1922 г. лідары нямецкай дыяспары ў краінах Еўропы ўтварылі Таварыства нямецкіх меншасцяў у Еўропе ("Verband der deutschen Minderheiten in Europa"), каб мець магчымасць каардынаваць свае дзеянні на аснове прызнання наяўных межаў. Як было заяўлена, мэта заключалася ў стварэнні такой арганізацыі, якая магла б служыць пляцоўкай для ўсіх еўрапейскіх нацыянальных меншасцяў і даваць ім магчымасць вырашаць супольныя праблемы. У жніўні 1925 г. латышскі немец, тэарэтык у галіне нацыянальнага права Пауль Шыман разам з італьянскім славенцам Ёсіпам Вілфанам і чэхаславацкім венграм Гезам Сюле выступілі са зваротам да нацыянальных меншасцяў Еўропы. Тады ж эстонскі немец Эвальд Амендэ

[1] Гэтая праца – частка плёну навуковых даследаванняў, прафінансаваных Японскім таварыствам папулярызацыі навукі (JSPS KAKENHI № JP19K01069) і польскай Нацыянальнай праграмай развіцця гуманістыкі (NPRH № 8124/MH/IH/14).

здзейсніў паездку па краінах Еўропы, у ходзе якой сустракаўся з лідарамі тамтэйшых нацыянальных дыяспар і пераконваў іх у неабходнасці супрацоўніцтва. У выніку ўсіх гэтых намаганняў 15 кастрычніка 1925 г. у Жэневе адбыўся першы Кангрэс нацыянальных меншасцяў.

Адметна, што афіцыйна ён называўся “Europäischer Nationalitätenkongress”, або “Congrès des nationalités européennes”, г. зн. без згадвання пра “меншасці”, хоць на самай справе гэта быў з’езд прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў, як слушна канстатуе польская назва (*Kongres Mniejszości Narodowych*), а таксама беларуская, якая ўжывалася ў крыніцах таго перыяду. Варта адзначыць, што названыя дзеячы нацыянальных дыяспар у кожнай са сваіх краін мелі статус парламентарыяў. Яны ўтварылі прэзідыум кангрэса. Старшынёй стаў Вілфан, які заставаўся на гэтай пасадзе да канца існавання кангрэса. Шыман і Сюле былі віцэ-старшынямі. У сваю чаргу, Амендэ ўзначаліў Генеральны сакратарыят кангрэса, які размясціўся ў Вене.

Гэты артыкул мае на мэце паказаць, якое дачыненне да Кангрэса нацыянальных меншасцяў на працягу яго існавання мелі беларусы. Згаданая тэма амаль не закранута як у беларускай гістарыяграфіі, так і ў даследаваннях, прысвечаных Кангрэсу нацыянальных меншасцяў[2].

Спачатку беларусы ставіліся да Кангрэса нацыянальных меншасцяў вельмі скептычна. Так, перад ад’ездам у Жэневу дэпутат Фабіян Ярэміч[3], які некалькі разоў быў

[2] Пра агульны ход кангрэса гл.: Bambergar-Stemmann S. Der Europäische Nationalitätenkongreß 1925 bis 1938. Marburg, 2000; Michaelsen R. Der Europäische Nationalitäten-Kongreß 1925–1928. Frankfurt / Main, 1984. Пра жыццёвы шлях Шымана і Амендэ гл.: Hiden J. Defender of Minorities: Paul Schiemann 1876–1944. London, 2004; Housden M. On their own behalf: Ewald Ammende and Europe’s National Minorities and the campaign for cultural autonomy 1920–1936. Amsterdam, 2014.

[3] Пра жыццёвы шлях гэтага важнага ў кантэксце нашай працы дзеяча гл.: Głogowska H. “Ja jak pradstaŭnik biełaruskaha narodu…”: Działalność Fabiana Jeremicza w Sejmie II Rzeczypospolitej i ruchu białoruskim // “Зъ зычливости ку моєи отчизнѣ”: Tom pamiątkowy dedykowany Profesorowi Mikołajowi Timoszukowi. Warszawa, 2017.

прадстаўніком беларусаў на кангрэсе, у інтэрв'ю ідышамоўнай варшаўскай газеце "Der Moment" дзяліўся такімі сваімі думкамі наконт першага кангрэса: "Хоць мы не ўтойваем, што будзем удзельнічаць у працы кангрэса і пастараемся паказаць наша становішча ў Польшчы, мы мала ўскладаем на яго надзей, бо наша становішча ў Польшчы кардынальна адрозніваецца ад становішча іншых меншасцяў у іншых краінах: напрыклад, шведаў ці датчан у Германіі і да т. п. Беларускаму насельніцтву ўласціва тэрытарыяльная кампактнасць, і яго патрэбы адрозніваюцца ад патрэб іншых меншасцяў, якія заключаюцца ў здабыцці пэўнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Зыходзячы з праграмы кангрэса, такія маштабныя патрабаванні, як нашы, там разглядацца не будуць. Такім чынам, кангрэс для нас не мае вялікага значэння. Тым не менш, ён мае істотнае значэнне ў агульным кантэксце нацыянальнага пытання, бо ўпершыню збяруцца разам прадстаўнікі нацыянальных дыяспар з усяго свету, у тым ліку тых дыяспар, якія маюць свае нацыянальныя дзяржавы, – напрыклад, палякі Літвы, немцы Польшчы і гэтак далей, – і ўсе разам яны будуць абмяркоўваць неправамерны прыгнёт меншасцяў тытульнымі нацыямі. Гэта пакладзе пачатак утварэнню аб'яднанага фронту меншасцяў, што варта вітаць"[4].

Прыгледзімся да таго, як праходзіў першы кангрэс (15–16 кастрычніка 1925 г.). 14 кастрычніка адбыліся папярэднія закрытыя кансультацыі прадстаўнікоў усіх меншасцяў, што меліся быць на з'ездзе. У справаздачы дэлегатаў кангрэса Міністэрству замежных спраў Польшчы паведамляецца: "14 кастрычніка прайшла агульная ўнутраная канферэнцыя ўсіх прадстаўнікоў дыяспар. <…> Адразу выявіўся падзел на наступныя групы: немцы, венгры і славенцы; палякі, лужычане і датчане; украінцы, беларусы, рускія, літоўцы і яўрэі. Па прапанове пана Станіслава Серакоўскага, польскага дэлегата ад Германіі, часовым старшынёй стаў Вілфан"[5].

[4] Chwila. 10.10.1925. № 2357. S. 6.

[5] Sprawozdanie z przebiegu Zjazdu mniejszości, odbytego w Genewie w dn. 14–16.X.1925 roku. Archiwum Akt Nowych (далей AAN). Sygn. 1588. K. 95–96.

У сваю чаргу, згодна з афіцыйнай справаздачай, падрыхтаванай прэзідыумам кангрэса, у гэтых кансультацыях поруч з Вілфанам і Серакоўскім удзельнічалі: Элемер Якабфі (венгр з Румыніі), Рудольф Брандш (немец з Румыніі), Леа Моцкін (яўрэй ад парыжскага Камітэта яўрэйскіх дэлегацый), Паўло Васыньчук (украінец з Польшчы), Фабіян Ярэміч (беларус з Польшчы), Аляксей Героўскі (карпатарусін з Чэхаславакіі), ксёндз Вінцас Заянчкаўскас (літовец з Польшчы), Эрнест Хрысціянсен (датчанін з Германіі)[6].

Паўло Васыньчук, дэпутат польскага сейма і прадстаўнік украінцаў Польшчы, заявіў, што нельга абмяжоўвацца раней заяўленай праграмай канферэнцыі. Ён сказаў: "Калі мы хочам міру, то павінны прызнаць прынцып самавызначэння народаў у адпаведнасці са статутам Лігі Нацый"[7]. Была выбрана падрыхтоўчая камісія, у якую ўвайшло па адным прадстаўніку ад кожнай меншасці. На паседжанні гэтай камісіі ўкраінцы і беларусы выступілі з прапановай пашырыць праграму кангрэса. У выпадку адхілення гэтай прапановы ўкраінцы прыстрашылі, што пакінуць з'езд. У адказ польская дэлегацыя ўнесла прынцыповую рэзалюцыю, паводле якой у аснове нацыянальных патрабаванняў меншасцяў павінна ляжаць лаяльнасць да дзяржаў, у якіх яны жывуць[8].

15 кастрычніка 1925 г. прайшло пленарнае паседжанне. Старшыня Ёсіп Вілфан выступіў з прывітальным словам, падкрэсліўшы, што дэлегаты з'езда рэпрэзентуюць 50 мільёнаў чалавек. Аднак «адразу выявілася асобная пазіцыя ўкраінскай і беларускай дэлегацый, – пісаў рэпарцёр варшаўскай сіяніскай газеты "Nasz Przegląd", якая належала да выданняў, што найбольш шырока асвятлялі кожны кангрэс. – Яны не лічаць сябе прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў і таму патрабуюць пашырыць праграму кангрэса

6 Compte-rendu de la première conférence des Groupes nationaux organisés des Etats Européens en 1925 à Genève / Sitzungsbericht der ersten Konferenz der organisierten nationalen Gruppen in den Staaten Europas im Jahre 1925 zu Genf. [Wien – Leipzig, 1926] (далей Compte-rendu / Sitzungsbericht). P. 12–13.

7 Nasz Przegląd. 15.10.1925. № 282. S. 1.

8 Тамсама.

так, каб яна ахапіла таксама тэрытарыяльныя і палітычныя патрабаванні. Як вядома, згодна з праектам арганізацыйнага камітэта, праграма кангрэса была зведзена да досыць абстрактнага пытання нацыянальнай талерантнасці і крыху вузейшага аспекту – арганізацыі самакіравання. Праблематыка нацыянальнага самавызначэння, вылучаная ўкраінцамі і беларусамі, не знаходзіць, аднак, шматлікіх прыхільнікаў. <…> Пасля выбараў прэзідыума ў ім акрэслілася процістаянне паміж украінска-беларускім блокам, сфармаваным на канферэнцыі, і астатнімі дэлегацыямі»[9]. Васыньчук і Ярэміч таксама былі выбраны ў склад прэзідыума[10], але адмовіліся прыняць свае мандаты. Ярэміч заявіў, што "беларускія і ўкраінскія дэлегаты застануцца на з'ездзе ў якасці назіральнікаў і не ўвойдуць у прэзідыум, бо папярэдняя канферэнцыя адхіліла іх прапанову звярнуцца на з'ездзе да праблем народаў, што жывуць на кампактнай тэрыторыі і імкнуцца да самавызначэння"[11].

На якой мове выступаў Ярэміч? Што да мовы форуму, то было вырашана: можна выступаць на любой мове, але толькі з нямецкай і французскай не вымагаўся пераклад. На практыцы амаль усе выступоўцы прамаўлялі па-нямецку. Цікава, што між палякаў Ян Качмарэк з Германіі і Леан Вольф з Чэхаславакіі, адзначыўшы спачатку, што робяць гэта, каб пазбегнуць затрымак і цяжкасцей з перакладам, выступалі па-нямецку, тады як Серакоўскі, паляк з Германіі, карыстаўся французскай мовай. Ярэміч прамаўляў па-беларуску, а Алена Леўчаніўская – сенатар польскага парламента і член секцыі ўкраінцаў Польшчы (у інфармацыі "Naszego Przeglądu"яна памылкова была названа беларускай) – пераклала сваё выступленне на нямецкую мову, адзначыўшы, што ўкраінцы і беларусы складаюць трэцюю частку насельніцтва польскай дзяржавы. Ярэміч абвясціў, што ён, як і ўкраінцы Польшчы, застанецца на кангрэсе ў якасці назіральніка, пакуль не будзе ўхвалена пашырэнне праграмы[12].

9 Nasz Przegląd. 18.10.1925. № 285. S. 6.
10 Nasz Przegląd. 16.10.1925. № 283. S. 3.
11 Тамсама.
12 Nasz Przegląd. 18.10.1925. № 285. S. 6.

Супраць прапановы польскіх беларусаў і ўкраінцаў выступіла большасць удзельнікаў кангрэса, бо яна супярэчыла самой яго канцэпцыі – якая ставіла ў цэнтр увагі жыццё меншасцяў у наяўных дзяржавах, а не праблемы буйных нацыянальных дыяспар, што апынуліся пад юрысдыкцыяй чужаземных дзяржаў. Серакоўскі, дэлегат ад палякаў Германіі, катэгарычна запярэчыў супраць прыняцця гэтай прапановы, заявіўшы, што "ўкраінска-беларуская дэкларацыя змяшчае канкрэтнае пытанне наконт канкрэтнай краіны. З гэтай прычыны ён лічыць, што згаданая дэкларацыя не павінна далучацца да пратакола, а яе трэба разглядаць як прыватнае пасланне"[13].

Як мы бачым, у ходзе першага кангрэса беларусы і ўкраінцы Польшчы не ўдзельнічалі ў дыскусіях, застаючыся назіральнікамі. На другім Кангрэсе нацыянальных меншасцяў, які адбыўся ў жніўні 1926 г. у Жэневе, высветлілася, што стаўленне беларусаў і ўкраінцаў Польшчы да кангрэса ніяк не памянялася. Другі Кангрэс нацыянальных меншасцяў прайшоў 25–27 жніўня 1926 г. у Жэневе. На ім зноў прысутнічала дэлегацыя беларусаў і ўкраінцаў Польшчы. Дэлегатам ад беларусаў другі раз стаў Фабіян Ярэміч. У сваю чаргу, украінцаў Польшчы прадстаўлялі Дмытро Лявіцкі, Міхайла Чаркаўскі і Аляксандр Марытчак. Варта падкрэсліць, што дэлегатамі ад украінцаў на папярэднім кангрэсе былі выключна ўкраінскія палітыкі з Валыні, тады як на другі кангрэс ад украінцаў Польшчы выправіліся і актывісты УНДА (Украінскага нацыянальна-дэмакратычнага аб'яднання) з Усходняй Галіччыны. Валынскіх украінскіх палітыкаў прадстаўляў сенатар польскага парламента Чаркаўскі, які быў у спісе ўкраінскай дэлегацыі з Польшчы і на папярэднім кангрэсе. Лявіцкі быў дэпутатам сейма другога склікання, а таксама старшынёй УНДА. Нягледзячы на гэта, згаданыя ўкраінскія палітыкі гэтак жа негатыўна ставіліся да рэгламенту прэзідыума Кангрэса, як і іх папярэднікі. 25 жніўня дэлегацыі

[13] Тамсама. На самай справе гэтыя дэкларацыі не трапілі ў справаздачу кангрэса, выдадзеную прэзідыумам (гл.: Compte-rendu / Sitzungsbericht).

ўкраінцаў, беларусаў і літоўцаў Польшчы выступілі з супольнай дэкларацыяй, у якой гаварылася: "Як вядома, нашы прадстаўнікі на першай нацыянальнай канферэнцыі, што прайшла ў Жэневе летась, заявілі, што не могуць удзельнічаць у працы кангрэса і што, з прычыны пазначаных у дэкларацыі матываў, імкнуцца да рэалізацыі права на поўнае самавызначэнне. Дзеля гэтага нашы прадстаўнікі прапанавалі пашырыць праграму канферэнцыі ў згаданым кірунку. Камітэт канферэнцыі не прыняў нашай прапановы. Тэматыка сёлетняга кангрэса засталася такой жа вузкай, як была дагэтуль. Паколькі мы разглядаем прынцып самавызначэння нацый як неабходны зыходны пункт для іх палітычнага развіцця і як гарантыю мірнага суіснавання народаў, мы і сёлета не можам удзельнічаць у працы кангрэса. Незалежна ад пералічаных прычын, мы лічым, што праца кангрэса нават у гэтых вузкіх рамках павінна вітацца і што яна заслугоўвае нашых самых цёплых пажаданняў. З увагі на гэта мы вырашылі прысутнічаць на кангрэсе ў якасці назіральнікаў"[14].

Пасля доўгіх перамоваў з прэзідыумам кангрэса польскія беларусы і ўкраінцы вырашылі ўдзельнічаць у ім толькі ў якасці назіральнікаў, бо ў магчымасці абмеркавання тэрытарыяльных пытанняў зноў было адмоўлена[15]. Натан Швальбе, рэпарцёр "Naszego Przeglądu", які сачыў за ходам кангрэса, пісаў: «З імі доўга і цярпліва вялі перамовы, шмат якія прадстаўнікі меншасцяў спрабавалі ўгаварыць іх пайсці на кампраміс, які ўсё ж не вымагаў бы поўнай адмовы ад незалежніцкіх пастулатаў. У якасці прыкладу можа служыць факт допуску на кангрэс каталонскай дэлегацыі, які стаў магчымым усяго толькі пасля абвяшчэння яе ўдзельнікамі дэкларацыі, што, прымаючы ўмовы аргкамітэта, яны, як прадстаўнікі народа, расселенага на кампактнай тэрыторыі, не адмаўляюцца ад сваіх больш шырокіх прэтэнзій. Як бы там

[14] Nasz Przegląd. 30.08.1926. № 240. S. 2; Sitzungsbericht des Kongresses der Organisierten Nationalen Gruppen in den Staaten Europas. Genf, 25–27. August 1926. [Wien – Leipzig, 1927.] S. 26–27.

[15] Nasz Przegląd. 22.08.1926. № 232. S. 5; 26.08.1926. № 236. S. 2; Nowy Dziennik. 29.08.1926. № 196. S. 3; Chwila. 28.08.1926. № 2674. S. 7; Droga. № 11 (Listopad 1926). S. 50.

ні было, у канчатковым выніку ўкраінцы і беларусы зніклі з афіцыйнага спіса дэлегатаў і прысутнічалі на Кангрэсе як "назіральнікі", пазбаўленыя нават права браць слова. Гэтай самагубчай тактыкай ахвотна скарысталіся дэлегаты рускай меншасці Польшчы, якія толькі сёлета вырашылі прыехаць на з'езд»[16]. Цікава, што аўтар гэтай нататкі, як мы бачым, звярнуў увагу на прыклад каталонцаў, якія пагадзіліся прыняць агульны рэгламент і пачынаючы з другога кангрэса актыўна ўдзельнічалі ў дыскусіях, не адмаўляючыся пры гэтым ад пастулату пра неабходнасць тэрытарыяльнай аўтаноміі для меншасцяў, якія жылі ў адпаведных краінах кампактна.

Трэці кангрэс прайшоў 22–24 жніўня 1927 г. зноў у Жэневе. На гэтым форуме было 13 нацыянальных дыяспар (харвацкая, чэхаславацкая, дацкая, каталонская, нямецкая, польская, руская, славенская, славенска-харвацкая, сербалужыцкая, украінская, венгерская, яўрэйская), якія агулам налічвалі, як пісалі газеты, 40 мільёнаў чалавек у розных краінах Еўропы. Найбольш уплывовым было згуртаванне прадстаўнікоў нямецкай дыяспары, якое ўключала ў сябе дзевятнаццаць дэлегатаў з сямі краін (Польшчы, Даніі, Эстоніі, Латвіі, Венгрыі, Югаславіі, Румыніі, Чэхаславакіі). З ёю спаборнічала група прадстаўнікоў польскай меншасці (шэсць дэлегатаў з Германіі, Літвы, Латвіі і Чэхаславакіі), якія цесна кааперакаліся з трыма дацкімі і адным сербалужыцкім дэлегатам з Германіі. У сваю чаргу, прадстаўнікі яўрэйскай меншасці (адзінаццаць дэлегатаў з Польшчы, Літвы, Латвіі, Чэхаславакіі, Румыніі, Балгарыі, а таксама ад Камітэта яўрэйскіх дэлегацый у Парыжы) выконвалі ролю трэцяй сілы.

Галоўнай тэмай гэтага кангрэса стала залучэнне ў якасці ўдзельнікаў форуму прадстаўнікоў новых нацыянальных меншасцяў, а менавіта фрызаў і літоўцаў Германіі, македонцаў Югаславіі, а таксама ўкраінцаў, беларусаў і літоўцаў Польшчы[17].

[16] Nasz Przegląd. 29.08.1926. № 239. S. 5.

[17] Тут нельга не прыгадаць, што яшчэ ў 1927 г. украінцы Румыніі прыслалі на кангрэс сваю дэлегацыю, якая пазней, незалежна ад іх супляменнікаў з Польшчы, нязменна брала дзейсны ўдзел ва ўсіх наступных сходах, аж да апошняга кангрэса.

На пачатку жніўня ўкраінцы, беларусы і літоўцы Польшчы правялі супольную нараду і накіравалі ў прэзідыум кангрэса дэкларацыю з чатырох пунктаў, прыняцце якіх яны выставілі сваёй умовай далучэння да кангрэса. Гэтыя пункты ўключалі ў сябе наступныя патрабаванні: “1) прызнаць, што ўдзел у кангрэсе згаданых груп не азначае іх адмовы ад нацыянальна-палітычных памкненняў і права на самавызначэнне; 2) уключыць у кола пытанняў, што падлягаюць абмеркаванню на кангрэсе, не толькі тэарэтычныя развагі пра патрэбу абароны нацыянальных меншасцяў, але і факты злоўжыванняў і беззаконня ў дачыненні да народаў, якія церпяць прыгнёт у асобных краінах Еўропы; 3) скасаваць умову лаяльнасці нацыянальных меншасцяў да паноўных дзяржаў, неабходнасць якой падкрэслівалася ў дыскусіях на першым і другім кангрэсах; 4) уключыць па двое прадстаўнікоў ад згаданых груп у прэзідыум кангрэса. Патрабаванні, узнятыя ў гэтых пунктах, не былі задаволены так, як таго вымагалі заяўнікі; вось чаму ўкраінская дэлегацыя, гэтак жа, як і летась, удзельнічала ў кангрэсе ў якасці назіральнікаў”[18]. Як пісаў, не без пэўнага драматызму, Станіслаў Папроцкі, камандзіраваны на кангрэс спецыяльна ўтвораным у Польшчы Інстытутам даследаванняў нацыянальнага пытання, нямецкія дэлегаты “гатовы былі пагадзіцца з далучэннем да кангрэса македонцаў Югаславіі, а таксама ўкраінцаў, беларусаў і літоўцаў Польшчы – нават цаной саступак у сферы базавай канцэпцыі кангрэса, якая, як мы ведаем, выключала з кола абмеркаванняў пытанне самавызначэння нацый, – але яны катэгарычна выступалі супраць прыняцця фрызаў, хоць пытанне іх удзелу было прадметам абмеркаванняў і рашэнняў першых двух кангрэсаў, а спецыяльна створаная для разгляду гэтага пытання камісія прызнала фрызаў нацыянальнай меншасцю”[19].

Супраць такой пазіцыі групы нямецкіх дэлегатаў рэзка выступалі пасланцы нацыянальных меншасцяў Германіі,

[18] Sprawy Narodowościowe. Rok I. 1927. № 4. S. 398.

[19] Paprocki S. III-ci Kongres Mniejszości Narodowych w Genewie // Sprawy Narodowościowe. Rok I. 1927. № 4. S. 344.

якія катэгарычна патрабавалі прызнаць фрызскую дэлегацыю ў якасці ўдзельнікаў кангрэса і не мяняць ранейшага рэгламенту абмеркаванняў. Разгарнуліся шумныя дыскусіі, але рознагалоссі паміж двума лагерамі былі занадта глыбокія і ўрэшце ніякага кампрамісу не было дасягнута. Усё скончылася тым, што дэлегацыі палякаў, датчан і сербалужычан пастанавілі пакінуць Кангрэс нацыянальных меншасцяў.

Карэспандэнт "Naszego Przeglądu", знаёмячы чытачоў з прамовай лідара польскай меншасці ў Германіі і аднаго з намеснікаў старшыні кангрэса, пастараўся перадаць увесь драматызм сітуацыі. Ён пісаў: «Ян Качмарэк ад імя ўсіх меншасцяў Германіі зачытаў пратэставую дэкларацыю: "Мы зрабілі ўсё, каб захаваць салідарнасць, мы пагадзіліся на культурную аўтаномію. Але арганізатары кангрэса, дбаючы аб сімпатыях з боку ірэдэнтысцкіх меншасцяў, груба праігнаравалі правы меншасці мірнай і лаяльнай. У арганізацыі, закліканай яднаць між сабою меншасці, не павінна быць падзелу на моцныя і слабыя нацыянальнасці, а паколькі такі падзел праведзены, мы пакідаем сход"»[20].

Палякі і іх прыхільнікі пакінулі залу, што выклікала збянтэжанасць сярод удзельнікаў кангрэса. Пасля перапынку паседжанне прадоўжылася, і немцы, венгры, яўрэі і каталонцы выказалі давер старшыні Вілфану, заявіўшы, што яны застаюцца на сходзе[21].

Варта яшчэ прывесці характэрны каментарый аўтара гэтай нататкі: «Каб чытач зразумеў, наколькі "вялікая" праблема стаіць на парадку дня, трэба прыгадаць, што фрызаў налічваецца ўсяго дваццаць тысяч чалавек, дый з тых трынаццаць тысяч лічаць сябе немцамі і толькі сем тысяч – фрызамі. Дык паўстае пытанне, ці можа такая чалавечая супольнасць, большая доля якой зведала

[20] Hirszhorn S. Trzeci kongres mniejszości narodowych w Genewie // Nasz Przegląd. 28.08.1927. № 237. S. 4. Пра арыгінальную прамову Качмарэка гл. у: Sitzungsbericht des Kongresses der Organisierten Nationalen Gruppen in den Staaten Europas. Genf, 22. bis 24. August 1927. Wien – Leipzig, 1928. S. 123–124.

[21] Paprocki S. III-ci Kongres Mniejszości Narodowych w Genewie. S. 349–350.

асіміляцыю, лічыцца асобным народам, а таксама які мінімум людзей патрэбен для таго, каб называцца нацыянальнай меншасцю, не высмейваючы саму ідэю аб ёй. Большасць удзельнікаў сходу трымаліся думкі, што гэты “незлічоны” фрызскі народ можа прынамсі яшчэ гадок пачакаць прыняцця статута, які павінен быць гатовы да наступнага з’езда. <…> Усё гэта было проста не пазбаўленай пікантнасці “спрэчкай славян” між сабою, у якой славяне-палякі паставілі шах славянам-“русінам” [украінцам. – *М. Я.*] пры дапамозе нямецкіх фрызаў»[22].

З увагі на ўсё гэта пытанне аб далучэнні да работы кангрэса новых удзельнікаў – у тым ліку ўкраінцаў, беларусаў і літоўцаў Польшчы – было адкладзена да наступнага з’езда. Такім чынам, і на трэцім кангрэсе, як ні ціснулі на арганізатараў дэлегацыі польскіх украінцаў, беларусаў і літоўцаў, патрабуючы прыняць іх вымогі аб змяненні рэгламенту і запрасіць іх на паседжанне, выступіўшы з супольнай дэкларацыяй, – усё ж у канчатковым выніку яны зноў прысутнічалі ў якасці назіральнікаў. Гэтым разам беларусаў прадстаўляў блізкі паплечнік Ярэміча Васіль Рагуля, які ў 1922 г. быў выбраны дэпутатам польскага сейма, а ў 1928 г. – сенатарам. Як і Ярэміч, ён быў дэлегаваны на кангрэс Віленскім беларускім нацыянальным камітэтам. Варта падкрэсліць, што супраць Рагулевага ўдзелу ў кангрэсе, паводле справаздачы Міністэрства ўнутраных спраў, выступала “арганізацыя пад крылом А. [Арсена. – *М. Я.*] Паўлюкевіча, якая накіравала ў прэзідыум кангрэса заяву, што дэпутат Рагуля не мае права прадстаўляць беларускае насельніцтва і можа выступаць толькі ад імя сваёй партыі”[23].

Чацвёрты кангрэс праходзіў з 29 да 31 жніўня 1928 г. у Жэневе. На гэтым кангрэсе ўпершыню адсутнічала польская меншасць, але затое беларусы разам з украінцамі афіцыйна ўдзельнічалі ў дыскусіях. Прадстаўніком

[22] Hirszhorn S. Trzeci kongres mniejszości narodowych w Genewie. S. 4.
[23] Sprawozdanie z życia mniejszości narodowych w Polsce. Nr 46 (за жнівень 1927 г.). S. 14. AAN. Sygn 1021; Беларуская крыніца. 02.09.1927. № 36. С. 3.

беларусаў, як і на папярэдніх кангрэсах, быў Ярэміч. Натан Швальбе, праніклівы журналіст “Naszego Przeglądu”, які назіраў за ходам форуму з самага пачатку, так апісаў змены ў характары кангрэса: «Асобныя польскія дэлегаты сядзелі на задніх радах нават не як назіральнікі, а толькі як прадстаўнікі прэсы. З іншага боку, прадстаўнікі ўкраінцаў і беларусаў Польшчы, якія ў папярэднія гады не бралі дзейснага ўдзелу ў Кангрэсе з прычыны ўнесенай у статут забароны на пастулаты незалежніцкага характару, былі канчаткова “дапушчаны” да кангрэса яшчэ перад яго адкрыццём»[24].

30 жніўня 1928 г. беларускі дэлегат упершыню з’явіўся на трыбуне Кангрэса нацыянальных меншасцяў. Ярэміч зрабіў наступную заяву: “Ад імя беларускага народа, які жыве ў межах Польшчы, я вітаю IV Кангрэс нацыянальных меншасцяў, зычу яму плённай працы і дзякую за допуск беларускай групы да працы ў якасці членаў кангрэса. Вельмі шкада, што гэтым разам не ўдасца узяць дзейснага ўдзелу ў рабоце кангрэса, таму што мы атрымалі запрашэнне толькі за некалькі дзён і не змаглі падрыхтавацца як след. Карыстаючыся магчымасцю, я хацеў бы адзначыць, што палітычныя памкненні беларускага народа былі ў самых агульных рысах прадстаўлены на кангрэсах 1925 і 1926 гадоў. Пакідаю за сабой права абвясціць нашу дэкларацыю на наступным кангрэсе”[25].

Невядома, на якой мове Ярэміч выступаў. Хутчэй за ўсё, па-беларуску, як і на першым кангрэсе. У часопісе польскага Інстытута даследаванняў нацыянальнага пытання “Sprawy Narodowościowe” быў апублікаваны артыкул уласнага карэспандэнта выдання, пасланага на гэты кангрэс. Цікава, што ў гэтым артыкуле цалкам прыведзена вышэйпамянёная прамова Ярэміча, адно што напачатку ў вусны выступоўцы ўкладзена фармулёўка “ад імя часткі беларускага народа” замест “ад імя беларускага

[24] Nasz Przegląd. 01.09.1928. № 243. S. 3.
[25] Sitzungsbericht des Kongresses der Organisierten Nationalen Gruppen in den Staaten Europas. Genf, 29. bis 31. August 1928. Wien – Leipzig, 1928. S. 83.

народа"[26]. Цяжка сказаць, адкуль узялося гэтае разыходжанне. Магчыма, карэспандэнт мог кіравацца тым фактам, што на папярэднім кангрэсе, як мы згадвалі вышэй, паланафільскія колы беларусаў звярнуліся ў прэзідыум з пратэстам супраць прызнання Рагулі прадстаўніком усяго беларускага народа. І ўсё ж на самай справе, наколькі можна меркаваць, Ярэміч пачаў сваю прамову словамі "ад імя беларускага народа", якія мы чытаем не толькі ў афіцыйнай – хоць і перакладзенай на нямецкую мову – стэнаграме кангрэса, але і ў іншых матэрыялах, у тым ліку ў справаздачы, падрыхтаванай аддзелам па справах нацыянальнасцяў Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы[27].

Як вынікае са "Справаздачы аб жыцці нацыянальных меншасцяў Польшчы", падрыхтаванай МУС, Ярэміч быў выбраны дэлегатам Кангрэса нацыянальных меншасцяў на паседжанні Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта, датаваным 19 ліпеня 1928 г. Аўтар справаздачы паведамляе: "Дэпутату Ярэмічу было даручана ініцыяваць на кангрэсе дыскусіі аб беларускай адукацыі, рэпрэсіях супраць дзеячаў беларускай асветы, а таксама дыскрымінацыі беларусаў пры ажыццяўленні зямельнай рэформы"[28]. Калі звесткі Міністэрства ўнутраных спраў былі дакладныя, то трэба канстатаваць, што Ярэміч не здолеў выканаць даручанай яму місіі. Аднак можна выказаць здагадку, што калі б ён узяўся абмаляваць на кангрэсе становішча беларусаў, то змест такога выступлення мог бы быць падобны да ягонага артыкула ў часопісе "Natio"[29], выдаваным сумесна рознымі арганізацыямі нацыянальных меншасцяў Польшчы, а таксама да прамовы Адольфа

[26] Paprocki S. IV Kongres Mniejszości Narodowych // Sprawy Narodowościowe. Rok II. 1928. № 3–4. S. 326–327.

[27] Sprawozdanie z IV Kongresu Mniejszości Narodowych w Genewie w dn. 29–31 sierpnia 1928 r. (Warszawa, 14 września 1928 roku). AAN. Zespół Akt Ministerstwa Spraw Wewnętrznych. Sygn 83.

[28] Sprawozdanie z życia mniejszości narodowych w Polsce za miesiąc lipiec – sierpień 1928 r. (11 września 1928). S. 13. AAN. Sygn 1021.

[29] Jeremicz F. Białorusini, ich obecne położenie polityczne i ich dążenia // Natio. 1927. № 1–2. S. 16–24.

Клімовіча – пра якую будзе сказана ніжэй – на кангрэсе 1933 г. Аўтар справаздачы МУС канстатаваў, што выступленне Ярэміча было "вельмі бляклым" і "не мела ніякага эфекту"[30].

Тут трэба звярнуць увагу на заяву, зробленую ўкраінцамі Польшчы, бо да яе далучыўся і Ярэміч. За дзень да Ярэмічавай прамовы вялікі розгалас выклікала выступленне Дмытра Лявіцкага – прадстаўніка ўкраінцаў Польшчы. Ён падкрэсліў, што ўкраінскі народ імкнецца да заваёвы незалежнасці і ніколі не змірыцца з падзелам сваёй тэрыторыі паміж чатырма дзяржавамі (Расіяй, Польшчай, Чэхаславакіяй і Румыніяй). Далей Лявіцкі заявіў: "Украінскі народ – гэта не нацыянальная меншасць; на ўсіх населеных ім землях ён складае абсалютную большасць. Беручы пад увагу, што Кангрэс нацыянальных меншасцяў у кола сваіх абмеркаванняў не ўключае пытанняў дзяржаватварэння, гэтае абмежаванне яго кампетэнцый не дае яму магчымасці займаць ні станоўчую, ні адмоўную пазіцыю адносна дзяржаватворчых памкненняў". Гэтая заява нічым не адрозніваецца ад ранейшых выказванняў украінцаў, беларусаў і літоўцаў Польшчы. Аднак далей прамоўца абвясціў пра змену свайго стаўлення да Кангрэса: "Улічваючы, што галоўная мэта склікання Кангрэса нацыянальных меншасцяў, а менавіта свабода культурнага развіцця, не гарантуецца ўкраінскаму народу ў межах чужаземных дзяржаў, мы вырашылі супрацоўнічаць з кангрэсам. Разам з тым мы падкрэсліваем, што наша далучэнне да Кангрэса нацыянальных меншасцяў у якасці членаў аніяк не азначае нашай адмовы ад выкладзеных вышэй прэтэнзій"[31].

Папроцкі, які з боку Польшчы назіраў за ходам форуму, назваў гэтую заяву дэлегацыі ўкраінцаў Польшчы "кульмінацыйным пунктам кангрэса". "Сакрэт палішынеля, – пісаў ён, – заключаўся ў тым, што гэтая заява была плёнам нямецка-ўкраінскай змовы, клінком, накіраваным супраць

30 Sprawozdanie z życia mniejszości narodowych w Polsce za miesiąc lipiec – sierpień 1928 r. S. 13.

31 Sitzungsbericht des Kongresses der Organisierten Nationalen Gruppen in den Staaten Europas. Genf, 29. bis 31. August 1928. Wien – Leipzig, 1928. S. 63.

польскай дзяржавы. Абставіны, пры якіх украінская меншасць Польшчы атрымала статус удзельнікаў кангрэса, нікому не былі вядомыя; з часу папярэдніх кангрэсаў фармальна нічога не змянілася: ідэалагічны базіс мерапрыемства застаўся ранейшы, прычыны, па якіх украінцы, беларусы і літоўцы Польшчы раней не хацелі далучацца да сходу, нікуды не дзеліся, але ўсе аднекуль даведаліся, што ўкраінцы і беларусы Польшчы атрымалі запрашэнне на кангрэс, што яны гэтае запрашэнне прынялі і што не абышлося без настойлівых папярэдніх высілкаў кіраўніцтва кангрэса, скіраваных на тое, каб гэтыя меншасці, нягледзячы на іх пазіцыю, супярэчную прынцыпу лаяльнасці, узялі ўдзел у сходзе. Гэтыя высілкі, відавочна, дасягнулі жаданага плёну, таму што ўкраінскія і беларускія дэлегаты з'явіліся на Кангрэсе, а доказам дасягнутага пагаднення паслужыла выбранне дэпутата Дмытра Лявіцкага ў склад прэзідыума кангрэса яшчэ перад яго выступленнем"[32].

У сваю чаргу, Ярэміч растлумачыў перамену пазіцыі беларусаў у дачыненні да кангрэса ў інтэрв'ю, узятым у яго пасля кангрэса карэспандэнтам львоўскай ідышамоўнай газеты "Morgana". На пытанне "Што паслужыла прычынай таго, што беларусы вырашылі адмовіцца ад ранейшай ролі назіральнікаў і ўзяць удзел у кангрэсе?" Ярэміч адказаў: "Прычына простая: мы працяглы час устрымліваліся ад далучэння да работы кангрэса, бо яго рамкі былі для нас занадта вузкімі. У статуце Саюза [кангрэса. – *М. Я.*] нацыянальных меншасцяў ёсць адзін пункт, які вымагае безальтэрнатыўнай лаяльнасці да той дзяржавы, у якой жыве нацыянальная меншасць. <…> Дагэтуль можна было толькі весці тэарэтычныя дыскусіі, але нельга было гаварыць пра рэальныя ўзаемаадносіны, якія ў гэтай дзяржаве пануюць, а таксама няможна было адкрыта і ў належным святле тлумачыць свету рэальнае становішча меншасці". На пытанне "Дык вы далучыліся да кангрэса таму, што цяпер нешта змянілася?" Ярэміч адказаў: "Я спадзяюся, што жыццё прымусіць кангрэс змяніць сваю пазіцыю, і толькі перакананасць у тым, што

32 Paprocki S. IV Kongres Mniejszości Narodowych. S. 327–328.

гэта адбудзецца, паспрыяла майму ўдзелу ў гэтым кангрэсе як прадстаўніка Беларусі. Але я вельмі прашу вас у газеце адзначыць, што наш удзел у кангрэсе не азначае адмовы ад далейшай барацьбы за наданне нашаму народу ўсіх належных правоў"[33].

З гэтага часу так званыя "ірэдэнтысцкія групы", г. зн. украінцы, беларусы і літоўцы Польшчы, афіцыйна ўдзельнічалі ў рабоце наступных кангрэсаў. Асабліва актыўную ролю аж да апошняга кангрэса адыгрывалі ўкраінцы, пры тым што ўкраінская дэлегацыя з Румыніі дэманстравала негатыўнае стаўленне да сваіх супляменнікаў з Польшчы і часта трымалася асобна.

Затое беларусы з 1929 да 1932 г. па розных прычынах не прыязджалі на кангрэс, хоць кожны раз іх удзел анансаваўся. Так, у 1929 г. беларускі дэлегат Ярэміч прыслаў у прэзідыум кангрэса тэлеграму, у якой выказваў "шкадаванне, што не можа прыбыць на кангрэс па незалежных ад яго прычынах". Гэтыя словы адразу прымусілі журналістаў строіць здагадкі, ці не забаранілі дэпутату Ярэмічу выезд за мяжу. З боку прэзідыума кангрэса неўзабаве было патлумачана, што прычыны непрыезду, відаць, асабістыя і не маюць нічога агульнага з дзеяннямі польскіх улад[34]. У 1931 г., едучы ў Жэневу на сёмы кангрэс, беларускі дэлегат Ярэміч раптоўна захварэў і быў прааперыраваны ў пазнанскай бальніцы[35].

Чарговы раз прадстаўнік беларусаў з'явіўся толькі на дзявятым кангрэсе, які праходзіў з 16 да 19 верасня 1933 г. у Берне. Беларускім дэлегатам на гэтым форуме быў інжынер Адольф Клімовіч – вядомы дзеяч з асяродку Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

[33] Biełaruskaja krynica. 23.09.1928. № 44. S. 2.

[34] Nasz Przegląd. 30.8.1929. № 241. S. 6. У спісе дэлегатаў, змешчаным у справаздачы кангрэса за 1929 г., значылася "беларуская група" без указання канкрэтных прозвішчаў. Ніжэй была пададзена заўвага, што "з непрадбачаных прычын іх прадстаўнікі не змаглі прыбыць": Sitzungsbericht des Kongresses der Organisierten Nationalen Gruppen in den Staaten Europas. Genf, 26. bis 28. August 1929. Wien – Leipzig, 1930. S. VIII.

[35] Беларуская крыніца. 10.09.1931. № 27. С. 2.

18 верасня 1933 г. Клімовіч, выступаючы ад імя Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта, востра раскрытыкаваў палітыку польскага ўрада на беларускіх землях, і асабліва новы закон аб мясцовым самакіраванні, прыняты 23 сакавіка 1933 г.: "Як прадстаўнік Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта – органа, які прадстаўляе звыш двух з паловай мільёнаў беларусаў, што апынуліся ў межах сённяшняй Польшчы, я лічу сваім абавязкам заявіць пра стаўленне нашага камітэта да пытанняў мясцовага самакіравання і рэлігійна-нацыянальнай палітыкі. Віленскі беларускі нацыянальны камітэт на пленарным паседжанні, якое адбылося 5 ліпеня гэтага года [1933 г. – *М. Я.*], сфармуляваў сваю пазіцыю ў гэтых пытаннях наступным чынам. Большасць тых, хто ў органах мясцовага самакіравання выдаюць сябе за беларусаў, – гэта польскія асаднікі, салдаты або памешчыкі, прызначаныя на розныя пасады ў дзяржаўных адміністрацыях і тых жа органах мясцовага самакіравання (і яны зусім не беларусы). Новы закон аб мясцовым самакіраванні патрабуе, каб усе супрацоўнікі нават ніжэйшых органаў самакіравання абавязкова валодалі вуснай і пісьмовай польскай мовай, і адначасова дазваляе перадаваць самакіраванне ў рукі адміністрацыі, з чаго вынікае, што беларускія землі будуць служыць выключна на карысць палякам. У рэлігійным жыцці сярод праваслаўных беларусаў падтрымліваецца русіфікацыя, каб перашкодзіць пашырэнню і развіццю беларускай нацыянальнай свядомасці. З іншага боку, польскае духавенства ў рымска-каталіцкіх касцёлах імкнецца паланізаваць беларускіх каталікоў"[36].

Гэткім чынам агучыўшы пазіцыю Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта, Клімовіч падкрэсліў, што беларусы, якія пражываюць кампактна, складаюць на сваіх землях абсалютную большасць, а не меншасць. "Нягледзячы на гэта, беларускія землі знаходзяцца пад кантролем

[36] Sitzungsbericht des Kongresses der Organisierten Nationalen Gruppen in den Staaten Europas. Bern, 16. bis 19. September 1933. Wien – Leipzig, 1934. S. 38–39.

чыноўнікаў паноўнай нацыі. Гэтыя землі выглядаюць як чужаземны край, у якім анідзе не пачуеш роднай мовы".

Прамоўца таксама раскрытыкаваў сістэму асветы на беларускіх землях. "Больш за два з паловай мільёны беларусаў, якія цяпер жывуць у Польшчы, маюць толькі адну беларускую пачатковую школу і некалькі так званых утраквістычных [двухмоўных. – *М. Я.*] пачатковых школ, якія, зрэшты, амаль не адрозніваюцца ад чыста польскіх". Акрамя асветы, якая служыць інструментам паланізацыі, "дэнацыяналізацыі спрыяе і касцёл". Паводле слоў Клімовіча, арцыбіскуп віленскі і біскуп пінскі "сістэматычна пераводзяць беларускіх каталіцкіх ксяндзоў у малых парафіях з месца на месца і прымушаюць іх служыць на незнаёмых беларускіх землях"[37]. У канцы сваёй прамовы Клімовіч запатрабаваў для паляпшэння становішча мясцовага беларускага насельніцтва гарантаваць яму права займаць пасады ў органах мясцовага самакіравання. Тым самым ён выказаў поўную салідарнасць з рэзалюцыяй кангрэса, паводле якой меншасць, што пражывае кампактна, мае права на самакіраванне і ўласнае культурна-рэлігійнае жыццё.

Новы закон аб мясцовым самакіраванні, які згадваў Клімовіч, афіцыйна называўся "Закон ад 23 сакавіка 1933 г. аб частковай змене сістэмы мясцовага самакіравання". Але, хоць у яго назве гаварылася пра "частковую змену", на самай справе гэты закон кардынальна рэарганізоўваў прынцыпы, на якіх будавалася сістэма самакіравання. Фактычна ён ставіў органы мясцовага самакіравання ў поўную залежнасць ад дзяржаўнай адміністрацыі[38]. Унесены ўрадам праект гэтага закона выклікаў моцны адпор не толькі няпольскай, але і польскай апазіцыі. У ходзе абмеркавання ў сейме тыя польскія партыі, што не ўваходзілі ў кіроўную кааліцыю, выказаліся супраць урадавага праекта. У сваю чаргу, нацыянальныя меншасці пратэставалі, у прыватнасці, супраць надання польскай мове дзяржаўнага статусу на ўзроўні мясцовых органаў улады. На адным з паседжанняў сейма ў лютым 1933 г. Ярэміч у сваім выступленні назваў

[37] Тамсама.
[38] Dziennik Ustaw. 1933. № 35. Poz. 294.

гэты закон "паліцэйскім актам" і не ўстрымаўся ад папрокаў на адрас польскіх партый, якія дагэтуль паслядоўна адмаўляліся прызнаць за мясцовымі меншасцямі права на мясцовае самакіраванне. "Беларусы ў польскай дзяржаве не мелі самакіравання. У нас былі розныя загады генеральнага камісара ўсходніх земляў, начальніка дзяржавы, сеймавыя законы, пастановы ўсялякіх міністраў, і гэта быў такі юрыдычны хаос у сферы самакіравання, што фактычна кожны чыноўнік мог рабіць тое, што яму падабалася, і заўсёды абапіраўся пры гэтым на нейкую пастанову або закон. Я рады, што гэты законапраект пазбаўляе самакіравання не толькі беларусаў, але і польскае грамадства; справа ідзе да таго, што ў Польшчы не будзе самакіравання, а калі і вы, панове [польскія апазіцыйныя партыі. – *М. Я.*], адчуеце, што значыць не мець самакіравання, дык, можа, разам мы прыйдзем да таго, што зладзім такое самакіраванне, якое павінна быць"[39].

Згаданая прамова Клімовіча – хоць і невядома, на якой мове яна прагучала, – была першай, у якой прадстаўнік беларусаў на Кангрэсе нацыянальных меншасцяў паведаміў усяму свету пра становішча беларусаў у Польшчы. Аднак здаецца, што гэтая спроба не прынесла чаканага плёну, бо ў той час беларускае пытанне ў Польшчы не выклікала ўжо аніякай цікавасці ў Еўропе. На пачатку 1930-х г., як слушна заўважаў прафесар Мірановіч, польскі ўрад "са стаічным спакоем успрымаў усе беларускія пратэсты, адрасаваныя Лізе Нацый. Усе беларускія выступленні на міжнародным узроўні не проста ігнараваліся, а адвольна перакручваліся без ніякай увагі на рэальныя факты. Часцей за ўсё любыя дзеянні беларусаў выдаваліся за актыўнасць камуністычнай агентуры. А ніхто ў Еўропе не збіраўся перашкаджаць польскаму ўраду ў барацьбе з камуністычнай агентурай на сваёй тэрыторыі"[40]. Да таго ж дзявяты Кангрэс нацыянальных меншасцяў стаў пераломным у гісторыі

39 Sprawozdanie Stenograficzne Sejmu Rzeczypospolitej. Pos. 86. 14.02.1933. Łam. 80.

40 Mironowicz E. Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu Piłsudczykowskiego. Białystok, 2007. S. 68.

гэтага форуму, бо ў цэнтр яго ўвагі выйшла пазіцыя кангрэса адносна праследу яўрэяў у Германіі. Група яўрэйскіх меншасцяў запатрабавала ад прэзідыума кангрэса выступіць з рэзалюцыяй, у якой бы выразна асуджалася палітыка гітлераўскага ўрада ў дачыненні да яўрэяў. Аднак група нямецкіх меншасцяў, якая дамінавала ў кангрэсе, не хацела адкрыта выступаць супраць палітыкі германскага ўрада. У выніку група яўрэйскіх меншасцяў, адчуўшы сваю няздольнасць пераламаць сітуацыю, вырашыла пакінуць кангрэс. У ходзе дзявятага кангрэса амаль уся ўвага дэлегатаў, журналістаў і іншых удзельнікаў была прыкавана да гэтага пытання.

І ўсё ж польскі ўрад не стаў заплюшчваць вочы на прамову Клімовіча, палічыўшы яе небяспечнай антыпольскай прапагандай. Увесь 32-і нумар газеты “Беларуская крыніца” з поўным тэкстам гэтай прамовы быў канфіскаваны[41]. У наступным 33-м нумары, які выйшаў з “белай плямай” на месцы паўторнай публікацыі, да чытачоў дайшло толькі паведамленне, што 32-і нумар не выйшаў з прычыны змяшчэння Клімовічавай прамовы[42]. Цікава, што ў наступны, 34-ы, нумар была пастаўлена ўжо не прамова Клімовіча, а артыкул пад назвай “Кангрэс нацыянальных меншасцяў і беларусы”[43]. Акрамя таго, увесь нумар быў надрукаваны не лацінкай, а кірыліцай. Варта звярнуць увагу, што ў гэтым артыкуле падкрэслівалася вялікае значэнне Кангрэса нацыянальных меншасцяў для беларусаў.

У наступных штогадовых з’ездах у 1934–1936 г. беларусы не ўдзельнічалі. Прычыны іх адсутнасці былі розныя, у тым ліку і адміністрацыйныя перашкоды. Калі ў 1935 г. Віленскі беларускі нацыянальны камітэт вырашыў дэлегаваць Клімовіча на XI кангрэс у якасці прадстаўніка беларусаў, польскія ўлады не выдалі яму пашпарта і ён не змог выехаць у Жэневу[44]. Як паведамляў

[41] Biełaruskaja krynica. 25.09.1933. № 32. S. 1.
[42] Biełaruskaja krynica. 29.09.1933. № 33. S. 1–2.
[43] Беларуская крыніца. 08.10.1933. № 34. С. 1.
[44] Biełaruskaja krynica. 05.09.1935. № 32. S. 3.

польскі назіральнік, аднаго дня ў канцы паседжання генеральны сакратар Амендэ зачытаў шэраг лістоў, дасланых на адрас прэзідыума, у тым ліку тэлеграму ад Клімовіча. Даведаўшыся, што Клімовіч не прыбыў на кангрэс з-за праблемы з пашпартам, Амендэ "выказаў здзіўленне, што не ўсе этнічныя групы ў Польшчы карыстаюцца роўнымі магчымасцямі"[45]. Праз год у афіцыйным пераліку меркаваных удзельнікаў кангрэса 1936 г. апынуліся прозвішчы Клімовіча і ксяндза Адама Станкевіча – але з невядомых прычын ніхто з іх не прыехаў. Варта заўважыць, што прозвішча ксяндза Адама Станкевіча, лідара Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і дэпутата польскага сейма першага склікання (1922–1927), упершыню трапіла ў спісы ўдзельнікаў кангрэса якраз у 1936 г.[46]. Перад чарговым кангрэсам (у 1937 г.) спачатку было абвешчана, што ў ім возьмуць удзел Клімовіч і Адам Станкевіч[47]. На самай справе абодва не прыехалі, але ў спіс дэлегатаў, змешчаны ў апублікаванай пасля з'езда справаздачы, увайшло толькі прозвішча Станкевіча[48].

Трынаццаты Кангрэс нацыянальных меншасцяў адбыўся ў ліпені 1937 г. Гэтым разам упершыню ў гісторыі форуму

[45] Paprocki S. J. XI-ty Kongres mniejszości narodowych // Sprawy Narodowościowe. Rok IX. 1935. № 5. S. 532.

[46] У пераліку адсутных дэлегатаў, якія даслалі ў прэзідыум кангрэса прывітальныя тэлеграмы, значацца, сярод іншага, "Беларускі нацыянальны камітэт і ксёндз А. Станкевіч": Sitzungsbericht des Kongresses der Organisierten Nationalen Gruppen in den Staaten Europas. Genf, 16. bis 17. September 1936. Wien – Leipzig, 1937. S. VI. З'яўленне ў спісе дэлегатаў кангрэса назвы арганізацыі было выключным выпадкам. Аднак у спіс дэлегатаў, змешчаны ў раздрукаваным перад кангрэсам парадкам дня, было ўключана толькі прозвішча Станкевіча: XII Congress of European National Minorities. List of Delegates. AAN. Sygn. 2318. K. 30.

[47] XIII Congress of European National Minorities. List of Delegates (provisional). AAN. Sygn. 2319. K. 64–65. У лісце з пасольства Польшчы ў Лондане ў Міністэрства замежных спраў, датаваным 26 ліпеня 1937 г., ёсць абодва прозвішчы: AAN. Sygn. 2319. K. 40.

[48] The Congress of the European National Minorities. London Meeting 14th–15th July 1937. Wien – Leipzig, 1938. P. 6.

ён прайшоў у Лондане. Рэмігіуш Бежанэк (Bierzanek), стыпендыят варшаўскага Інстытута даследаванняў нацыянальнага пытання і пазней вядомы спецыяліст у галіне міжнароднага публічнага права, камандзіраваны інстытутам у якасці назіральніка, растлумачыў гэта жаданнем арганізатараў кангрэса “зацікавіць брытанскую грамадскую думку праблематыкай кангрэсаў і тым самым паспрыяць больш актыўным дзеянням Вялікабрытаніі у абарону меншасцяў”[49].

На другі дзень паседжанняў (15 ліпеня) у галоўнай зале Вестмінстэрскага палаца першым на парадку дня быў заслуханы даклад ксяндза Адама Станкевіча “Этычныя асновы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасцяў”. Гэты даклад быў найдаўжэйшай прамовай у гісторыі форуму, з якімі дагэтуль выступалі беларускія прадстаўнікі. Аднак сам ксёндз Станкевіч адсутнічаў, а тэкст даклада зачытаў на англійскай мове Джордж Папоф[50], жэнеўскі карэспандэнт газеты “Rigasche Rundschau”. Цяжка сказаць, на якой мове быў напісаны арыгінальны тэкст, але вядома, што яго англійская версія была загадзя падрыхтавана і Папоф толькі прачытаў яе, а не пераклаў на месцы[51].

Свой даклад ксёндз не забыўся дапоўніць наступнай рэмаркай: “Шкадую, што не атрымаў магчымасці

[49] Sprawy Narodowościowe. Rok XI. 1937. № 3. S. 340.

[50] Як пісаў генеральны сакратар Інстытута даследаванняў нацыянальнага пытання С. Папроцкі ў лісце ў МЗС за 19 ліпеня 1937 г., «сапраўдным арганізатарам з’яўляецца нейкі Папоф, журналіст па прафесіі, нараджэнец балтыйскіх краін, здаецца рускі, блізкі сябар Амендэ. Ён сцвярджае, што, арганізуючы кангрэс, выконвае “запавет Амендэ”». AAN. Sygn. 2319. K. 25.

[51] У матэрыялах, што датычацца трынаццатага кангрэса, сабраных польскім МЗС, ёсць англійская версія даклада Адама Станкевіча: AAN. Sygn. 2319, K. 66–70. У афіцыйнай справаздачы XIII кангрэса гэты даклад быў змешчаны без скарачэнняў. Гл.: The Congress of the European National Minorities. London Meeting 14th–15th July 1937. Wien – Leipzig, 1938. P. 51–54. Абедзве версіі цалкам супадаюць, апрача некалькіх слоў.

выступіць асабіста", але канкрэтная прычына яго непрыезду нам невядомая[52].

Даклад ксяндза Станкевіча пачынаўся з паказу агульнага становішча беларусаў (*the White-Ruthenians*). Як паведамляў аўтар, агулам на свеце налічваецца каля 12 мільёнаў беларусаў, беручы пад увагу ў тым ліку эмігрантаў, аселых у Сібіры і іншых рэгіёнах Савецкага Саюза, а таксама ў ЗША. З іх 5 мільёнаў жыве ў Савецкім Саюзе, больш за 100 тысяч – у Латвіі, а таксама два з паловай мільёны ў Польшчы, хоць афіцыйная польская статыстыка падае толькі 1 600 000 беларусаў.

У Польшчы беларусы жывуць кампактнай масай і таму складаюць не меншасць, а абсалютную большасць на сваіх тэрыторыях. Акрамя таго, у дакладзе апавядалася пра здабыткі нацыянальнага адраджэння і культурнага развіцця, дасягнутыя за апошнія 50 гадоў насуперак велізарным цяжкасцям. Станкевіч звяртаў увагу, што беларускі нацыянальны рух натхняўся памяццю пра "вялікую мінуўшчыну беларуска-літоўска-ўкраінскай дзяржавы".

Гэтая частка даклада паслужыла прадметам кпінаў з боку назіральніка, дасланага Інстытутам даследаванняў нацыянальнага пытання. «Пачатак даклада не меў нічога агульнага з заяўленай тэмай, – пісаў Бежанэк, – і ўяўляў сабой сціслую характарыстыку беларускага народа. Аўтар даклада даў агульны нарыс нацыянальнай працы беларусаў, якія, не спыняючыся перад цяжкасцямі, "памятаюць слынную мінуўшчыну беларуска-літоўска-ўкраінскай дзяржавы [sic!], у якой беларуская мова была дзяржаўнай мовай", і вядуць сваю нацыянальную барацьбу»[53].

Пяройдзем да астатняй часткі даклада, гэта значыць непасрэдна да тэмы "Этычныя асновы нацыянальна-культурных

[52] У сваіх дзённіках за чэрвень, ліпень і жнівень 1937 г. Станкевіч нічога не напісаў пра трынаццаты кангрэс. Гл.: Станкевіч А. З Богам да Беларусі. Вільня, 2008. С. 838–839. Зрэшты, дзённік у той час вёўся ім нерэгулярна, запісы рабіліся час ад часу.

[53] Bierzanek R. XIII Kongres Mniejszości Narodowych. AAN. Sygn. 2319. K. 36. Гл. таксама: Sprawy Narodowościowe. Rok XI. 1937. № 3. S. 341–342.

правоў нацыянальных меншасцяў”. Ксёндз разглядаў “этычныя асновы” «з пункту гледжання агульнага сэнсу, з якога, сцісла кажучы, вынікае, што “быць” лепш, чым “не быць”, “альтруізм” лепшы, чым “эгаізм”, і што чалавек павінен рабіць дабро ды намагацца не рабіць зла». Урэшце, “прагрэс і культура кожнага народа лепшыя, чым застой, рэгрэс, зняволенне ці смерць”.

Так пачынаючы свае развагі, ксёндз Станкевіч рэзюмаваў этычныя асновы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасцяў у наступных васьмі пунктах:

«1. Кожная нацыянальная меншасць мае права развіваць і захоўваць свой нацыянальны характар, а таксама такія адметнасці, як мова, рэлігія, увесь нацыянальны лад жыцця; а) народы са сваім нацыянальным характарам і прыроджаным імкненнем да далейшага развіцця з'яўляюцца прадуктам прыроды і таму маюць права на існаванне; б) нацыянальныя асаблівасці, якія вылучаюць кожны народ, найперш мова, – гэта спадчына, пакінутая ад бацькоў дзецям. Таму пазбаўляць нейкі народ гэтых набыткаў азначае нішчыць яго нацыянальны характар і наносіць яму вялікую шкоду.

Вось чаму прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў маюць права дабівацца ад дзяржавы, у якой яны жывуць, абароны сваіх культурных набыткаў нароўні з набыткамі ўсіх іншых грамадзян. У сваю чаргу, дзяржава абавязана дбаць пра тое, каб меншасці маглі карыстацца, поруч з афіцыйнай мовай, сваёю ўласнай мовай у школах, судах і дзяржаўных установах.

2. Нацыянальныя меншасці паводле азначэння маюць такія ж правы, як тытульная нацыя. Іх колькасная меншасць і культурная беднасць аніяк не прымяншаюць іх натуральных правоў, таму што меншасці, як і большасць, з'яўляюцца жыхарамі дзяржавы, жыхарамі, якія выконваюць усе абавязкі, ускладзеныя на яе грамадзян. Дзеля гэтага нацыянальныя меншасці маюць неад'емнае права дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў у парламент, карыстацца роднай мовай у школах, займаць дзяржаўныя пасады, атрымліваць субсідыі з дзяржаўнага бюджэту на пакрыццё сваіх сацыяльных, культурных і нацыянальных патрэб

у такой прапорцыі, якая адпавядае колькаснай долі кожнай меншасці.

3. Як і кожны індывід, усе сацыяльныя і асабліва нацыянальныя групы (калектывіды) імкнуцца да развіцця і культуры. Яны могуць – а на самай справе дух стварэння ўласцівы ўсім культурам – дасягнуць прагрэсу значна прасцей і лепш на роднай мове і на прыроднай нацыянальнай глебе. Толькі дзякуючы гэтаму вялікая скарбонка чалавечай культуры ўзбагачаецца новымі каштоўнасцямі і новымі набыткамі.

4. З маральнага пункту гледжання, любы крайні эгаізм – як індывідуальны, так і групавы, г. зн. класавы, нацыянальны ці дзяржаўны – заслугоўвае асуджэння. Адмова ж нацыянальным меншасцям у тых правах, якія мае ў краіне тытульная нацыя, – гэта таксама праява такога бязмернага і амаральнага эгаізму. Такі эгаізм штурхае нацыю ці дзяржаву да ўзбагачэння ўласнай культуры або паляпшэння эканамічнага становішча за кошт слабейшых народаў. Агульнавядома, што нацыянальныя меншасці, пазбаўленыя на дзяржаўным узроўні сваіх правоў, становяцца аб’ектам самай разнастайнай эксплуатацыі.

5. Нацыянальныя меншасці маюць права не толькі абараняць свае нацыянальныя набыткі, ствараць сваю нацыянальную культуру і карыстацца тымі ж правамі, што і звычайныя грамадзяне, але і маюць права на аўтаномію. Этычныя асновы права на аўтаномію зыходзяць з самой сутнасці дзяржавы. Таму што сутнасцю і мэтай дзяржавы з’яўляецца – ці прынамсі павінна з’яўляцца – не безагляднае павелічэнне сваёй моцы аж да бясконцасці, а забеспячэнне дабрабыту і багацця ўсіх грамадзян незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання. Вось для чаго дзяржава павінна гартаваць сваю моц і сілу.

6. Міжнацыянальная згода і мір – самае каштоўнае маральнае дабро. Вайна ж у найвышэйшай ступені амаральная. Аднак міру ў наш час не дасягнуць, калі 40 мільёнаў чалавек, якія ўсведамляюць свае нацыянальныя правы і абавязкі, будуць пры гэтым пазбаўлены неад’емнага права на іх рэалізацыю.

7. Жаданне кожнай нацыянальнай меншасці зберагчы сваю мову, рэлігію і культуру, а таксама атрымаць у разумным аб'ёме правы аўтаноміі адпавядае не толькі натуральнай чалавечай, але і хрысціянскай этыцы. Гэта можна выказаць пры дапамозе банальнай формулы: *suum cuique* ["дайце кожнаму належнае". – *М. Я.*]. Гэтая формула вызначае як самы вялікі прагрэс, так і самае глыбокае разуменне тых асноў, на якіх грунтуюцца ў тым ліку ўсе натуральныя правы.

Хрысціянская этыка ў дачыненні да культурных і нацыянальных меншасцяў грунтуецца на прызнанні чалавечай індывідуальнасці як крыніцы прагрэсу і культуры, а таксама на імкненні да паглыблення і ўмацавання гэтай індывідуальнасці. Аднак такое стаўленне хрысціянства да чалавечай індывідуальнасці нітрохі не пазбаўляе чалавека таго, што яму ўласціва, не адбірае ў яго ні паасобных вартасцяў, ні адметных нацыянальных рысаў, а наадварот пераўтварае, паляпшае і ўдасканальвае іх. Таму, у святле вучэння Хрыста, народ (нацыянальнасць) – гэта не нешта, што павінна быць знішчана, а тое, з чаго і праз што культурныя каштоўнасці могуць развівацца. У выніку кожная дзяржава, якая замест станоўчага стаўлення да натуральнага развіцця нацыянальных меншасцяў спрабуе сцерці іх характэрныя рысы, здзяйсняе амаральны ўчынак.

Апрача такой элементарнай этычнай асновы згаданых памкненняў нацыянальных меншасцяў, мы можам знайсці чарговыя практычныя ўказанні ў Хрыстовым вучэнні. Так, успомніце наказ Хрыста вучыць усе народы (Мц 28, 19). А дар размаўляць на розных мовах, які апосталы атрымалі ад Святога Духа, ясна паказвае на тое, што гэтая навука павінна адбывацца на іх родных мовах, а не на мовах класічных.

8. На аснове гэтых натуральных і звышнатуральных этычных прынцыпаў было створана міжнароднае права, якое абараняе інтарэсы меншасцяў і іх дзеянні, скіраваныя на адстойванне гэтых інтарэсаў.

Правы чалавека, якія Польшча, згодна з Версальскім дагаворам 1918 г. [1919 г. – *М. Я.*] і Рыжскім дагаворам 1921 г., абавязалася выконваць, уключаюць у сябе ў тым

ліку культурныя і нацыянальныя правы беларускай меншасці ў Польшчы. Шмат гадоў беларусы не шкадавалі высілкаў на тое, каб увасобіць гэтыя правы ў жыццё.

Завяршаючы свае сціплыя заўвагі, прысвечаныя этычным асновам нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасцяў, я хацеў бы выказаць наша гарачае жаданне, каб тыя 40 мільёнаў чалавек, з якіх складаюцца нацыянальныя меншасці Еўропы, дзеля ўласнага дабра і на карысць Еўропы не толькі маглі вывучаць і правільна разумець асновы сваіх нацыянальных правоў, але і ўбачылі б іх ушанаванне ў рэальным жыцці»[54].

Наколькі адпавядаў даклад ксяндза Станкевіча – досыць агульны, тэарэтычны і спецыфічны – тагачасным складаным рэаліям, у якіх знаходзіліся нацыянальныя меншасці Еўропы, можна спрачацца.

Як мы бачым, стаўленне беларусаў да Кангрэса нацыянальных меншасцяў было неадназначнае. Яны не заўсёды накіроўвалі на гэты форум сваіх дэлегатаў. Адбывалася гэта па розных прычынах, некаторыя з якіх былі аб’ектыўнымі і тлумачыліся забаронай або перашкодамі польскіх улад. Ці была беларусам блізкая ідэя салідарнасці нацыянальных меншасцяў на міжнародным узроўні? Хоць у першыя гады правядзення кангрэса (1925–1927) беларусы адмаўляліся ад удзелу ў дыскусіях, гэта тлумачылася (гэтак жа як у выпадку ўкраінцаў і літоўцаў) іх негатыўным стаўленнем да рэгламенту, зацверджанага прэзідыумам кангрэса, які абмяжоўваў тэматыку спрэчак агульнымі пытаннямі. Беларусы, украінцы і літоўцы Польшчы не маглі пагадзіцца з гэтым абмежаваннем. Немалаважны той факт, што, нягледзячы на гэта, беларусы – у асобе Фабіяна Ярэміча – усё ж заставаліся ў зале паседжанняў, хай сабе і ў якасці назіральнікаў.

На наступных кангрэсах беларускія дэлегаты часта адсутнічалі. Тым часам змяніўся характар форуму. Пауль Шыман – ліберальны тэарэтык у галіне нацыянальнага права, адзін з заснавальнікаў кангрэса і яго шматгадовы

[54] The Congress of the European National Minorities. London Meeting 14th–15th July 1937. Wien – Leipzig, 1938. P. 52–54.

віцэ-старшыня – страціў сваю пасаду пасля 1933 г., калі сярод нямецкіх дэлегатаў узмацніліся нацыяналістычныя настроі. У красавіку 1936 г. памёр Эвальд Амендэ – нязменны генеральны сакратар і паплечнік Шымана, які ў 1930-я г., праўда, у нейкай ступені паддаўся гітлераўскай прапагандзе. Тым не менш, можна канстатаваць, што беларусы – прынамсі такія памяркоўныя палітыкі з іх асяроддзя, як Ярэміч, Рагуля, Клімовіч і Адам Станкевіч, – да канца намагаліся ўтрымліваць з Кангрэсам нацыянальных меншасцяў цесны кантакт. Можна меркаваць, што згаданыя беларускія палітыкі лічылі гэты кангрэс важным міжнародным форумам, які даваў ім магчымасць расказаць пра становішча беларусаў у Польшчы і выказаць пратэст супраць іх прыгнёту перад усім светам. Па меры таго як усё больш відавочнай рабілася няздольнасць Лігі Нацый даваць рады міжнацыянальным канфліктам, беларусы ў пошуках падтрымкі, як выглядае, усё большую вагу надавалі Кангрэсу нацыянальных меншасцяў. На карысць гэтага служыць той факт, што беларуская прэса, у прыватнасці газета “Беларуская крыніца”, неаднаразова падкрэслівала важнасць кангрэса для беларускага народа. Так, ксёндз Станкевіч у 1939 г. адзначаў: “Нямала такжа беларускай прапаганды праводзіла БХД пры помачы міжнародных Кангрэсаў нацыянальных меншасцяў і яго экзакутывы – Сакратарыяту. Праз 12 гадоў (1925–1938), калі Беларускі нацыянальны камітэт пасылаў на кангрэсы свайго афіцыяльнага прадстаўніка, бадай выключна БХД рыхтавала яму адпаведную прамову і інфармацыйны аб беларускай праблеме матэрыял, які заўсёды бываў скарыстаны, калі не на трыбуне кангрэсаў, дык у ягоных або якіх іншых публікацыях. Апрача гэтага, тая ж БХД праз гэты час была ў пастаянных зносінах з Сакратарыятам кангрэсаў і праз яго ўсцяж праводзіла беларускую інфармацыйную прапаганду”[55].

[55] Stankievič A. Biełaruski chryścijanski ruch (Histaryčny narys). Vilnia, 1939. S. 226. Гэтая праца ўключана ў збор твораў Адама Станкевіча: Станкевіч А. З Богам да Беларусі. Вільня, 2008. С. 552.

З іншага боку, наколькі заўважнай была актыўнасць беларусаў Польшчы на Кангрэсах нацыянальных меншасцяў? Праўду кажучы, у параўнанні з высілкамі ўкраінцаў Польшчы, якія пастаянна накіроўвалі дэлегатаў на кангрэс, беларусы былі вельмі асцярожныя. Падаецца, аднак, што прысутнасць беларусаў магла мець значэнне для Кангрэса – незалежна ад актыўнасці іх дэлегатаў – як сведчанне яго аўтарытэту (ці, прынамсі, наяўнасці прэтэнзій на аўтарытэт) у якасці "парламента нацыянальных меншасцяў". Улічваючы тое, што з прычыны пэўных абставін колькасць нацыянальных дыяспар, якія адпраўлялі дэлегатаў на кангрэс, паступова змяншалася, а некаторыя групы меншасцяў (нямецкая, украінская і венгерская) пасля сыходу яўрэйскіх прадстаўнікоў у 1933 г. усё больш выходзілі на першы план, вага беларускай дэлегацыі, як можна меркаваць, прапарцыйна ўзрастала.

Чарговы XVI кангрэс адбыўся ў жніўні 1938 г. у Стакгольме. Аднак напружаная палітычная сітуацыя, якая склалася ў той час у Еўропе, выразна адбілася на ходзе мерапрыемства. На гэтым кангрэсе зноў не было беларускага дэлегата з Польшчы. Невядома нават, ці значыліся беларусы ў спісе заяўленых дэлегатаў. Як паведамляў назіральнік ад Інстытута даследаванняў нацыянальнага пытання Стэфан Навакоўскі, на адным з паседжанняў Курт Грэбе, пастаянны дэлегат ад нямецкай меншасці з Польшчы, прапанаваў вызначыць месцам правядзення будучага Кангрэса Бялград, Парыж, Берн ці Осла, што было аднагалосна падтрымана[56]. Аднак налета, у 1939 г., успыхнула Другая сусветная вайна. Кангрэсу нацыянальных меншасцяў больш не наканавана было сабрацца.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

[56] Sprawy Narodowościowe. Rok XII. 1938. № 3. S. 354.

# The Belarusians and the European Nationalities Congress: 1925-1938

**Michihiro Yasui**

The European Nationalities Congress, which was set up in 1925 and continued till 1938, was a unique experiment in the cooperation of the national minorities in European countries. This article examines the attitudes of the Belarusians toward the European Nationalities Congress. Representatives of the Belarusians in Poland were invited to the Congress from its very beginning. However, they were skeptical about its effectiveness because they considered the situation of the Belarusians in Poland different from that of other minorities. Nevertheless, they recognized the significance of the Congress, which could be the beginning of forming a unification front by minorities. In the first three annual meetings in Geneva, which Fabian Jaremič attended as a delegate in 1925 and 1926, and Vasil Rahula in 1927, the Belarusians emphasized that they are a majority in the territories they inhabit, not a minority and, along with the Ukrainians in Poland, demanded to extend the frame of discussions to the matters of territorial autonomy. As their demands were not accepted, the representatives of the Belarusians and Ukrainians in Poland decided not to participte in the discussions and to remain as observers.

Given the change of constellation in the Congress – notably the withdrawal of the Polish groups – the Belarusians and Ukrainians in Poland officially became Congress members in the 4th Congress (1929), and Jeremicz made a speech but as the speaker himself admitted, it was not enough to present the situation of the Belarusians in Poland. After the Belarusians' subsequent absence (1929-1932) for often unknown reasons, it was at the 9th Congress in Bern (1933) during which a representative of the Belarusians in Poland presented their problems. Adolf Klimovič, making his first appearance at the Congress, condemned the policies of the Polish governments toward the Belarusians. However, the Belarusians' participation did not continue. Although their arrival was expected every time, they failed to show up for various reasons, some of which seemed due to the Polish governments' interference, for examp-

le, by means of not issuing passports. The 13th Congress (1937) was exceptional. Although the Belarusian delegate, Father Adam Stankievič, did not come to London where the Congress was being held for the first time, his English report "The Ethical Foundations of the National and Cultural Rights of the National Minorities" was read by a substitute.

Although the activities of the Belarusians in the Congress were not prominent, rather unassuming, they preserved contact with the Congress until the very end and, as often expressed in Belarusian journals, they recognized the meaning of the existence of the Congress. Nevertheless, the fact that Poland' Belarusians continued to be a Congress member seems to have contributed to the Congress, allowing it to maintain its authority as a "Parliament of national minorities" by gathering as many nationalities as possible.

## “КНІГА МОГІЛАК” І “КНІГА НЕКРАЛОГАЎ”

Пад патранатам Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк) рыхтуецца да выдання ўнікальны двухтамовік, прысвечаны мемарыяльнай культуры беларусаў на Захадзе.

Першы том – **альбом-даведнік “Кніга могілак: Беларускія магілы на Захадзе”**, у якім будуць звесткі пра беларускія могільнікі і паасобныя пахаванні ў 12 краінах свету (Аўстралія, Бельгія, Вялікабрытанія, Нямеччына, Грэцыя, Данія, ЗША, Італія, Канада, Францыя, Чэхія, Швецыя). У альбоме прадстаўлены вядомыя сёння месцы пахавання беларускіх эмігрантаў ад пачатку XX ст., пададзены звесткі як пра цэлыя беларускія могільнікі, так і пра раскіданыя па агульных месцах супакою беларускія магілы. Выданне будзе складацца з больш як тысячы фотаздымкаў пахаванняў і выяў асобаў, а таксама біяграфічных звестак пра пахаваных.

Другі том **“Кніга некралогаў”** складуць публікацыі з нагоды смерці розных асобаў, што з’яўляліся на старонках дзвюх найбольш значных беларускіх газет на Захадзе: “Бацькаўшчына” (Мюнхен, 1947–1966) і “Беларус” (Нью-Ёрк, ад 1950 г.). У выданні будуць пададзены некралогі як суродзічаў-эмігрантаў, так і вядомых культурных ці палітычных дзеячоў метраполіі, а таксама знакавых для беларусаў замежнікаў. Гэтыя тэксты адлюстроўваюць своеасаблівую сістэму каштоўнасцяў беларусаў на Захадзе, іх уяўленні пра “сваіх” і “чужых”. Асобны раздзел кнігі будзе прысвечаны таксама памятным карткам – спецыфічнаму элементу пахавальнай культуры беларускіх эмігрантаў.

Планаванае выданне – плён некалькіх дзесяцігоддзяў збіральніцкай працы розных асобаў. Укладальнікамі двухтамовіка выступаюць даследчыкі эміграцыі Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч. Плануецца, што абодва тамы ўбачаць свет у 2021 г. Больш падрабязную інфармацыю пра выданні можна атрымаць праз электронную пошту: *nhardzijenka@gmail.com*

## ДЖОРДАНВІЛЬ / JORDANVILLE



### АПАНАС
**APANAS**

(свецк. **Антон Мартас**, 08.09.1904, в. Завітая Наваградзкага пав. Менскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — ✝ 03.11.1984, Буэнас-Айрэс, Аргенціна)

Рэлігійны дзеяч, архіяпіскап. У 1927 г. пастрыжаны ў манахі пад імем Апанас (Афанасій). У 1930 г. скончыў багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Намеснік Яблочынскага манастыра. У 1942 г. у Менску высвечаны на япіскапа Віцебскага і Полацкага. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Разам з іншымі беларускімі іерархамі ў 1946 г. перайшоў у юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Адміністратар Паўночна-Германскага вікарыяту Германскай епархіі РПЦЗ. Выкладаў рэлігію ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, супрацоўнічаў з беларускай праваслаўнай прэсай, выдаў падручнік Старога Запавету па-беларуску. У 1950—1955 гг. — вікарны япіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргенціну. Япіскап (пазней архіяпіскап) Буэнас-айрэскі і Аргенцінска-парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу *«Белорусь в исторической государственной и церковной жизни»* (прадмова па-беларуску). У 1971 г. Сінод РПЦЗ забараніў чытаньне і распаўсюд кнігі, а аўтара адлучыў ад рэлігійнай дзейнасці. Памёр у Буэнас-Айрэсе.

Пахаваны ў Джорданвілі (Нью-Ёрк) на могілках манастыра Святой Тройцы.

**Надпіс на помніку**

Высокопреосвященный / АѲАНАСІЙ / Архіепископъ / Буэносъ-Айрэсскій и / Аргентинско-Парагвайскій / род. 8-IX-1904 г. / Въ Бозѣ Почилъ 3-XI-1984







### ПАНЦЕЛЯЙМОН
**PANTELEIMON**

(свецк. **Пётр Ніжнік**, 16.01.1895, в. Рэчыца Пружанскага пав., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ✝ 13.01.1984, Джорданвіль, Нью-Ёрк, ЗША)

Рэлігійны дзеяч, архімандрыт Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Ва ўзросце 18 гадоў выехаў на заробкі ў ЗША. Працаваў на цукровым заводзе каля Чыкага. У 1918 г. пайшоў



у Ціханаўскі манастыр у Саўт-Кейнане (Пенсільванія), дзе ў 1920 г. прыняў манаства. Каб знайсці сродкі для адкрыцця ўласнага манастыра, уладкаваўся на працу на авіяцыйны завод Сікорскага ў Стратфардзе. У 1928 г. набыў зямлю ў Джорданвілі (Нью-Ёрк), на якой у 1930 г. пачалося будаўніцтва манастыра. У 1935 г. манастыр быў асвечаны ў гонар Святой Тройцы. Да 1946 г. быў настаяцелем манастыра. У 1950 г. атрымаў сан архімандрыта. Быў чальцом Усходне-Амерыканскай і Джэрсійскай япархіі РПЦЗ.

Пахаваны ў Джорданвілі (Нью-Ёрк) на могілках манастыра Святой Тройцы.

**Надпіс на магіле:**

Строитель / Св. — Троицкаго Монастыря / Архимандрит / ПАНТЕЛЕЙМОН / 18.1.1895—13.1.1985





**Уладзімір СЯДУРА**
**Uladzimir SIADURA**
(псеўд. **Глыбінны**, 24.12.1910, Менск — ✞ 14.03.1995, Трой, Нью-Ёрк, ЗША)

Пісьменнік, літаратуразнаўца, культуролаг. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». Ад 1931 г. сябра Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), узначальваў яе моладзевае крыло (разам з Б. Мікулічам і С. Ліхадзіеўскім). Арыштаваны ў 1933 г. у Маскве, высланы на тры гады ў Сібір, у 1935 г. датэрмінова вызвалены. У 1941 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю «Максім Горкі як гісторык рускай літаратуры». У 1942—1944 гг. галоўны рэдактар часопіса «Новы Шлях» (Рыга). Друкаваўся ў «Беларускай Газэце». Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Германіі. У 1951 г. перабраўся ў ЗША. Узначальваў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытута ў Троі (штат Нью-Ёрк). Даследваў творчасць Ф. Дастаеўскага. Аўтар кніг: «На берагох пад сонцам» (1964), «На Святой зямлі» (1972), «Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу» (1979), «Пад лебядзіным знакам. Аповесць пра Максіма Багдановіча» (1983), «Вялікія дарогі» (1997).

Пахаваны разам з жонкай у Джорданвілі (Нью-Ёрк) на могілках манастыру Сьв. Троіцы.

**Надпіс на помніку**

Ирина Валентиновна / Урожд. Коркунова / Род. 13 июля 1923 / Ум. 3 января 1998 / Владимир Ильич / профессор литературы / Род. 24 декабря 1910 / Ум. 14 марта 1995 / Помяни, Господи, во Царствии Твоем






## ДЖЭКСАН / JACKSON

**Аляксандр АСІПОВІЧ-АСІПЧЫК**
**Alexander ASIPOVICH-ASIPCHYK**
(01.04.1909, в. Пляшкі, цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — ✞ 14.03.1990, Джэксан, Нью-Джэрсі, ЗША)

Грамадскі і рэлігійны дзеяч. У часе Першай сусветнай вайны сям'я выехала ў бежанства ў Чалябінскую губерню, дзе ад сухотаў памёр бацька і дзве сястры. Падчас вяртання на бацькаўшчыну ў 1921 г. памерла маці, пакінуўшы Алеся з сястрой сіротамі. Дзеці трапілі пад апеку Чырвонага Крыжа, які перадаў іх у прытулак на тэрыторыі Жыровіцкага манастыра. Быў таксама ў прытулках у Варшаве, Чэнстахове.

# Расійскія “окраины” і польскія “Kresy”: аб’ектыўнасць і гістарыяграфія[1]

## Тамаш Камусэла

Расійская гістарыяграфічная перцэпцыя постсавецкіх нацыянальных дзяржаў – Беларусі, Латвіі, Літвы, Малдовы і Украіны (а часам і Фінляндыі) – нярэдка апасродкуецца тэрмінам “окраины”. Польскія гісторыкі – праўда, толькі ў дачыненні да Беларусі, Літвы і Украіны (часам таксама Латвіі) – аналагічным чынам выкарыстоўваюць тэрмін “kresy”. Абодва тэрміны – адпаведна, у Расіі і Польшчы – былі да пэўнай ступені прыняты як нейтральныя аналітычныя тэрміны для даследавання мінулага гэтых краін у кантэксце, адпаведна, расійскай (імперскай) і польскай (польска-літоўскай) гісторыі. Што характэрна, у краінах, якія падпадаюць пад азначэнне “окраины” і “kresy”, навукоўцы і інтэлектуалы не фармулююць асобнага (або адасабляльнага паводле нацыянальнага крытэрыю) мінулага Беларусі, Латвіі, Літвы, Малдовы і Украіны з выкарыстаннем названых паняццяў. Паняцці гэтыя фактычна

Арыгінальная публікацыя: Kamusella T. The Russian Okrainy (Окраины) and the Polish Kresy: objectivity and historiography // Global Intellectual History. 2019. Vol. 4. Issue 4. P. 347–368. Друкуецца з ласкавай згоды аўтара.

[1] Я ўдзячны Генадзю Сагановічу і Любові Козік (Мінск), Сяргею Герману і Паўлу Мажэйку (Горадня), Кацярыне Гібсан (Фларэнцыя), Леаніду Зашкільняку і Яраславу Грыцаку (Львоў), Паўлу Ладыкоўскаму (Варшава) за іх час і цікавыя дыскусіі, якія падштурхнулі мяне напісаць гэты артыкул. Відавочна, за любыя хібы, калі якія засталіся, віна ляжыць толькі на мне.

разглядаюцца імі як чужыя, а шмат у якіх выпадках – як антыбеларускія, антылатышскія, антылітоўскія, антымалдаўскія або антыўкраінскія. Такім чынам, узнікае пытанне, ці настолькі нейтральныя гэтыя два тэрміны, як нярэдка сцвярджаюць расійскія і польскія гісторыкі.

## "Окраины": Расійскі імперыялізм

Рускае слова *окраина*, на першы погляд, азначае 'перыферыю' – перыферыю паселішча або (адміністрацыйнага) рэгіёна. З аналагічнага царкоўнаславянскага слова *оукраина*, засведчанага паміж XII і XV ст., узнік тэрмін "украина", які пачаў ужывацца ў Рэчы Паспалітай у XVI ст. для абазначэння "ўсходняга перыферыйнага рэгіёна" гэтай дзяржавы[2]. Урэшце на мяжы XX ст. гэты тэрмін стаў назвай краіны (*Україна*). Па-руску значэнне 'перыферыя дзяржавы' або 'памежная тэрыторыя' пачало перадавацца формай множнага ліку назоўніка *окраина* – *окраины*[3]. Абедзве формы гэтага звычайнага рускага назоўніка роўна выкарыстоўваліся аж да 1830-х г. Потым паўстанне польска-літоўскай шляхты супраць царызму (1830–1831) прымусіла расійскую кіроўную эліту прыняць у 1833 г. новую імперскую ідэалогію "праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці"[4]. Гэтая ідэалогія правяла выразную лінію

[2] Галушко К. (ред.). Народження країни. Від краю до держави. Назва, символіка, територія і кордони України. Харків, 2016. С. 10–13.

[3] Пар.: Переверзев И. Топографическое описание Харьковскаго наместничества: с историческим предуведомлением о бывших в сей стране с древних времен переменах. Москва, 1788. С. 122–123.

[4] Яшчэ адна значная ідэалагічная падзея, выкліканая паўстаннем 1830–1831 г., якая, аднак, рэдка станавілася прадметам разваг, – змяненне афіцыйнай (сама)назвы рускай мовы з "российский" на "русский" (язык). У выніку новая назва гэтай мовы аддалілася ад назвы імперыі ("Россия"). Ранейшая (ужываная да 1830-х г.) назва рускай мовы захавалася ў мовах беларускай ("расійская", "расейская"), польскай ("rosyjski") або ўкраінскай ("російська"). Гл.: Kamusella T. The Change of the Name of the Russian Language in Russian from Rossiiskii to Russkii: Did Politics Have Anything to Do with It? // Acta Slavica Iaponica. 2012. Vol 32. P. 73–96.

падзелу – як этнічнага, так і прасторавага – паміж праваслаўным і рускамоўным (маскоўскім) ядром Расійскай імперыі, з аднаго боку, і яе неправаслаўнымі і / або нярускамоўнымі (памежнымі) рэгіёнамі, або “окраинами”, – з другога. “Рускамоўны” ў гэтым гістарычным кантэксце азначаў праваслаўных, якія гаварылі на славянскіх мовах і чыя эліта пісала выключна кірыліцай. Гэтая графіка разглядалася як “праваслаўнае” або “рускае” пісьмо, ідэалагічна супрацьпастаўленае пісьму “польскаму” або “лацінскаму”[5].

Гэтая новая імперская ідэалогія “праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці”, прынятая імперскім урадам, спарадзіла шэраг падыходаў і дзеянняў, якія датычыліся ў далейшым “нерасійскай” перыферыі (“окраины”). Агульнай мэтай была гамагенізацыя нярускага насельніцтва шляхам добраахвотнага прыняцця (ці навязвання) або праваслаўя, або рускай мовы, або і таго, і другога разам. З імперскага пункту гледжання гэта была пазітыўная палітыка “абрусення”, скіраваная на мадэрнізацыю[6]. Крытыкі ж з тых груп насельніцтва, на якія гэтая палітыка была скіравана, успрымалі яе як непажаданае навязванне зверху, для характарыстыкі якога яны ўжывалі негатыўны тэрмін “русіфікацыя”[7]. Гэтая грамадска-палітычная кантраверза выклікала ўзнікненне формы множнага ліку *окраины*, якая стала самастойным тэрмінам і ўвайшла ў такой якасці ў шырокі ўжытак. Імперскія навукоўцы і адміністратары пачалі выкарыстоўваць яго для абазначэння “нерасійскіх” перыферый Расійскай імперыі, якім “требовалось обрусение”. Да сярэдзіны

[5] Flynn J. T. Uvarov and the ‘Western Provinces:’ A Study of Russia’s Polish Problem // The Slavonic and East European Review. 1986. Vol 64, No 2. P. 212–236; Whittaker C. H. The Ideology of Sergei Uvarov: An Interpretive Essay // The Russian Review. 1978. Vol. 37, No. 2. P. 158–176.

[6] Пар.: Картавцов Е. Обрусение землевладения в юго-западном крае. Киев, 1877.

[7] Dzyuba I. Internationalism or Russification: A Study in the Soviet Nationalities Problem [translated from the Ukrainian by M Davies]. London, 1968; Т. Г. За бъдещето на Полша. Стремежи и надежди на полския народъ. (Полскиятъ въпросъ въ европейския печатъ). София, 1916. С. 7.

1830-х г. формы адзіночнага і множнага ліку агульнага назоўніка *окраина* выкарыстоўваліся з аднолькавай частатой. Пасля таго – з канца 1830-х да 1860-х г. – форма множнага ліку пачала выкарыстоўвацца ў два-тры разы часцей, што можна разглядаць як сведчанне трывалага пераўтварэння формы множнага ліку *окраины* ў прыняты навукова-палітычны тэрмін[8]. Са з'яўленнем першых манаграфій пра такую "няРускую" перыферыю, у назве якіх фігураваў гэты тэрмін, пайшло ў ход словазлучэнне "окраины России", якое потым зрабілася агульнаўжываным[9].

Пік такога ўжывання прыпаў на час найбольшай імперскай экспансіі Расіі – перыяд з 1880-х г. да Першай сусветнай вайны[10]. Форма множнага ліку *окраины* выкарыстоўвалася тады ў пяць-шэсць разоў часцей, чым форма адзіночнага ліку *окраина*[11]. Відавочна, заваёвы новых тэрыторый і замацоўванне нядаўна далучаных земляў зрабілі гэты тэрмін неад'емным складнікам імперскай вайсковай лексікі[12], у тым ліку ў картаграфічных матэрыялах[13]. Расійскія імперскія эліты, якія дзейнічалі ў Сярэдняй Азіі і на Далёкім Усходзе, вельмі добра

8 окраина,окраины. 2018. Ngram Viewer. https://books.google.com/ngrams/graph?content=окраина%2Cокраины&year_start=1800&year_end=2000&corpus=25&smoothing=3&share=&direct_url=t1%3B%2Cокраина%3B%2Cc0%3B.t1%3B%2Cокраины%3B%2Cc0#t1%3B%2Cокраина%3B%2Cc0%3B.t1%3B%2Cокраины%3B%2Cc1 (стан на 8.07.2018).

9 Самарин Ю. Окраины России. Т. 1: Русское балтийское поморье. Берлин, 1869; Thaden E. C. Samarin's 'Okrainy Rossii' and Official Policy in the Baltic Provinces // The Russian Review. 1974. Vol 33, No 4. P. 405–414.

10 Багалей Д. Очерки из истории колонизации и быта степной окраины Московскаго государства. Москва, 1887; Петровский С. (ред.) Финляндская окраина России. Москва, 1894; Семенов П. П. Окраины России. Сибирь, Туркестан, Кавказ и полярная часть Европейской России. С.-Петербург, 1900.

11 Гл. спас. 7.

12 Шапиров Б. Наши пограничные окраины на Кавказе. С.-Петербург, 1909.

13 Золотарев А. Военно-географический очерк окраин России и пути в соседние территории. С атласом схем окраин. С.-Петербург, 1903.

ўсведамлялі рызыкі, якія заўсёды бываюць звязаны з пашырэннем імперыі, асабліва ў святле продажу Аляскі ў 1867 г. Злучаным Штатам, які зазнаваў і зазнае крытыку[14]. Гэтая экзістэнцыяльная трывога выражалася ў прысутнасці тэрміна “окраина” ў назвах некаторых газет, якія выдаваліся на тых далёкіх аванпостах[15]. Пякучым пытаннем было, як забяспечыць трывалае “воссоединение окраин с центром”. Гэтая праблема імперскай палітыкі часта выступала пры абмеркаванні дылемы, ці можна саступіць некаторыя памежныя тэрыторыі як аўтаномныя ці незалежныя дзяржавы іх насельніцтву – “инородцам”[16], гэта значыць этнічным нярускім[17]. Аднак у імперскім дыскурсе пра “окраины” Расіі найбольшая ўвага аддавалася “западным окраинам” – а гэта галоўным чынам былі колішнія землі Рэчы Паспалітай[18]. І не дзіва, бо гэтая частка Расійскай імперыі была самай развітай і самай густанаселенай. Актуальная геастратэгічная праблема палягала

[14] Пар.: Мифы и правда о продаже Аляски. 2017. Мир 24. 18 окт. http://mir24.tv/articles/16272972/mify-i-pravda-o-prodazhe-alyaski (стан на 12.07.2018); Почему Россия продала Аляску Соединенным Штатам. 2017. Forum Daily: Голос русскоязычной Америки. 24 сент. www.forumdaily.com/pochemu-rossiya-prodala-alyasku-soedinennym-shtatam/ (стан на 12.07.2018).

[15] Далекая окраина [газета]. 1907–1917. Владивосток; Русская окраина [газета]. 1906–1908. Самарканд.

[16] Яўрэі былі галоўнай мішэнню афіцыйнай імперскай палітыкі выключэння “инородцев” з расійскага грамадства. На заходніх “окраинах”, а дакладней, у расійскай долі падзеленай Рэчы Паспалітай, была вызначана “рыса аселасці” (“черта оседлости”), за якой забаранялася пражываць яўрэям. Гэтая дыскрымінацыйная “рыса аселасці” існавала з 1791 да 1917 г., хоць захоп Аўстра-Венгрыяй і Германіяй заходніх “окраин” фактычна скасаваў яе яшчэ ў 1915 г. (Deutsch N. The Jewish Dark Continent: Life and Death in the Russian Pale of Settlement. Cambridge, 2011; Карта юго-западных губерний Европейской России с показанием процента еврейского населения по уездам. 1884. http://russianmaps.livejournal.com/21171.html (стан на 12.07.2018).

[17] Будилович А. Может ли Россия отдать инородцам свои окраины? С.-Петербург, 1907; Мессарош П. Финляндия – государство или русская окраина? С.-Петербург, 1897.

[18] Пар.: Арсеньева С. Рассказы из истории западных окраин России. С.-Петербург, 1907.

ў тым, што гэтае эканамічнае ядро было прасторава і этнічна адасоблена ад палітычнага і рэлігійнага цэнтра імперыі, які месціўся ў Пецярбургу і Маскве[19].

Нямецкая і аўстра-венгерская акупацыя заходніх "окраин" Расіі ў Першую сусветную вайну стала шокам, якому імперская эліта не змагла даць рады. Распад Расійскай імперыі пасля лютаўскай і бальшавіцкай рэвалюцый зрабіў гэтую страту ў большасці выпадкаў трывалай. Замацавала яе з'яўленне Эстоніі, Фінляндыі, Латвіі, Літвы і Польшчы як незалежных нацыянальных дзяржаў. Ранняму Савецкаму Саюзу, які змагаўся за выжыванне, нічога не заставалася, як прыняць гэтую сітуацыю. Да таго ж, каб забяспечыць бальшавіцкаму рэжыму большую легітымнасць, этнічна нерасійскія раёны гэтай краіны былі пераўтвораны ў саюзныя і аўтаномныя (этнічныя) рэспублікі[20]. Імперскі тэрмін "окраины" знік у Савецкім Саюзе з афіцыйнага адміністрацыйнага і палітычнага ўжывання, але застаўся неад'емнай часткай паўсядзённай мовы. Форма множнага ліку *окраины* надалей у тры-чатыры разы пераважала над ужываннем адзіночнай формы *окраина*. Гэтаксама адбываецца і цяпер з выкарыстаннем абедзвюх формаў у постсавецкай Расійскай Федэрацыі[21]. Істотна, што страта "блізкага замежжа" ("ближкое зарубежье")[22] пасля распаду СССР – падзеі, ацэнка

[19] Индустриальный пролетариат России накануне Первой мировой войны. 1982. http://russian-maps.livejournal.com/tag/промышленность%20Российской%20империи (стан на 12.07.2018); Карта европейской России. Густота населения. 1901. http://q-map.ru/карта-плотности-населения-европейск/; Карта железных дорог Российской империи. 1916. http://mapinmap.ru/archives/8751 (стан на 12.07.2018).

[20] Martin T. The Affirmative Action Empire: Nations and Nationalism in the Soviet Union, 1923–1939. Ithaca NY, 2001.

[21] Гл. спас. 7.

[22] Расійскі тэрмін "блізкае замежжа", які азначае былыя савецкія саюзныя рэспублікі з пункту гледжання Расійскай Федэрацыі, з'явіўся на пачатку 1990-х, адразу пасля распаду Савецкага Саюза (Справочник для поступающих в Московский университет в 1991 г. Москва, 1991. С. 163, 169; Запеклый А., Вовченко О. Ближнее зарубежье. Республики бывшего СССР. Москва, 2001).

якой як “неабгрунтаванай” даволі шырока распаўсюджана сярод расійскай эліты, – вярнула ва ўжытак форму множнага ліку *окраины* як тэрмін навуковага і палітычнага аналізу[23]. Не дзіва, што найбольш увагі аддаецца “западным и южным окраинам”, што адлюстроўвае, адпаведна, глыбокі антаганізм постсавецкай Расіі адносна пашырэння НАТО і Еўрапейскага Саюза на ўсход і ўцягнутасць Крамля ў ваенныя і палітычныя справы на Каўказе. Аднак для многіх расійцаў канфлікт іх краіны з Грузіяй за Абхазію і Паўднёвую Асецію – неад’емная частка цяперашняй канфрантацыі з Захадам. Словазлучэнне “северные окраины”, якое ўжываецца практычна з такой самай частатою, пераважна адносіцца да Фінляндыі, а значыць, шмат у чым да “Захаду” ў шырокім сэнсе, з маскоўскага пункту гледжання. З пункту гледжання паўсядзённага выкарыстання ў Расіі і актуальнай расійскай геапалітыкі тры тэрміны – “западные, южные и северные окраины” – на самай справе азначаюць “западные окраины”. З іншага боку, тэрмін “восточные окраины” амаль адсутнічае ў сучасным ужытку, нягледзячы на працяглае супрацьстаянне Масквы з Японіяй вакол Курыльскіх астравоў[24].

З анексіяй Крыма ў 2014 г. і працяглай ваеннай аперацыяй Масквы на ўсходзе Украіны, якая пачалася ў тым самым годзе[25], тэрмін “западная окраина / западные окра-

[23] Балаев А. Г. Февральская революция и национальные окраины. Мартовские события 1918 г. в Азербайджане. Москва, 2008; Долбилов М., Миллер А. (ред.) Западные окраины Российской империи. Москва, 2006; Дубман Э., Кабытов П. (ред.) Поволжье – “внутренняя окраина” России: государство и общество в освоении новых территорий (конец XVI – начало XX вв.). Самара, 2007.

[24] Западные окраины, восточные окраины, южные окраины, северные окраины. 2018. Ngram Viewer. https://books.google.com/ngrams/graph?content=западные+окраины%2Свосточнее+окраины%2Сюжные+окраины%2Ссеверные+окраины&year_start=1800&year_end=2000&corpus=25&smoothing=3&share=&direct_url=t1%3B%2Сзападные%20окраины%3B%2Сc0%3B.t1%3B%2Свосточнее%20окраины%3B%2Сc0%3B.t1%3B%2Сюжные%20окраины%3B%2Сc0%3B.t1%3B%2Ссеверные%20окраины%3B%2Сc0 (стан на 8.07.2018).

[25] Wasiuta O., Wasiuta S. Wojna hybrydowa Rosji przeciwko Ukrainie. Kraków, 2017.

іны" пачаў пераважаць над іншымі формамі, звязанымі з усходнімі, паўночнымі або паўднёвымі межамі Расіі. Назва *Расія* ў словазлучэнні *западные окраины России* часта замяняецца на *Русский мир*, што спарадзіла новую фразу – "западные окраины Русского мира"[26]. Зрэшты, можа, гэтая фраза не такая ўжо і новая, калі ўлічыць, што словазлучэнне *Русский мир* шмат у якіх дачыненнях аказваецца новым ідэалагізаваным акрэсленнем былой Расійскай імперыі – тэрмінам, які характарызуе сучасныя геапалітычныя амбіцыі Крамля[27]. Нядаўні ўздым актыўнасці Масквы (ад культурнай да эканамічнай і нават ваеннай) у кірунку (ці супраць?) гэтых былых імперскасавецкіх "западных окраин"[28], здаецца, легітымізуецца адраджэннем расійскай імперскай ідэі XIX ст., згодна з якой Беларусь, Малдова і Украіна (магчыма, поруч з Эстоніяй, Латвіяй і Літвой, а можа і Фінляндыяй) – гэта не што іншае, як "западная Россия"[29]. Адроджаная імперская ідэалогія "заходнерусізму" ("западнорус[с]изм") – важны элемент ідэалогіі "русского мира".

[26] Гай М. Что же российские войска делали в Беларуси. Россия сегодня. 2018. 17 мар. https://inosmi.ru/social/20180317/241737609.html (стан на 8.07. 2018). Смирнов А. Проект Новороссия. История русской окраины. Москва, 2015.

[27] Wasiuta O., Wasiuta S. Op. cit. P. 267.

[28] Пар.: Radin A. Hybrid Warfare in the Baltics: Threats and Potential Responses. Santa Monica CA, 2017; Standish R. Russia's Neighbors Respond to Putin's 'Hybrid War.' Foreign Policy. 2017. 12 Oct. http://foreignpolicy.com/2017/10/12/russias-neighbors-respond-to-putins-hybrid-warlatvia-estonia-lithuania-finland/ (стан на 12.07.2018).

[29] Фролов К. Проект Украины как анти-России. Искоренение канонического православия на исторических землях Малороссии, Новороссии и Подкарпатской Руси. С.-Петербург, 2017; Цели и задачи проекта. 2010. Западная Русь. 20 июня. http://zapadrus.su/project-/abprogects.html. (стан на 8.07.2018); Соловьев С. Взгляд на историю установления государственного порядка России до Петра Великого // Шишелина Л. Н. (ред.) Россия и Европа. Хрестоматия по русской геополитике. Москва, 2007. С. 7–19.

## "Крэсы": польскі нацыяналізм

У нядаўняй расійска-ўкраінскай вайне (2014–) Польшча, здаецца, падтрымлівае Украіну, якая зазнае агрэсію з боку Расіі[30]. Тэлеканал "Белсат", які вяшчае з 2007 г. на беларускай мове з Польшчы на Беларусь, падобна, служыць той жа мэце, процідзейнічаючы прарасійскім ідэалогіям заходнерусізму і "русского мира"[31]. Але сітуацыя робіцца не настолькі відавочнай, калі паглядзець на польскі дыскурс пра ўсходніх суседзяў Польшчы, які ў вялізарнай ступені ідзе праз прызму польскай канцэпцыі "Крэсаў". Гэта форма множнага ліку агульнаўжывальнага польскага назоўніка *kres*, які азначае 'канец', 'мяжу' або 'памежжа'. У Рэчы Паспалітай гэтым словам абазначалася мілітарызаванае памежжа з Асманскай імперыяй і Крымскім ханствам[32]. Цяпер *kres* – слова даволі рэдкае і не надта зразумелае: значэнне 'канец' у польскай мове звычайна перадаецца словам *koniec*, 'мяжа' – *granica*, а 'памежжа' – *pogranicze*. Але ў сучасным польскім ужыванні добра захавалася форма множнага ліку назоўніка *kres*, а менавіта – *kresy*. Тэрмін "kresy" (яшчэ з малой літары) упершыню ўвайшоў у шырокі ўжытак як самастойны культурна-геаграфічны канцэпт у польскамоўным вершаваным рамане "Могарт" Вінцэнта Поля, апублікаваным у 1854 г.[33]. Гэты вершаваны раман здабыў у свой час вя-

[30] Pawlik K. Jak Polska pomaga Ukrainie. Reformy, pomoc humanitarna i dużo więcej. Gazeta Wyborcza. 2015. 20 Aug.; Polska pomoc dla Ukrainy. 2018. http://www.polskapomoc.gov.pl/Polska,pomoc,dla,Ukrainy,2275.html (стан на 12.07.2018).

[31] Belsat TV. Wikipedia. http://en.wikipedia.org/wiki/Belsat_TV. (стан на 8.07.2018); Pomoc represjonowanym na Białorusi. 2018. Fundacja Wolność i Demokracja. http://wid.org.pl/category/wzmacniamy-demokracje/pomoc-represjonowanym-na-bialorusi/. (стан на 12.07.2018).

[32] Święcki T. Opis starożytnej Polski (Vol 2). Warszawa, 1828; Żurawski vel Grajewski P. Kresy – dzieje pewnego pojęcia. Teologia Polityczna. 2016. 14 Mar. http://www.teologiapolityczna.pl/przemyslaw-zurawski-vel-grajewski-kresy-dzieje-pewnego-pojecia (стан на 8.07. 2018).

[33] Pol W. Mohort. Rapsod rycerski z podania. St. Petersburg, 1858 [1854]. S. 12, 22, 26, 43, 78, 92, 140, 160, 170.

лікую папулярнасць, што, у сваю чаргу, паспрыяла хуткаму распаўсюджванню новага словаўжывання сярод польска-літоўскай шляхты – і польскай інтэлігенцыі, якая ў той час якраз узнікала з гэтай групы[34].

З уздымам польскага этналінгвістычнага нацыяналізму ў канцы XIX ст. канцэпт “kresy” пачаў ужывацца для азначэння ўсходняй паловы былой Рэчы Паспалітай – паловы, якая ў той час пачала ўспрымацца як “няпольская”[35]. Што характэрна, масавы палітычны рух, натхнёны гэтай ідэалогіяй польскага нацыяналізму, супаў з росквітам імперскай палітыкі русіфікацыі заходніх “окраин” (1880–1910-я гады). Яшчэ адным штуршком да ўздыму польскага нацыянальнага руху стала прынятцце этналінгвістычнага нацыяналізму як дзяржаўнай ідэалогіі ў Германскай імперыі, заснаванай як нямецкая нацыянальная дзяржава ў 1871 г. Пасля гэтага іншыя мовы, акрамя нямецкай (у тым ліку польская), былі ў гэтай імперыі выведзены з ужытку ў афіцыйнай і адміністрацыйнай сферы, а таксама перасталі выкарыстоўвацца як інструмент школьнай адукацыі. Польска-літоўская шляхта, трансфармаваўшыся ў польскую інтэлігенцыю і далей у польскіх нацыяналістаў, якія ўспрымалі русіфікацыю і германізацыю як “антыпольскую” палітыку, хацела супраціўляцца ёй, каб захаваць знікненне

[34] Jedlicki J. A Suburb of Europe: Nineteenth-Century Polish Approaches to Western Civilization. Budapest, 1999.

[35] Dura L. Mapa rozsiedlenia ludności polskiej z uwzględnieniem spisów władz okupacyjnych w 1916 r. Warszawa, 2016. http://en.wikipedia.org/wiki/Kresy#/media/File:Mapa_rozsiedlenia_ludno%C5%9Bci_polskiej_z_uwzgl%C4%99dnieniem_spis%C3%B3w_z_1916_roku.jpg (стан на 12.07.2018); Jabłonowski A. Kresy ukrainne (Ser.: Pisma Aleksandra Jabłonowskiego, Vol 2). Warszawa, 1910; Kresy. Tygodnik polityczny, społeczny i literacki. Kijów, 1906–1908; Tygodnik Kresowy. Czasopismo, poświęcone zagadnieniom politycznym, społecznym i literackim oraz działalności narodowej społeczeństwa polskiego na Rusi. Żytomierz, 1917–1918; Wapiński R. Polska i małe ojczyzny Polaków. Z dziejów kształtowania się świadomości narodowej w XIX i XX wieku po wybuch II wojny światowej. Wrocław, 1994. S. 68–70, 85–96, 108–111.

“польскасці”. Пераўтварэнне ў 1867 г. Аўстрыйскай імперыі ў Аўстра-Венгрыю дало ім для гэтага добры шанец, таму што ў Аўстра-Венгерскай манархіі з 1869 г. гэтая шляхта і польскія нацыяналісты мелі велізарнае аўтаномнае каралеўства Галіцыі і Ладамерыі з польскай мовай як адзінай афіцыйнай і адміністрацыйнай. Аўтаномная Галіцыя забяспечыла польскаму нацыянальнаму руху ў Расійскай і Германскай імперыях трывалую інтэлектуальную, эканамічную і палітычную базу мадэрнізацыі, да якой можна было звяртацца пры патрэбе[36].

Аднак у той самы час не абмяркоўвалася і не асэнсоўвалася рэзкая змена, якая адбылася ў разуменні паняццяў “Польшча” і “палякі”. У традыцыйнай (раннемадэрнай), саслоўнай (данацыянальнай) палітыцы польска-літоўскай шляхты зніклая Рэч Паспалітая разумелася як “Польшча”, а найменні “палякі” і “народ польскі” (*naród polski* – або, на лацінскай мове, *natio*) былі зарэзерваваны для слоя польска-літоўскай шляхты і спароджанай ёю польскай інтэлігенцыі. Напярэдадні апошняга катастрафічнага паўстання польска-літоўскай шляхты (1863–1864) супраць Расійскай імперыі раннія польскія нацыяналісты зразумелі, што вузкі сацыяльны слой шляхты не мае ніякіх шанцаў супраць імперскай прызыўнай арміі. Каб здабыць хоць які поспех у ваенным канфлікце з Расіяй, у паняцце “польская нацыя” трэба было ўключыць усё насельніцтва краіны (незалежна ад саслоўя), у тым ліку і сялян. (Нязменная сфакусаванасць на Расіі была выклікана тым, што ў межах гэтай імперыі апынулася каля 80% тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай.) З гэтай мэтай у якасці асновы для пабудовы несаслоўнай польскай нацыі яны абралі польскую мову і рыма-каталіцызм[37].

[36] Markovits A. S., Sysyn F. E. (eds.) Nationbuilding and the Politics of Nationalism: Essays on Austrian Galicia. Cambridge MA, 1982; Porter B. When Nationalism Began to Hate: Imagining Modern Politics in Nineteenth-Century Poland. Oxford, 2002.

[37] Kamusella T. The Un-Polish Poland, 1989 and the Illusion of Regained Historical Continuity. Cham: Palgrave Macmillan, 2017.

Іронія гэтага рашэння палягала ў тым, што, не кажучы таго адкрыта, польскі нацыянальны рух адмовіўся ад палітычнай ідэі польска-літоўскай шляхты аднавіць Рэч Паспалітую як новую Польшчу. У канфесійным плане гэты нававызначаны канцэпт польскай нацыі выключаў тых, хто не вызнаваў рыма-каталіцызм – гэта значыць яўрэяў, пратэстантаў і ўніятаў (грэка-каталікоў). У лінгвістычным жа плане ён выключаў усіх няпольскамоўных – тых, хто гаварыў на балцкай літоўскай мове, або тых, хто запісваў свае славянскія мовы "няпольскімі" кірылічнымі літарамі (якія часта зваліся "рускімі"), г. зн. беларусаў і ўкраінцаў[38]. Аднак у прасторавым плане такімі этнічнымі непалякамі былі населены прынамсі дзве трэці былой Рэчы Паспалітай. Такім чынам, прыняцце гэтага этналінгвістычнага вызначэння польскай нацыі фактычна абмежавала канцэпцыю польскай нацыянальнай дзяржавы толькі самай заходняй трэццю былой Рэчы Паспалітай[39].

Але такая магчымасць была б зусім непрымальная для шмат каго з польска-літоўскай шляхты, хто нядаўна абярнуўся ў польскіх этналінгвістычных нацыяналістаў. Яны хацелі "вялікай краіны", такой, як Рэч Паспалітая, а не малой этнічнай Польшчы, якая вынікала з этналінгвістычнай формулы польскага нацыяналізму[40]. Польскія нацыяналісты мелі надзеі на новую Польшчу, якая б стала (імперскай) дзяржавай нароўні з Расіяй, на адбудову Рэчы Паспалітай XVI ст., якая вяла паспяховыя войны супраць Масковіі, у тым ліку паставіла ў Маскве ў перыяд з 1605 да 1612 г. чатырох цароў, што былі прыязныя

[38] Myśl Polska. Pismo poświęcone sprawom politycznym, społecznym i literacko-artystycznym. 1916. S. 96, 164. http://books.google.co.uk/books?id=9Y7DF0b6xI4C&q=kresy&dq=kresy&hl=en&sa=X&ved=0ahUKEwiM6Y-kj5DcAhVsBsAKHbY5Dw4FBDoAQg9MAM (стан на 8.07.2018).

[39] Wapiński R. Polska i małe ojczyzny Polaków.

[40] Beauvois D. Trójkąt ukraiński. Szlachta, carat i lud na Wołyniu, Podolu i Kijowszczyźnie 1793–1914 / przeł. K. Rutkowski]. Lublin, 2005; Bilenky S. Romantic Nationalism in Eastern Europe: Russian, Polish, and Ukrainian Political Imaginations. Stanford CA, 2012. P. 82.

да Рэчы Паспалітай або наўпрост яе прадстаўлялі. Гэтае шчырае жаданне, якое відавочна ішло ўразрэз з этналінгвістычным вызначэннем польскай нацыі, прывяло да “гістарычных прэтэнзій” польскага нацыянальнага руху на дзве этнічна няпольскія трэці тэрыторыі Рэчы Паспалітай для польскай нацыянальнай дзяржавы. Для абазначэння тых абшараў тады і быў прызнаны ідэалагічна прыдатным тэрмін “Kresy”. Ён стаў выразнікам ідэі, якая падкрэслівала “(гістарычны) польскі характар” гэтых земляў і перакананне польскіх нацыяналістаў, што новая польская нацыянальная дзяржава будзе мець права ўключыць у сябе “Kresy” цалкам ці большай часткай[41]. Гэты падыход спалучаўся з палітыкай паланізацыі, якая рэдка калі прызнавалася адкрыта – палітыкай, што мелася павярнуць былую русіфікацыйную палітыку Расійскай імперыі ў адваротным кірунку і скасаваць дасягненні беларускага, літоўскага і ўкраінскага нацыянальных рухаў[42].

Пры такім падыходзе, калі тэрыторыя разглядалася выключна ў святле этнічнай прыналежнасці яе жыхароў, вызначанай праз канфесію і мову (пісьмо), польскі тэрмін “kresy” выглядае люстраным адбіткам раней утворанага расійскага тэрміна “окраины”. Неўзабаве такія этнічна няпольскія вобласці, на якія, тым не менш, польскія нацыяналісты прэтэндавалі для прапанаванай польскай нацыянальнай дзяржавы, былі вызначаны на захадзе і на поўдні, калі глядзець з этнічна польскага ядра, акрэсленага ў прасторы гарадамі Варшавай, Кракавам і Познанню. Такім чынам, тэрмін “kresy” зазнаў мадыфікацыю: да яго дадаліся назвы бакоў свету

[41] A N R. Sprawa polska na kresach wschodnich (Ser: Wolne Głosy, Vol 5). Warszawa, 1917; Darowski A. W. Kresy ruskie Rzeczypospolitej (Województwa: Kijowskie, Wołyńskie, Bracławskie i Podolskie). Warszawa, 1919; Wasilewski L. Kresy Wschodnie. Litwa i Białoruś, Podlasie i Chełmszczyzna, Galicya Wschodnia, Ukraina. Warszawa, 1917.

[42] Kamusella T. Germanization, Polonization, and Russification in the Partitioned Lands of Poland – Lithuania. Nationalities Papers. 2013. Vol 41, No 5. P. 815–838.

ў форме прыметнікаў, і атрымаліся *kresy wschodnie*[43], *kresy zachodnie* і *kresy południowe*[44] – адпаведна, "усходнія", "заходнія" і "паўднёвыя". У міжваеннай Польшчы тэрмін "Kresy" пачаў пісацца з вялікай літары, а яго значэнне ўсё больш і больш звязвалася з наравістай няпольскай усходняй паловай краіны – паловай, якая этнічна была беларускай, літоўскай і ўкраінскай[45]. Калі ў выніку савецка-польскай вайны (1919–1921) польска-савецкая мяжа стабілізавалася, каля 50% усіх Крэсаў апынуліся ў Беларускай і Украінскай Савецкіх Сацыялістычных Рэспубліках, рэшта – у Польшчы, Літве і Латвіі. Як ні дзіўна, у міжваеннай Польшчы *Kresy Wschodnie* ("усходняе памежжа") адпавядалі ўсходняй палове краіны (у значнай ступені таксама яўрэйскай, г. зн. заселенай ідышамоўнымі яўрэямі)[46]. Гэтая сітуацыя дала ў рукі савецкім уладам аргумент, з дапамогай якога лёгка было вінаваціць Варшаву ў неабгрунтаваным падзеле Савецкай Беларусі, Савецкай Украіны і нават "буржуазнай" Літвы, у якой у 1920 г. Польшча захапіла сталіцу Вільню з ваколіцамі. Але рэальная дыскусія паміж Масквой і Варшавай была працягам ранейшых – расійскіх імперскіх і польскіх нацыяналістычных – дыскурсаў, якія разглядалі насельніцтва заходніх "окраин" Расіі і ўсходніх "крэсаў" Польшчы дэгуманізавана, як "этнаграфічную масу" – адпаведна, "этнографическая масса"[47] і "masa

[43] Jaskólski J. Granice Polski: z mapą, trzema tablicami statystycznemi i słowniczkiem geograficznym. Lwów, 1920: 7.

[44] Balzer O. Rewizya teoryi o pierwotnem osadnictwie w Polsce. Lwów, 1898; Glabisz K. Gdzie nasze kresy zachodnie? Stosunki narodowościowe w zaborze pruskim, z 4 mapami rozsiedlenia ludności polskiej. NA: Związek Młodych Polaków, 1920; Saysse-Tobiczyk K. Dość już ignorancyi w kwestyi Kresów Południowych! Warszawa, 1919.

[45] Przybylski S. Kresy Wschodnie Rzeczypospolitej. Opisy i obrazy przeszłości. Lwów, 1927.

[46] Kostrowicka I. (ed.) Zesłańczym szlakiem. Fragmenty pamiętników emigrantów nadesłanych na konkurs IGS SGH. Warszawa, 1994: V; Łukomski G. Kresy zachodnie i wschodnie w pracach Rządu Rzeczypospolitej Polskiej na Uchodźstwie, 1939–1945. Wybór źródeł. Warszawa, 2006. S. 280.

[47] Грушевский М. Очерк истории украинского народа. С.-Петербург, 1904. С. 165; Милюков П. Главные течения русской исторической мысли. Т. 1. Москва, 1898. С. 261; Вестник Европы. 1891. Т. 147. С. 921.

etnograficzna”[48], – якая “чакала адліцця ў форму” той ці іншай нацыі. Расійскі імперыялізм (нацыяналізм) і польскі нацыяналізм падаваліся іх прыхільнікамі як “адзіная цывілізацыйная сіла” ў гэтым рэгіёне. Такая самаабвешчаная “гістарычная місія” абодвух рухаў палягала ў тым, каб перарабіць гэтую “пасіўную этнаграфічную масу” ў свядомых расійцаў і палякаў.

У прасторавым плане міжваенны польскі канцэпт (усходніх) Крэсаў адпавядаў расійскаму імперскаму канцэпту (заходніх) “окраин”. За выключэннем Фінляндыі, Эстоніі і Бесарабіі (сённяшняй Малдовы) заходнія “окраины” імперскай Расіі былі не чым іншым, як усходнімі Крэсамі міжваеннай Польшчы. Варшава рашуча выключала з тэрытарыяльнага абсягу такіх Крэсаў Латвію і з меншай пэўнасцю – Літву. Імперская Расія (якая пазней ператварылася ў Савецкі Саюз), выкарыстоўваючы ідэалагічную маску “інтэрнацыяналізму”, не адчувала, што зробленыя Польшчай саступкі яе да нечага абавязваюць. У вачах асобаў, якія прымалі рашэнні ў СССР, імперскі канцэпт заходніх “окраин” (асабліва калі гаворка ішла пра экспарт камуністычнай рэвалюцыі на захад) надалей уключаў у сябе, акрамя этнічна беларускіх і ўкраінскіх земляў, і Латвію, і Літву. Больш за тое, прасторавы абсяг заходніх “окраин” ахопліваў Фінляндыю, Эстонію і большую частку міжваеннай Польшчы. Такое разуменне этнічна няпольскіх і нярускіх краін (з іх жыхарамі) паміж этнічнай Польшчай і этнічнай Расіяй непазбежна вывела Польшчу і Савецкі Саюз на сустрэчныя курсы, якія вялі да сутыкнення. Выйграў у гэтым працяглым змаганні Савецкі Саюз як непасрэдны пераемнік Расійскай імперыі. Пасля Другой сусветнай вайны этнанацыянальныя амбіцыі беларусаў і ўкраінцаў былі задаволены шляхам далучэння этнічна беларускага і ўкраінскага сегментаў Крэсаў міжваеннай Польшчы да Савецкай Беларусі і Савецкай

[48] Dmowski R. Niemcy, Rosya i kwestya polska. Lwów, 1908. S. 162; Gawroński F. Bohdan Chmielnicki do elekcyi Jana Kazimierza. Lwów, 1906. S. 12, 20; Wasilewski L. Sprawy narodowościowe w teorji i w życiu. Warszawa, 1929. S. 10, 12.

Украіны. Акрамя таго, Крэмль перадаў Вільню з ваколіцамі Літве, якая, у сваю чаргу, стала яшчэ адной саюзнай рэспублікай Савецкага Саюза. Фінляндыя ледзьве здолела адбіцца ад савецкага нападу (1939–1940), тым часам як Эстонія і Латвія былі ўключаны ў Савецкі Саюз у статусе саюзных рэспублік, а Польшча ператварылася ў дзяржаву-сатэліт, моцна прывязаную да савецкага блока, што ўтварыўся пасля 1945 г. У барацьбе з Польшчай за заходнія "окраины" і Крэсы Крэмль выйшаў пераможцам. Каля 72% тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай апынулася ў межах пасляваеннага Савецкага Саюза, і толькі 28% – у камуністычнай Польшчы.

Нераўнамерны падзел тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай паміж Польшчай і Савецкім Саюзам (у тым ліку перадача ўсіх Крэсаў апошняму) пасля Другой сусветнай вайны быў завершаны ўзаемнай этнічнай чысткай, узгодненай і арганізаванай на дзяржаўным узроўні – перамяшчэннем этнічных палякаў з пашыранага СССР у пасляваенную Польшчу, а беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў, якія заставаліся ў камуністычнай Польшчы, – у Беларускую, Літоўскую і Украінскую савецкія рэспублікі. Многія палякі абураліся стратай "нашых Крэсаў", дзе яны нарадзіліся і жылі дагэтуль. Аднак Сталін "кампенсаваў" гэта Польшчы вялікімі нямецкімі тэрыторыямі на ўсход ад лініі Одэр – Нэйсэ, з якіх этнічна нямецкае насельніцтва хутка выгналі, згодна з дамовай паміж Масквой і заходнімі саюзнікамі ў Патсдаме. Адзіным гарантам новай польска-нямецкай мяжы заставалася Чырвоная Армія, бо ні Заходняя Германія, ні заходнія саюзнікі не прызнавалі яе дэ-юрэ аж да нямецка-польскай дамовы аб мяжы 1990 г., ратыфікаванай праз год з лішкам – у 1992 г.[49].

У міжваеннай Польшчы тэрмін "заходнія Крэсы" ўжываўся рэдка і ніколі не адносіўся да такіх вялікіх тэрыторый, як тыя, што перайшлі Польшчы ад Германіі пасля

[49] Kamusella T. The Twentieth Anniversary of the German-Polish Border Treaty of 1990: International Treaties and the Imagining of Poland's Post-1945 Western Order // Journal of Borderlands Studies. 2010. Vol 25. No 3-4. P. 120–146.

1945 г. Трэць сённяшняй Польшчы складаецца з нямецкіх тэрыторый, якія атрымалі пасля вайны вельмі ідэалагізаванае афіцыйнае найменне – "вернутыя тэрыторыі" (*Ziemie Odzyskane*)[50]. Пасля 1945 г. у польскай нацыянальнай дзяржаве не засталося ўсходніх Крэсаў. Цэнзура нават забараняла ўжываць тэрмін "Крэсы" ў любых публікацыях, якія выпускаліся ў Польскай Народнай Рэспубліцы, каб прадухіліць любыя сумненні наконт пасляваеннага статус-кво і савецкага панавання ў Польшчы[51]. Аналагічным чынам у Савецкім Саюзе пазбягалі ідэалагізаванага тэрміна "окраины".

У посткамуністычнай Польшчы дыскурс "Крэсаў" хутка адрадзіўся ў 1990-я г., гэтая тэндэнцыя выразна адлюстравалася ў англамоўнай літаратуры на польскую тэматыку[52], а яшчэ выразней – у нямецкамоўных публікацыях па польскай гісторыі і культуры[53]. У 2006 г. *Kresowiacy* (людзі родам з Крэсаў) займелі вельмі жывы інфармацыйны інтэрнэт-партал са звесткамі пра іх публікацыі і арганізацыі як у Польшчы, так і на "Крэсах" (маюцца на ўвазе Беларусь, Латвія, Літва і Украіна). Цяпер у фінансаванні гэтага партала ўдзельнічае польскі Сенат, які выкарыстоўвае яго ў якасці паўафіцыйнага канала для праекцыі польскай мяккай сілы "на ўсходзе" (*na Wschodzie*, што, відавочна, азначае "Крэсы")[54]. Ціка-

[50] Sakson A. (ed.) Ziemie Odzyskane – Ziemie Zachodnie i Północne 1945–2005: 60 lat w granicach państwa polskiego. Poznań, 2006.

[51] Kolbuszewski J. Od Pigalle po Kresy. Krajobrazy literatury popularnej (Ser: Acta Universitatis Wratislaviensis, Vol 1632). Wrocław, 1994. S. 167.

[52] kres, kresy. 2018. Ngram Viewer. http://books.google.com/ngrams/graph?content=kres%2Ckresy&year_start=1800&year_end=2000&corpus=15&smoothing=3&share=&direct_url=t1%3B%2Ckres%3B%2Cc0%3B.t1%3B%2Ckresy%3B%2Cc0 (стан на 8.07.2018).)

[53] kres, kresy. 2018b. Ngram Viewer. http://books.google.com/ngrams/graph?content=kres%2Ckresy&year_start=1800&year_end=2000&corpus=20&smoothing=3&share=&direct_url=t1%3B%2Ckres%3B%2Cc0%3B.t1%3B%2Ckresy%3B%2Cc0 (стан на 8.07.2018).

[54] Kresy24.pl. 2018. Wikipedia. http://pl.wikipedia.org/wiki/Kresy24.pl (стан на 12.07.2018).

ва, што калі параўнаць частату выкарыстання расійскага тэрміна "окраины" і польскага "Kresy" ў англамоўнай навуковай літаратуры[55], адразу робіцца відавочным, што першае панавала з сярэдзіны 1940-х да 1970-х – калі Захад аддаваў больш увагі Савецкаму Саюзу, чым яго сатэлітам, і калі з ідэалагічных прычын польскім навукоўцам у камуністычнай Польшчы ўжываць у сваіх працах тэрмін "Kresy" не дазвалялася. У перыяд разрадкі (1975–1979) і ў 1980-я г., калі савецкая ўлада ішла да заняпаду, абодва дыскурсы – і "kresowy", і "окраинный" – у англамоўных публікацыях зраўняліся. З іншага боку, пасля распаду Савецкага Саюза дыскурс "Крэсаў" рос у геаметрычнай прагрэсіі, у той час як дыскурс "окраин" скараціўся ўдвая. У выніку каля 2000 г. тэрмін "Kresy" выступаў у англамоўных выданнях у пяць разоў часцей, чым яго расійскі адпаведнік "окраины"[56].

### Нічога пра нас без нас?

Цяпер, пасля распаду спачатку савецкага блока, а затым і Савецкага Саюза, як расійскі тэрмін "западные окраины", так і польскі "Kresy" адносяцца да тэрыторый па-за межамі сённяшняй Расійскай Федэрацыі і Польшчы, гэта значыць – да размешчаных паміж гэтымі дзвюма краінамі нацыянальных дзяржаў, што ўзніклі на землях былой Рэчы Паспалітай, а менавіта – да Беларусі, Латвіі, Літвы і Украіны. У 1990-я г. стала ясна, што канец прыйшоў і расійска-савецкаму імперскаму дыскурсу, і польскаму нацыяналістычнаму дыскурсу з імперыялістычным адценнем, якія разглядалі нерасійскія і няпольскія ў этнічным сэнсе тэрыторыі і насельніцтва, размешчаныя паміж этнічнай Расіяй і Польшчай як аб'ект палітыкі. Было зразумела, што з гэтага часу і расійскім, і польскім

[55] Гл. спас. 7.
[56] kresy, okrainy. 2018. Ngram Viewer. http://books.google.com/ngrams/graph?content=kresy%2Cokrainy&year_start=1800&year_end=2000&corpus=15&smoothing=3&share=&direct_url=t1%3B%2Ckresy%3B%2Cc0%3B.t1%3B%2Cokrainy%3B%2Cc0 (стан на 8.07.2018).

палітыкам трэба будзе паважаць суверэнныя імкненні беларусаў, латышоў, літоўцаў ці ўкраінцаў самім прымаць рашэнні адносна сябе і сваіх нацыянальных дзяржаў так, як палічаць патрэбным.

Але ў Польшчы тым часам сапраўдны выбух прысвечаных Крэсам публікацый, які назіраўся ў 1990-я г. (пар. 1443 бібліяграфічныя пазіцыі ў 1989–2000 г.[57]), у наступнае дзесяцігоддзе амаль падвоіўся (пар. 2452 бібліяграфічныя пазіцыі ў 2001–2011 г.[58]). Тэндэнцыя гэтая працягваецца, пра што сведчаць 1 870 000 вынікаў пошуку ў Google па тэрміне "kresy"[59]. Тым часам расійскі тэрмін "западные окраины" прыносіць усяго 30 500 вынікаў[60], а яго блізкі сінонім "окраины России" – толькі ўтрая больш, 117 000[61]. Папулярны ў 1990-я г. расійскі тэрмін "блізкае замежжа" ("ближнее зарубежье") для абазначэння заходніх "окраин" пачуваецца ў інтэрнэце значна лепш – 550 000 вынікаў[62]. Але словазлучэнне *русский мир*,

57 "kresy". Ograniczono do: Year from 1989 And Year to 2000 And znaleziono 1443 wyników. Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2018. http://alpha.bn.org.pl/search*pol/X?SEARCH=(kresy)&Da=1989&Db=2000&SORT=D (стан на 12.07.2018).

58 "kresy". Ograniczono do: Year from 2001 And Year to 2011 And znaleziono 1443 wyników. Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2018. https://alpha.bn.org.pl/search*pol/X?SEARCH=(kresy)&Da=2001&Db=2011&SORT=D (стан на 12.07.2018).

59 "kresy". 2018. Google. http://www.google.co.uk/search?source=hp&ei=4WBHW6SaGYv6kwWLrYmgDQ&q=kresy&oq=kresy&gs_l=psy-ab.3..0l10.1623.2643.0.2995.7.5.0.0.0.0.106.482.4j1.5.0….0…1c.1.64.psy-ab..2.5.479.0..0i131k1j0i10k1.0.aroRlQ_bFB8 (стан на 12.07.2018).

60 Гл. спас. 23.

61 "окраины России". 2018. Google. https://www.google.co.uk/search?ei=S1xHW66GKIHRwAKCsauYAw&q="окраины+России"&oq="окраины+России"&gs_l=psy-ab.12..0i30k1j0i5i30k1l3j0i8i30k1.277275.301545.0.302842.11.11.0.0.0.0.228.1366.4j6j1.11.0….0…1c.1j2.64.psy-ab..0.11.1359…0i7i30i19k1j0i19k1j0i7i5i30i19k1j0i13i30i19k1j0i7i30k1j0i7i5i30k1j0i8i7i30k1.0.-ZxsgXnjxRY (стан на 12.07.2018).

62 "ближнее зарубежье". 2018. Google. https://www.google.co.uk/search?ei=e11HW_G1EYnLwQKLhLeABw&q="ближнее+зарубежье"&oq="ближнее+зарубежье"&gs_l=psy-ab.3..0i19k1l10.114911.120878.0.121836.4.4.0.0.0.0.168.363.1j2.4.0….0…1c.1j2.64.psy-ab..0.2.279.0..0j0i22i30k1.83.X8iMoNNm-oQ(стан на 12.07.2018).

якое стала папулярным у пуцінскую эру, лёгка бярэ верх з 2 200 000 вынікаў[63] – дзякуючы заснаванаму ў 2007 г. аднайменнаму дзяржаўнаму фонду "Русский мир" з філіяламі па ўсім свеце, дзейнасць якіх каардынуецца, рэкламуецца і падтрымліваецца шчодра фундаваным інфармацыйным інтэрнэт-парталам пад такой самай, што не дзіва, назвай – "Русский мир"[64]. З пункту гледжання Крамля ўсе, хто ў постсавецкіх дзяржавах гаворыць на рускай мове (як роднай), асабліва на захад ад Расійскай Федэрацыі, спрошчана трактуюцца як рускія, і ад іх чакаецца – і заахвочваецца – лаяльнасць толькі да Расіі, а не да краіны пражывання[65]. Такі падыход мае на мэце легітымізаваць анексію Крыма Масквой у 2014 г. і расійска-ўкраінскую вайну, якая не спыняецца дагэтуль[66].

З іншага боку, сучасны польскі дыскурс пра "Крэсы" ідзе праз канцэпцыю "польскіх нацыянальных меншасцяў" (*polskie mniejszości narodowe*), якія вызначаюцца як этнічна польскае насельніцтва, што жыве па-за межамі Польшчы, але выключна на тэрыторыі Крэсаў, гэта значыць на былых тэрыторыях Рэчы Паспалітай. (Для польскага насельніцтва, якое пражывае ў іншых месцах па ўсім свеце, выкарыстоўваецца тэрмін лацінскага

[63] Русский мир. Информационный портал фонда "Русский мир". 2018. http://russkiymir.ru/ (стан на 12.07.2018).

[64] "русский мир". 2018. Google. https://www.google.co.uk/search?ei=1VtHW_fnLIXDwQLqwo-YBg&q="русский+мир"&oq="русский+мир"&gs_l=psy-ab.3..0i7i30k1j0j0i7i30k1l8.2413.5578.0.6644.2.2.0.0.0.0.153.274.0j2.2.0….0…1c.1.64.psy-ab..0.2.272…0i22i30k1.0.MbFz7IpzrIo&gws_rd=ssl (стан на 12.07.2018).

[65] Law on Citizenship Procedures for People Recognised as Russian-speakers. 2014. Moscow: President of Russia. http://en.kremlin.ru/events/president/news/20821. (стан на 12.07.2018); Putin Changes Law to Ease Citizenship for Russian Speakers. 2014. Reuters. 21 Apr. http://www.reuters.com/article/ukraine-crisis-russia-citizenship-idUSL6N0ND0WH20140421 (стан на 12.07.2018).

[66] Рязанов С. Цифры русского мира. Свободная пресса. 2015. 20 дек. http://svpressa.ru/politic/article/138693/ (стан на 12.07.2018); "Украинцы" – это те же русские. Военное обозрение. 2017. 1 июня. http://topwar.ru/116940-ukraincy-eto-te-zhe-russkie.html (стан на 12.07.2018).

паходжання "Polonia"[67].) Члены такіх шырока і недакладна вызначаных "польскіх нацыянальных меншасцяў" могуць падаць заяву на пасведчанне этнічнага паляка ("Карта паляка"), уведзенае ў 2007 г. Перш за ўсё гэты дакумент сімвалічна пацвярджае прыналежнасць уладальніка да польскай нацыі. На практычным узроўні пасведчанне этнічнага паляка дае права на працу ў Польшчы, а таксама поўны доступ да дзяржаўнай бясплатнай адукацыі і аховы здароўя. Цікава, што хоць насельніцтва, на якое разлічана "карта паляка", у асноўным жыве ў Беларусі, Літве і Украіне, гэты дакумент прапануецца ўсім грамадзянам усіх дзяржаў постсавецкай прасторы, хто толькі адпавядае вызначаным крытэрам[68]. З расійскага пункту гледжання, такім чынам, Польшча трактуе ўсю тэрыторыю "русского мира" як "Крэсы", што не надта прыемна.

Але якое месца адводзіцца ў дыскурсах "русского мира" ("окраины") і "Крэсаў" народам, якіх гэта тычыцца найбольш – беларусам, латышам, літоўцам і ўкраінцам? Масква і Варшава ў аднабаковым парадку прымаюць разнастайныя рашэнні, якія так ці інакш закранаюць нацыянальныя дзяржавы, размешчаныя паміж Расіяй і Польшчай, не надта дбаючы пра патрэбы і пачуцці тамтэйшага насельніцтва. Відавочна, што Крэмль вядзе такую палітыку больш адкрыта і ўпэўнена, хоць нядаўняя спроба Масквы адрадзіць Расію як глабальнага гульца ў сусветнай палітыцы аказалася не надта паспяховай. Дзеянні ж польскіх уладаў у гэтым плане – хутчэй нейкі выкрунтас у духу "нацыянальных правоў" у этнічным разуменні, выражаных як праз польскую мову, так і праз рыма-каталіцызм (гэтая рэлігія на Крэсах пры спрошчаным падыходзе атаясамліваецца з польскасцю).

На мой погляд, трактаваць цэлы шэраг суседніх дзяржаў як "памежжа" ўласнай краіны – вельмі абразліва

[67] Diaspora polska. 2018. Wikipedia. http://pl.wikipedia.org/wiki/Diaspora_polska (стан на 12.07.2018).

[68] Karta Polaka. 2018. Wikipedia. http://pl.wikipedia.org/wiki/Karta_Polaka (стан на 12.07.2018).

і недарэчна. У лепшым выпадку гэта бяздумнае адраджэнне хібнай імперскай (або імперскага кшталту) палітыкі з сумнага мінулага, азмрочанага войнамі і гвалтам. Але, з іншага боку, абодва дыскурсы ўтвараюць відавочную пагрозу незалежнаму існаванню нацыянальных дзяржаў, якія падпадаюць пад польскую катэгорыю "Kresy" або расійскую – "окраины + русский мир". Ні беларусы, ні латышы, ні літоўцы, ні ўкраінцы не бачаць свае краіны як частку нейчага памежжа – ці то польскага ўсходняга, ці то расійскага заходняга. Яны не лічаць сябе ніжэйшымі адносна польскай ці рускай нацыі і не бачаць патрэбы ў кіраванні ні з Варшавы, ні з Масквы. Здаецца, гэтая рытуалізаваная лексічная непавага з польскага і расійскага бакоў адносна беларускага, латышскага, літоўскага ці ўкраінскага народаў носіць кампенсацыйны характар. Якраз такое стаўленне з боку немцаў абурала палякаў, якраз такое стаўленне з боку амерыканцаў (і немцаў у Другую сусветную вайну) абурала расійцаў. Тыя, хто адстойвае тэрміны "Kresy" і "окраины + русский мир", часта тлумачаць, што гэта "проста спосаб выражэння", неадʼемная частка гістарычнага і культурнага багажу польскай ці рускай мовы; што нічога брыдкага, не кажучы ўжо – злога, тут не маецца на ўвазе. Але кожная мова – прадукт чалавечай волі і рашэнняў. Калі нейкі прыкры падыход, які меў месца ў мінулым, цяпер сапраўды асуджаны і больш не выкарыстоўвацца, то і лексіка павінна змяніцца. Як бы спадабалася палякам ці расійцам, калі б іх краіны называліся *межы* па-беларуску, *robeža* па-латышску, *ribos* па-літоўску ці *прикордоння* па-ўкраінску? Ці ж не праўда, што трэба перш за ўсё паважаць іншых, калі хочацца павагі ад іх у адказ?

Шмат хто наіўна лічыў, што – пасля падзення камунізму, распаду Савецкага Саюза, хуткай дэмакратызацыі Цэнтральнай Еўропы і большай часткі Усходняй Еўропы, дапоўненай заменай цэнтралізаванага планавання ў эканоміцы свабодным рынкам, – ні для якай расійскай, не кажучы пра польскую, цывілізатарскай місіі (*mission civilisatrice*) месца больш не застанецца. Што мэта, да якой так доўга імкнуліся, нарэшце дасягнута ў выглядзе

Еўропы дэмакратыі, правоў чалавека, стабільнасці, бяспекі і супрацоўніцтва – карацей кажучы, у Еўрапейскім Саюзе і Радзе Еўропы. Аднак фінансавы крызіс 2008 г., фактычнае прызнанне Захадам пуцінскай анексіі Крыма і прыбыццё ў 2015–2016 г. адносна невялікай лічбы мігрантаў, 2,5 мільёна, у Еўрасаюз з яго паўмільярдам жыхароў – усяго гэтага разам узятага хапіла, каб скалануць еўрапейскі праект да самых падвалін. Самазадаволенасць спарадзіла небяспеку, адкрыўшы шлях да ўлады крайне правым і крайне левым радыкалам. У гэтым палітычным ландшафце, які цяпер кардынальна змяніўся, прэзідэнты Расіі – Уладзімір Пуцін і Турцыі – Рэджэп Эрдаган выглядаюць прадвеснікамі “новай цудоўнай будучыні”, прасякнутай самадзяржаўем, нацыянальнымі эгаізмамі і беспрынцыповай вайной. Ці сапраўды нам трэба вяртацца ў такую будучыню? Ці не дастаткова ўрока, які далі нам дзве сусветныя вайны, Халакост яўрэяў і цыганоў і масавыя выгнанні ў розных напрамках 60 мільёнаў чалавек у 1930-я і 1940-я гады?

*Пераклад Міколы Раманоўскага*




**Заходнія “окраины” Расіі**

Карта падзелу тэрыторый згодна з умовамі Брэсцкага міру (1918). На ёй паказана, якія абшары Расія аддавала Германіі, якія Германія мелася “ачысціць”, а статус якіх падлягаў удакладненню паводле прынцыпу нацыянальнага самавызначэння. Акрамя гэтых тэрыторый, заходнімі “окраинами” Расіі лічыліся Бесарабія (цяперашняя Малдова), а таксама Віцебшчына і Магілёўшчына (цяперашняя ўсходняя Беларусь). Да таго ж у Першую сусветную вайну Санкт-Пецярбург імкнуўся анексаваць аўстра-венгерскае каралеўства Галіцыю, якое разглядалася як “неўз’яднаная частка рускіх земляў”. У гэтым сэнсе прынамсі цэнтральная і ўсходняя Галіцыя таксама падпадае пад азначэнне “западные окраины”.




**Усходнія “крэсы” Польшчы**[1]

Цёмна-шэрай заліўкай пазначаны максімальны тэрытарыяльны абсяг Рэчы Паспалітай. Усходнія “крэсы” Польшчы ахопліваюць усе тэрыторыі даўняй шляхецкай рэспублікі па-за сённяшнімі польскімі межамі.

[1] Samotny Wędrowiec. Polish–Lithuanian Commonwealth at Its Maximum Extent, After the Truce of Deulino in 1619, Superimposed on a Current Political Map. 2014. Wikipedia. http://en.wikipedia.org/wiki/Polish–Lithuanian_Commonwealth#/media/File:Polish-Lithuanian_Commonwealth_at_its_maximum_extent.svg. (стан на 12.07.2018).

# The Russian *Okrainy* and the Polish *Kresy*: Objectivity and Historiography

**Tomasz Kamusella**

The Russian term *okrainy* and the Polish concept of *kresy* tend to refer to the same spatial area, or the non-Russian and non-Polish nation-states that after the 1991 breakup of the Soviet Union extend between the Russian Federation and Poland. From the late 19th century through the interwar period, both terms *okrainy* and *kresy* underwrote the Russian and Polish territorial expansion and *mission civilisatrice* in these areas, most visibly exemplified by the policies of Russification and Polonization, respectively. Frequently, Russification was compounded with the state-supported spread of Orthodox Christianity, while in Polonization's case with that of Roman Catholicism. These two terms, *okrainy* and *kresy*, fell out from official use during the communist period, but resurfaced in Russia and Poland for a variety of ideologized ends by the turn of the 21st century, with little respect for the countries and nations concerned.

# Інвентары маёнткаў і старостваў як крыніца па гісторыі прыроднага асяроддзя Беларусі

**Святлана Куль-Сяльверстава**

Пры вывучэнні прыроднага асяроддзя акрэсленага рэгіёна асаблівае значэнне набывае інфармацыя пра яго мінулае. Яна становіцца адпраўным пунктам для вызначэння прычын адметных характарыстык глебы, пэўнага складу флоры і фаўны мясцовасцяў, якія здаўна знаходзіліся пад антрапагенным уплывам. У гэтым выпадку асаблівую каштоўнасць маюць дакументы, якія ўтрымліваюць апісанні прыродных рэсурсаў. Для беларускіх земляў такую інфармацыю можна знайсці ў крыніцах статыстычнага характару, гаспадарчых і фіскальных апісаннях, якія складаліся тут на працягу некалькіх стагоддзяў. Да падобных крыніц залічваюцца інвентары маёнткаў, як прыватнаўласніцкіх, так і тых, што належалі дзяржаве і царкве.

Узнікненне інвентароў на землях Вялікага Княства Літоўскага (далей ВКЛ) вызначаюць першай паловай XVI ст. Спачатку падобныя дакументы называлі *попіс* (*вопіс*) ці *рэестр*. Назва *інвентар* (ад лац. *inventarium* ‘вопіс’) з’явілася ў XVII ст. Да аграрнай рэформы 1557 г. (Валочнай памеры) інвентары былі з’явай рэдкай, да сёння захавалася толькі два такія дакументы[1]. Інвентары маёнткаў

[1] Казакоў Л. Ю. Інвентарныя вопісы маёнткаў як крыніца па вывучэнні эвалюцыі феадальнай гаспадаркі Беларусі XVI – першай паловы XVII ст. // Крыніцазнаўства, археаграфія, архівазнаўства ў XX–XXI ст. у Беларусі: зб. навук. артыкулаў, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння М. М. Улашчыка / рэдкал.: С. М. Ходзін (адк. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2007. С.79.

складаліся на беларускіх землях да сярэдзіны XIX ст. Найбольшая частка інвентароў, якія дайшлі да нас, датуецца канцом XVIII – першай паловай XIX ст.

Выкарыстанне інвентарных апісанняў маёнткаў палягчаецца тым, што многія з іх былі надрукаваны. Першую грунтоўную публікацыю гэтых крыніц зрабіла Віленская археаграфічная камісія ў другой палове XIX ст. У "Актах...", якія яна выдавала, былі змешчаны інвентары маёнткаў усіх формаў уласнасці. Гэтая публікацыя і сёння застаецца адной з найбольш поўных і запатрабаваных[2]. Але трэба адзначыць, што археаграфічная якасць "Актаў..." не вельмі высокая і мае шэраг недахопаў. У публікацыі адсутнічаюць каментары, сцісла пададзена легенда, няма палеаграфічнага апісання крыніц. Складальнікі "Актаў..." дастаткова вольна абыходзіліся з загалоўкамі дакументаў, змяняючы часам назвы мясцовасцяў, прозвішчы ці нават разнавіднасць дакумента. У публікацыях інвентароў, пра якія ідзе гаворка ў гэтым артыкуле, ёсць усе названыя заганы. У сувязі з гэтым аўтарка палічыла мэтазгодным пазначаць цытаваныя дакументы паводле арыгінальных загалоўкаў. Некалькі інвентароў прыватных уладанняў былі надрукаваны беларускімі археографамі ў савецкі час[3].

Інвентары да сярэдзіны XIX ст. не былі абавязковым дакументам. Іх складанне абумоўлена рознымі прычынамі. Найчасцей вопіс маёнтка, у тым ліку дзяржаўнага ўладання, рабіўся пры перадачы яго ў арэнду. Інвентар быў неабходны таксама ў выпадку перадачы ў спадчыну, калі рабіўся падзел маёмасці, або ў выпадку продажу ці абмену маёнтка. У дзяржаўных уладаннях інвентары складаліся ў час рэвізій, якія маглі праводзіцца для акрэслення ўзроўню прыбытковасці дзяржаўнага маёнтка ці спраўджання эфектыўнасці кіравання трымальніка

2 Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею (далей АВАК). Т. 14, 25, 35, 38. Вильна, 1887–1914.

3 Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII веков. Владение Сморгонь. Минск, 1977; Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII веков. Владение Тимковичи. Минск, 1982.

дзяржаўнай уласнасці. Соймавай пастановай 1562 г. была вызначана перыядычнасць рэвізій дзяржаўных уладанняў – раз на пяць гадоў, а соймавая канстытуцыя 1601 г. рэгламентавала сам парадак арганізацыі інвентарных апісанняў[4]. У сувязі з мэтамі складання інвентароў у іх заносілася інфармацыя толькі пра тыя аб'екты, рэчы, з'явы і людзей, якія маглі прынесці прыбытак ці страты маёнтку. Для складання інвентару прызначаліся асобы, упаўнаважаныя ўладальнікам. У дзяржаўных маёнтках гэта маглі быць дзяржаўныя ўраднікі. Інвентары пасля іх складання мусілі быць завераны пячаткамі і подпісамі складальнікаў; у прыватнаўласніцкіх маёнтках – унесены ў земскія або гродскія кнігі для рэгістрацыі і натарыяльнага пацверджання.

По ўзроўні інфармацыйнасці інвентары можна падзяліць на поўныя і кароткія. Поўныя давалі апісанне ўсіх рэсурсаў, кароткія – толькі ворыўных земляў і павіннасцяў сялян. Інфармацыйнасць інвентароў змянялася на працягу стагоддзяў, найбольш поўнае апісанне рабілася ў XVIII ст., калі ў рэестр не толькі ўносілася зямля і прыгонныя сяляне, але і падрабязна апісваліся жывёлы і птушкі, як маёнткавыя, так і сялянскія, дадаваліся разнастайныя табліцы з інфармацыяй пра прыбытак і падаткі, у рэестр заносілася апісанне лясоў, корчмаў, ставоў і г. д.

Інвентары складаліся на старабеларускай і польскай мовах, у XVIII ст. пераважаюць польскамоўныя дакументы з дадаваннем лацінскіх выразаў.

Для вывучэння біяразнастайнасці, а таксама лакалізацыі даўніх паляўнічых угоддзяў, месцаў лоўлі рыбы ці іншых прыродных рэсурсаў каштоўнасць маюць некалькі раздзелаў інвентароў: апісанне сельскагаспадарчых і лясных угоддзяў; пазначэнне месцаў міграцыі звяроў і месца іх рассялення; апісанне свойскай жывёлы і птушкі, маёнткавых садоў і гародаў; змест сялянскіх павіннасцяў. Цікавую і карысную інфармацыю можа даць таксама

[4] Ходзін С. М. Крыніцы гісторыі Беларусі: гісторыка-генетычнае і кампаратыўнае вывучэнне. Мінск, 1999. С. 82–85.

вызначэнне межаў асобных фальваркаў, вясковых ворыўных земляў і сенажацяў, іншых зямельных рэсурсаў.

У артыкуле разгледжаны матэрыялы інвентароў, якія пераважна паходзяць з этнічна беларускіх земляў. У некаторых выпадках геаграфічныя межы пашыраны, каб паказаць характэрныя для ВКЛ спосабы адлюстравання звестак аб прыродных рэсурсах (інвентары Рэтаўскага і Палангенскага старостваў). Зроблена спроба паказаць адметныя рысы апісання прыродных рэсурсаў у інвентарах, вызначыць яго карыснасць для вывучэння гісторыі прыроднага асяроддзя Беларусі, а таксама звярнуць увагу даследчыкаў на патэнцыял гэтых крыніц для вызначэння кірункаў прыродаахоўных дзеянняў.

У абагульненым выглядзе інфармацыя аб прыродных рэсурсах маёнткаў, у тым ліку флоры і фаўны, выглядае наступным чынам.

**Глеба.** У інвентарах якасці глебы, яе колькасці і прызначэнню аддавалася вялікая ўвага. Апісанне земляў рабілася паводле нормаў, прынятых у ВКЛ – выкарыстоўваліся своеасаблівыя параметры зямельнага кадастру, спецыфічныя зямельныя меры.

Для ацэнкі ўрадлівасці ворыўнай зямлі найчасцей ужываюцца тэрміны "добрая", "сярэдняя", "подлая" і "зусім подлая" – крытэрыі, найбольш распаўсюджаныя ў ВКЛ пры таксацыі зямлі ў фіскальных мэтах. Характарыстыка глебы выглядае наступным чынам: "tego morgow[5] 6, to jest ziemi oranej gruntu podłego"[6]; "Siolo Szyliani, w tym sele włok iedynascie gruntu sredniego"[7]; "morgow siem, prętow piętnascie gruntu dobrego… pola morgow dziewięć, prętow pięć gruntu srzedniego z podłym"[8]. Часам даваліся больш падрабязныя звесткі пра магчымы прыбытак з зямлі ці называліся культуры, якія больш да яе падыходзілі: "Całe Trybiłły leżą pomiędzy borami, mają grunt piaszczysty

5 Тэкст крыніц падаецца ў аўтэнтычнай арфаграфіі.
6 Excerpt, wyjęty z lustracyi Dziewiałtowskiego miasta Narwi, zapadłej w roku 1560 // АВАК. Т. 14. Вильна, 1887. С. 72.
7 Akt extraktu z xiąg skarbowych rewizyi wlosci iego królewskiej mosci Retowskiej // АВАК. Т. 25. Вильна, 1898. С. 435.
8 Тамсама. С. 437.

i kamienisty nie urodzajny”[9]; “Grunta tego starostwa w części większej są piaszczyste, a w części dla niużytnosci odłogiem leżą, pod zasiew zaś żytni dosyć są dobre, jarzyna zaś rzadko kiedy rodzi ktore pod grykę więcej, a niżeli pod inne jarzyny używają się”[10].

У XVIII ст. пачаліся спробы паляпшэння глебы шляхам узмацнення ўгнаення і меліярацыі. Так, у Палангенскім старастве сялянам загадвалася “Grunta na włości, gdzie się nayduią mokre, przez co w czas chłopi nie mogą, a per consequens z takich gruntów małe urodzaje bywają, tedy ustanawiam, aby na gruntach takowych rowy kopali dla ściągnienia wody y dla lieprzego urodzaju i pożytku”[11]. У інвентары маёнтку Дубоя Пінскага павета, які належаў езуітам і быў складзены ў 1772 г., пазначалася: “Obszar uroczyszczem Bonda, połowa gruntu nawoznego pod jarzynę zgodnego, a połowa piaszczystego teraz pod żytem…”[12], у апісанні Равяціцкага ключа ў Пружанскім павеце шмат разоў адзначалася дрэнная якасць зямлі і неабходнасць капаць равы для яе асушэння[13].

Пад час працы з інфармацыяй пра памеры зямельных участкаў неабходна ўлічваць разнастайнасць зямельных мер, якія ўжываюцца ў інвентарах. Апрача стандартных для ВКЛ і Кароны валок, моргаў, прэнтаў і шнуроў, на ўсходзе беларускіх земляў выкарыстоўвалася таксама старажытная мера – куніца. Часам, асабліва пры апісанні сенажацяў, зямельных надзелаў, можна сустрэць меры аб’ёму – вазы сена, бочкі збожжа, якое можна пасеяць на пэўным участку зямлі або сабраць з яго.

[9] Przyznanie inwentarza dobr Nacun, Pogina y Szauduni W. Janowi Szuszcie pisar. ziem, słyżącego // АВАК. Т. 38. Вильна, 1914. С. 96.

[10] Inwentarz starostwa Rokantiskiego w Wilienskom powecie 1798 // Тамсама. С. 373.

[11] Inwentarz starostwa Połongowskiego // АВАК. Т. 35. Вильна, 1910. С. 53–54.

[12] Inwentarz podawczy dworzański dzierżawy Nowayciów, Kudayciów y Kadarów // Тамсама. С. 257.

[13] Inwentarz dobr skarbowych Rewiatycz. 1798 // АВАК. Т. 38. С. 410–422.

Інфармацыя пра землекарыстанне і якасць глебы, якую ўтрымліваюць інвентары, мае практычнае значэнне, бо дазваляе прасачыць гісторыю асобных зямельных участкаў, вызначыць, якім чынам стварыліся тыя ці іншыя іх уласцівасці. Нягледзячы на недакладнасць лакалізацыі надзелаў (межы – "рэзы" – пазначаюцца найчасцей з аднясеннем да іншых уладанняў, арыенціры за некалькі стагоддзяў страчаны), у агульных рысах можна вызначыць знаходжанне ў сучасным прыродным асяроддзі старадаўніх ворыўных земляў і іх стан на час складання інвентару.

Спецыяльна пазначаліся сенажаці, выганы, лугі, акрэсліваліся іх межы і ўмовы выкарыстання. Так, у інвентары Бабруйскага маёнтка сярэдзіны XVI ст. зафіксавана вялікая колькасць сенажацяў на астравах Бярэзіны, Бабра ды іншых рэк і азёр.

**Водныя рэсурсы.** Водным рэсурсам маёнткаў аддавалася асобная ўвага, бо з імі былі звязаны прыбытковыя галіны гаспадаркі – рыбалоўства і рыбаводства, водныя млыны, бровары і інш. У інвентар уносіліся рэкі, ручаіны, азёры, балоты і сажалкі. Пры апісанні рэк і азёр пазначаліся сенажаці, наяўнасць млына, месцы для рыбнай лоўлі – "тоні", умовы рыбнай лоўлі для сялян і іншых насельнікаў маёнтка: "Jezioro Paryskie nazwane Użaj, w nim toni 2"[14]; "Wyspy na jeziorze Plotelskim, jakie dla dworu wykorzystują i orą: pierwsza wyspa naprzeciw wyspy Urynkajtew morgow trzy, prutow dwa… Jeziora do tego dworu nalierzące, takie: Ploteli, Sajki, Lowmy, Berzory, Zedy, Jeszno; młyn i staw na rzece Berzoi z jednym kołem"[15]. Вадаём быў абавязковым элементам кожнага маёнтка, двара, фальварка. Калі побач з дваром не было натуральнага возера, рэчкі ці ручая, абавязкова капалася штучная сажалка (ці нават некалькі). На такіх вадаёмах будавалі млыны, бровары, часам у іх разводзілі рыбу.

Гаспадарчую каштоўнасць мелі таксама балоты. Іх выкарыстоўвалі для сенажацяў. Пры апісанні пазначалі

[14] Inwentarz starostwa Bobrujskiego // АВАК. Т. 25. С. 277.
[15] Inwentarz Plotelskai dzerżawy. 1585 // АВАК. Т. 14. С. 298.

межы балота, а таксама часам колькасць сена, якое на ім касілі. Інвентар маёнтка Таўрогін віленскага біскупа ў Браслаўскім павеце, складзены ў 1790 г., так апісвае мясцовае балота: “Bloto wielkie pod wsią Iwaniszkami leżące, rowami okopane”[16]. Інфармацыя пра балоты можа даць каштоўныя звесткі для вывучэння гісторыі асобных экасістэм, у тым ліку ў нацыянальных парках. Так, даволі поўнае апісанне балот, якія сёння ўваходзяць у ахоўную зону “Натура 2000” у Нарвянскім нацыянальным парку ў Беластоцкім ваяводстве Польшчы, захавалася ў інвентары горада Нарвы за 1560 г. У гэтым дакуменце нават вызначаны асобны падраздзел “Błota puste, nikczemne przy miescie Narewskim”, дзе зафіксаваны межы і стан балот. “Jedno błoto leży końcem jednym w koncie włok Kulasowskich, drugim koncem do drogi Zimnej, bokiem jednym ku siolu Zygmontowu, drugim bokiem do sciany woyta Narewskiego y do włok Narewskich, włok 20/20. Drugie puste błoto nikczemne leży iednym koncem ku drodze Kullassowskiey, drugim koncem do włok Narewskich na Makowce, bokiem jednym w koncu włok Kullasowskich, drugim bokiem u Perechoda, włok 8/3/20”[17]. Балоты, паводле апісання, лічыліся “ніякімі”, “пустымі” (“nikczemnymi”) у выпадку, калі на іх не было сенажацяў.

Інфармацыя пра балоты, іх межы і магчымасці выкарыстання, якая ёсць у інвентарах, набывае асаблівую каштоўнасць з улікам меліярацыйных работ, што праводзіліся ў Беларусі на працягу некалькіх стагоддзяў, а асабліва шырока разгарнуліся ў савецкі час. Многія балотныя комплексы ў сувязі з гэтым страчаны. Сёння прызнана каштоўнасць балот для захавання прыроднага балансу, існуюць праграмы іх захавання ці аднаўлення. У 1999 г. Беларусь далучылася да Рамсарскай канвенцыі, у спіс ахоўных водна-балотных рэсурсаў было ўнесена 8 адзінак, ідзе актыўнае вывучэнне іншых беларускіх

[16] Inwentarz majętnosci Tawrogin dobr stołowych biskupa Wilenskiego w powiecie Braslawskim // АВАК. Т. 38. С. 145.

[17] Excerpt, wyjęty z lustracyi Dziewiałtowskiego miasta Narwi. С. 73.

балот. Матэрыялы інвентароў у сувязі з гэтым дапамагаюць аднавіць гісторыю асобных балотных комплексаў, лакалізаваць і акрэсліць межы страчаных, вызначыць месцы магчымых радовішчаў торфу.

**Флора.** Апісанне расліннасці – адна з найбольш інфармацыйна насычаных частак інвентароў. Па форме зафіксаваныя звесткі можна падзяліць на некалькі груп: апісанне лясных угоддзяў (лясы, пушчы, гаі і інш.); згадка асобных дрэў ці відаў дрэў; апісанне сельскагаспадарчых раслін, якія вырошчваліся ў маёнтку, у тым ліку ў садах і на гародах; пералік прадуктаў расліннага паходжання, ягад, грыбоў, арэхаў і да т. п. у сялянскіх павіннасцях, справаздачах аб продажах ці пастаўках на панскі, каралеўскі ці святарскі стол.

Апісанне лясных угоддзяў часта абмяжоўваецца пазначэннем іх межаў і акрэсленнем плошчы. У інвентарах асобна ідэнтыфікуюцца пушчы, лясы і гаі. Пры гэтым найчасцей крытэрыем такой дыферэнцыяцыі служыць памер лясных угоддзяў. У некаторых выпадках пазначаецца характар лесу – дуброва, асіннік, бярэзнік і інш. Звычайна акрэслівалася, хто і як можа карыстацца лесам, браць дрэвы на пабудову і на дровы. У XVIII ст. у інвентарах з’яўляецца ацэнка ступені таварнасці лесу: “las zaś mają borowy, lecz jusz znacznie zniszczony, wycięnty, jednak drzewa na budowe nieco znajduie się zgodnego”[18]. “Puszcza Retowska jest znaczna i welkiej obszernosci, różnemi ciągnąca sią mieyscami, która w obszernosci swojey dostatecznie się opisać nie może, iż zafundowane wsie jej przecinają. W tej puszczy drzewa różnego gatunku, a naywięncey jodły podostatku znayduie się, że mieyscami inne się nie miesza drzewo, jak tylko same jodły, a mieyscami brzozy, osiny, klony, lipy, dęby etc. W którey to puszczy wyrabiać się mogą potasze, smilcugi, huty y fundować się tartaki, lecz tarcice jodłowe tyle być mogą, gdyż sosny zgoła nic w całey niema puszczy”[19].

[18] Przyznanie inwentarza dobr Nacun, Pogina y Szauduni. С. 96.

[19] Akt extraktu z xiąg skarbowych rewizyi wlosci iego królewskiej mosci Retowskiej. 1784. С. 503–504.

Правядзенне Валочнай памеры, якое на беларускіх землях расцягнулася амаль на стагоддзе, прадугледжвала, у першую чаргу, вымярэнне і таксацыю земляў, пазначэнне межаў асобных уладанняў ці асобных надзелаў унутры маёнткаў і старастваў. Межы фіксаваліся не толькі на паперы, але і на тэрыторыі. Межавыя знакі былі разнастайнымі. Каморнікі маглі выкарыстоўваць натуральныя прыкметы – мяжа балота ці лесу, ручай, бераг ракі і інш. Калі натуральнага рубяжа не было, маглі насыпацца ці складацца з камянёў межавыя капцы. Вельмі часта для межавых знакаў выкарыстоўваліся дрэвы, на якіх рабіліся зарубкі. Для гэтай мэты звычайна выбіралі вялікія, моцныя і высокія дрэвы. Як правіла, гэта былі дубы, ва ўсякім выпадку, менавіта яны найчасцей згадваюцца ў межавых актах ці ў апісанні межаў маёнткаў. Аналіз такіх межавых знакаў дае магчымасць не толькі пашырыць веды пра распаўсюджанне відаў дрэў у розных рэгіёнах, але і часам акрэсліць узрост старых дрэў ці вызначыць месца, дзе раней раслі тыя ці іншыя віды. Прывядзем некалькі прыкладаў апісання падобных межаў. Так, рубяжы зямлі аднаго з гаспадарстваў у межах маёнтка Нарвы, а таксама пушчы каля мястэчка акрэсліваліся наступным чынам: “Drugi zascianek, uroczyszczem Wiazwin, leży koncem iednym do puszczy miejskiey Narowskiej, drugim koncem do puszczy teyże mieyskiey, którego iest morgow 8/8 gruntu podłego”; “Puszczy miasta Narewskiego, która leży koncem iednym do rzeki Narwi, drugim koncem do granicy Hwozninskich boiar po rzekę Chwozną, bokiem iednym do włok miasta Narewskiego, drugim bokiem do granicy iego królewskiej mości pana Hrehora Chotkiewicza, pana Trockiego, imienia iego Zabłudowa; tey puszczy włok 53/10/10”[20]. Пры размежаванні ў 1591 г. земляў, якія належалі Барысаглебскаму гродзенскаму манастыру ў ваколіцах Гродна, у якасці межавых дрэў абіраліся сосны, бо менавіта іх там было шмат[21]. Пры вызначэнні ў 1592 г. межаў маёнтка Кена

[20] Excerpt, wyjęty z lustracyi Dziewiałtowskiego miasta Narwi. C. 72.

[21] Выписъ зъ книгъ справъ кгродских замку господарского Городенского // АВАК. Т. 14. С. 391.

ў Віленскім павеце ў якасці межавых знакаў выкарыстоўваліся пазначэнні на соснах, елках, бярозах і дубах. Мяжой служыў таксама плот з вербалозу. Уладальнік маёнтка зямянін Яраш Вістыцкі, апісваючы межы, спецыяльна пазначаў якасць лесу, пароды дрэў (“цёмны ліпавы лес”, “сасна значная” “дубы старажытныя” і г. д.), згадваючы, між іншым, што ў адной з велізарных межавых соснаў ягонымі службоўцамі была зроблена “сковорода” – агнішча і месца для адпачынку[22].

Звесткі з інвентароў пра лясныя ўгоддзі і асобныя дрэвы маюць важнае значэнне для вывучэння гісторыі расліннага свету беларускіх земляў. Яны дазваляюць прасачыць дынаміку змен у размеркаванні і стане лясных рэсурсаў у сувязі з антрапагенным уздзеяннем, а ў некаторых выпадках – акрэсліць узрост помнікаў прыроды ці лясных комплексаў.

Цікавую інфармацыю даюць апісанні садоў і гародаў у маёнтках. Паводле такіх звестак можна прасачыць змены ў прыярытэтах пры вырошчванні палявых, агародных і садовых культур, адзначыць дынаміку пашырэння іх разнастайнасці. Дамінаванне тых ці іншых культур у асобных гаспадарствах залежала ад некалькіх фактараў, найбольш істотнымі сярод іх былі прыродныя ўмовы (якасць глебы, надвор’е), але важную ролю выконвала таксама заможнасць гаспадароў, а ў XVIII ст. – патрэбы рынку.

Звычайныя палявыя культуры ў XVI–XVIII ст. – жыта, ячмень, авёс і пшаніца, для іх актыўна выкарыстоўвалася трохполле. Раслі таксама грэчка, проса, лён і каноплі. Больш разнастайныя гароды, пры тым прасочваецца павелічэнне лічбы агародных культур ад стагоддзя да стагоддзя. Уяўленне пра палявыя і агародныя культуры, якія былі звычайнымі ў гаспадарках у XVI ст., дае інвентар Рудамінскай плябані за 1571 г. У ім, у прыватнасці, адзначаецца наступнае. “Jęczmieniu posiano becz. 3 na ogrodzie wielkim… Tam że posiano jarzicze becz. 1$^{1/2}$. Na tem że ogrodzie posiano owsa becz. 2. W them że ogrodzie posiano

[22] Инвентарь границы имѣния Кены // Тамсама. С. 448.

pssenicze becz. ½… Grochu siewalnią posiano… Prosa poł rzeszotha posiano. ..na trzecim ogrodzie w thilie pliebaniiey ku rzecze Rudominie: marchwie grząd 20, piotrusski grąd 4, cebuli grąd 5, maku s potrzebę, pasternaku grąd 12, cwikły grąd 5, a na drugiem miesczu cwkły szmath nie mały. Wysathkow: cebuli 15, czwikły 7, piotrusski 7, kapusthi gllow 4. W them że ogrorodzie na kapusthę, na rzepe ziemie iesth dostatek. W ogrodkach małych 3 pod sadi: rosadi grądek 5, maioranu grądek 3, salathi grądek 3, fiolkow grądka 1, cząbru grądka 1, rzepy rannej zagony 2 wielkie"[23].

У XVII ст. да звычайных для гэтага рэгіёна агародных культур дадаюцца новыя, прывезеныя з іншых краін, больш разнастайнымі становяцца віды. Гэта найперш датычыць магнацкіх маёнткаў. Так, у маёнтку Далятычы на Нёмане, які належаў Багуславу Радзівілу, быў, згодна з інвентаром 1652 г., вялікі гарод, які вылучаўся разнастайнасцю культур. Сярод іншых тут згадваюцца кроп італьянскі ("krop włoski"), агуркі, зялёны гарошак ("groch bezłuski"), які акурат набываў папулярнасць у еўрапейскай кухні дзякуючы англійскім кухарам, нут ("groch turecki") і іншая гародніна[24]. У XVIII ст. нават у невялікіх маёнтках узнікалі гароды на падставе рэгулярных планаў, што было абумоўлена не толькі тагачаснай модай, але і гаспадарчымі меркаваннямі. На гародах, апрача гародніны, высяваліся тэхнічныя культуры для перапрацоўкі ў саміх маёнтках. Інвентар маёнтка Дубяжына Бельскага павета, складзены ў 1795 г., занатаваў апрача звычайных агародных раслін таксама тытунь бакун ("tytuń bakun"), аніс і хмель. Апошні быў пасеяны на двух даволі вялікіх палях[25]. Да XVIII ст. хмель часцей збіралі ў лесе, хмелішчы мелі ўласніка і ахоўваліся законам. Статут ВКЛ 1588 г. спецыяльна агаворваў гэтыя правілы: артыкул 10 раздзела 10 прадпісваў за

[23] Inwentarz abo spisanie plebaniiey, kosczola… w Porudominie. 1571 // АВАК. Т. 14. С. 158.

[24] Inwentarz maiętnosci Dolatyckyiey. 1652 // АВАК. Т. 25. С. 343.

[25] Інвентар маёнтка Дубяжына Бельскага павета // АВАК. Т. 38. С. 284.

шкоду, нанесеную чужому хмелішчу, спаганяць з вінаватага 12 рублёў грошаў[26].

Згадваюцца і “ogrody włoskie”, або інакш „włoszczyzna”, – рэгулярныя, распланаваныя гароды з травамі і гароднінай. Звычайна там раслі морква, пятрушка, сельдэрэй, цыбуля, буракі, рэпа і капуста. Назву гародаў звязваюць з каралевай Бонай, якая распаўсюдзіла ў Польшчы і ВКЛ звычай больш шырокага выкарыстання гародніны і новыя віды агародных раслін. І сёння ў польскай мове тэрмінам “włoszczyzna” называюць традыцыйны набор гародніны пры гатаванні супоў і булёнаў.

Звычайным элементам маёнтка былі сады. У інвентарах згадваюцца найчасцей яблыні, вішні і грушы. Але прысутнічаюць, хоць даволі рэдка, слівы і чарэшні. “Подлѣ того двора садъ вышневый, яблони, груши, терешни, а посередь двора огородчик на краски, а въ немъ липа одна, а груша добрая”[27]; “w tym sadzie drzewo jabłoniowe, gruszkowe, wisniowe y tarnosliwy są”[28]; “Między tymi ogrodami nie wielki fruktowy ogródek, w którym najdyje się drzew jabłoniowych sztuk dwadzieącia cztery y szpalerek niewelki z agrestuu y porzeczek usadzony”[29].

У XVIII ст. пачалі з’яўляцца прысядзібныя паркі, алеі, дзе высаджвалі даволі рэдкія для гэтых тэрыторый дрэвы, будавалі шклярні для экзатычных раслін. Згадкі пра такія элементы сядзіб сустракаюцца і ў інвентарах. Так, у маёнтку Катлова Наваградскага павета, які належаў Францішку Вайніловічу, быў закладзены невялікі рэгулярны парк з лісцёвымі і фруктовымі дрэвамі. “Ogrod w tyle domu rezydencyonalnego do przechadzki,

[26] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Тэксты. Давед. Камент. Мінск, 1989. С. 273.

[27] Оповѣданье врадника маршалка господарского пана Юрья Якубовича Волчка имѣния Русоцкого Валента Осецкого. 1556 // АВАК. Т. 14. С. 22.

[28] Реестр списанья подданых… въ селѣ Орѣшковичахъ, всѣхъ пожитков того села… в повѣтѣ Минскомъ. 1599 // АВАК. Т. 14. С. 636.

[29] Inwentarz starostwa Rokańtiskiego w Wilienskim powecie. 1798 //АВАК. Т. 38. С. 373.

mający w posrzod iedną wielką kwaterę, tej dwie linie frontowe osadzone swierhowym drzewem, a linie boczne z szpalerem podwoynym grabiną wysadzone; za szpalerami zaś z obydwóch boków są kwatery drzewem fruktowym zasadzone"[30]. Быў падобны парк і ў фальварку Радзішэўскім маёнтка Венграва ў Вількамірскім павеце: "Sad opuszczony, a którym drzewa jabłoni malo co się znayduie y to zdziczałe, żadnego nie czyni profitu. Około tego sadu z trzech stron w ieden rząd szpaler z lipy bardzo dużey wyniosłej , tey lipy, a parte wyciętych pniów ośm, zostaje sztuk sto trzydieście"[31].

Аб распаўсюджанні тых ці іншых раслін на пэўных тэрыторыях дае ўяўленне, апрача іншага, пералік натуральных павіннасцяў сялян. У іх побач са збожжам уваходзілі лён, каноплі, гарох, мак, а ў асобных рэгіёнах – грыбы, ягады і арэхі. Так, арэхі і грыбы павінны былі даваць на панскі двор сяляне фальварка Пештавяньскага ў Віленскім ваяводстве. Штогод ад 17 двароў, якія былі ў фальварку, гаспадары мусілі даць "grzybow wiankow siedemnascie, orzechow garcy siedemnascie"[32]; у маёнтку Вілейка, які належаў Віленскаму кляштару візітак, прыгонныя штогод давалі на двор адну капу грыбоў незалежна ад колькасці зямлі, якую трымалі[33], а ў Панікўах Пінскага павета з кожнай сялянскай гаспадаркі давалі ў фальварак штогод трыццаць грыбоў[34]. Віды грыбоў не агаворваліся, але можна меркаваць, што на панскі двор аддаваліся баравікі, як свежыя, так і сушаныя.

Безумоўна, больш шырокі і змястоўны матэрыял пра расліны, якія ў той час высаджваліся ў магнацкіх і шляхецкіх рэзідэнцыях, можна знайсці ў іншых крыніцах, найперш у апісаннях, якія датычаць палацава-паркавых комплексаў Радзівілаў у Нясвіжы, Браніцкіх у Беластоку, Тызенгаўза ў Гродне і інш. Аднак інфармацыя

30 Akt inwentarza dobr Kotłowo. 1798 // АВАК. Т. 38. С. 438.
31 Inwentarz maiętności Węgrowo. 1761 // АВАК. Т. 35. С. 109.
32 Aktykacyia inwentarza folwarku Pesztowianskego. 1790 // АВАК. Т. 38. С. 85.
33 Akt inwentarza maiętności Wileyki. 1797 // АВАК. Т. 38. С. 352.
34 Aktykacyia inwentarza fol[warku] Ponikiew. 1774 // АВАК. Т. 35. С. 252.

з інвентароў дазваляе прасачыць стан паркаў, садоў і гародаў у невялікіх маёнтках, убачыць ступень распаўсюджання тых ці іншых культур на больш шырокай тэрыторыі.

**Фаўна.** Інфармацыя рознай ступені падрабязнасці пра фаўну, а таксама пра паляванне, паляўнічыя ўгоддзі, рыбную лоўлю ёсць у розных частках інвентароў. Не кожны маёнтак, да прыкладу, меў рэсурсы для арганізацыі палявання; не кожны ўладальнік меў дастаткова сродкаў для ўтрымання разнастайных відаў жывёлы і г. д. Можна таксама заўважыць, што на працягу стагоддзяў роля палявання ў эканамічным жыцці маёнткаў зніжалася, гэта датычыць як панскай гаспадаркі, так і сялянскай. Таму, калі ў XVI ст. падрабязна апісваліся, да прыкладу, бабровыя гоны, месца пераправаў звяроў цераз рэкі або магчымасць і плённасць палявання, дык у XVIII ст. такія характарыстыкі сустракаюцца рэдка і датычаць, галоўным чынам, або дзяржаўных уладанняў, або маёнткаў буйных феадалаў.

Пры апісанні маёнткаў найбольшую ўвагу аддавалі тым прыродным рэсурсам, якія маглі прынесці прыбытак. Таму падрабязна і дакладна пазначалі колькасць і стан гаспадарскай і сялянскай жывёлы і птушак, апісвалі борці і вуллі, іх колькасць і знаходжанне, пералічвалі зарыбленыя ставы і віды рыбы ў іх. З меншай дакладнасцю з гэтай прычыны апісаны дзікія жывёлы – гэта рабілася толькі ў выпадку, калі паляванне было прыбытковай галіной гаспадаркі ці лічылася любімай панскай ці каралеўскай забавай.

**Пчолы.** Пчалярства складала важную галіну гаспадаркі, паколькі мёд, воск і іншыя прадукты, якое яно давала, былі надзвычай запатрабаваныя ў розных галінах эканомікі, у паўсядзённым жыцці. Найбольш старажытнай формай пчалярства было бортніцтва, а пераход да вуллёў, які пачаўся прыкладна ў XIV ст., так і не быў завершаны да канца XVIII ст. Бортныя дрэвы, колькасць пчаліных сем’яў, прадукцыйнасць борцяў і вуллёў, іх прыналежнасць строга ўлічваліся. Борці былі пад аховай, захоп або пашкоджанне чужых бортных дрэў караліся.

Палажэнні аб ахове ўласнасці на бортныя дрэвы былі ўнесены ў Статут ВКЛ 1588 г. у раздзел 10 “Аб пушчах, аб паляванні, аб дрэвах бортных, аб азёрах і сенажацях”. Паводле артыкула 3 забаранялася пад пагрозай штрафу псаваць чужое бортнае дрэва не толькі ў лесе, але нават у тым выпадку, калі борць, незалежна ад таго, ці ёсць у ёй пчолы, знаходзілася на чужой ворыўнай зямлі. Адначасова бортнікам дазвалялася хадзіць да ўласных бортных дрэў у чужы лес, не беручы пры тым паляўнічыя прылады[35]. За выкраданне пчол або мёду з борцяў і вуллёў паводле артыкулаў 13 і 14 раздзела 10 былі прадугледжаны выплаты да трох рублёў грошаў, а калі гэта здарыцца некалькі разоў – такога злодзея маглі пакараць горлам[36].

У інвентарах асобна ўлічваліся бортныя дрэвы, асобна – пчаліныя сем’і, звычайна пазначаўся від дрэва, на якім знаходзілася борць. Найбольшая колькасць борцяў згадваецца ў інвентарах XVI–XVII ст., у пазнейшых такія згадкі даволі рэдкія, што зразумела, зважаючы не толькі на пераход да пасечнага пчалярства, але і на распаўсюджанне цукру, іншых рэчываў, якія замянялі мёд і воск. Бортныя дрэвы, як можна меркаваць па матэрыялах інвентароў, размяшчаліся кампактна, у пэўных месцах, што было зручна для нагляду за імі. Так, да прыкладу, у Бабруйскім замку для борцяў былі выбраны астравы на Бярэзіне: “Przy tymże miescie ostrowow dwa, mianowicie Dobrzyczewski y Winnicki, w obudwuch są drzewa bartne ze pszczołami”[37]. Часцей выбіралі сасну або дуб: “Przy dwornym poletku pod Ogrodnikami sosny barciowe w łuhu”[38]; “Kuzma Zubowicz na siedem bezmenów drzewa bartnego sosny 24, dęb jeden, pszczół 2, Iwan Prijma na dwa puda 62 sosny, dębów 8, pszczół 4”[39].

35 Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. С. 279–271.
36 Тамсама. С. 274.
37 Inwentarz starostwa Bobruiskiego. 1639 // АВАК. Т. 25. С. 153.
38 Przyznanie inwentarza folwarku Ostrowek Jablonowszczyzny w Nowogrudskim powece. 1798 // АВАК. Т. 38. С. 348.
39 Реестр списанья дерева бортного подданыхъ Орѣшковскихъ. 1599 // АВАК. Т. 14. С. 644.

Пчолагадоўля і збіранне мёду з бортных дрэў мела ў некаторых мясцовасцях характар асноўнага промыслу. Так, у канцы XVI ст. сяляне вёскі Пільковічы маёнтка Смаляны Аршанскага павета, якія належаў Сангушкам, давалі ў год у якасці павіннасці ад 3 да 12 пудоў мёду (каля 45–180 кг) з адной гаспадаркі[40], а ў маёнтку Арэшкава Мікалая Служкі налічвалася 1004 бортныя дрэвы, з іх 94 – дубы[41].

**Рыба.** Згадкі пра рыбу ў інвентарах маёнткаў сустракаецца даволі рэдка і часта звязаны з апісаннем вадаёмаў, якія былі пры гаспадарскіх дварах. Ужо з XVIII ст. дастаткова шырока практыкавалася зарыбленне ставоў і сажалак рознымі відамі рыбы. Вадаёмы пры панскіх сядзібах былі абавязковым элементам гаспадарства: на іх дзейнічалі млыны, будаваліся лазні, ваду з іх выкарыстоўвалі ў гаспадарчых мэтах. Зарыбленне такіх вадаёмаў прыносіла дадатковы прыбытак. Часцей за ўсё для развядзення выкарыстоўвалі карпаў, але маглі быць і іншыя віды рыбы, традыцыйныя для беларускіх вадаёмаў – карасі, ліні, галаўні, шчупакі і інш. У некаторых маёнтках рыбаводства складала адну з важных частак прыбытку. Так, у Рэтаўскім старастве пры двары адміністратара і каля найбліжэйшых рэк было зроблена 11 сажалак, 10 з якіх зарыбленыя: "Staw pode dworem Retowskim na krynicy sytuowany z groblą, upustem y młynem, w którym ryby różne znajdują się , to jest karpie, karasie, głownie, liny, szczupaki i różna biała ryba. Sadzawek różnych nałych we dworze Retowskim, różne ryby mających, cztery. Staw na rzece Jurze w Zadwojnach, z groblą, upustem y mlynen, gdzie także różne ryby znajdują się… Sadzaweczka na krynicy pod wsią Wendegianami przy karczmie będąca, z grobelką, gdzie browar karczemny sytuowany, w ktorej karasiki małe znajdują się"[42]. У маёнтку Астравок-Ябланаўшчызна (сёння вёска Ябланёва) у Навагрудскім павеце зарыблены былі

[40] Inwentarz ineniia Smolnian. 1599 // АВАК. Т. 14. С. 471.

[41] Реестр списанья дерева бортного подданыхъ Орѣшковскихъ. 1599. С. 645.

[42] Akt extraktu z xiąg skarbowych rewizyi wlosci iego królewskiej mosci Retowskiej. 1784. С. 504.

каналы, пракапаныя для злучэння маёнтка з Нёманам і для арашэння лугоў: “Pierwszy kanał, Wielki zwany, zarybiony karpiami – znajdują się też w tym kanalie i inne ryby – karasie, a osobliwie liny”, у меншым канале разводзілі шчупакоў, а ў сажалках побач – карпаў[43]. Гэтыя каналы, багатыя на рыбу, захаваліся да сёння. Падобным чынам выглядаў канал у маёнтку Дуболі Пінскага павета, які належаў езуітам: “Kanał czyli sadzawka kwadratowa w pastowniku, do ktorej woda z błota rowem ciągnie, od niej zaś row do rzeki Piny szszupakami y okuniami zarybiona”[44].

Менш інфармацыі пра лоўлю і віды рыбы даюць апісанні натуральных вадаёмаў, а таксама пералік сялянскіх павіннасцяў. Згадкі пра рыбу тут часцейшыя тады, калі рыбалоўства было важным промыслам або калі ў мясцовых вадаёмах вадзіліся каштоўныя віды рыбы.

У інвентарах часам агаворваліся ўмовы рыбнай лоўлі, вызначаліся месцы і час, калі гэта дазвалялася. У Бабруйскім старастве, дзе былі вялікія тэрыторыі пражывання баброў, на гэта звярталася асаблівая ўвага: “Wolno tesz iest mieszczanom bobrujskin łowienie ryb na rzece Berezinie obeima brzegami, poczynając z gury asz w niz tak daleko, jako granica Bobrujska wynosi, wszakże strzedz się tego mają, aby szkody żadney w ieziorach z rzeki wstępnych, tak że gonach bobrowych y w inszych łowuszkach przez nich nie było”. Забаранялася таксама лоўля рыбы пасля Пакроваў – праваслаўнага свята, якое прыпадае на 1 кастрычніка[45]. Тут жа вызначаліся месцы рыбнай лоўлі для кожнай вёскі, якая ўваходзіла ў склад старасва: “Łowy rybne na rzece Olsie, poczynając od łohy Poloza wprzek rzeki Olsy do drugiego łoha nazwanego Perewora, który wpadywa w Białe iezioro, a to iezioro im Berżancom z Luboszanskim siolem Stoiałami iest spolne… Łowy rybne na rzece Ole obiema brzegami, poczynaiąc od Rohowey przystani, asz do rzeczki Spierki, w tąż i na przaczonym iezjorze Zasuccu”[46].

43 Przyznanie inwentarza folwarku Ostrowek Jablonowszczyzny. С. 348.

44 Inwentarz dobr Duboia. 1772 // АВАК. Т. 35. С. 226.

45 Inwentarz starostwa Bobruiskiego. 1639. С. 155.

46 Тамсама. С. 230–235.

Інфармацыя пра месцы і ўмовы лоўлі рыбы можа быць сёння карысная для іхтыёлагаў і гідролагаў, бо ў інвентарах згадваюцца вадаёмы з рыбай, якіх ужо няма, або вадаёмы, дзе была рыба, а цяпер яе няма; часам фіксуюцца віды рыбы або месцы на рэках і азёрах, дзе быў багаты ўлоў, а сёння сітуацыя выглядае інакш. Меліярацыя і іншыя антрапагенныя ўздзеянні, а таксама ваганні клімату за стагоддзі змянілі гідралагічную карту Беларусі. Матэрыялы інвентароў могуць стаць крыніцай для дзеянняў па аднаўленні страчаных прыродных багаццяў.

**Птушка.** Даволі шмат інфармацыі пра свойскую птушку, яе разводзілі ў кожным маёнтку, а таксама ў сялянскіх гаспадарках, звычайна гэта куры, гусі, качкі, у панскіх дварах – індыкі. Да прыкладу, у маёнтку Сіманелішкі, які ў 1797 г., калі складаўся інвентар, адышоў да Прусіі, было “indykow siedm, gęsi siedm, kaczek siedm, kokoszow cztyrnascie”[47]. Найбольшай разнастайнасцю відаў свойскай птушкі вылучаліся магнацкія маёнткі. Склад птушнікаў змяняўся на працягу стагоддзяў. Паказальна, што ў другой палове XVI – XVII ст. амаль звычайнай свойскай птушкай у магнацкіх маёнтках былі павы. Іх разводзілі і для прыгажосці, і для патрэбаў кухні. Наяўнасць паваў на птушыных дварах у гэты час была абумоўлена, перш за ўсё, модай на ўсходнюю экзотыку. Паводле інвентару маёнтка Багуслава Радзівіла Далятычы на Нёмане пры панскім двары было “Gęsi starych… dziewęć, indyk stary ieden, indyczek starych try, młodych indyczek szesnascie; pawow w Dolatyczach dwa, a w Wereskowie paw ieden”[48]. Павы згадваюцца таксама ў інвентары маёнтка Магільна Мінскага павета, які належаў Радзівілам – стары паўлін і пава былі ў адным з панскіх двароў, у іншым птушніку трымалі яшчэ пяць птушак – самца, самку і трох птушанят[49]. Сем паваў было ў маёнтку Русота ў 1581 г., які нале-

[47] Inwentarz folwarkow Semoneliszek y Linkowa. 1797 // АВАК. Т. 38. С. 323.

[48] Inwentarz maiętnosci Dolatyckyiey. 1652. С. 344.

[49] Описаніе инвентару двора Могилевського. 1592 // АВАК. Т. 14. С. 438, 442.

жаў Лаўрыну Войну[50]. На птушыным двары Русоты ў той час згадваюцца і журавы.

Пароды птушак, якіх трымалі пры маёнтках, не агаворваюцца. Гэта, аднак, не датычыць курэй. На мяжы XVI–XVII ст. пачалі пазначаць курэй "pospolitych", "prostych", "niemeckich", "indyjskich", сустракаецца згадка пра курэй „kołokockich"[51].

Дзікія птушкі і ўмовы палявання на іх рэдка згадваюцца ў інвентарах, але падобная інфармацыя ўяўляецца даволі цікавай. Паляванне на дзікіх птушак, у адрозненне ад палявання на жывёл, не было дакладна рэгламентавана. Сяляне маглі паляваць на гэты від дзічыны амаль без абмежаванняў, прытрымліваючыся межаў сервітутаў, пазначаных у інвентарах. Забарона датычылася толькі двух відаў – лебедзяў і сокалаў. Гэтыя птушкі знаходзіліся пад аховай закону. Статутам ВКЛ 1588 г. прадугледжвалася пакаранне за разбурэнне гнёздаў гэтых птушак ці прычыненне іншай шкоды. Артыкулам 8 раздзела 10 Статута прадпісвалася за псаванне сакалінага гнязда або выкраданне з яго маладых сокалаў спаганяць шэсць рублёў, а ў выпадку такой жа шкоды, нанесенай лебедзям – тры рублі[52].

Найчасцей сяляне лавілі цецерукоў, перапёлак і курапатак. Часам гэтыя птушкі ўключаліся ў павінасці сялян. Так, у маёнтку Вілейка, які належаў віленскім візіткам, было пазначана, што кожны падуладны двор "powinien dać po par dwadzieścia jarząbkow y po dwa głuszce. Imść pan ekonom, dozorujący tego, ma dać po funcie prochu y po pięć funtow szrotu każdemu"[53].

Паляванне на дзікіх птушак вялося рознымі спосабамі. Апрача агняпальнай зброі выкарыстоўваліся разнастайныя пасткі і сеткі, рабіліся шалашы для паляўнічых, каб пільнаваць дзічыну. Інвентар Палангенскага старства ў раздзеле, прысвечаным паляванню, спецыяльна

[50] Оповѣданье врадника маршалка господарского пана Юрья Якубовича Волчка имѣния Русоцкого Валента Осецкого. 1556. С. 228.

[51] Описаніе инвентару двора Могилевського. 1592. С. 443.

[52] Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588. С. 273.

[53] Akt inwentarza maiętności Wileyki. 1797. С. 363.

агаворвае паляванне на птушак: “Sideł po lasach nie ma się żaden ważyć stawić na ptastwo pod winą na dwor 10 bitych talarów y sto posterunków, czego leśnicze postrzegać mają”[54]. Умовы палявання і правы паляўнічых не толькі занатоўваліся ў інвентарах, але і прапісваліся ў дзяржаўным заканадаўстве. Артыкул 12 раздзела 10 Статута ВКЛ 1588 г. пазначаў адказнасць за пашкоджанне ці крадзеж паляўнічых прылад: за пашкоджанне паляўнічага намёта вінаваты плаціў тры рублі, а за пашкоджанне ці крадзеж сеткі на курапатак – рубель[55]. Пры лоўлі сокалаў выкарыстоўвалася г. зв. “перавесная” сетка, за яе пашкоджанне ці крадзеж вінаваты плаціў капу грошаў[56].

**Жывёла.** Жывёлагадоўля складала важную частку маёнткавай гаспадаркі. Свойскія жывёлы былі ў кожным маёнтку і амаль у кожнай сялянскай сядзібе. Інвентары ў пераважнай большасці ўтрымліваюць пералік буйной скаціны, якая была ў маёнтку, згадваюцца таксама авечкі, свінні і козы. У другой палове XVI ст. згадкі пра віды свойскай жывёлы ці хоць бы пра яе знешнія асаблівасці вельмі рэдкія. Найчасцей пазначаўся ўзрост і колькасць. Пазней такія апісанні сталі больш разгорнутымі. Так, да прыкладу, у маёнтку Русота, які належаў Юрыю Валовічу і месціўся ў Гродзенскім павеце, у 1556 г. было: “19 klacze, źrebięta i noworodki obecne 11, a bydła rogatego – woły 10, 26 krów i jałóweki, cielaki obecne nowonarodzone 8 i 11, 39 owiec, 12 świń”[57]. У інвентарах XVII–XVIII ст. згадваюцца пароды свойскай жывёлы або яе масць: “krowa z cielięcim białostrokata iedna, krowa ryża iedna, krowa gniada iedna”[58]; “krowy gniada łysa lat 10, czarna z podbrzuszem białym, ogon od końcu i tylne nogi białe lat 6, czarna lat 12, karogniada lat 6”[59]. У маёнтку Радзівілаў

[54] Inwentarz starostwa Połongowskiego. C. 53.
[55] Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588. С. 274.
[56] Тамсама. С. 273.
[57] Оповѣданье врадника маршалка господарского пана Юрья Якубовича Волчка имѣния Русоцкого Валента Осецкого. 1556. С. 22.
[58] Inwentarz plebanji Puńskeiy. 1745 // АВАК. Т. 38. С. 22.
[59] Inwentarz majętności mesteczka Hermeniszek w powecie Oszmianskim, 1790 // АВАК. Т. 38. С. 50.

Магільна ў Мінскім павеце ў апісанні аборы зафіксаваны “alendarskie” (галандскія) свінні[60].

Апісанне дзікіх жывёл у інвентарах найчасцей звязана з вызначэннем умоў і месцаў палявання. Звычайна пазначалася, ці ёсць магчымасць паляваць і на якога звера. У інвентары Бабруйскага страства, да прыкладу, запісана, што ў большасці месцаў “lowy zwierzynne tylko przechodem”, “łowow zwierzynych oprocz przechodem żadnych nie masz”[61]; у апісанні Рэтаўскага староства была наступная інфармацыія: “Ta puszcza ma w sobie ptastwa różnego rodzaju ku ludskiey służące wygodzie, y zwierzęta, jako to: rysie, kuny, łosie, sarny, niedzwiedzi, wilki i zaiącow podostatku”[62]. Падрабязна пра ўмовы палявання ў дзяржаўных і каралеўскіх уладаннях напісана ў іншай крыніцы, якая таксама можа разглядацца як інвентар – складзенай у 1559 г. старастам Рыгорам Багданавічам Валовічам “Рэвізіі пушчаў і пераходаў звярыных у былым Вялікім Княстве Літоўскім”[63].

Дапамога ў паляванні, ахова маёмасці гаспадара ад шкоды, якую маглі зрабіць звяры, уваходзіла ў абавязкі сялян і іншых падданых, што жылі на землях маёнтка: “Według starych ustaw powinni chłopi mieć sieci na wilki, a gdy dwór roskaże obławę uczynić, naią chłopi wszycy wyniść insimul[64] y miasteczka, ale żaden z nich niema się ważyć dla siebie obławy czynić, a który by nie wyszedł na obławę, winny na dwór 15 groszy powinien zapłacić”[65]; “в ловы ходить”[66]; “winni takze w lowy ylekolwiek potrzeba będzie”[67];

60 Описаніе инвентару двора Могилевського. 1592. С. 442.
61 Inwentarz starostwa Bobruiskiego. 1639. С. 230, 235, 250.
62 Akt extraktu z xiąg skarbowych rewizyi wlosci iego królewskiej mosci Retowskiej. 1784. С. 504.
63 Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом Княжестве Литовском. Изд. Виленской Археографической Комиссии. Вильна, 1867.
64 Разам (*лац.*).
65 Inwentarz starostwa Połongowskiego. С. 53.
66 Инвентаръ списанья тых людей подданыхъ моихъ Лососинскихъ, кгрунтовъ и повинностей ихъ вшелякихъ. 1596 // АВАК. Т. 14. С. 537.
67 Akt inwentarza maiętności Wileyki. 1797. С. 352.

“siecie zwerzyne wedle potrzeby pezrez całą wlość z włoki osiadłey dostarczać maią i przez leśniczych oddawać”[68]. У некаторых мясцовасцях шкода ад дзікіх жывёл была настолькі значнай, што ў сялянскія павіннасці ўносіўся абавязак высякаць лес і хмызняк у ваколіцах вёсак і выпасаў, каб прадухіліць напады ваўкоў і лісіц на свойскую жывёлу і птушку. Так, у інвентар староства Тыркшле Цельшаўскага павета ў 1770 г. была ўнесена наступная павіннасць: “dzieją się wielkie szkody w oborze przez zwierza z lasów zarosłych koło pol y pastwisk, zabiegając, gdyby ten niegospodarny nieporządek y daley nie szerzył się, za dobrowolnym zgodzeniem się włości postanawia się, tak też y ogulnicy krom dni zwyczajnych latem do roboty, na wiosnę po trzy dni y iesieni po dni trzy szli do trzebienia”[69].

Паляванне на звяроў, як і на птушак, мела заканадаўча замацаваныя правілы і абмежаванні, якія датычыліся ўсіх жыхароў ВКЛ незалежна ад сацыяльнага статусу. Паводле Статута 1588 г. забаранялася паляваць на чужой зямлі; нават дабіваць параненага звера ці птушку, калі яны перабраліся ў чужы лес, было нельга. За забойства звера ў чужых угоддзях вінаваты мусіў выплаціць уладальніку грошы (або нават мог апынуцца ў вязніцы). Нельга было ў час палявання псаваць збожжа на палях, час палявання быў абмежаваны ў адпаведнасці з рытмам сельскагаспадарчай працы[70].

Згадкі пра дзічыну, якую павінны былі даваць сяляне ў разлік павіннасцяў, дазваляюць вызначыць рэгіёны, дзе паляванне было адным з развітых і прыбытковых промыслаў. У адрозненне, да прыкладу, ад Белавежскай пушчы, дзе паляванне на буйнога звера, найперш на зуброў, забаранілі яшчэ ў XV ст., у некаторых іншых мясцовасцях сяляне, наадварот, мусілі пастаўляць дзічыну на панскі двор або выплачваць грошы ці іншыя прадукты ўзамен за яе. У маёнтку Цяпіна паводле інвентара 1591 г.

[68] Тамсама. С. 363.
[69] Akt inwentarza dworzańskiego na starostwo Tyrkszle. 1770 // АВАК. Т. 35. С. 180–181.
[70] Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588. С. 269, 276.

ад кожнай сялянскай гаспадаркі ў дзвюх вёсках штогод на панскі двор павінен быў давацца адзін заяц незалежна ад колькасці зямлі, якая была ў трыманні (усяго выходзіла 17 зайцоў, бо вёскі былі невялікія)[71]. У некаторых буйных маёнтках і старaствах паляванне даручалі спецыяльна прызначаным паляўнічым, вызваляючы іх ад іншых павіннасцяў. "Lesnicze, uwalnniaiący się od powinności i gwałtow, co rok po dwie sztuki zwiera wielkiego starać się mają, w dosledzeniu utajonego zwierza niewerności karę publiczną odbiorą y woła na skarb dać wedle danych ustaw powinni… który by z lesniczych ubił wielkiego zwierza, temu złotych cztery y garca dwa wódki naznaczy się"[72]. Умовай дазволу сялянам паляваць у маёнткавых паляўнічых угоддзях быў абавязковы продаж упаляванай дзічыны ўладальніку ці адміністратару. Часам нават вызначалася цана трафеяў, звычайна ніжэйшая за рынкавую. Так, у Бабруйскім старастве згодна з інвентаром існаваў наступны парадак продажу паляўнічых трафеяў: "Zwierza wielkiego acz w tym starostwie nie masz, asz tylko czasem przecodem, gdy się jednak trafi, ważyć się gobić sami poddani nie maię bez wiedomości urzędowej, ale loś, sarna na pana dzierżawcę, inszy drobnieyszy zwierz na poddane, takim iednak… sposobem, że wprzod go na urzędzie okazać y tam go, będzie tego chciał urząd, przedać kożdy z poddanych powinien. A urząd kupuiąc wilka po groszy cztyrdziestu, lisa po groszy cztyrdziestu, kunicę po groszy dwudziestu cztyrech poddanym płacić powinie będzie"[73].

Асобная галіна паляўнічага промыслу – бабры. Апісанні бабровых гонаў у вялікай колькасці інвентароў, асабліва тых, якія складзены ў XVI–XVII ст., дазваляюць акрэсліць арэал і шчыльнасць пашырэння гэтага віду на беларускіх землях у мінулым. Такая інфармацыя асабліва важная, зважаючы на імкненне біёлагаў рэгуляваць рост папуляцыі баброў і іх распаўсюджанне ў сувязі

[71] Инвентарь имѣнья Тяпинского, 1591 // АВАК. Т. 14. С. 411–413.
[72] Akt inwentarza maiętności Wileyki. 1797. C. 363.
[73] Inwentarz starostwa Bobruiskiego. 1639. C. 324–325.

з змяншэннем колькасці балот і зменамі ў лакалізацыі і напаўненні вадаёмаў, выкліканымі меліярацыяй.

Значэнне палявання на баброў як пашыранага на беларускіх землях промыслу выклікала з'яўленне спецыяльных артыкулаў у дзяржаўным заканадаўстве, дзе пазначаліся не толькі ўмовы палявання на гэтых жывёл, але і меры па ахове месцаў іх рассялення. Статут ВКЛ прадугледжваў, між іншым, адлегласць заворвання земляў каля бабровых гонаў (не бліжэй, чым кінуць камень), абмежаванне кашэння травы побач з імі (на адлегласць кія)[74]. Тэрыторыі бабровых гонаў у інвентарах дакладна пазначаліся; акрэслівалася, жыхары якіх населеных пунктаў маюць права там паляваць. Асабліва вялікія пасяленні баброў былі ў Бабруйскім старастве. Значная частка яго інвентару, прысвечаная апісанню прыродных рэсурсаў, складаецца менавіта з пазначэння межаў бабровых гонаў і іх прыналежнасці. Падамо некалькі ўзораў такіх запісаў: "a gony bobrowe na teyże rzece Berezinie iednym brzegiem od uscia Peredzielskigo do uroczyszcza Sielilowa na trszy wiarsty, a w drugim zaś mieyscu na teyże rzece Berezinie iednyn brzegien od uroczyszcza Uzwołoki do uscia rzeczki Dusionki na mile"[75], "gony bobrowe na rzece Horodeczney od pruda Zubarewskiego do uscia rzeki Pticza obiema brzegami na dwie wiarscie"[76]; "Gony bobrowe na rzece Pticzu wniz iednym brzegiem na sześć wiarst, a drugim brzegiem tylko na pięć wiarst"[77].

Найбольш каштоўнымі былі чорныя бабры, футра якіх выкарыстоўвалася для каўняроў і шапак. Літоўскі статут прадугледжваў розную велічыню штрафу за забойства на чужой тэрыторыі чорнага або рыжага бабра: за першага плацілі 4 капы грошаў, за другога – дзве[78].

Сялянам дазвалялася паляваць на баброў, але, як і ў выпадку з буйнымі паляўнічымі трафеямі, яны мусілі прадаваць іх уладальніку ці арандатару па цане, не большай за рынкавую. Часам у інвентары продаж упаляваных

74 Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588. С. 273.
75 Inwentarz starostwa Bobruiskiego. 1639. C. 158.
76 Тамсама. С. 207.
77 Тамсама. С. 166.
78 Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588. С. 273.

баброў уключаўся ў сялянскія павіннасці. У Кобрынскім маёнтку бабровыя гоны былі на рэках Свіслачы і Талі. У сялянскую павіннасць уваходзіла не толькі ўдзельнічаць у паляваннях на баброў, але і штогод даваць іх у якасці падатку на двор, або, калі ловы будуць няўдалымі, плаціць восем коп грошаў[79].

Умовы палявання на баброў спецыяльна агаворваліся ў інвентарах. Да прыкладу, пазначалася, што ў маёнтку Бобр Станіслава Паца ў ваколіцах Шклова ў 1573 г. паляваць на баброў у маёнткавых уладаннях могуць толькі яго сяляне, калі ж здарыцца, што баброў выганяць у ваколіцы мястэчка і мяшчане іх заб'юць, тады па дамове з уладальнікам мусяць падзяліць упаляваных звяроў, "a ostatek im podług szaczunku pieniędzmi splacaią"[80].

Колькасць баброў, якіх здабывалі штогод, у некаторых маёнтках спецыяльна агаворвалася. У маёнтку Смальняны Аршанскага павета (уладальнік Андрэй Сангушка) было дзве ракі Сітна і Віркіта, там існавалі бабровыя гоны. У 1594 г. на панскі двор былі прынесены два рыжыя бабры[81].

У інвентарах даволі часта сустракаюцца матэрыялы, звязаныя з аховай прыроды. Найчасцей гэта абмежаванне высечкі лесу сялянамі, забарона лавіць рыбу без дазволу, паляваць на звяроў, якія мелі прамысловы характар ці былі аб'ектам панскага палявання. Так, у інвентары Бабруйскага замка прадпісвалася наступнае: "Rybakow dziesiąciu, których sobie iegomość pan starosta obierze, ustamowić ma, tym po wszystkich ieziorach zamkowych y wołosnych łowienie ryb wolne będzie, za czym ci na piątki, soboty i insze postne dni s potrzebę do zamku ryb dodawać mają, a inszym wszystkim nienaleznym do jezior pomienionych wstępu mieć nie wolno"[82]. У 1581 г. пры інвентарызацыі маёнтка Трабы Ашмянскага павета, які застаўся

[79] Inwentarz albo summaryusz prowentow wszystkich starostwa Kobrinskiego, 1597 // АВАК. Т. 14. С. 562.

[80] Podania miasta Bobra i wszystkich włosci Bobrowskich. 1573 // АВАК. Т. 14. С. 179.

[81] Inwentarz ineniia Smolnian. 1599. С. 469.

[82] Inwentarz starostwa Bobruiskiego. 1639. С. 155.

пасля смерці яго ўладальніка Гаштаўта, асаблівую ўвагу звярнулі на каштоўнасць паляўнічых угоддзяў мясцовай пушчы. У інвентары, між іншага, гаварылася: “Grunt y las Bindzyszki, aż do Gastu y Ganow gruntow, skąt swoy początek granica pierwsza wzieła, y kopce są namienione y uczynione. A ten grunt w tych puszczach wolny, dawnych wiekow na Traby nalieżący, a ni z kim nie spolny; w ktorych puszczach wolno zwierza wszelakiego busieciami strzelać, w rzekach ryby łowić, iakoż strzelcow i lesniczych, rybakow ustanowiłem y tymże lesniczym, strzelcom i rybakom tey puszczy od chłusownikow i nachodcow, cudzych ludzi, także hultaiow, upadywaiących pilnować pod srogim karaniem”[83]. Арганізацыя спецыяльнай лясной стражы і прызначэнне паляўнічых, якія маюць права паляваць у маёнткавых угоддзях, з другой паловы XVIII ст. набыло даволі шырокае распаўсюджанне ў буйных маёнтках і стараствах. Падрабязную інструкцыю для лясной стражы ўтрымлівае не толькі інвентар Трабаў, але і інвентары Рэтаўскага, Палангенскага ды іншых старостваў. Захады па ахове прыроды не мелі характару праэкалагічных дзеянняў – гаворка ішла толькі пра ахову правоў землеўласніка на прыродныя багацці маёнтка.

На працягу стагоддзяў пры кіраванні маёнткамі вырашалася дылема: ці захоўваць лясы і магчымасць палявання, ці павялічыць за кошт іх высечкі ворыўныя землі і перапрацаваць або прадаць высечаны лес. Жаданне ўзняць таварнасць гаспадаркі шляхам вытворчасці большай колькасці таварнага хлеба і лесапрадуктаў урэшце пераважала. Звядзенне лесу пад ворыўныя землі пачало набываць масавы характар з другой паловы XVI ст. Так, у Кобрынскім старастве частка земляў аддавалася ў трыманне мясцовай шляхце. У другой палове XVI ст. у арандаванай вёсцы Шарчэва была павялічана колькасць засценкаў і ворыўнай зямлі пры іх да такой ступені, што гэта пачало шкодзіць паляванням і заўважна адбілася на

[83] Выписъ съ книг скарбовых великого княства Литовского, служачій и належачій до староства Трабского. 1581 // АВАК. Т. 14. С. 237.

стане паляўнічых угоддзяў: "A nowych zasciankow, ktore za pana Pruszczynskiego w puszczy wyrobiono, co p. Starosta bydź z wielką szkodą puszczy, dla przechodu zwierza do puszczy glownieyszych, morg. 65"[84]. Лясныя ўгоддзі змяншаліся таксама ў сувязі з развіццём вотчынных мануфактур, перапрацоўкай дрэва на тартаках, вырабам дзёгцю і паташу. У другой палове XVIII ст. паляванне як спосаб баўлення вольнага часу пачало страчваць прывабнасць у шляхецкім асяроддзі. Эпоха Асветніцтва прынесла новыя ідэалы і захапленні; паляванне не ўпісвалася ў асветніцкую карціну дасканалага грамадства і ідэальнай асобы. Гэта прасочваецца і па матэрыялах інвентароў. Калі ў XVI ст. абавязковай была згадка пра наяўнасць дзічыны і магчымасць палявання, то інвентары другой паловы XVIII ст. такую інфармацыю даюць рэдка і ў сувязі з абавязкамі паляўнічых ці лясной службы.

Яшчэ адзін важны рэсурс, які ўтрымлівае апісанне прыроднага асяроддзя ў інвентарах, – тапонімы і гідронімы. Спецыфіка крыніцы робіць гэты рэсурс надзвычай багатым. Інвентары фіксавалі прыналежнасць угоддзяў, а таксама іх межы. Дакладнасць фіксацыі дасягалася, апрача іншага, шляхам згадкі традыцыйнай назвы месца. Калі ворыўныя землі фіксаваліся з дапамогай імя ўладальніка ці трымальніка, дык астатнія ўгоддзі – сенажаці, лугі, тоні, гаі, лясы, балоты, ручаі, крыніцы і г. д. – пазначаліся, за рэдкім выключэннем, мясцовай назвай. Так, межы маёнтка Кена ў Віленскім павеце праходзілі праз урочышчы Садунішкі, Жуболіс, Звярынец і Павайшэліс, балота Лаварыскае (інача́й яго называлі Ройст), сенажаці Новыя Доры і Палуееўская, а таксама Лаварыскую пушчу[85]. Пры апісанні межаў Равяціцкага ключа ў Пружанскім павеце згадваюцца, між іншым, "сцяна" (мяжа) Ціханоўская, ручаі Оса і Вінінка, Вашчанская сенажаць, рэчкі Чараняна і Вянец[86]. Большая частка гэтай

[84] Inwentarz albo summaryusz prowentow wszystkich starostwa Kobrinskiego. 1596. C. 575.
[85] Инвентарь границы имѣния Кены. С. 448–449.
[86] Inwentarz dobr skarbowych Rewiatycz. 1798. C. 422.

мікратапанімікі сёння страчаная. Матэрыялы інвентароў даюць магчымасць яе аднавіць, прывязаць даўнія назвы да сучаснага прыроднага асяроддзя.

Інвентары прыватных маёнткаў і староставаў утрымліваюць багаты і разнастайны матэрыял аб прыродным асяроддзі, яго выкарыстанні ў гаспадарчых мэтах. Паўната і ўсебаковасць звестак у іх розная ў залежнасці ад роду апісванага рэсурсу, што абумоўлена яго гаспадарчай значнасцю. Найбольш месца ў інвентарах адводзіцца рэгістрацыі зямельнай маёмасці і землекарыстанню. Падрабязна апісваюцца ворыўныя землі, іх межы, якасць глебы на іх. Менш інфармацыі даецца пра лясныя ўгоддзі, балоты і сенажаці, але і ў гэтым выпадку акрэсліваюцца межы, спосаб выкарыстання і іншыя цікавыя для вывучэння прыроднага асяроддзя звесткі. Інвентары з'яўляюцца карыснай крыніцай для аднаўлення гісторыі землекарыстання, даюць магчымасць прасачыць гісторыю канкрэтных зямельных угоддзяў, вызначыць, якім чынам выпрацоўваліся адметныя рысы глебы (меліярацыя, угнаенне, шматвяковая эксплуатацыя і г. д.), пазначыць магчымыя месцы залягання тарфянікаў і інш. Апісанні лясных угоддзяў найбольш, на нашу думку, цікавыя з пункту гледжання згадкі іх межаў і відаў дрэў. За некалькі стагоддзяў адбыліся велізарныя страты лясных рэсурсаў, ваганні клімату змянілі склад дрэвастою. Матэрыялы інвентароў даюць магчымасць прасачыць гэтую дынаміку. У інвентарах шмат месца адведзена апісанню садоў і асабліва гародаў. Гэтая інфармацыя каштоўная з пункту гледжання гісторыі распаўсюджання садовых і агародных культур, часу ўваходжання ў традыцыйную гаспадарку экзатычных ці рэдкіх для беларускіх земляў відаў (нут, зялёны гарошак, сельдэрэй і інш.). Апісанне водных рэсурсаў, якое ёсць амаль у кожным інвентары – адзін з найбольш, на нашу думку, каштоўных раздзелаў. Гідралагічная карта Беларусі за некалькі стагоддзяў вельмі змянілася – найбольш на гэта паўплывала меліярацыя, а таксама штучная змена рэчышчаў як вялікіх, так і малых рэк, стварэнне штучных вадаёмаў. Інвентары – амаль адзіная крыніца, якая дазваляе аднавіць гідралагічную

карту мясцовасці з адлегласцю 2–5 стагоддзяў і, што вельмі важна, пазначыць на ёй не толькі вялікія артэрыі ці азёры і балоты, але і малыя рэчкі, ручаі ці багністыя мясцы. Гэтыя крыніцы таксама ўтрымліваюць інфармацыю пра берагі рэк і азёр, пра штучныя вадаёмы і выкарыстанне водных рэсурсаў.

Апісанне жывёльнага свету ў інвентарах звязана, найперш, з жывёла- і птушкагадоўляй, пчалярствам, у тым ліку бортніцтвам. Калі запісы пра свойскую птушку і жывёлу больш цікавыя для гісторыі эканомікі, бо ўтрымліваюць няшмат звестак пра іх віды і разнастайнасць, дык звесткі пра бортніцтва (перш за ўсё з інвентароў XVI–XVII ст.) могуць быць вельмі прыдатныя для біёлагаў і эколагаў. У інвентарах дакладна пазначаецца колькасць бортных дрэў і раёў дзікіх пчол, колькасць мёду, якія збіраўся з гэтых борцяў, месца іх знаходжання. Даволі поўныя і падрабязныя звесткі пра рыбныя рэсурсы, віды рыбы, месцы, дзе яе лавілі, часам – пра памеры ўлову і спосабы здабычы рыбы. Апісанне дзікіх птушак і жывёл згадваецца ў інвентарах у сувязі з паляваннем. Найбольш такіх звестак у дакументах XVI–XVII ст., калі паляванне было прыбытковай галіной гаспадаркі і традыцыйным баўленнем часу для нобіляў. Выключэнне – бабры, якім у многіх ранніх інвентарах прысвячаліся спецыяльныя раздзелы. Дзякуючы ім можна акрэсліць арэалы масавага рассялення гэтага віду ў мінулым.

У інвентарах маёнткаў і староств зафіксавана мноства тапонімаў і гідронімаў, асабліва шмат мікратапонімаў, большасць з якіх даўно страчана або зменена.

Наогул патэнцыял інвентароў маёнткаў і староств як крыніцы для даследавання гісторыі прыродных багаццяў Беларусі вельмі высокі і, безумоўна, не вычэрпваецца гэтым невялікім артыкулам. Ён патрабуе далейшага грунтоўнага вывучэння і выкарыстання.

# Estate and starostvos inventories as a source of Belarus' environmental history

**Śviatlana Kul-Sialvierstava**

Estate and starostvos inventories, made between the sixteenth and the first half of the nineteenth centuries, are of great value for studies of environmental history in Belarus. Landed estates and land use, including information about arable land quality, account for the largest part of the inventories. They give a broad description of forests and hay meadows and outline their boundaries. Both large bodies of water and small streams, springs, lakes and wetlands are described in detail, providing information about fish that used to be caught in the bodies of water on the landed estates.

Particular attention to domestic animals and fowl and general information about wildlife are specific features of fauna descriptions given in the inventories. The largest proportion of such data was recorded in the sixteenth and the seventeenth centuries, when hunting was a profitable trade. The inventories are also an essential source of information on place names and the names of bodies of water, all the more so because a majority of the micro-toponyms recorded there are not found in other sources. In general, estate and starostvos inventories are an ample source for studies in Belarus' environmental history, which still has to be put to good use by researchers.

# “Всюду господствует солдатчина...” Бежанцы ў СССР пра пачатак нямецкай акупацыі Польшчы (снежань 1939 г.)

Агрэсія нацысцкай Германіі і сталінскага СССР супраць Польшчы ў верасні 1939 г. стала першым актам крывавай драмы Другой сусветнай вайны. Ваенныя дзеянні і раздзел Польшчы паміж Сталіным і Гітлерам выклікалі масавае перамяшчэнне насельніцтва. З тэрыторыі, што акупавала Германія, у СССР накіраваліся дзясяткі тысяч бежанцаў, большасць якіх складала яўрэйскае насельніцтва, а таксама прыхільнікі камуністычнай ідэалогіі і ахвяры сталінскай прапаганды. З абшараў СССР у Германію імкнуліся перабрацца этнічныя немцы, а таксама землеўласнікі, прадпрымальнікі, прадстаўнікі інтэлігенцыі Заходняй Беларусі, усе тыя, хто ў Савецкім Саюзе ўжо толькі ў выніку свайго паходжання трапляў у катэгорыю “ворагаў народа”.

Пра вялікі маштаб гэтых перасяленняў сведчаць гістарычныя дакументы. Так, напрыканцы лістапада 1939 г. сакратар Беластоцкага абласнога камітэта КП(б)Б С. Ігаеў паведамляў першаму сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку, што па няпоўных звестках на 25 лістапада ў Беластоцкай вобласці знаходзілася 43 449 бежанцаў, у тым ліку ў Беластоку – 32 362 чал.[1]. Партыйны чыноўнік прасіў дапамогі, сцвярджаючы, што Беласток не мае магчымасці забяспечыць бежанцаў нармальнымі ўмовамі пражывання і працай, а іх колькасць штодня расце.

[1] Дзяржаўны архіў грамадскіх аб’яднанняў Гродзенскай вобл. Ф. 6195. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 13.

Дакладную запіску С. Ігаева дапаўняла даведка, паводле якой бежанцы-яўрэі складалі 41 184 чал., а ў сацыяльным плане дамінавалі рабочыя, рамеснікі і службоўцы. Іх сітуацыя сапраўды была трагічнай, бо, як адзначалі ўкладальнікі даведкі: “Все беженцы размещены в городе в неблагоустроенных помещениях: люди спят на полу, в грязи, завелась ужасная вшивость. Все это грозит вспышкой в городе инфекционных заболеваний в массовом размере. Кроме того имеется угроза массовых заболеваний простудного характера в связи с тем, как указано выше, ок[оло] 4,5 тысяч человек размещены в холодных дачных помещениях”[2].

Аднак улады СССР не дазвалялі бежанцам пакідаць межы Савецкай Беларусі[3], а іх перамяшчэнне з тэрыторыі Заходняй Беларусі на ўсход адбывалася вельмі павольна. Магчыма, адной з прычын было тое, што з бежанцамі “працавалі” супрацоўнікі НКУС БССР. Сярод іншага яны праводзілі апытанне апошніх прыбылых груп наконт нямецкай палітыкі на акупаваных тэрыторыях.

У былым фондзе ЦК КП(б)Б, які знаходзіцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, захаваліся “паведамленні” бежанцаў пра нямецкую акупацыйную палітыку на акупаванай тэрыторыі Польшчы. У прыватнасці, сярод архіўных дакументаў знойдзены “паведамленні” Полі Варгафцер, Полі Кварта, Ёнах Гуцер і Яніны Яворскай[4]. Ідэнтыфікаваць гэтыя асобы не атрымалася, але відавочна, што жанчыны былі прадстаўніцамі яўрэйскай і польскай супольнасці, магчыма, членамі былой Камуністычнай партыі Польшчы, сімпатызавалі савецкай ідэалогіі і крытычна ставіліся да палітычнага рэжыму ў Польшчы. Але ўласнае членства ў КПП засведчыла толькі Ёнах Гуцер. Паводле яе прызнання, у Польшчы яна знаходзілася з 1933 г. Паколькі жанчына не ўказала краіну, адкуль

[2] Тамсама. Арк. 15.

[3] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 14369. Арк. 6.

[4] Выказваю падзяку гісторыку Вользе Івановай (Мінск) за дапамогу ў адшуканні гэтага дакумента.

прыехала, можна выказаць меркаванне, што ў Польшчы яна апынулася па заданні пэўных савецкіх органаў.

"Паведамленні" надрукаваны на машынцы з пазнейшым выпраўленнем некаторых памылак друку алоўкам. Яны ўяўляюць сабой тэксты на даволі добрай рускай мове. Падобна на тое, што супрацоўнікі НКУС запісвалі гэтыя ўспаміны ва ўласным пераказе пасля размоў з бежанкамі.

Аповеды бежанцаў даюць інфармацыю пра пачаткі нямецкага пераўтварэння Польшчы ў вялізны канцэнтрацыйны лагер пад шыльдай "Генеральнага губернатарства". Ва ўспамінах дамінуюць тэмы антысемітызму, рэпрэсій і гвалту з боку нямецкай ваеншчыны, якая імкнулася жорсткімі рэпрэсіямі супраць цывільнага насельніцтва зламіць верагодны супраціў акупантам. Геаграфія "паведамленняў" датычыцца цэнтральнай (Варшава і наваколлі, Лодзь, Каліш), а таксама паўднёвай Польшчы (сучаснае Шлёнскае ваяводства).

Як і ў кожным іншым гістарычным дакуменце, у дадзеным выпадку мы не маем поўнай і аб'ектыўнай карціны таго, што адбывалася на акупаванай тэрыторыі. Сведкі пераказвалі тое, што бачылі самі, а таксама (часцей) тое, што даведаліся ад іншых асобаў. Відавочныя іх заклапочанасць трагічным лёсам свайго народа і імкненне зрабіць добрае ўражанне на супрацоўнікаў НКУС. Таксама варта адзначыць, што тагачаснае сяброўства СССР і гітлераўскай Германіі не разглядалася імі ў доўгатэрміновай перспектыве.

У публікацыі пераважна захаваны мова, арфаграфія і пунктуацыя дакумента. Папраўлены толькі найбольш відавочныя памылкі друку і пунктуацыі. Пры напісанні загалоўка, імёнаў і прозвішчаў захаваны асаблівасці дакумента. Скарачэнні ў тэкстах (за выключэннем агульназразумелых) расшыфроўваюцца з дапамогай тэксту ў квадратных дужках.

*Алесь Смалянчук* (Варшава)

## Сообщения беженцев, прибывших с бывшей территории Польши, занятой немцами[5]

В Варшаве большинство фабрик не работает. У Лильпопа[6] работает автомобильный цех. Кончают сборку автомобилей и вывозят их в Германию. Остальные цеха стоят. Зарплата понижена, слесарь, например, зарабатывает 1 злоты в час. Премии и аккордные ликвидированы. На некоторых разбомбардированых фабриках немцы заняли часть рабочих только для откапывания машин, как, например, у Кляймана[7]. Платят рабочим 5,5 злотых в день. За первые три недели не выплатили им ни гроша. Вообще, в Варшаве рабочие не работают. Господствует ужасная нищета. Почти все 100% евреев – безработные. С нового года евреям не будет выдаваться право на промышленные патенты. Евреев избивали, ловили и ежедневно направляли на работу. На Наливках[8], 9 из одного дома арестовали 53 евреев и всех расстреляли за то, что еврей-спекулянт из этого дома убил полицейского. В городке около

[5] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 14779. Арк. 1–13.

[6] Завод Лильпопа (Lilpop, Rau i Loewenstein) быў найбольшым прамысловым прадпрыемствам Варшавы і лідарам польскай гаспадаркі ў галіне машынабудавання. Тут выраблялiся аўтамашыны, аўтобусы, лакаматывы, вагоны для чыгуначнага транспарту і трамваяў, розныя тыпы сельскагаспадарчай тэхнікі, рухавікі ды інш. З пачаткам нямецкай акупацыі прадпрыемства было канфіскавана і ўключана ў склад канцэрна Hermann Göring Werke. Пад час Варшаўскага паўстання (1944) немцы вывезлі ўсю тэхніку, дакументацыю і работнікаў, а пазней знішчылі ўсе прамысловыя збудаванні. Прадпрыемства не было адноўлена.

[7] Завод электрычнага абсталявання S. Kleiman i Synowie быў добра вядомы ў даваеннай Польшчы. У 1930-я г. тут працавала каля 300 работнікаў. Завод цалкам забяспечыў абсталяваннем электрыфікацыю Варшаўскага чыгуначнага вузла. З 1 студзеня 1939 г. фірма існавала як акцыянерная кампанія Krajowy Przemysł Elektryczny SKW Sp. Akc. Завод быў знішчаны ў час вайны.

[8] Вуліца Налеўкі (Nalewki) знікла з карты сучаснай Варшавы. Да вайны яна была адной з цэнтральных вуліц Паўночнага яўрэйскага раёна (Dzielnicy Północnej). Вуліца была разбурана ў час вайны.

Гарболина[9] приказали 30 евреям выкопать себе могилу, после чего их расстреляли.

После прихода немцев в Варшаву сильно чувствовался антисемитизм среди польских рабочих ("Воля"[10]). Они помогали немцам в угнетении евреев. В последнее время волна антисемитизма среди польских рабочих спала в связи с тем, что положение поляков все ухудшается (немцы совершенно не дают хлеба, а работы нет).

Распространяются непроверенные слухи, что левая часть пепеэсовской молодёжи работает нелегально, называя себя как будто "Спартаковцами"[11]. Два месяца тому назад ППС[12] распространила воззвание на площади Керцелево[13], призывающее рабочих не солидаризироваться с немцами и не настраивать одну национальность против другой. В последнее время ППС расклеила воззвание в городе, что она как будто стоит на точке зрения старой Пилсудчины. В Варшаве выходит газетка "Польски неподлеглошовец[14]" – "Польски независимец", кажется пепеэсовская.

9 Прав.: Гарволін (Garwolin) – горад у Мазавецкім ваяводстве, за 60 км ад Варшавы.

10 Воля (Wola) – раён Варшавы ў левабярэжнай частцы горада, населены пераважна рабочымі прамысловых прадпрыемстваў.

11 Магчыма, узорам для варшаўскіх "спартакаўцаў" была левper радыкальная нямецкая арганізацыя "Спартак", у якую ўвайшлі камуністы і левая частка нямецкіх сацыял-дэмакратаў. На чале "Спартака" былі Роза Люксембург (1871–1919) і Карл Лібкнехт (1871–1919). У студзені 1919 г. яны ўзнялі паўстанне ў Берліне з мэтай усталявання савецкай рэспублікі. Паўстанне было жорстка падаўлена.

12 ППС – Польская партыя сацыялістычная (1892). Яе праграма сумяшчала пастулат нацыянальнай незалежнасці з праграмай сацыялістычных пераўтварэнняў. Да 1948 г. была адной з галоўных палітычных сіл у Польшчы. Партыя адноўлена ў 1987 г., аднак у палітычным жыцці Польшчы не адыгрывае прыкметнай ролі.

13 Плошча Керцэля (plac Kercelego), або Керцэляк (Kercelak) – плошча ў варшаўскім раёне Воля, дзе да 1947 г. адбываўся актыўны гандаль. Сёння не існуе.

14 Прав.: "Польскі непадлегласцёвец" ("Polski Niepodległościowiec"). Магчыма, гаворка ідзе пра лістоўку ППС.

Эндеки[15] не выступают теперь деятельно в борьбе с евреями. Декан адвокатского совета адвокат Новодворский[16] заявил, что теперь не время для борьбы с евреями.

Переход границы очень затруднен. Немцы из поездов всех высаживают, грабят вещи, деньги и немилосердно бьют евреев. Посты немецкие на самой границе довольно легко пройти.

Письмо Поли ВАРГАФТЕР
г. Белосток

* * *

Нет уголка в Польше, нет общественной прослойки, которая бы на своей спине не почувствовала бандитизм фашистского строя. Неуверенность в завтрашнем дне чувствуют не только польские рабочие, но даже и польская буржуазия. Отсутствует законодательство, суд, гражданская власть. Всюду господствует солдатчина. Армия убивает без поводов и без жалости гражданское население. Вот факты из главных мест, откуда наши товарищи вынуждены убегать, едва спасая жизнь.

[15] Гаворка ідзе пра членаў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі (1897), у ідэалогіі якой дамінавала дактрына нацыяналізму. Яе выпрацоўка была звязаная з дзейнасцю лідара партыі Рамана Дмоўскага (1864–1939). У міжваенны перыяд нацыянальныя дэмакраты знаходзіліся ў апазіцыі да Ю. Пілсудскага і прыхільнікаў яго палітычнай лініі.

[16] Ян Эдвард Навадворскі (Jan Edward Nowodworski) (1876–1954) – польскі юрыст і палітык, член Нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Пасля травеньскага дзяржаўнага перавароту 1926 г. партыя знаходзілася ў апазіцыі да кіроўнага рэжыму. Ян Навадворскі быў дэпутатам Сейма. Пад час нямецкай акупацыі ўваходзіў у Кансультацыйную Раду пры нямецкім камісары па рэарганізацыі адвакатуры (Beirat). Быў выгнаны з яе і пазбаўлены права займацца адвакацкай практыкай пасля пратэсту супраць выгнання яўрэяў з гэтай сферы. Дзейнічаў у антынямецкім падполлі. Пасля вайны вярнуўся да адвакацкай практыкі, але ў 1952 г. быў зноў пазбаўлены права гэтым займацца.

Домбровский угольный бассейн[17]. Тут с 4 сентября господствуют гитлеровцы. При известии о вхождении гитлеровцев в бассейн все мужское население убежало. Остались только женщины и дети, осталась и незначительная часть рабочих, которые создали охрану города. Полиция, местные власти и имущее население в панике оставили свои дома.

Первым делом гитлеровцев в бассейне был расстрел 29 человек, которых случайно нашли в помещениях судов. Другим их делом был поджег синагоги, в которой находились евреи, и поджег тюрьмы. Расстреляли рабочего за то, что он присматривался к пожару. Несколько еврейских лавок разбили, ограбили, товары были выброшены на улицу. Гитлеровцы обещали хорошо относиться к населению, но грозили, что если кто не вернется на работу, будет расстрелян за саботаж, а у имущих конфискуют имущество. Все безработные от 13 до 55 лет вынуждены регистрироваться, и высылаются в Германию на работу. Те, кто работает на месте, получают за три дня вместо пособия 13 злотых, при местной дороговизне люди обречены на голодное существование. Те, кто не желает ехать в Германию на работу, лишается пособия, а кто не регистрируется, подвергается наказанию, и ему грозит голодная смерть.

Не все шахты работают. Каждые две недели работает другая часть рабочих. Заработная плата на старом уровне при повышении цен в 10 раз. Введена карточная система. Ограничено количество вещей, которые можно иметь. Масла и др[угих] жиров нет. Все время массовая высылка вглубь Германии значительного количества рабочих. Политической жизни не чувствуется. Составлена охрана

[17] Дамброўскі вугальны басейн (Zagłębie Dąbrowskie) – рэгіён у заходняй частцы Малапольшчы, на мяжы з Верхнім Шлёнскам, сёння ўваходзіць у Шлёнскае ваяводства. Галоўныя гарады рэгіёна – Сасновец (Sosnowiec), Дамброва Гурніча (Dąbrowa Górnicza), Бэндзін (Będzin) і Чэлядзь (Czeladź). У міжваенны перыяд рэгіён уваходзіў у склад Келецкага ваяводства. У 1927 г. быў створаны Заверцянскі павет, а ў 1928 г. – Гродскі павет для г. Сасноўца. У 1937 г. здабыча каменнага вугалю ў рэгіёне складала 17% ад агульнапольскай.

города для поддерживания связи с населением. Интересно, что охрана эта составляется чаще всего из бывших членов ЦЗГ[18] (Центральный профсоюз горняков).

На 11 ноября[19] были арестованы известные эндекские активисты (Народная демократия – черносотенная партия). На стенах были лозунги "Долой Гитлера с маргарином, идет Ридз-Смиглы с солониной".

Этим ограничивалась политическая деятельность польской общественности. Зато гитлеровцы успели уже построить два концлагеря. Намечается полное физическое уничтожение бывших коммунистов и рабочих-активистов.

О пекле, которое пережили еврейские городки в Польше, уже наверное известно. Можно добавить горсть фактов из больших городов.

В последнее время гитлеровцы вывезли из Калиша[20] почти все еврейское население в закрытых вагонах в неизвестном направлении, разделяя жен от мужей, детей от родителей. Вид этих людей ужасающий. Это люди осужденные на пытки, без всякой надежды на легкую смерть. Комендант[21] Калиша является комендантом Лодзи и можно предполагать, что такая же судьба ждет еврейское население и в Лодзи.

Все евреи в Лодзи носят желтые заплаты на правом плече. За попытку избежать этого грозит смертная казнь, тяжелая тюрьма, денежный штраф. Ходить можно с 8 часов

18 Цэнтральны Саюз шахцёраў у Польшчы (Centralny Związek Górniczy w Polsce) – агульнапольскі прафесійны саюз шахцёраў. Быў заснаваны ў 1919 г. У 1935 г. налічваў 35,5 тыс. сяброў.

19 11 лістапада адзначаецца свята незалежнасці Польшчы.

20 Каліш (Kalisz) – горад на правах павета ў Велікапольскім ваяводстве, адзін з цэнтраў Калішска-Астроўскай прамысловай акругі. Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў Калішы жыло больш як 80 тыс. жыхароў. Пад час нямецкай акупацыі горад быў далучаны да III Рэйха. У выніку рэпрэсій і высяленняў колькасць насельніцтва зменшылася да 20 тыс.

21 Магчыма, гаворка ідзе пра Вернера Вэнцкага (Werner Ventzki) (1906–2004), адказнага за масавыя высяленні палякаў і яўрэяў, а таксама за ліквідацыю гета ў Лодзі. Пасля вайны пазбег судовага праследу.

займала традыцыйна крытычныя пазіцыі ў стаўленні да напрацовак М. Каяловіча[49]. Ужо ў наш час пра заходнерусізм і ненавуковасць гістарычных схем М. Каяловіча шмат пісаў даследчык гісторыі беларускай гістарыяграфіі Дзмітры Караў[50], які падкрэсліў, між іншага, што гістарычная канцэпцыя М. Каяловіча "была пераканаўча абвергнута" яшчэ ў канцы XIX ст. працамі расійскіх гісторыкаў ліберальнай плыні, найперш Мацвеем Любаўскім ды Іванам Лапам[51]. Нарэшце не так даўно пра навуковую вартасць твораў М. Каяловіча вычарпальна выказаўся Міхаіл Кром, які назваў іх "помнікамі ідэалогіі XIX ст."[52], натуральна, пазбаўленымі ўсялякага навуковага значэння.

Але пасля ўсталявання рэжыму прэзідэнта А. Лукашэнкі і абвяшчэння курсу на рэінтэграцыю з Расіяй мы сталі сведкамі скаардынаванай кампаніі па рэанімацыі ідэалогіі заходнерусізму і актуалізацыі ідэйнай спадчыны М. Каяловіча ў Беларусі. "Заходнярускі" варыянт асвятлення мінулага Беларусі, што паказваў яе часткай Вялікай Расіі, у афіцыйным дыскурсе суверэннай краіны з пачатку нулявых гадоў стаў прапагандавацца як "правильное понимание"[53] гісторыі. А самога М. Каяловіча з падачы В. Чарапіцы і Я. Трашчанка пачалі называць "выдающимся историком"[54]. У рамках той кампаніі "Беларуская Энцыклапедыя" ажыццявіла перавыданне

[49] Пар.: Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Менск, 1925. С. 170; Копысский З. Ю., Чепко В. В. Историография БССР (эпоха феодализма). Минск, 1986. С. 23.

[50] Карев Д. В. Белорусская и украинская историография конца XVIII – начала 20-х гг. XX в. С. 196–206.

[51] Тамсама. С. 202–203.

[52] Кром М. М. Великое Княжество Литовское в российской историографии XIX–XX веков // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštijos tradicija ir tautiniai naratyvai / sud. A. Bumblauskas, G. Potašenko. Vilnius, 2009. P. 181.

[53] Черепица В. Михаил Осипович Коялович. История жизни и творчества. Гродно, 1998. С. 118.

[54] Да В. Чарапіцы і Я. Трашчанка далучылася і В. Цяплова, якая таксама называла "Историю русского самосознания" фундаментальнай працай і "вяршыняй творчасці" М. Каяловіча. Гл.: Теплова В. А. М. О. Коялович и русская православная историография. С. 394.

Каяловічавага курсу лекцый па гісторыі Заходняй Расіі[55], а многія гісторыкі не толькі моўчкі прынялі новую ўстаноўку, але нават сталі захапляцца канструкцыямі айца заходнерусізму. Прычым не толькі ў Магілёве.

Напрыклад, у гарадзенскім дапаможніку для гістарычных факультэтаў аўтарства Віктара Белазаровіча студэнтам прапанаваны даволі прывабны партрэт М. Каяловіча як саліднага вучонага XIX ст., які “свае меркаванні <…> падмацоўваў прыкладамі і характарыстыкай шырокага кола гістарычных крыніц”. Паводле В. Белазаровіча, да з’яўлення прац Каяловіча “гісторыя ВКЛ і Рэчы Паспалітай не з’яўлялася прадметам асобнага даследавання расійскіх гісторыкаў”, ну а выхад яго “Истории русского самосознания”, якая названа “першай абагульняльнай гістарыяграфічнай працай ў Расіі”, стаў “буйной гістарыяграфічнай падзеяй”[56].

Сказанае пра заслугі і дасягненні М. Каяловіча, мякка кажучы, не адпавядае таму, што было ў сапраўднасці. Па-першае, яго немагчыма залічыць да катэгорыі акадэмічных даследчыкаў, якім важна абапірацца на “шырокае кола гістарычных крыніц”. Каб пераканацца ў гэтым, варта толькі пачаць чытаць любую гістарычную працу названага аўтара. Яшчэ У. Ігнатоўскі ў свой час дакладна падмеціў, што ў Каяловіча на першым месцы стаіць “палітычна-філасофскі момант”, а не факты[57].

Па-другое, ВКЛ і да выданняў М. Каяловіча было прадметам даследаванняў расійскіх гісторыкаў. Гісторыяй ВКЛ і Польшчы пачалі спецыяльна займацца ў 1830–40-я гады ў сувязі з праграмай напісання падручніка расійскай гісторыі. Пачатак такіх даследаванняў можна звязваць з працамі М. Устралава

[55] Коялович М. О. Чтения по истории западной России. Минск, 2006. Выданне гэтага твора масавым накладам без каментароў і навукова-крытычнага апарату, канечне, не робіць гонару Беларускай Энцыклапедыі.

[56] Белазаровіч В. А. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: дапаможнік па аднайменным курсе для студэнтаў. Гродна, 2006. С. 138–139.

[57] Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX ст. С. 170.

і М. Кастамарава (на жаль, дысертацыя апошняга пра унію была спалена)[58].

Па-трэцяе, М. Каяловіч не быў піянерам і ў даследаванні расійскай гістарыяграфіі. Да яго ў другой палове XIX ст. выйшла нямала прац, прысвечаных гістарыяграфіі. Згадаем тут публікацыі С. М. Салаўёва, Г. Ф. Карпава і асабліва К. Бястужава-Руміна, якому належыць цэлая серыя спецыяльных штудый. Доўгі час расійскай гістарыяграфіяй займаўся кіеўскі гісторык У. С. Іконнікаў, фундаментальная праца якога выйшла ў 1890-я. Апошні ў сваёй кнізе сцісла ацаніў і згаданы твор М. Каяловіча, пералічыўшы толькі яе галоўныя недахопы, якія не дазволілі разглядаць працу як сур'ёзнае навуковае даследаванне[59]. Сярод іх быў адзначаны і суб'ектывізм як асноўная пазіцыя М. Каяловіча: "…автор впадает в крайний субъективизм, последователем которого (в известном направлении) он и объявляет себя".

Між іншага, У. Іконнікаў сказаў пра яшчэ адзін важны факт: у хвалі крытычных водгукаў расійскіх гісторыкаў, якія выклікала кніга "История русского самосознания", праявілася "рэдкае ў спрэчных пытаннях адзінства думак" апанентаў[60]. Так што расійскія гісторыкі канца XIX – пачатку XX ст. зусім не былі ў захапленні ад працы нашага земляка. Пахвальна пра апошні твор М. Каяловіча

[58] Гл.: Устрялов Н. Г. Исследование вопроса, какое место в русской истории должно занимать Великое княжество Литовское. С.-Петербург, 1839. З таго часу ВКЛ асобна разглядалася ў "Русской истории" М. Устралава. Пар.: Володина Т. А. Уваровская триада и учебники по русской истории // ВИ. 2004. № 2. С. 117–128.

[59] У. Іконнікаў падкрэсліў, што Каяловічавы азначэнні розных накірункаў у рускай гістарыяграфіі і іх характарыстыкі "не всегда точны и еще менее верны", а прыведзеная бібліяграфія "также страдает значительною неполнотою". Гл.: Иконников В. С. Опыт русской историографии. Кн. 1. Киев, 1891. С. 267.

[60] Иконников В. С. Опыт русской историографии. С. 267. Так было і пазней. Напрыклад, Павел Мілюкоў пісаў, што М. Каяловіч у сваёй працы дзеліць усіх гісторыкаў на "сваіх" і "чужых", а немцаў абвінавачвае ў бесперапыннай змове супраць Расіі. Гл.: Милюков П. Главные течения русской исторической мысли. Т. 1. Москва, 1897. С. 3.

выказаліся лічаныя аўтары, у прыватнасці, яго ідэалагічныя аднадумцы – пісьменнік славянафіл Іван Аксакаў (1823–1886) ды расійскі публіцыст і грамадска-палітычнага дзеяч, ідэолаг манархізму Леў Ціхаміраў (1852–1923). Сімптаматычна, што і ў 1990-я гады на мінскае перавыданне названай кнігі[61] таксама пазітыўна адгукнуліся не навукоўцы, а пецярбургскі публіцыст Міхаіл Смолін, сучасны апалагет расійскага манархізму, які пахваліў барацьбу М. Каяловіча з аб’ектывізмам у навуцы, а яго “Историю русского самосознания” назваў “ярким примером имперского мышления”[62].

Затое ў цяперашняй Беларусі, як бачым, з М. Каяловіча зрабілі вялікага вучонага. Больш за тое, расійскага манархіста беларускага паходжання нядаўна паставілі ў адзін шэраг з Мітрафанам Доўнарам-Запольскім[63] – яго перакананым ідэйным праціўнікам і адным з ідэолагаў беларускай дзяржаўнасці. Зусім забыта тое, што ніхто з прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху не лічыў яго сваім ці ідэйна блізкім. Нават беларускія народнікі, праваслаўныя і рускамоўныя выхадцы з Беларусі, што выступілі з беларускай ідэяй у сталіцы імперыі, не бачылі ў ім нічога беларускага: для іх ён быў расійскім прафесарам, які падтрымліваў “вопли о сепаратизме” беларусаў у кансерватыўнай перыёдыцы[64]. Натуральна, яшчэ больш непрымальнай была ідэалагічная спадчына М. Каяловіча для асяроддзя “Нашай Нівы” і стваральнікаў беларускай дзяржаўнасці – ці то ў іпастасі абвешчанай БНР, ці ў выглядзе рэалізаванай БССР.

Час вярнуцца да пытання пра сэнс перавыдання твораў, якім прысвечаны гэтыя развагі. Пра іх вяртанне

[61] Коялович М. О. История русского самосознания: По ист. памятникам и науч. соч. Минск, 1997.

[62] Смолин М. Б. Очерки имперского пути. Москва, 2000. С. 267.

[63] Гл.: Полацк у святле станаўлення гістарычных і нацыянальных форм беларускай дзяржаўнасці (IX–XX стст.) / Д. У. Дук і інш. Магілёў, 2019. С. 76–77.

[64] Публицистика белорусских народников: нелегальные издания белорусских народников (1881–1884) / сост. С. А. Александрович. Минск, 1983. С. 30, 33.

ў "навуковы абарот", як выказалася В. Цяплова, не можа быць гаворкі. Бо што навуковае, што не састарэлае і актуальнае мы знойдзем у нарысе Чыстовіча ці Кіпрыяновіча? Перакананы – нічога! А ў Каяловіча і пагатоў не. Яго творы могуць служыць толькі прапагандзе дэстабілізацыйных ідэй пра Беларусь як частку "единой и неделимой..." ды рэанімацыі фобій і хворых фантазій пра ворагаў праваслаўя і Расіі.

Тэзіс пра нейкую "гістарычна-царкоўную школу", навуковую спадчыну якой трэба выдаваць, як выглядае, паслужыў толькі прыкрыццём скаардынаванай кампаніі па ўмацаванні пазіцый "русского мира" ў Беларусі – прапагандзе ідэалогіі заходнерусізму. Невыпадкова ў адной з ранейшых публікацый заснавальнікам т. зв. "праваслаўнай гістарычнай школы" В. Цяплова называла не Г. Каніскага, а М. Каяловіча, прызнаючы пры тым, што ён быў "проводником одной идеи – единой и неделимой России"[65]. Вось з гэтым не паспрачаешся. Праўда, тады і называць школу М. Каяловіча варта так, як яе даўно называюць у беларускай гістарыяграфіі – школай заходнерусізму. І не ўтойваць таго, што яна праводзіла ў масавую свядомасць насельніцтва Беларусі асноўныя пастулаты расійскай імперскай ідэалогіі[66], ды займаць да іх крытычную пазіцыю – адпаведна інтарэсам беларускай дзяржаўнасці.

Між тым, Беларускі Экзархат яшчэ зусім нядаўна, здаецца, вельмі сур'ёзна браўся за пашырэнне згаданай

[65] Теплова В. А. М. О. Коялович и русская православная историография. С. 394–395.

[66] Гл. падставовыя беларускія працы пра заходнерусізм: Цьвікевіч А. "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX ст. 2-е выд. Менск, 1993; Карев Д. В. Белорусская и украинская историография конца XVIII – начала 20-х гг. XX в. С. 196–206; Литвинский А., Карев Д. Западноруссизм в российской историографии второй половины XIX – начала XX в. // Стэфан Баторый у гістарычнай памяці народаў Усходняй Еўропы. Гродна, 2004. С. 195–324; Литвинский А. Западноруссизм в российской историографии второй половины XIX – начала XX в. Автореф. дисс. ... канд. ист. наук. Минск, 2004.

ідэалогіі ў Беларусі, бо ў дадатак да разгледжаных выданняў яго стараннямі ўбачылі свет (і таксама масавым накладам!) том публікацый ужо згаданых Івана Аксакава[67] – аднаго з найбольш актыўных дзеячоў расійскага панславізму – і зборнік твораў апявальніка расійскага манархізму Льва Ціхаміравa[68]. Чым растлумачыць такую зацікаўленасць кіроўных органаў нашай Праваслаўнай Царквы ў пашырэнні сярод беларусаў сёння ідэй расійскага панславізму? Ідэалогіі, якая і ў эпоху імперыі была бясспрэчна рэакцыйнай, якая ставіла за мэту падштурхнуць царскі ўрад да больш агрэсіўнай і шавіністычнай знешняй палітыкі, каб аб’яднаць усе славянскія народы вакол Расіі[69]. Або навошта ім спатрэбілася пашыраць у Беларусі меркаванні ідэолага чорнай сотні Льва Ціхамірава, якія ў імя непадзельнай расійскай імперыі апраўдваў удушэнне любых свабод? Вось некалькі ўзораў яго мыслення, узятыя з мінскага зборніка. “…Русский народ может требовать себе руководительства другими народами и тех материальных условий, которые для этого необходимы”. І для гэтай місіі “…[если] мы готовы при надобности стереть с ее дороги всякого врага и супостата с радикализмом Грозного, Петра Великого, Муравьева Виленского и графа Евдокимова Кавказского[70], то только потому, что велика и для всего рода человеческого необходима <u>господствующая роль нашей нации</u>” (падкрэслена мною. – *Г. С.*)[71]. Пагадзіцеся, вельмі сугучна заклікам усім вядомага персанажа, які ў імя панавання сваёй нацыі распачаў самую страшную ў гісторыі чалавецтва вайну. Як звястун

[67] Аксаков И. С. О державности и вере. Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2010.

[68] Тихомиров Л. А. Личность, общество и Церковь. Минск: Белорусская Православная Церковь, 2010.

[69] Падрабязней гл.: Валицкий А. История русской мысли от просвещения до марксизма. Москва, 2013. С. 313–316; Kohn H. Pan-Slavism. Its History and Ideology. 2d ed. New York, 1960.

[70] Расійскі генерал граф Мікалай Еўдакімаў (1804–1873) у 1860-я гады жорстка заваёўваў Каўказ, знішчаючы цэлыя народы.

[71] Тихомиров Л. А. Личность, общество и Церковь. С. 325.

ідэалогіі фашызму, Л. Ціхаміраў адкрыта прапаведаваў і антысемітызм. Для яго яўрэі – “народ, развращающий нас и составляющий главнейшую опору революции”, “евреи забивают нас во всем”, они “захватывают все отрасли труда”[72] г. д.

І ўсё гэта – у сучасных выданнях Беларускай Праваслаўнай Царквы! І ўсё гэта – “по благославению Высокопреосвященнейшего Митрополита Минского и Слуцкого, Патриаршего Экзарха всея Беларуси Филарета”. Або мітрапаліт не ведаў зместу кніг, якія выдае падуладнае яму ведамства, або яно сапраўды мэтанакіравана праводзіць ідэалогію расійскага нацыяналізму[73], што выглядае больш праўдападобна. У кожным разе давядзецца прызнаць, што, выдаючы цытаваныя кнігі, Беларускі Экзархат Маскоўскага Патрыярхата займаўся рэпрадукаваннем старых, мякка кажучы, небязвінных стэрэатыпаў, гукаючы монстраў палітычнага міфа, абуджэнне якіх тоіць у сабе сур’ёзную небяспеку для сучаснага грамадства[74].

Бо навошта ж вяртаць у сённяшняе жыццё Беларусі каланіяльную тэрміналогію эпохі Расійскай імперыі? Навошта прапагандаваць у Беларусі расійскі манархізм і шавінізм? Навошта ажыўляць і культываваць антыпольскія і антыеўрапейскія рэсантыменты? Каму можа быць карысць ад такой “асветы” ці “навукі”, якімі прыкрываюцца выдаўцы? Пытанні, здавалася б, рытарычныя. Але над імі варта задумацца. Для мяне відавочна адно: гэта выключна шкодныя для Беларусі выданні. Яны нясуць дэстабілізацыю беларускаму грамадству і пагрозу суверэнітэту беларускай дзяржавы.

[72] Тамсама. С. 460–463.

[73] Наконт ролі Праваслаўнай Царквы ў русіфікацыі грамадства сучаснай Беларусі і пашырэнні ёю сярэднявечнай канцэпцыі “Масква – трэці Рым” падрабязней гл.: Радзік Р. Вакол ідэнтычнасці беларусаў / перакл. з польскай мовы С. Петрыкевіч. Мінск, 2017. С. 119–121, 122–129.

[74] Пра небяспеку палітычных міфаў найлепш напісаў Эрнст Касірэр. Гл.: Cassirer E. The Myth of the State. New Haven, 1961.

# Месца, дзе нас няма...*

## Андрэй Чарнякевіч

“…Народы ў сваёй палітыцы кіруюцца не сымпатыямі, ня блізкасьцю па крыві, не гістарычнымі традыцыямі, а выключна сваёй карысьцю. І толькі правільным зразуменьнем свае нацыянальнае карысьці і павінны кіравацца беларусы ў той незвычайна важны гістарычны мамэнт, калі перад імі адкрываецца магчымасьць самым наладзіць сваё жыцьцё. Толькі тады, як мы ўжо створым сваю незалежную дзяржаву, мы можам у меру патрэбы пашукаць сабе саюзьнікаў…” – пісаў у сярэдзіне 1918 г. на старонках віленскай газеты “Homan” адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху, будучы прэм’ер БНР Антон Луцкевіч[1]. Выказаная ім пазіцыя была рэфлексіяй на падпісаную савецкім урадам у Брэсце мірную дамову і адначасова спробай сфармуляваць уласна беларускую міжнародную суб’ектнасць ва ўмовах нараджэння новай Еўропы. Перш за ўсё, новай Усходняй Еўропы.

Праз тры гады, у канцы 1921 г., ужо пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы, якая фактычна вызначыла канчатковую перамогу бальшавікоў у грамадзянскай вайне, іншы палітык – гэтым разам расійскі, Барыс Савінкаў, ідэолаг “Трэцяй Расіі” і адзін з актыўных удзельнікаў

* БАРОЎСКАЯ, ВОЛЬГА М. Беларускае пытанне на савецка-польскіх перагаворах 1918–1921 гг. Мінск: Беларус. навука, 2017. 269 с.
КОРОТКОВА, ДАРЬЯ А. Белорусские земли в советско-польских отношениях. Разменная карта в противостоянии двух держав. 1918–1921 гг. Москва: Центрполиграф, 2019. 222 с.

[1] Луцкевіч А. Барацьба за вызваленьне. Вільня – Беласток, 2009. С. 169–170.

польска-савецкага збройнага супрацьстаяння на яго завяршальным этапе, прыглядаючыся да новай рэчаіснасці, напісаў: “Свабоду не даюць у якасці падарунка… А таму хочам мы таго, Велікаросы, ці не хочам, аднак праўда заключаецца ў тым, што на другі дзень пасля падзення камуністычнай улады зменяцца не толькі палітычныя праграмы, але і ўся карта Усходняй Еўропы… Хочам мы таго ці не, аднак, калі рассыплецца Саўдэпія, Польшча будзе мець межы не з Расіяй, а з незалежнай Беларускай дзяржавай і з незалежнай Украінай. Тады перад Масквой паўстане новая мэта: перабудова ўсходу Еўропы…”[2].

Гэтыя дзве цытаты храналагічна дакладна і адначасова змястоўна акрэсліваюць сутнасць тых выклікаў, якія пакінула пасля сябе польска-савецкая вайна 1919–1920 г. Прычым калі беларуская нацыянальная традыцыя ўспрымае яе вынікі як трагічную страту ўласнай незалежнасці ды падзел беларускіх земляў паміж суседзямі, дык для палітычных эліт Польшчы і Расіі, прычым Расіі і “чырвонай”, і “белай”, і “трэцяй”, ці не галоўнай геапалітычнай траўмай стала з’яўленне ўласна гэтай новай рэчаіснасці, у якой міжнародная суб’ектнасць Украіны ды Беларусі выступае дзейсным фактам.

Разгледжаныя ніжэй працы сучасных даследчыкаў – беларускага і расійскага, – прысвечаныя дыпламатычнаму кантэксту збройнага канфлікту Савецкай Расіі і Польшчы, вельмі яскрава дэманструюць супрацьпастаўленне гэтых двух поглядаў, але ўжо ў гістарыяграфічным вымярэнні. Яшчэ адзін дадатковы момант, які варта ўлічыць пры параўнанні абодвух тэкстаў, – тое, што перад намі дзве адаптаваныя для публікацыі працы на спашуканне навуковай ступені кандыдата гістарычных навук, напісаныя з улікам фармальных патрабаванняў і інстытуцыянальнай субардынацыі акадэмічнай сістэмы кожнай з краін. З іншага боку, той факт, што абодва выданні з’явіліся амаль адначасова, стварае падставы для шырокага і грунтоўнага навуковага дыялогу, галоўная каштоўнасць якога, як падаецца, у магчымасці ўзаемнай

[2] За Свободу. 29.11.21.

верыфікацыі ды крытычнага пераасэнсавання ўласнага "траўматычнага досведу".

Праўда, напачатку можа ўзнікнуць пачуццё, што ніякай дыскусіі не адбудзецца, а ўся розніца ў падыходах абмяжоўваецца выключна мовай выданняў (апошняе наогул страчвае значэнне, калі ведаеш, што кніга беларускага гісторыка была перавыдадзена па-руску[3]). Нават актуальнасць навуковага даследавання сфармулявана амаль ідэнтычна, толькі ў Дар'і Каратковай гэта "недастатковая колькасць прац" па абранай тэме (Короткова, с. 25), а для Вольгі Бароўскай інтарэс абумоўлены адсутнасцю "асобнага комплекснага даследавання" "асобных аспектаў савецка-польскіх перагавораў", у якім была б пададзена "цэласная карціна падзей" (Бароўская, с. 6).

І гэта не выпадкова. Кніга Вольгі Бароўскай убачыла свет у серыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і была падрыхтавана ў рамках выканання Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2016–2020 г. "Эканоміка і гуманітарнае развіццё беларускага грамадства" пад навуковай рэдакцыяй прафесара А. Кавалені; кніга "Белорусские земли в советско-польских отношениях. Разменная карта в противостоянии двух держав. 1918–1921 гг." Дар'і Каратковой з'явілася пры падтрымцы Расійскага фонду фундаментальных даследаванняў і была зацверджана да публікацыі вучоным саветам Інстытута славяназнаўства Расійскай акадэміі навук. Менавіта "фармалізаванасць" абедзвюх кніг, г. зн. іх строгая прывязанасць да фармальных патрабаванняў, якія ставяцца перад тэкстам тыпавой дысертацыі, можна аднесці да агульных хібаў рэцэнзаваных выданняў. Аўтары ад пачатку былі абмежаваны пэўнымі схематычнымі шаблонамі, ад якіх не здолелі, а магчыма, і не захацелі адысці.

Пытанне, ці існуе недзе ў гістарычнай навуцы праца, якая поўнасцю ўвасабляла б аб'ектыўную рэчаіснасць ва ўсёй яе шматзначнасці ды разнастайнасці, і колькі наогул

[3] Боровская О. Н. Советско-польские переговоры 1918–1921 гг. и их влияние на решение белорусского вопроса. Москва: ТД "Алгоритм", 2018. 287 с.

патрэбна публікацый, каб раз і назаўсёды закрыць аб'ект навуковага пошуку, варта пакінуць без адказу. Пры ўсёй відавочнасці гэтая фармальная рыторыка, якую ведае амаль кожны, хто прайшоў працэдуру абароны ў айчынных вучоных саветах і каму давялося абгрунтоўваць актуальнасць уласных даследаванняў, пазбавіла абодвух аўтараў галоўнага – магчымасці выказацца ад свайго імя: чаму ж абраная тэма прыцягвае нашу ўвагу нават сёння, выклікаючы шчырую цікавасць і гарачыя спрэчкі.

Праўда, Вольга Бароўская па-свойму паспрабавала абысці гэткую перашкоду і задалася пытаннямі: "Ці быў падзел тэрыторыі Беларусі адзіным верагодным варыянтам развіцця падзей? Ці існавала, хоць і ў мінімальным аб'ёме, магчымасць захавання цэласнасці і адзінства?" Аднак адразу пасля гэтага высвятляецца, што гэта пытанні не даследчыцы, а нейкіх абстрактных "спецыялістаў па праблеме" ды аматараў гісторыі. Для самога ж гісторыка відавочна, што Рыжскі мір – гэта "сродак пацыфікацыі ўсходнееўрапейскага рэгіёна", дзякуючы якому адбылося "афіцыйнае прызнанне ў якасці самастойных суб'ектаў міжнароднага права БССР і УССР" (Бароўская, с. 6). Так яшчэ ва ўводзінах мы атрымліваем канчатковую аўтарскую выснову, якая апярэджвае само даследаванне, і гэтым самым робіць сфармуляваную вышэй актуальнасць… не актуальнай. Таму што ўсё ўжо відавочна і зразумела!

І ўсе ж такі засталося ўражанне, што аўтар не зусім шчыры, прынамсі, з тым афіцыйным рэцэнзентам, для якога, відавочна, і прызначаўся гэты ды іншыя падобныя звароты. Каб зразумець, пра што ідзе гаворка, трэба ўяўляць, якім чынам у сучаснай беларускай гістарычнай навуцы адбываецца назапашванне новых ведаў і з якімі цяжкасцямі сустракаюцца маладыя (гаворка нават не пра ўзрост, а хутчэй пра сацыяльна-навуковы статус) даследчыкі, асабліва даследчыкі XX ст., якія спрабуюць знайсці кампраміс паміж уласна ведамі ды інстытуцыянальнай лаяльнасцю.

Дарэчы, нешта падобнае можна ўбачыць і ў працы расійскага гісторыка, якая ўдакладняе, што ў яе кнізе "асаблівая ўвага будзе аддавацца поглядам савецкіх уладаў

на беларускае пытанне ў кантэксце польскага кірунку міжнародных адносінаў, паколькі менавіта гэтыя сюжэты часцей за ўсе застаюцца па-за сувяззю паміж сабой" (Короткова, с. 25). Можна толькі дадаць: уласна ў гэтым і ёсць галоўная навізна ды актуальнасць абранай тэмы.

Тым часам сінхранізацыя ў нарацыі дзякуючы ўжо згаданай вышэй агульнай структуры дасягае сваёй кульмінацыі, калі абодва гісторыкі пераходзяць да агляду літаратуры і галоўных крыніц па сваёй тэме, з той толькі розніцай, што мінская даследчыца вылучае гэтае пытанне ў асобны раздзел, а Д. Караткова абмяжоўваецца агульным аглядам ва "Уступе". Памятаючы, што аб'ект даследавання калі не ідэнтычны, дык, прынамсі, вельмі блізкі, а ў некаторых момантах (напрыклад, уласна самі перамовы ў Мінску і Рызе) поўнасцю супадае, менавіта гэтая частка вельмі выразна дэманструе тыя два падыходы, якія адрозніваюць беларускага ды расійскага гісторыкаў.

Агульны спіс крыніц і літаратуры В. Бароўскай з улікам архіўных спасылак складае 456 адзінак, а ў Д. Каратковай іх толькі 125. Бачым, што расійскі аўтар не ставіць перад сабой мэты ахапіць усе публікацыі, пералік якіх, асабліва беларускамоўных, далёка не поўны; кідаецца ў вочы абмежаванасць у выкарыстанні перыядычнага друку (згаданы толькі два выданні – газеты "Известия" ды "Новое время" за 1917–1918 г.); крыніцы прадстаўлены галоўным чынам дакументамі з расійскіх маскоўскіх архіваў. У гэтым сэнсе з крыніцазнаўчага погляду, асабліва ў параўнанні з некаторымі іншымі "замежнымі" даследчыкамі беларускага пытання (назаву тут у якасці прыкладу польскага гісторыка Яанну Героўскую-Калаур), праца выглядае вельмі сціпла, за выключэннем матэрыялаў Архіва знешняй палітыкі Расійскай Федэрацыі, некаторыя з якіх уводзяцца ў навуковы зварот упершыню.

Характарызуючы даследаванасць праблемы, гісторык, напрыклад, сцвярджае: "Працы, прысвечаныя розным аспектам дадзенай тэмы, выходзілі, за рэдкім выключэннем, у Савецкім Саюзе ды Польшчы, замежныя публікацыі былі адзінкавымі", пасля чаго прыводзіць у якасці "адной з першых публікацый на тэму беларускага Адраджэння"…

кнігу Я. Канчара. Д. Караткова сфармулявала цікавае азначэнне: “савецкія даследчыкі, выхадцы з беларускага руху”, залічыўшы сюды Ф. Турука, У. Ігнатоўскага, З. Жылуновіча і М. Доўнара-Запольскага, затое ў савецкай пасляваеннай гістарыяграфіі згаданы толькі некалькі прозвішчаў – Н. Каменскай, С. Ісачэнка, П. Альшанскага ды В. Круталевіча (Короткова, с. 10–12).

Але, каб аб’ектыўна ацаніць гэты гістарыяграфічны падмурак працы Д. Каратковай, трэба памятаць спецыфічныя ўмовы, у якіх апошнім часам існуе расійскае беларусазнаўства, асабліва ў дадзенай тэматычнай нішы. Усё ж такі, пры ўсім вонкавым падабенстве, беларуская і расійская гістарычныя навукі за апошнія дзесяцігоддзі пабудавалі дзве вельмі розныя сістэмы каардынат, а Д. Караткова здолела акумуляваць увесь той станоўчы досвед, які быў закладзены яе папярэднікамі з ліку расійскіх гісторыкаў, прыцягнуўшы найбольш істотныя працы даследчыкаў з Беларусі ды Польшчы.

У выпадку з беларускай даследчыцай мы бачым зусім супрацьлеглы прыклад. А. Бароўская для сваёй кнігі выкарыстала матэрыялы таго самага Архіва знешняй палітыкі Расійскай Федэрацыі, архіва Расійскай акадэміі навук, Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі, Расійскага дзяржаўнага архіва сацыяльна-палітычнай гісторыі, Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва, бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, Дзяржаўных архіваў Гродзенскай ды Мінскай абласцей, НАРБ, БДАМЛМ, Архіва новых дакументаў, публічнай і нацыянальнай бібліятэк у Варшаве, архіва Польскай акадэміі навук. Яе агляд гістарыяграфіі праблемы – вельмі падрабязны ды грунтоўны, яна добра арыентуецца ў польскай літаратуры прадмета, звяртае ўвагу на тыя эвалюцыйныя змены, якія адбываліся ў поглядах беларускіх гісторыкаў цягам савецкага часу і аналізуе сённяшні стан даследаванасці пытання ў айчыннай навуцы, дае характарыстыку расійскай гістарыяграфіі.

Дарэчы, В. Бароўская змясціла ў працы разгорнуты агляд кандыдацкай дысертацыі маскоўскай калегі. Сярод іншага, гісторык звярнула ўвагу на тэзіс Д. Каратковай аб

тым, што БНР была палітычным творам, які паўстаў "з дазволу нямецкіх акупацыйных уладаў", праўда, адкрыта не палемізуючы з аўтарам. Затое яна аспрэчвае неабгрунтаванае, на яе думку, абвінавачванне А. Чарвякова "ў нежаданні браць адказнасць за падпісанне Прэлімінарнага мірнага дагавору", падкрэсліваючы, што "ні адзін з бакоў і не прадстаўляў БССР права ўдзельнічаць у падпісанні трактата як чацвёртай краіны" (Бароўская, с. 22).

Да выкладзенага спіса літаратуры, праўда, хацелася б яшчэ дадаць кандыдацкую працу Валерыя Цынкевіча, прысвечаную пытанням узаемадачыненняў паміж БССР і Польскай Рэспублікай у 1920-я гады[4]. Акрамя таго, аўтар фактычна пакінула па-за ўвагай украінскую гістарыяграфію Рыжскага міру[5]. Таксама незапатрабаваным стаў сюжэт, звязаны з супрацьстаяннем польскай і савецкай разведкі на мінскім этапе перамоваў[6]. Гэтыя, магчыма, не вельмі істотныя заўвагі, тым не менш, выразна дэманструюць, што "цэласная карціна падзей" нават на ўзроўні гістарыяграфічнага агляду – мэта амаль недасягальная, і тым больш не варта вызначаць яе ў якасці актуальнасці навуковай працы. І што, магчыма, больш істотна, – знаёміцца з крыніцай і літаратурай (г. зн. чытаць, згадваць у спісе) і выкарыстоўваць – рабіць на іх падставе арыгінальныя высновы, знаходзіць новыя сэнсы ўжо вядомых фактаў, – далёка не адно і тое ж.

4 Цынкевіч, В. Палітычныя ўзаемадачыненні паміж БССР і Польскай Рэспублікай у 1921–1929 гг.: дыс. ... канд. гіст. навук. Мінск, 2004.

5 Кобринська С. Ризький мир як завершальний етап боротьби (1917–1921 рр.) за утвердження української державності: автореф. дис. ... канд. юрид. наук. Київ, 1996; Гетьманчук М. Ризький мир: українсько-польські відносини періоду підготовки, підписання і ратифікації Ризького договору 1921 р. Львів, 1998; Галицька-Дідух Т. Східна Галичина і Ризька мирна конференція (1920–1921 рр.): автореф. дис. ... канд. іст. наук. Львів, 2001; Кавунник В. Ризький мир у дипломатичних документах урядів УНР і УСРР (серпень 1920 – березень 1921 років): дис. ... канд. іст. наук. Київ, 2014 ды інш.

6 Зданович А. Польский крест советской разведки. Польская линия в работе ВЧК-НКВД 1918–1938. Москва, 2017. С. 34–37.

Як жа выглядае сам змест гэтага завочнага дыялогу? Яшчэ на самым пачатку свайго даследавання В. Бароўская дае разгорнутае тлумачэнне дэфініцыі “беларускае пытанне”, якое яна разглядае як “комплекс дзяржаватворчых, тэрытарыяльных, нацыянальных, сацыяльна-эканамічных, культурных праблем, звязаных з лёсам, станаўленнем дзяржаўнасці і цэласнасці беларускіх зямель” і якое выступае “ў якасці элемента праблемнага поля міжнародных адносін” (Бароўская, с. 5). Пры гэтым іншае пытанне – што, уласна, лічыць “беларускімі землямі”, – застаецца без адказу.

У першым раздзеле працы Д. Караткова аналізуе, якім чынам беларускае пытанне стала міжнароднай праблемай, і звяртаецца да перыяду Першай сусветнай вайны (1914–1918). Праўда, амаль адразу аўтар выходзіць за вызначаныя храналагічныя рамкі ды нават вяртаецца ў пачатак XIX ст., абазначыўшы праблему як “Крыніцы канфлікту: ідэалагічная і палітычная барацьба ў краі ў 1800–1914 г.”. Д. Караткова неяк механічна ставіць знак роўнасці паміж “тэрыторыяй пражывання беларускага этнасу” ды паняццем “беларускія землі”, удакладняючы, што апошнія “з 1795 па 1917 г. … поўнасцю належалі Расійскай імперыі і разам з абласцямі сучаснай Літвы ўтваралі Паўночна-Заходні край Расіі” (Короткова, с. 7). Далей у гэтай жа частцы яна разглядае ўласна беларускія землі ў час Першай сусветнай вайны (жнівень 1914 – люты 1917) ды ўзаемасувязь паміж расійскай рэвалюцыяй і беларускім нацыянальным праектам.

Даследчыца шмат месца аддае апісанню Усебеларускага з’езда, адзначаючы на самым пачатку, што цяжка было чакаць ад беларускіх нацыянальных арганізацый, каб за такі кароткі час яны “здолелі стаць над паміж- ды ўнутрыпартыйнымі спрэчкамі, дасягнуўшы паразумення, і стварыць нацыянальны (ці хоць бы рэгіянальны) цэнтр” (Короткова, с. 53). Праўда, сама Д. Караткова далей паказвае, што гэты кампраміс быў магчымы, калі б не крокі мясцовых бальшавіцкіх уладаў. “У сувязі з тым, – падводзіць яна вынік разгону Усебеларускага з’езда, – што не атрымалася стварыць адзінае легітымнае нацыянальнае

прадстаўніцтва, якое магло б выступіць ад імя беларускага народа, асобныя плыні нацыянальнага руху цяпер вымушаны былі шукаць міжнароднае прызнанне з пазіцыі слабага і залежнага партнёра. Грамадскія настроі ў краі ў далейшым практычна перасталі ўплываць на ягоны лёс,ператварыўшы яго ў аб'ект вайсковых і дыпламатычных камбінацый больш моцных суседзяў, у тым ліку і тых, якія толькі што атрымалі незалежнасць" (Короткова, с. 59).

Заканчваецца раздзел параграфам, прысвечаным Брэсцкаму міру ды абвяшчэнню Беларускай Народнай Рэспублікі. "Поўнасцю расчараваўшыся ў бальшавіках, – робіць выснову гісторык, – беларускія нацыяналісты пачалі арыентавацца на немцаў, якія яшчэ ў 1915 г. прызналі права беларусаў на незалежнасць (у рамках кааліцыі з літоўцамі). На акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі была створана сетка беларускіх пачатковых школ, заснаваны дзве настаўніцкія семінарыі. Цярпіма адносіліся немцы і да выхаду беларускіх часопісаў, якія прапагандавалі ідэю незалежнасці Беларусі" (Короткова, с. 70).

У выніку гэткай пранямецкай палітыкі Рада БНР 24 сакавіка 1918 г. (гэтак у тэксце) абвясціла Беларусь незалежнай дзяржавай, што для "беларускіх дзеячоў усходняй арыентацыі… ператварылася ў акт нацыянальнай здрады". Наступствы гэтага кроку, паводле Д. Караткоевай, для беларускага руху сталі трагічнымі. Ён прывёў да дэлегітымізацыі рашэнняў Усебеларускага з'езда (які, паводле яе ж самой, легітымным не быў ад самага пачатку) і канчатковай страты Радай БНР падтрымкі з боку мясцовага насельніцтва (Короткова, с. 72–73).

Падобная выразная маргіналізацыя беларускага нацыянальнага руху, якая амаль поўнасцю пазбаўляе яго ўласнай гістарычнай суб'ектнасці, г. зн. магчымасці самастойна ўплываць на гістарычныя падзеі, у выніку становіцца калі не галоўнай ідэяй кнігі, дык, прынамсі, праходзіць праз яе чырвонай ніткай. Аўтар не хоча заўважаць ні дынамікі ў працэсах развіцця беларускага нацыянальнага культурнага праекта, ні выразнай змены ў ягонай ідэалогіі, ні нават паступовага пашырэння яе сярод уласна беларусаў. І нават той факт, што роўна праз стагоддзе

пасля разгляданых падзей Беларусь (а не “Белоруссия”, як у аўтара), існуе на палітычнай карце, а Савецкая Расія – не, нічога не даводзіць. *Vae victis!* – гора пераможаным!

Рэч у тым, што гэта Расія і Польшча – галоўныя ўдзельнікі канфлікту. Не выпадкова ўжо ў другім раздзеле Д. Караткова засяроджваецца на праблеме савецкай палітыкі буферызацыі, якую яна супрацьпастаўляе “польскаму федэралізму”, хоць і разглядае апошні як амаль поўны яе адпаведнік. Ад агульнага пытання “Адраджэнне Польскай дзяржавы як фактар савецкай знешняй палітыкі” яна пераходзіць да разгляду першага праекта Савецкай Беларусі, далей – да праекта “Літбел” і перамоваў з місіяй А. Венцкоўскага, апісання польска-беларускіх кантактаў на Парыжскай мірнай канферэнцыі ды заканчвае аналізам палітыкі Грамадзянскага кіравання польскімі землямі (менавіта так гучыць сам параграф, пры тым, што ў тэксце назва польскай адміністрацыйнай адзінкі падаецца ўжо дакладна – “Грамадзянскае кіраванне Усходнімі землямі”, гл.: Короткова, с. 121) ды спробы беларуска-польскага збліжэння вясной 1920 г.

Беларускаму чытачу будзе цікава даведацца, што “жыхарам Беларусі, вядомым сваёй апатычнасцю ў палітыцы, праект нацыянальнага ўтварэння савецкага тыпу падаваўся падазроным… Тым не менш Савецкая Беларуская рэспубліка была створана. Аднак яе існаванне было нядоўгім, нарастанне пагрозы з боку Польшчы запатрабавала яе аб’яднання з савецкай Літвой у адзіную рэспубліку. Акрамя ўсяго іншага, Літбел павінен быў стаць супрацьвагай польскай палітыкі аб’яднання вакол сабе ўсіх новых памежных з Расіяй рэспублік на падставе федэрацыі. Савецкая Расія вырашыла стварыць гэткую федэрацыю першай, што для яе было прасцей зрабіць, бо не патрабавала неабходнасці шукаць кампрамісу з нацыяналістычнымі сіламі…” (Короткова, с. 128–129).

Фактычна, па сапраўднаму навуковая дыскусія распачынаецца паміж аўтарамі толькі цяпер. Свой наступны раздзел Вольга Бароўская прысвяціла разгляду

беларускага пытання ў рамках неафіцыйных і афіцыйных савецка-польскіх перамоваў у лістападзе 1918 – верасні 1920 г., і па памерах гэты раздзел атрымаўся самым вялікім у кнізе. Ён складаецца з чатырох частак: “Палітыка савецкага і польскага бакоў адносна беларускіх земляў на пачатковым этапе савецка-польскіх перагавораў (лістапад 1918 г. – май 1919 г.)”, “Беларускае пытанне на белавежска-мікашэвіцкім этапе савецка-польскіх перагавораў (чэрвень – лістапад 1919 г.)”, “Спроба нармалізацыі ўзаемаадносін паміж Савецкай Расіяй і Польшчай на барысаўскім і баранавіцка-мінскім этапах перагавораў (снежань 1919 – 1920 г.)” і “Дыпламатычныя акцыі БНР у час савецка-польскіх перагавораў (лістапад 1918 г. – верасень 1920 г.)”.

Апісваючы дзве галоўныя палітычныя канцэпцыі адбудовы Рэчы Паспалітай – федэралісцкую ды інкарпарацыйную, В. Бароўская адзначае “раздвоенасць… непаслядоўнасць, а ў некаторых выпадках нелагічнасць” польскай грамадска-палітычнай думкі, якія адбівалася на польскай палітыцы адносна беларускіх земляў. Разам з тым яна заўважае, што паміж гэтымі напрамкамі “было шмат чаго агульнага”: ідэя стварэння моцнай і расквітнелай Польшчы з устойлівай, абараназдольнай мяжой на ўсходзе, пэўная узаемападпарадкаванасць з лозунгамі бальшавікоў аб праве нацый на самавызначэнне, маніпуляванне і заляцанне з беларускім нацыянальным рухам (Бароўская, с. 33–34).

У гэтым сэнсе палітыка бальшавікоў адносна беларускіх земляў падаецца аўтару больш лагічнай і паслядоўнай, хоць яна і была звязана з агульным курсам савецкай дзяржавы на рэалізацыю ідэі сусветнай рэвалюцыі, а само абвяшчэнне Савецкай Беларусі вынікала з планаў кіраўніцтва РСФСР па стварэнні на сваіх заходніх межах “буфернай” рэспублікі. В. Бароўская супрацьпастаўляе знешнепалітычную дзейнасць БССР, якую ацэньвае як несамастойную ды пасіўную, палітычнаму курсу кіраўніцтва ЛітБел, накіраванаму на тое, каб “прадставіць гэтае дзяржаўнае ўтварэнне ў выглядзе асобнага, самастойнага суб’екта міжнароднага права” (Бароўская, с. 34–35).

Больш за тое. Паводле гісторыка, паступова канцэпцыя сусветнай рэвалюцыі бальшавікоў трансфармуецца ў "рэвалюцыйную геапалітыку, у якой рэвалюцыйная складаючая выступала дамінантай успрыняцця прасторавапалітычных змен", а само кіраўніцтва знешнепалітычнага ведамства РСФСР і ўласна Г. В. Чычэрын ды А. А. Іофе (якога аўтар чамусьці называе Абрамам Адольфавічам) схіляліся да "ажыццяўлення рэальнай палітыкі, накіраванай на ўсталяванне міралюбівых узаемаадносін з суседнімі краінамі і іншымі дзяржавамі еўрапейскага кантынента" (Бароўская, с. 37). Тое, што менавіта вясной 1919 г. узнік Камінтэрн – міжнародная бальшавіцкая ўстанова, якая павінна была засяродзіцца менавіта на "экспарце" рэвалюцыі, а ўсе дамовы з буржуазнымі ўрадамі, паводле ідэалогіі расійскіх камуністаў, былі толькі часовай "перадышкай", аўтар пакідае без увагі.

Пасля знаёмства з гэтай часткай кнігі ўзнікае моцнае ўражанне, што аўтар кіруецца нейкім пачуццём унутранай самацэнзуры, якое робіць з яе апалагета савецкай дзяржаўнасці, нават насуперак тым матэрыялам і дакументам, якія яна сама ж і прыводзіць! Іншай незразумелай з'явай застаецца амаль поўнае ігнараванне гісторыкам палітычных крокаў польскіх кіроўных колаў па пошуку ўзаемнага кампрамісу з беларускімі нацыянальнымі асяродкамі ў пачатку і першай палове 1919 г., пра што, дарэчы, хоць бы часткова згадвае ў сваёй працы Д. Караткова! Перамовы Антона Луцкевіча, старшыні ўрада БНР, з польскім камісарам С. Іваноўскім у Горадні ў лютым 1919 г.; справа пераходу пад польскае камандаванне 1-га беларускага палка, які знаходзіўся да гэтага ў складзе літоўскага войска, у красавіку 1919 г.; місіі К. Цвіркі-Гадыцкага ды А. Смоліча ў Варшаву тады ж; арганізацыя і правядзенне беларускага з'езда Віленшчыны ды Гродзеншчы і г. д., і г. д.

Затое для В. Бароўскай не выклікае сумнення беларуская прысутнасць на гістарычнай сцэне. "Дыпламатычная дзейнасць БНР, – робіць яна выснову ў канцы раздзела, – аказвала значны ўплыў на ход савецка-польскіх перагавораў 1918–1921 гг. <…> Факт існавання беларускага

нацыянальнага руху і структур БНР, ажыццяўленне імі актыўных знешнепалітычных акцый улічваліся савецкім кіраўніцтвам пад час вырашэння спраў другога абвяшчэння ССРБ у ліпені 1920 г. Нельга не прызнаваць таго факта, што ўключэнне А. Р. Чарвякова ў склад расійска-ўкраінскай дэлегацыі падчас перагавораў у Рызе стала вынікам не толькі пэўных стратэгічных разлікаў савецкага боку, але і дыпламатычных мерапрыемстваў БНР" (Бароўская, с. 37).

Адразу пасля гэтага беларуская даследчыца звяртаецца да міжнароднага кантэксту польска-савецкай вайны. Трэці раздзел яе кнігі носіць назву "Беларускае пытанне ў палітыцы краін Антанты і ЗША ў 1918–1921 гг.", і ў ім разглядаюцца толькі дзве тэмы: "Беларускае пытанне на Парыжскай мірнай канферэнцыі: студзень – снежань 1919 г." і "Адносіны краін Антанты і ЗША да польска-савецкага канфлікту: студзень 1920 г. – сакавік 1921 г.". Тут трэба адзначыць, што аўтар устрымліваецца ад нейкіх адназначных высноваў у духу савецкай гістарыяграфіі і спрабуе даць вельмі ўзважаную, хоць, магчыма, і крыху павярхоўную ацэнку месца і ролі сусветных дзяржаў уласна ў вырашэнні савецка-польскага збройнага канфлікту.

Апошні па ліку, чацвёрты, раздзел працы В. Бароўскай названы "Беларускае пытанне на рыжскім этапе савецка-польскіх перагавораў: верасень 1920 г. – сакавік 1921 г." і ўключае чатыры асобныя параграфы: "Пытанне ўдзелу беларускіх прадстаўнікоў у працы мірнай савецка-польскай канферэнцыі"; "Працэс фарміравання беларускага ўчастка савецка-польскай мяжы"; "Дзейнасць Польска-расійска-ўкраінскай ваеннай узгадняльнай камісіі. Працэс стварэння і функцыянавання нейтральнай зоны" і "Юрыдычна-прававыя і фінансавыя аспекты савецка-польскіх перагавораў у Рызе". Гэта, без сумнення, найбольш цікавая, навукова абгрунтаваная і змястоўная частка, якая дэманструе глыбокія веды і даследчыцкі талент аўтара. Асаблівасць структуры кнігі Вольгі Бароўскай яшчэ і ў тым, што амаль кожны раздзел мае дадатак "Дакументы сведчаць", прычым яго памер павялічваецца

з набліжэннем да кульмінацыйнага моманту, якім і выступае канцавы этап савецка-польскіх перамоваў.

Трэці (і апошні) раздзел кнігі расійскага гісторыка носіць назву "Вырашальнае сутыкненне: Беларусь у польскіх і савецкіх знешнепалітычных планах у канцы 1919 – 1920 г." і змяшчае тры розныя па памеры параграфы: "Пад спудам: неабвешчаная вайна і спроба дамовіцца (снежань 1919 – ліпень 1920 г.); "Адраджэнне БССР і палітыка Крамля ў чэрвені – жніўні 1920 г." і "Рыжская мірная канферэнцыя (верасень 1920 – сакавік 1921 г.)". У параўнанні з беларускай калегай яна менш увагі аддае ўласна дыпламатычным працэсам, а больш засяроджваецца на палітычных наступствах заключэння міру для абодвух ваяўнічых бакоў. Акрамя таго, Д. Караткова ўключыла ў сваю працу ў якасці асобнага дадатку "Біяграфічную даведку", якая можа быць цікавай для расійскага чытача.

Галоўная выснова, да якой прыходзіць аўтар, падсумоўваючы вынікі савецка-польскай вайны і падпісання мірнай дамовы ў Рызе, гучыць амаль як перафразаванне думкі Барыса Савінкава, працытаванай на пачатку рэцэнзіі: "Гэтым самым быў пакладзены пачатак працэсу суверэнізацыі беларускай нацыі, які цягнуўся семдзесят гадоў і завяршыўся ў снежні 1991 г. стварэннем незалежнай Рэспублікі Беларусь… Рэспубліка, утварэнне якой для яе творцаў было выключна тактычным крокам, аказалася даволі жыццяздольнай, паколькі, хоць дзяржаўнасць і была выдадзена Беларусі "авансам", яна мела ўнутраныя падставы як у эканамічным, так і ў этнічным адзінстве рэгіёна" (Короткова, с. 175, 182).

# Кніга дзесяцігоддзя*

## Зміцер Дрозд

Менавіта такое вызначэнне я даў бы гэтай кнізе. І не толькі таму, што яе храналагічныя рамкі – роўна дзесяцігоддзе. Думаю, што не будзе перабольшаннем сказаць, што за апошнія гадоў дзесяць (а то і больш) у Беларусі не выдавалася нічога падобнага.

Гэта разумееш, як толькі бярэш у рукі зборнік дакументаў "Улада і грамадства: БССР у 1929–1939 гады: у дакументах Сакрэтнага аддзела / Асобага сектара ЦК КП(б)Б", што выйшаў у 2019 г. Выданне не толькі выглядае салідна (цвёрдая вокладка, фармат 200 × 280 мм, 1120 старонак), але і не расчароўвае сваім зместам. У кнізе апублікавана 803 дакументы з фонду ЦК КП(б)Б, які захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Да зняцця грыфа "Совершенно секретно" і адкрыцця доступу да іх у архіве большасць з гэтых дакументаў бачылі некалькі чалавек: высокі чын з міністэрства, які адправіў дакумент, ды сакратар ЦК камуністычнай партыі Беларусі. На большасці стаяць штампы «Совершенно секретно. Серия "К"… Подлежит возврату в Секретный отдел ЦК КП(б)Б», часта дадаецца пазнака "Только лично".

Яшчэ больш уражвае той факт, што гэтая праца выканана не Інстытутам гісторыі і нават не калектывам аўтараў, а адным чалавекам. І тут мы зноў павінны выкарыстоўваць часавы паказчык "дзесяцігоддзя". Гісторык, кандыдат гістарычных навук, прафесар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Ірына Раманава аддала гэтай

* Улада і грамадства: БССР у 1929–1939 гады: у дакументах Сакрэтнага аддзела / Асобага сектара ЦК КП(б)Б / складальнік, аўтар прадмовы ІРЫНА РАМАНАВА. Вільня: Логвінаў, 2019. 1120 с.

капітальнай кнізе два дзесяцігоддзі – праца над ёй пачалася яшчэ ў канцы XX ст.

У "Прадмове" І. Раманава дае такую характарыстыку цалкам прагледжанаму ёю фонду: "Дакументы Сакрэтнага аддзела (1923–1933 гг.) і Асобага сектара ЦК КП(б)Б (1934–1941) у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь знаходзіліся ў партыйным фондзе (Ф. 4П), але былі выдзелены ў асобны вопіс (вопіс № 21). У дадзеным вопісе НАРБ па міжваенным перыядзе захавалася 2618 спраў, з іх па перыядзе 1929–1939 – 1754" (3). Гэты вопіс у 2011 г. быў уключаны ў агульны вопіс № 1, з пераменай нумарацыі спраў. Складальніцы пад час працы над зборнікам большасць з гэтых амаль 2000 спраў давялося заказваць, вывучаць, перапісваць нумарацыю спраў і спраўджваць набраны тэкст 2-3 разы. Пры гэтым зборнік не складзены па прынцыпе "ўсё запар". У яго ўвайшлі толькі найбольш каштоўныя і цікавыя дакументы, што склала невялікую частку з усяго набранага. Аб'ём праведзенай працы ўражвае, бо толькі імянны паказальнік на чатыры паласы займае 20 старонак дробным шрыфтам.

Большасць дакументаў апублікавана цалкам. Усе купюры маюць каментары, якія коратка характарызуюць іх змест. Гэта (не кажучы пра аб'ём) выгадна адрознівае названую кнігу ад зборніка "НКВД в Западной Беларуси: сентябрь – декабрь 1939 г."[1], які выйшаў у гэтым жа годзе: у ім купюры ніяк не тлумачацца і, больш за тое, пасля аналізу іх зместу можна прыйсці да высновы, што зроблены яны па ідэалагічных прычынах[2]. Кожны пропуск у дакументах,

1 НКВД в Западной Беларуси: сентябрь – декабрь 1939 г.: документы и материалы / сост.: В. Д. Селеменев, А. Р. Дюков (руководители), А. Ф. Великий, Л. Д. Жуковская, Ю. В. Зверев, Н. В. Кириллова, Т. И. Лин, Ю. В. Матусевич, М. Н. Скоморощенко; ред. колл.: Д. Г. Воропаев, А. К. Демянюк, А. Р. Дюков, В. И. Кураш, В. Д. Селеменев, М. Н. Скоморощенко; рец. доктор ист. наук О. Б. Мозохин. Минск – Москва: Фонд "Историческая память", 2019. 384 с.

2 Дрозд Д. Рецензия на сборник документов "НКВД в Западной Беларуси. Сентябрь – декабрь 1939 г." // Осведомительной сетью выявлены. 2-я танковая бригада в Западной Беларуси по спецсообщениям особого отдела НКВД: сб. документов и материалов. Серия: Архивы КГБ / авт.-сост., ред., коммент., доп. матер. – Д. Дрозд. Вильнюс: Белорусский документационный центр, 2020. 204 с. С. 127–134.

апублікаваных І. Раманавай, растлумачаны: "Апушчана інфармацыя па Украіне, Ніжняволжскаму краю, Заходняй вобласці", "Апушчана інфармацыя па Заходняй Сібіры; дадзеныя па арыштах, здзейсненых органамі АДПУ па СССР за крадзеж і незаконны гандаль хлебам" (110).

Складальніца адзначае, што праз абмежаваны аб'ём выдання ёй давялося адмовіцца ад падрабязнага каментавання дакументаў. Зробленыя каментары паказваюць толькі выхадныя звесткі і важныя асаблівасці дакумента (копія, падкрэсліванне, выкрэсліванне, асаблівыя адзнакі, колер алоўка, табліца і г. д.). Суправаджальныя не публікуюцца асобна, а ўваходзяць у склад самога дакумента.

Несумненна, навуковае каментаванне кожнага з дакументаў сур'ёзна павысіла б навуковую вагу гэтай працы, спрасціла б жыццё чытачоў і ў той жа час значна павялічыла б аб'ём і без таго немаленькага выдання. Да такіх жа нязначных недахопаў папяровай версіі можна аднесці адсутнасць геаграфічнага паказальніка. Але пры запланаваным аўтарам электронным выданні традыцыйныя паказальнікі ўвогуле страчваюць сэнс. Пры гэтым трэба адзначыць, што Ірына Раманава выканала вялікую і карпатлівую працу пры складанні імяннога паказніка. Ён зроблены ў пашыраным варыянце, г.зн. паўсюль дзе магчыма складальніца спрабавала ідэнтыфікаваць згаданых у дакументах людзей, каб пад адным прозвішчам не сустракаліся розныя асобы[3]. Гэта істотна спрашчае пошук канкрэтнага чалавека сярод іншых з такім жа прозвішчам. Праўда, падобная ідэнтыфікацыя не заўсёды магчымая, бо ў большасці дакументаў даецца толькі прозвішча без дадатковай інфармацыі.

У аснову апублікаванага корпуса дакументаў ляглі "пастановы і цыркуляры ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б; рэзалюцыі пленумаў; выпіскі з пратаколаў пасяджэнняў Бюро і сакратарыята ЦК, парткалегіі ЦКК, пасяджэнняў акружкамаў, гаркамаў, райкамаў; дакладныя запіскі раённых, абласных,

[3] Напрыклад на с. 1085: Казлоў 415, 462, 467, 557, 561, 628, 836, 969; Казлоў А. 265; Казлоў Георгій Кірылавіч 1057, 1058; Казлоў Дзмітрый 449; Казлоў Іван 433, 434, 909; Казлоў Мікалай Сямёнавіч 810; Казлоў П. 1058; Казлоў Савасцян 956; Казлоў Сямён 140; Казлоў Фама 660; Казлоў Якаў 956.

акружных камітэтаў партыі, а таксама дакладныя запіскі ЦК КП(б)Б у ЦК УсеКП(б), перапіска ЦК КП(б)Б як з Масквой, так і з мясцовымі рэгіянальнымі структурамі; пратаколы пасяджэнняў мабілізацыйнай тройкі пры ЦК КП(б)Б; матэрыялы кантрольнай камісіі ЦК; даклады рознага роду камісій, як прысланых з Масквы для вывучэння абставін на Беларусі, так і пасланых Мінскам на месцы; перапіска па асабістым складзе; матэрыялы ЦВК і СНК, наркаматаў (НКЗ, НКЮ, НКА і інш.) і ведамстваў (у тым ліку суда, пракуратуры, міліцыі); дакументы аб мерапрыемствах па ўмацаванні мяжы і пагранічных раёнаў, аб мабілізацыйна-абароннай працы, па БВА; агляды эканамічнага стану і палітычнага становішча; дакладныя запіскі ДПУ-НКУС, а таксама ЦК КП(б)Б аб працы органаў НКУС, паказанні арыштаваных органамі НКУС; лісты, заявы і скаргі грамадзян у газеты, у ЦК КП(б)Б і дакументы да іх разгляду, а таксама дакументы па сакрэтным справаводстве і акты на знішчэнне сакрэтных дакументаў і інш.” (3–4).

Такі падбор самых разнастайных дакументаў дазваляе атрымаць поўную карціну пра рэальнае становішча ў БССР 1929–1939 г. Гэтая рэальнасць часта не толькі перакрэслівае віртуальную, створаную ў савецкіх СМІ, але і паказвае схаваныя механізмы многіх з’яў, “народных волевыяўленняў”, якія нам вядомыя толькі па сваёй “надводнай частцы”. Напрыклад, як ішоў збор “добраахвотных” подпісаў пад лістом таварышу Сталіну або як правяраліся, зацвярджаліся або адхіляліся кандыдаты ў Саветы. У дакладных запісках з НКУС гучаць сотні галасоў нашых суайчыннікаў, сабраных і запісаных сакрэтнымі інфарматарамі і агентамі. І гэта рэальнае стаўленне людзей да савецкай улады: «Работница Орловская при этом заявила: “Вчера одна женщина утопилась. Скоро я тоже утоплюсь, ибо один выход. Зарабатываю 70–80 руб. в месяц. Все дорого. У меня четверо детей, и голодные, и холодные. Я не могу на них смотреть, и чем мне мучиться, на них глядя, я решила лучше покончить с собой. Вот до чего довела Советская власть”.

Рабочий войлочной фабрики Волчок говорил: “Пусть придет холера на наших руководителей за такие порядки. Работать уже нет сил, издохнешь у станка”» (498).

«Вечером 2.X–39 г. единоличник деревни Пастовичи КАЗЯБО Александр среди единоличников говорил: “Все, что говорят докладчики на собраниях – это вранье. Никаких достижений в деревне мы не имеем. Скоро Германия вместе с Италией разобьет Францию и Англию, а потом пойдет войной против Советского Союза и уничтожит Советскую власть, так как наши войска с немцами не способны воевать. Нашим красноармейцам не за что защищать Советский Союз, где разорили их дома, семьи находятся без крова, отобрали землю, даже негде сена для коровы накосить. Я на выборы раньше не ходил и теперь в предстоящих выборах не буду участвовать, так как в Советском Союзе мне не за что голосовать”» (483–484).

Ірына Раманава адзначае: «Дакладныя запіскі, інфармацыйныя зводкі і агляды, тэматычныя даведкі, што прадстаўляліся вузкаму службоваму колу вышэйшага дзяржаўнага і партыйнага кіраўніцтва, рэгулярна збіраліся ў маштабах усёй БССР і шырэй – СССР. Улада была зацікаўлена ў маніторынгу грамадскіх настрояў і сама ініцыявала паток такіх дакументаў. “Маніторынгам” займаліся і органы ДПУ-НКУС, і камітэты партыі, і палітаддзелы МТС, і заезджыя чыноўнікі, і іншыя. Прадстаўленне аднатыптных дакладных у адказ на запыт цэнтра з нагоды канкрэтных падзей дазваляе кваліфікаваць іх як масавую крыніцу, што надае ім асаблівую навуковую каштоўнасць. Перад намі сапраўды ўнікальныя дакументы, якія, нягледзячы на тое што іх стварэнне было ініцыявана, адрозніваюцца вялікай дакладнасцю і прадстаўляюць панараму таго, што адбывалася на лакальным узроўні. Натуральна, у інфармацыі аб падзеях і настроях насельніцтва тлумачэнні і ацэнка насілі аднабаковы, зададзены зверху характар (усё зводзілася да варожай дзейнасці кулакоў, антысавецкіх, контррэвалюцыйных сілаў), але самі зводкі дазваляюць нам пачуць голас “маленькіх людзей” і даюць уяўленне аб іх рэальным становішчы, аб ацэнцы імі таго, што адбывалася» (4).

І гэтыя галасы маленькіх людзей, сабраныя ў разнастайных дакладных запісках, сёння ўражваюць не менш, чым “паліфанічная проза” кніг нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч. Яны абвяргаюць штампы пра ўсенародную любоў насельніцтва да бальшавікоў і адсутнасць супраціву,

тлумачаць ход многіх гістарычных падзей. Напрыклад, катастрафічнае становішча Чырвонай Арміі ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны, калі мільёны грамадзян здаліся ў палон або дэзерціравалі. У апублікаваных дакументах мы неаднаразова чытаем: хутчэй бы вайна, каб японцы, палякі або немцы знішчылі ўладу бальшавікоў. Сотнямі галасоў пацвярджаецца дзяленне грамадства на “мы” (народ) і “яны” (улада). На разгляданае дзесяцігоддзе прыпадае самая крывавая вайна паміж двума гэтымі сіламі. Яна ішла ў кожным доме, вёсцы, цэху, арганізацыі…

Пасля дзесяцігоддзя савецкай улады ў БССР далёка не ўсіх атрымалася абалваніць бальшавіцкай прапагандай. Людзі не верылі ўладзе, не верылі газетам: “Что же ваша лишняя газетная и журнальная брехня о коллективах, если этого нигде нет, чтобы написанное в газетах проводилось в жизнь местными организациями. Вот за это и не любят крестьяне выписывать газеты, что они брешут то, чего не видят сотни и тысячи темных масс. Товарищи, вы найдете из сотни 10 крестьян, которые только будут одобрять районные и окружные руководящие органы, а остальные, как мне известно, относят все даже к худшему, чем при старом времени жилось крестьянам” (17). “Это не народная власть, а банда, которая все делает без всяких законов, берет, дерет, что у кого видит. Так дальше жить нельзя, одно из 2-х: или наша гибель, или перемена власти” (79) і да т. п.

Улада хлусіла, не бачыла рэальнага становішча народа. Мы ведаем, да чаго ўрэшце гэта прывяло, калі вялікія масы адмовіліся абараняць уладу і сустракалі акупантаў як вызваліцеляў. Такім чынам, названы зборнік дакументаў будзе карысны палітыкам і прадстаўнікам улады як захаваны вопыт цэлага дзесяцігоддзя гвалту над народам.

Складальніца не толькі публікуе асобныя дакументы, але часта звязвае іх у асобныя блокі або мінідаследаванні ў рамках усяго корпуса дакументаў. Мы можам прасачыць ход пэўнай кампаніі, убачыць статыстыку ў яе пачатку і ў канцы, рэакцыю на яе народных мас. Усе дакументы адсартаваныя па шасці тэматычных раздзелах, у якіх вытрымліваецца храналагічны парадак:

I. Вёска: супрацьстаянне ўлады і сялянства (321 дакумент);

II. Горад: структурызацыя і рэгламентацыя жыцця гараджан (68 дакументаў);

III. Нацыянальныя меншасці і ўлада (40 дакументаў);

IV. Рэлігія: вернікі і ўлада (36 дакументаў);

V. Улада і культура (143 дакументы);

VI. Рэпрэсіі: ад адрасных да масавых (196 дакументаў).

Тут назіраецца некаторая нераўнамернасць раздзелаў, і адна тэма вёскі складае больш за трэць зборніка (470 старонак). Выкажу здагадку, што гэта выклікана асабістай цікавасцю даследчыцы да пэўнай тэматыкі. Магчыма, мела сэнс стварыць асобны раздзел, які ілюстраваў бы ініцыяванне, правядзенне і кантроль дзяржавай розных кампаній (выбары, перапіс насельніцтва, абмеркаванні ліста Сталіну або падрыхтоўка Канстытуцыі), агульных як для вёскі, так і для горада. Тым больш што І. Раманава згадвае пра такія кампаніі: «Дадзены зборнік утрымлівае цэлы шэраг дакладных такога роду з месцаў з нагоды правядзення розных кампаній, напрыклад, пры прапрацоўцы закрытага ліста “Урокі падзей, звязаных са зладзейскім забойствам Кірава” (дак. I: 168, 174; II: 31, 33), пры зборы подпісаў пад “Лістом т. Сталіну ад беларускага народа” (дак. I: 202–204). Значную колькасць такога роду дакументаў даў насычаны на падзеі 1937 г.: дакладныя аб настроях вакол правядзення Усесаюзнага перапісу насельніцтва (дак. I: 218–220, 226, 227, 252; IV: 11–12), вялікай колькасці сходаў і мітынгаў з нагоды паказальных судоў у Маскве над паралельным трацкісцкім цэнтрам (дак. VI: 37, 42), над Тухачэўскім, Якірам, Убарэвічам (дак. VI: 53, 54), прыняцце новай Канстытуцыі БССР (дак. I: 201, 205, 206), падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Савет (дак. I: 270–274), самі выбары (дак. I: 275–277), правядзенне падпіскі на заём (дак. I: 208, 210, 211) і інш.» (4).

Унікальнасць апублікаваных дакументаў у тым, што многія арыгіналы, якія знаходзяцца ў архівах арганізацый-адрасантаў, якія іх стварылі (КДБ, МУС, МА і г. д.), да гэтага часу недаступныя даследчыкам. У сувязі з гэтым адзначу раздзел “Рэпрэсіі: ад адрасных ды масавых”, дзе ўпершыню апублікаваны дакументы, якія істотна ўзбагацяць нашы веды пра сталінскі тэрор.

Напрыклад, тут ёсць інфармацыя пра асаблівы корпус, створаны ўнутры турмы НКУС у Менску, дзе ўтрымліваліся

арыштанты, ужо прысуджаныя да расстрэлу. Ад іх чэкісты дамагаліся паказанняў на сотні ні ў чым не вінаватых грамадзян: «По договоренности с НАСЕДКИНЫМ бывш. нач. 3 отдела НКВД БССР ГЕПШТЕЙН на лиц, осужденных по 1-й категории составлял особый список для оставления на неизвестное время, после чего лица, приговоренные по вышеуказанной категории, переводились в специальный корпус тюрьмы НКВД БССР, где подвергались систематическому избиению, истязанию и другим пыткам. В связи с тем к моменту получения приказа Наркома Внутренних Дел СССР тов. БЕРИЯ, запрещающий приводить в исполнение решения Двойки и Тройки, остались невыполненными решения на 109 человек» (1005). Або: «Вследствие вышеизложенных физических и садистских мер воздействия на арестованных, из акта от 10.V–1939 года обследования показаний, полученных в Особом Корпусе от арестованных уже приговоренных к ВМН и оставленных ГЕПШТЕЙНОМ, видно, что ГЕПШТЕЙН этим преследовал цель, чтобы от каждого арестованного получить показаний как можно больше, на большое количество людей, что и делалось. К примеру, из проверенных допрошенных арестованных в Особом корпусе – 38 человек (которые дали показания уже после приговора к ВМН), дали показания на 3489 человек, из них – ЮЗЕФОВИЧ С. И. дал показания на 183 человека, ШНЕЙДЕР Я. А. – на 193 человека, ТАРАШКЕВИЧ Б. А. – на 249 человека, СПОРИХИН – на 241 человека, ЖИЛИНСКИЙ Ф. Ф. – на 244 человека и т. д.» (1066).

Пра расстрэл вязняў ужо пасля загаду з Масквы наконт забароны прывядзення ў выкананне прысудаў да ВМП: «Начальник Витебского Областного Управления НКВД, капитан гос. безопасности РЯДНОВ 2 декабря 1938 г. привел в исполнение приговора Тройки к ВМН на 25 человек, причем акты о приведении приговоров в исполнение оформил задним числом, т. е. 22 ноября 1938 г., чем РЯДНОВ совершил подлог» (995). «В январе м-це 1939 г. была арестована и предана суду ВТ группа работников НКВД БССР: пом. наркома Внутренних дел БССР СТОЯНОВСКИЙ, нач-к 1-го Спецотдела НКВД БССР РОЗКИН, нач-к Могилевского Облотдела НКВД ЯГОДКИН, нач-к Полесского

Облотдела КАУФМАН, нач. Витебского Облотдела НКВД РЯДНОВ, его заместитель ВЛАСОВ и нач. 3-го отд. Витебского Обл. отдела НКВД ЛЕВИН. Указанные лица после получения решения ЦК ВКП(б) и СНК СССР от 17.Х1–38 и приказа НКВД СССР за №00762 от 26.Х1–38 г. расстреляли 371 чел., решения в отношении которых были отменены и дела подлежали доследованию» (1055).

Аб прымяненні масавых катаванняў, напрыклад "парилок": «По распоряжению ТАРАКАНОВА в камере, рассчитанной на содержание 7–8 человек, содержалось до 70 человек (так называемая "парилка"), где арестованные могли только стоять, многие впадали в обморочное состояние, но приводились в чувство и вновь помещались в эту же камеру, пока не давали следствию требуемых показаний с вымышленными признаниями своей контрреволюционной деятельности. В 1938 г. в результате такого содержания умерло 23 человека следственных заключенных» (1043) і г. д.

Увядзенне ў навуковы зварот сотняў апублікаваных упершыню дакументаў, якія цыркулявалі ў самых высокіх колах савецкай улады ў БССР толькі для сваіх і былі доўгі час зусім недаступнымі для гісторыкаў, безумоўна, стане салідным падмуркам для дзясяткаў тэматычных даследаванняў. Тое, што тэмы рэпрэсій, калектывізацыі, індустрыялізацыі, увогуле эфектыўнасці таварыша Сталіна "як менеджара" і да т. п. сёння знаходзяцца ў цэнтры ўвагі не толькі навукоўцаў, але і грамадскасці, робіць зборнік "Улада і грамадства: БССР у 1929–1939 гады" неабходным і для сотняў аўтараў, што пішуць на гэтыя тэмы. Аб'ектыўная рэальнасць, адлюстраваная ў гэтых дакументах, здольная разбурыць многія камуністычныя штампы. Напрыклад, што "пры Сталіне быў парадак". Развязаная ім грамадзянская вайна выклікала рост злачыннасці, які выліўся ў сапраўдны разгул бандытызму. Супрацьстаянне ў вёсцы суправаджалася ўзброенай барацьбой з савецкай уладай, якую ўвасаблялі сельскія актывісты, старшыні і работнікі калгасаў і сельсаветаў, зборшчыкі падаткаў, селькоры, што заканчвалася шматлікімі забойствамі і раненнямі. Сёння, калі сталіністы і камуністы прагнуць рэваншу, вядуць псеўданавуковую прапагандысцкую працу, у тым ліку накіраваную супраць

прызнання месцаў масавых расстрэлаў і пахаванняў ахвяр НКУС Курапатаў і Катыні, зборнік дакументаў гэтага перыяду мае высокае грамадска-палітычнае значэнне.

Праведзеная прафесарам І. Раманавай праца мае вялікае значэнне не толькі ў навуковым і грамадска-палітычным сэнсе, але і ў адукацыйна-папулярызацыйным. За апошнія дзесяцігоддзі ў Беларусі стала амаль аксіёмай фраза: “Архівы закрытыя!”. Гэта тычыцца толькі ведамасных архіваў КДБ, МУС, Міністэрства абароны і інш. Але названыя міністэрствы і ведамствы рэгулярна давалі справаздачы аб сваёй працы сакратару ЦК КП(б) Беларусі. Да гэтага часу ўсе гэтыя дакументы былі мала вядомыя даследчыкам. Пра гэта казаў на прысвечаным тэме сталінскіх рэпрэсій і Курапатаў “круглым стале” былы дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук Уладзімір Адамушка: «Збіраючыся на гэты “круглы стол”, я правёў маніторынг у Нацыянальным архіве і паглядзеў, хто працаваў па гэтай тэме. Акрамя нябожчыка прафесара Платонава, вашага пакорлівага слугі і яшчэ двух-трох чалавек, там ніхто ў апошнія гады не быў. А матэрыялы ў гэтым архіве, паверце, не менш цікавыя, чым у архівах спецслужбаў. Ідзіце, вывучайце. Але перш чым крытыкаваць гэтыя крыніцы, з імі трэба пазнаёміцца”[4]. Сярод тых “двух-трох чалавек” у большасці спраў на аркушах выкарыстання, без сумневу, ёсць подпіс Ірыны Раманавай. А кніга “Улада і грамадства: БССР у 1929–1939 гады: у дакументах Сакрэтнага аддзела / Асобага сектара ЦК КП(б)Б” выступае доказам, як шмат можа зрабіць нават адзін чалавек, калі ён будзе дзесяцігоддзі мэтанакіравана працаваць і рухацца да вызначанай мэты. Колькі часу цяпер спатрэбіцца нам, гісторыкам, каб вывучыць, асэнсаваць і ўвасобіць гэтыя веды ў сваіх навуковых і публіцыстычных артыкулах?

[4] История должна нас объединять [Электронный ресурс] // СБ Беларусь сегодня. 28 февраля 2017. Режим доступа: https://www.sb.by/articles/istoriya-dolzhna-nas-obedinyat.html. Дата доступа: 13.04.2020.

# Марш жыцця даўгінаўскіх яўрэяў*

**Аляксей Братачкін**

Кніга Іны Герасімавай праз год пасля выхаду ў Маскве была асабіста прэзентавана аўтаркай у Беларусі, але, на жаль, інфармацыі пра яе не так і шмат, а выданне заслугоўвае ўвагі шырокага кола чытачоў.

Спачатку варта сцісла сказаць пра аўтарку, дзякуючы грамадзянскай актыўнасці якой мы не толькі можам чытаць гэтую кнігу, але і маем інфармацыю пра гісторыю яўрэяў Беларусі з іншых яе кніг і артыкулаў. У Мінску ў 2002 г. з'явіўся Музей гісторыі і культуры яўрэяў, дырэктаркай якога доўгі час была Іна Герасімава.

У адным з інтэрв'ю яна апісвае свой даследчы шлях, які дэманструе і тое, як даследаванні Халакосту і яўрэйскай гісторыі сталі развівацца пасля распаду СССР у яго былых частках, у тым ліку і ў Беларусі[1] .

Атрымаўшы адукацыю мастацтвазнаўцы, а да гэтага магчымасць актыўнага ўдзелу ў жыцці яўрэйскіх таварыстваў, легалізаваным пасля 1991 г., І. Герасімава змяніла сваю кар'еру, захапіўшыся яўрэйскай гісторыяй і культурай. Стажыроўка ў Ерусалімскім універсітэце, наведанне лекцый прадстаўнікоў Хайфскага ўніверсітэта, якія прыязджалі на пачатку 1990-х г. у Маскву, і праца ў Ізраільскім культурна-інфармацыйным цэнтры ў Мінску далі магчымасць для камунікацыі і падтрымкі яе ідэй. Некалькі

* ГЕРАСИМОВА, ИННА. Марш жизни. Как спасали долгиновских евреев. Москва: АСТ: CORPUS, 2016. 352 с.

[1] Герасимова И. “Я думаю, что я неплохо знаю еврейскую Беларусь”. Интервью газете “Авив” [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://aviv.by/people/inna-gerasimova-dumayu-chto-ya-neplokho-z/. Дата доступа: 18.02.2020.

гадоў І. Герасімава ўзначальвала фонд "Халакост" у Беларусі і была членам кіраўніцтва яўрэйскай грамады.

Абараніўшы ў 1996 г. дысертацыю, прысвечаную гісторыі яўрэйскай адукацыі ў Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст., даследчыца і далей стала займацца адкрыццём яўрэйскай Беларусі і яе страчанай гісторыі. Так, з інтэнсіўнай працы ўзнікла ідэя абавязку памяці і ідэя стварэння першага яўрэйскага музея ў Беларусі. Музей, адкрыты ў 2002 г., працуе і цяпер. У 2008 г. Іна Герасімава была адзначана спецыяльным дыпломам Інстытута Катастрофы і Гераічнасці яўрэйскага народа Яд ва-Шэм (Ізраіль), стала членам кіраўніцтва Яўрэйскага гістарычнага інстытута ў Польшчы. З 2012 г. жыве ў Германіі і працягвае актыўна займацца гістарычнымі даследаваннямі яўрэйскай гісторыі. Яна рэдактар шасці выданняў зборнікаў "Яўрэі Беларусі. Гісторыя і культура", у якіх распавядаецца пра доўгую гісторыю яўрэйскай грамады ў краіне.

Кніга "Марш жыцця. Як ратавалі даўгінаўскіх яўрэяў" можа быць прачытана з розных перспектыў, як і ўся гісторыя Другой сусветнай вайны. Вельмі важна знайсці новы сюжэт, новую гісторыю, праз якую можна было б расказаць пра тую эпоху. Такім новым сюжэтам робіцца неверагодная і малавядомая гісторыя, што адбылася ў перыяд акупацыі і вайны паміж Савецкім Саюзам і нацысцкай Германіяй у 1941–1945 г. Калі каротка – гэта ўнікальная гісторыя ратавання ў 1942 г. і выхаду з акупаванай нацыстамі тэрыторыі Беларусі вялікай групы беларускіх яўрэяў (больш за 200 чалавек) у цэнтр СССР, у тыл. Загад пра гэта быў аддадзены камандаваннем партызанскага атрада "Мсцівец", а выконваў загад Мікалай Кісялёў, камуніст і партызан, чырвонаармеец, які на пачатку вайны трапіў у палон і ўцёк адтуль.

Праца складаецца з 10 невялікіх частак, у кожнай ёсць свая кампазіцыя і падымаецца тая ці іншая праблема, што паказвае розныя бакі гісторыі вайны, у якую былі ўцягнуты людзі, што жылі ў 40-я гады XX ст. Яны павінны былі прымаць рашэнні, клапаціцца пра сваіх блізкіх і пра сябе, а таксама дэманстраваць тое, што звычайна завуць патрыятызмам і грамадзянскім абавязкам сумлення. Наколькі гэта адпавядала рэчаіснасці?

Аўтар кнігі пачынае яе з пытання, важнага для разумення ўсяго кантэксту: што адбывалася з яўрэямі ў занятай нацыстамі з лета 1941 г. савецкай Беларусі і якім было стаўленне мясцовага насельніцтва, беларусаў, да яўрэяў? Яна піша пра тое, што гэтае пытанне, асабліва яго першая частка, доўга не абмяркоўвалася ў Савецкім Саюзе і толькі пачынае публічна прагаворвацца ў постсавецкай Беларусі. Герасімава адзначае, што аповед пра Халакост спецыфічна ўбудаваны ў сённяшні гістарычны наратыў, прыняты ў якасці афіцыйнага ў Беларусі – трагедыя яўрэяў зліваецца з трагедыяй вайны і не вылучаецца ў якасці асобнай тэмы аналізу генацыду па этнічнай прыкмеце.

У першай частцы кнігі падаецца статыстыка жыцця яўрэяў у даваеннай Беларусі і апісваюцца праблемы падліку колькасці ахвяр сярод яўрэйскага насельніцтва ў перыяд Халакосту. Карціны раптоўнага пачатку вайны, імклівай акупацыі і немагчымасці эвакуацыі дапаўняюцца асабістымі сведчаннямі тых, хто не змог выбрацца з кашмару, які стаў рэальнасцю.

Прыход нацыстаў і іх спробы ўсталявання кантролю над яўрэйскім насельніцтвам суправаджаюцца яшчэ адным пытаннем: ці быў супраціў яўрэяў нацыстам? Для І. Герасімавай гэтае пытанне прынцыпова важнае, бо менавіта гэты бок гісторыі быў (і шмат у чым застаецца) непрагавораным там, дзе адбываліся падзеі. Яна адказвае на пытанне сцвярджальна і аналізуе выпадкі супраціву.

Акупацыя змяніла стасункі паміж яўрэйскім і неяўрэйскім насельніцтвам Беларусі, канстатуе аўтарка, якая пачынае складаны аповед пра тое, як у беларускім кантэксце выглядае выкарыстанне знакамітай формулы гісторыка Рауля Хільберга “perpetrators – victims – bystanders” (“злачынцы – ахвяры – сведкі”)[2]. Сведчанні і дакументы, сабраныя ў кнізе, даюць розную карціну новай канфігурацыі ўзаемаадносінаў яўрэйскага і неяўрэйскага насельніцтва – ад абыякавасці і калабарацыі з нацыстамі

[2] Гл.: Perpetrators Victims Bystanders: The Jewish Catastrophe, 1933–1945 – September 15, 1993 by Raul Hilberg.

да дапамогі і выратавання. Антысеміцкая прапаганда нацыстаў накладалася на розны сацыяльны, культурны і эканамічны кантэкст Заходняй (якая была ў 1921–1939 г. часткай Польшчы) і савецкай усходняй Беларусі, спараджаючы цэлы спектр дзеянняў. Карціна жыцця ў гета і разгубленасці яўрэяў, якія там апынуліся, дапаўняецца апісаннямі спроб стыхійных уцёкаў і стварэння яўрэйскіх партызанскіх сямейных атрадаў і лагераў.

У наступнай частцы кнігі апісваюцца эпізоды забойства яўрэяў у той частцы Беларусі, адкуль і пачаўся вывад яўрэяў за лінію фронту. І аўтар пераходзіць да біяграфіі галоўнага ўдзельніка падзей – Мікалая Кісялёва, этнічнага рускага, выхадца з расійскай бядняцкай сялянскай сям'і, прадстаўнікі якой пабывалі на франтах і Першай і Другой сусветных войнаў. Мікалай Кісялёў, дзякуючы падзеям кастрычніка 1917 г. і палітыцы бальшавікоў, змог атрымаць адукацыю, быў маладым камуністычным актывістам. Ён уступіў у партыю перад пачаткам вайны з Германіяй. На пачатку вайны трапіў у палон, уцёк, стаў падпольшчыкам і партызанам. Трапіўшы ў адзін з самых вядомых партызанскіх атрадаў, "Мсцівец", ён і зрабіў усё тое, пра што распавядаецца далей у кнізе.

Іна Герасімава апісвае партызанскі рух і частку яго кіраўнікоў: хто гэта былі такія, якія погляды і каштоўнасці яны падзялялі, як ставіліся да яўрэяў, ці былі яны "героямі" адразу ці "сталі" такімі пасля вайны, калі пачалася актыўная міфалагізацыя і гераізацыя гісторыі партызанскага руху ў СССР. Яна прыводзіць дакументы і ўспаміны пра тое, наколькі антысемітызм пранікаў і ў партызанскі рух. Таксама мы атрымліваем апісанне развіцця партызанскага руху – ад стыхійных уцёкаў ваеннапалонных і яўрэяў, наяўнасці невялікіх разрозненых груп да спроб савецкага ўрада паставіць пад кантроль партызанскі рух і зрабіць яго сістэмным.

У 1942 г., пасля акцый знішчэння, у лясах апынулася шмат яўрэяў – уцекачоў з гета (у тым ліку жанчыны, дзеці, старыя). Такая колькасць людзей не магла ўтрымлівацца за кошт рэсурсаў, якія мелі партызанскія атрады. Гэта "перашкаджала" партызанскай актыўнасці і стала

адной з прычын прыняцця рашэння ў партызанскім атрадзе "Мсцівец" улетку 1942 г. вывесці некалькі соцень яўрэяў за лінію фронту і з акупацыі. Выканаць загад пагадзіўся Мікалай Кісялёў, тым часам як іншыя адмовіліся.

На шчасце, у той прамежак часу існавала 40-кіламетровая зона разрыву лініі фронту пад назвай "Суражскія вароты": на паўночным усходзе Беларусі партызаны і савецкія войскі стварылі прастору для перамяшчэння людзей і грузаў. Гэтая магчымасць праіснавала ўсяго сем месяцаў – з лютага да верасеня 1942 г. Самае галоўнае – праз іх ажыццяўляўся вывад мірнага насельніцтва ў тыл (паводле некаторых статыстычных дадзеных, было выведзена больш за 200 000 чалавек).

Вывесці групу яўрэяў было вельмі складана, існавала небяспека даносу з боку мясцовага насельніцтва, у самой групе былі старыя людзі. Паход пачаўся ў жніўні 1942 г. і завяршыўся 24 верасня 1942 г., калі нямецкія войскі пачалі аперацыю закрыцця "Суражскіх варотаў" (гэта была апошняя трагедыя, у якой таксама загінула частка ўдзельнікаў паходу). Потым трэба было рухацца яшчэ цягам месяца, каб нарэшце трапіць у тыл.

У наступных частках кнігі, выкарыстоўваючы сабраныя сведчанні і дакументы, аўтарка аднаўляе ўсю гісторыю паходу, даючы магчымасць чытачам пражыць падзею разам з тымі, хто меў тыя выпрабаванні ў рэальнасці. Гэты антрапалагічны досвед надзеі, выратавання, траўмы, страты, жаху ўражвае і адначасова паказвае, што адбываецца з людзьмі ў перыяд вайны (кожнай).

Некалькі фінальных частак кнігі прысвечаны таму, як пасля вайны гісторыя выратавання больш чым 200 яўрэяў стала інтэрпрэтавацца – як тымі, хто ратаваў, так і тымі, хто быў выратаваны (яны вымушаны былі бараніць сваю памяць пра тую гісторыю). Назва апошняй часткі кнігі "Прызнанне заслуг ратавальнікаў" павінна абяцаць шчаслівае завяршэнне гісторыі, але ўся гэтая гісторыя, апроч радасці выратавання, яшчэ і пагружае ў разважанні пра тое, як усё магло б быць інакш, пра тое, што такое сёння памяць пра Другую сусветнаю вайну, якой яна павінна і можа быць.

Падзеі ў кнізе разгортваюцца на мікраўзроўні (паказ жыцця ў гета, у партызанскіх атрадах, у вёсках) і на макраўзроўні (перад намі паўстае частка палітыкаў і вайскоўцаў, якія вызначалі лёсы людзей у перыяд Другой сусветнай вайны). Паміж светам звычайных людзей і светам палітыкі існуюць узаемасувязі – гэта загады, заклікі і рэакцыя на іх, гэта лісты і скаргі, просьбы, гэта атрыманне ўзнагарод ці адмова ў іх, гэта спробы палітыкаў стварыць пасля Другой сусветнай вайны яе пэўную гісторыю і спробы яе скарэктаваць знізу.

Аўтарка аднаўляе імёны, біяграфіі, спрабуе зразумець, як гісторыі асобных людзей упісваюцца ў гісторыю партызанскага супраціву, забойстваў у гета, карных аперацый, штодзённасці пад час вайны. Мы чуем розныя галасы, і гэта дае нам аб'ёмную карціну таго, што адбывалася.

Праз эга-дакументы (успаміны, лісты) і іншыя крыніцы І. Герасімава выбудоўвае свой аналіз матываў і стратэгій паводзінаў людзей у абмежаваных сітуацыях выжывання. Ці быў у іх выбар, на што яны маглі спадзявацца, на што маглі абапірацца, як яны спрабавалі ўсвядоміць тое, што з імі адбывалася, пасля падзей, пра якія даследчыкі ў межах “trauma studies” кажуць як пра немагчымыя для апісання, гэтыя падзеі выходзяць за рамкі нармальнасці чалавечага досведу. У адным з эпізодаў кнігі прыводзіцца гісторыя страты рэлігійнасці і спробы самагубства, здзейсненай чалавекам, узрушаным тым, што адбывалася ў гета ў перыяд акупацыі.

Гісторыя аднаго з цэнтральных персанажаў кнігі, савецкага партызана Мікалая Кісялёва, які вывеў за лінію фронту групу яўрэяў, зусім не паўстае ў кнізе Іны Герасімавай “гераічнай”, асабліва калі параўноўваць яе з тым, як апісвалі герояў вайны ў мілітарызаваных і нацыяналістычных грамадствах Еўропы першай паловы XX ст. ці ў традыцыі літаратуры “сацыялістычнага рэалізму” пасляваеннага Савецкага Саюза. Гэта гісторыя чалавека, які выконваў свой абавязак так, як яго разумеў, але ён апынуўся ў палітычным кантэксце Другой сусветнай і залежаў ад многіх акалічнасцяў. Яго гісторыя была і гісторыяй подзвігу (калі ён зрабіў тое, што магло пазбавіць

яго жыцця, выратаваў больш як 200 яўрэяў), і гісторыяй спроб дамагчыся прызнання пасля вайны, але і ілюстрацыяй палітыкі замоўчвання пра трагедыю яўрэяў, якая стала афіцыйнай пад канец 1940-х гадоў у СССР. Мікалай Кісялёў стаў праведнікам свету пасля смерці, толькі тады ён атрымаў прызнанне здзейсненага ўчынку.

Гэта няпростая гісторыя, пра якую І. Герасімава напісала, абапіраючыся на розныя інтэрпрэтацыі, упісваючы біяграфію Мікалая Кісялёва ў кантэкст вайсковай і пасляваеннай гісторыі ў СССР. Чаму ён стаў партызанам, наколькі ён быў "савецкім", чаму ён выратаваў менавіта яўрэяў, чаму ён імкнуўся не ўжываць слова *яўрэі* ў сваіх зваротах да ўладаў пасля вайны, ці быў ён удзельнікам драпежніцкіх захадаў да каштоўнасцяў яўрэяў, ці меў ён "карысць"? На гэтыя пытанні мы можам знайсці адказы ў кнізе.

Аўтарка гаворыць пра праблему калабарацыі, без наяўнасці якой былі б немагчымыя нацысцкія злачынствы. Брытанскі гісторык Тоні Джадт заўважаў, што ў шмат якіх краінах Еўропы гістарычныя наратывы пасля Другой сусветнай вайны былі пабудаваны на прызнанні сябе ахвярамі, на замоўчванні праблемы калабарацыі (замест прызнання якой казалі толькі пра "супрацу"). Аднак з цягам часу гэтая пасляваенная ідэнтычнасць многіх еўрапейскіх грамадстваў пачала змяняцца, з рознай ступенню хуткасці на захадзе Еўропы і на яе ўсходзе, і праблема калабарацыі стала адной з цэнтральных у грамадскіх дыскусіях[3].

Гісторыя, расказаная Інай Герасімавай, перш за ўсё ўпісана ў гісторыю Халакосту, катастрофы, што здарылася з яўрэйскім народам у перыяд Другой сусветнай вайны. І таксама ўпісана ў доўгую гісторыю гвалту на ўсходзе Еўропы. Як стаў магчымы той гвалт, з якім мы сутыкаемся пры апісанні падзей Другой сусветнай вайны на ўсходзе Еўропы?

У 2010 г. выйшла вядомая кніга гісторыка Тымаці Снайдэра "Крывавыя землі: Еўропа паміж Гітлерам

[3] Judt T. The Past Is Another Country: Myth and Memory in Postwar Europe // The Politics of Retribution in Europe. World War II and Its Aftermath / Ed. by I. Deák, J.T. Gross, T. Judt. Princeton, 2000. P. 293–325.

і Сталіным", у якой даецца "папулярны" адказ: на ўсходзе Еўропы велізарныя маштабы гвалту былі абумоўлены тым, што тут адбылося накладанне палітыкі і сустрэча двух палітычных рэжымаў, нацысцкага і камуністычнага[4]. Савецкая рэпрэсіўная палітыка, вайна паміж СССР і Германіяй, нацысцкая акупацыя спрычыніліся да з'яўлення метафары "крывавых земляў" на ўсходзе Еўропы, масавых ахвяр і гвалту велізарных масштабаў. Гэтая метафара, хоць і выкарыстоўваецца актыўна, але не заўсёды тлумачыць тое, што адбывалася на ўсходзе Еўропе, у тым ліку і ў Беларусі.

Іна Герасімава ў сваёй кнізе больш арыентавана на паказ сітуацыі пад час Другой сусветнай вайны, аднак для разумення гэтай сітуацыі трэба ўлічваць і міжваенны перыяд еўрапейскай гісторыі. Як мы памятаем, пасля распаду Расійскай імперыі ў час Першай сусветнай вайны (і досведу гвалту, злучанага з ёй), падзей лютага і кастрычніка 1917 г. узніклі контуры савецкага праекта бальшавікоў і паралельна на развалах імперыі пачаліся працэсы нацыябудаўніцтва на яе былых тэрыторыях. Беларускі нацыяналізм, украінскі нацыяналізм, польскі нацыяналізм сталі часткай публічнай палітыкі.

Поўная ліквідацыя мяжы аселасці ў былой заходняй частцы Расійскай імперыі ў пачатку XX ст. таксама прывяла да таго, што ва ўсе гэтыя працэсы ўцягнуліся і яўрэйскія супольнасці, сярод прадстаўнікоў якіх былі прыхільнікі розных ідэй – ад сіянізму да камунізму. Яўрэйскае насельніцтва галоўным чынам было засяроджана ў гарадах і мястэчках на тэрыторыі Беларусі, і яно жыло разам з беларусамі, палякамі, рускімі, татарамі і г. д. Гэта была тыповая сітуацыя памежжа – месца суіснавання мноства культур і груп, са сваімі традыцыямі і ўяўленнямі. І, вядома, палітыкі спрабавалі гэтую сітуацыю гамагенізаваць, навязваючы пэўныя сістэмы ідэнтыфікацыі, што і прыводзіла да праблем, немагчымасць вырашэння якіх пазней стала таксама адной з прычын катастрофы.

[4] Snyder T. Bloodlands: Europe Between Hitler and Stalin. Basic Books / Random House, 2010.

У 1920-я гады яўрэйскае насельніцтва Беларусі жыло ў розных палітычных сістэмах: з 1921 да 1939 г. частка яўрэяў на захадзе Беларусі апынулася ў складзе Польскай рэспублікі, у якой спалучаліся як ліберальная, так і аўтарытарная і нацыяналістычная палітыка, а другая частка на ўсходзе Беларусі стала грамадзянамі савецкай Беларусі (БССР). У Польскай Рэспубліцы і Савецкай Беларусі яўрэі знаходзіліся ў розных умовах. У Польшчы шмат у чым захоўваўся рэлігійны рытм жыцця і супольныя структуры, што існавалі задоўга до гэтага часу, хоць і адбываўся працэс эмансіпацыі яўрэйскага насельніцтва. Антысемітызм перыядычна ператвараўся ў праблему, у залежнасці ад палітычнага кантэксту і росту ўплыву некаторых партый.

Серыя пагромаў сярэдзіны – другой паловы 1930-х г. на захадзе Беларусі, у Гродне, Брэсце (гэтую тэрыторыю ў Польшчы звалі “ўсходнімі крэсамі”) ясна прадэманстравала, што можа здарыцца ў грамадстве, у якім ёсць дыскрымінацыйныя практыкі, у тым ліку і заканадаўчага характару, у адносінах да яўрэяў, як гэтыя практыкі рана ці позна знаходзяць сваё фізічнае ўвасабленне.

Міжваеннае напружанне і ўзрастанне антысемітызму ў Польскай рэспубліцы сталі адным з фактараў, што тлумачаць гвалт у адносінах да яўрэяў у перыяд пачатку Другой сусветнай вайны на тэрыторыі захаду Беларусі, гэта быў у пэўнай ступені працяг сітуацыі. Таксама трэба ўлічваць прыход савецкіх войскаў і адміністрацыі на тэрыторыю Беларусі пасля падпісання пакта Молатава – Рыбентропа ў пачатку Другой сусветнай вайны. Яўрэйскае насельніцтва павінна было абіраць паміж бальшавікамі і ранейшымі польскімі ўладамі.

У Савецкай Беларусі сітуацыя была іншай, але не вельмі лёгкай. Пострэвалюцыйная палітыка і савецкая “сталінская” мадэрнізацыя 1930-х г. знішчалі рэшткі агульных структур і рэлігійнага жыцця яўрэйскіх супольнасцяў. Дыскрымінацыя па этнічнай прыкмеце стала змяншацца, савецкі праект лічыўся “інтэрнацыянальным”, але паўсталі дыскрымінацыйныя практыкі, злучаныя з сацыяльным паходжаннем.

Эмансіпацыя яўрэяў ішла так хутка, што нават пачалі бурыцца тыя межы паміж рознымі групамі насельніцтва, якія існавалі раней. Ужо нашмат пазней, пасля Другой сусветнай вайны, даследчыкі будуць спрабаваць адказаць на пытанне, ці спрыяла савецкая інтэрнацыянальная палітыка таму, што ў яўрэяў на ўсходзе Беларусі (тады Савецкай Беларусі) быў вышэйшы шанец выжыць? Палеміка пра гэта ідзе дагэтуль[5].

Мясцовае насельніцтва і яўрэі на ўсходзе Беларусі сталі актыўней узаемадзейнічаць, саветызавацца і ўніфікавацца. У гэтым сэнсе яўрэйскае жыццё мела іншыя вымярэнні, чым у суседняй Польскай рэспубліцы. Бальшавікі скарысталі ў 1920-я г. нацыянальныя пачуцці розных этнічных груп для ўмацавання сваёй палітыкі.

Акультурацыя яўрэяў у савецкім праекце прывяла да з'яўлення гібрыдных культурных формаў, з дапамогай якіх яўрэі спрабавалі захаваць хоць нешта ад ранейшай традыцыі. Яўрэйская ідышысцкая культура раптам, на кароткі час, атрымала ад бальшавікоў карт-бланш на існаванне, ператвараючыся, праўда, у сацыялістычную[6]. Аднак платай за тую хуткую эмансіпацыю і першыя даброты сталі рэпрэсіі, што разгарнуліся ў 1930-я г.

Пачатак Другой сусветнай вайны азначаў, што ўсе структурныя трансфармацыі (савецкая мадэрнізацыя на ўсходзе Беларусі, улучаючы рэпрэсіі, разам з эмансіпацыяй яўрэяў і іх саветызацыяй) і нявырашаныя праблемы супольнага існавання яўрэяў і неяўрэяў у Савецкай Беларусі і міжваеннай Польшчы стварылі той фон, на якім усё будзе адбывацца.

На захадзе Беларусі сітуацыя была спецыфічнай – тут мясцовае насельніцтва, яўрэі і неяўрэі, перажылі за кароткі час 1939–1941 г. змену трох палітычных рэжымаў (польскі, савецкі і нацысцкі). Менавіта тут, дарэчы, адбыўся адзін з самых вядомых у гісторыі пагромаў – пагром

[5] Гл.: Epstein B. The Minsk Ghetto 1941–1943: Jewish Resistance and Soviet Internationalism. Berkeley, 2008.

[6] Bemporad E. Becoming Soviet Jews: The Bolshevik Experiment in Minsk. Bloomington, 2013.

у ліпені 1941 г. у Ядвабнэ, апісаны гісторыкам Янам Томашам Гросам, чыя кніга выклікала вялікі рэзананс і дэбаты ў сучаснай Польшчы[7]. Яўрэі ў Ядвабнэ, мястэчку, што ўвайшло ў склад савецкай Беларусі ў 1939 г., былі забіты сваімі суседзямі, палякамі, пасля прыходу нацыстаў у чэрвені 1941 г., пры гэтым самі нямецкія часці практычна не ўдзельнічалі ў падзеях, але і не спынялі іх. Пагром у Ядвабнэ не быў адзіным, летам 1941 г. адбылася цэлая хваля пагромаў, у якіх забівалі яўрэйскае насельніцтва памежжа Польшчы, Літвы, Украіны[8] .

У гэтым і ёсць трагедыя памежжа, з яго мноствам культур, якія не змаглі існаваць адна з другой, таму што гэтае існаванне было парушана палітычнымі рэжымамі, прапагандай, ідэалогіяй і людзьмі, якія зрабілі стаўку на гвалт.

Гвалт у перыяд Другой сусветнай вайны не можа быць патлумачаны толькі існаваннем рэжымаў Гітлера і Сталіна, ён быў структурным і ўбудаваным у палітычныя практыкі, пачынаючы з перыяду Першай сусветнай вайны. Сама вайна – гэта гвалт. Гісторык Штэфан Ленштэт апісвае сітуацыю 1940-х г. у акупаванай Беларусі, у якой разгорталася “вайна на знішчэнне”: “Гвалт выконваў істотную ролю ў штодзённым знаходжанні акупантаў у Мінску. З аднаго боку, немцы ўспрымалі яго як вонкавы феномен, які не закранаў іх наўпрост, калі ахвярамі былі яўрэі і беларусы. З іншага боку, акупанты наўпрост бралі ўдзел у падобных практыках. У кожным разе гвалт трэба было ўкараніць у штодзённы распарадак. Немцы фактычна так і зрабілі – не толькі прыняўшы гвалт, але і ўхваліўшы яго”[9] .

Адзін з лейтматываў кнігі Іны Герасімавай – пытанне пра чалавечую і гістарычную памяць. Адразу пасля

[7] Gross J. T. Neighbors: The Destruction of the Jewish Community in Jedwabne, Poland. Princeton, 2001.

[8] Kopstein J. S., Wittenberg J. Intimate Violence: Anti-Jewish Pogroms on the Eve of the Holocaust. Ithaca, NY, 2018.

[9] Ленштедт Ш. Минский опыт: немецкие оккупанты и повседневная жизнь в столице Белоруссии // Неприкосновенный запас. № 4 (108). 2016 [Электронный ресурс]. Режим доступа: https://magazines.gorky.media/nz/2016/4/minskij-opyt-nemeczkie-okkupanty-i-povsednevnaya-zhizn-v-stolicze-belorussii.html. Дата доступа: 15.11.2019.

завяршэння Другой сусветнай вайны ў СССР пачаў канструявацца афіцыйны гістарычны наратыў пра яе, у якім не было месца многім тэмам: не абмяркоўвалася тэма ваеннапалонных і параз пачатковага этапу вайны, тэма остарбайтараў, ігнараваўся жаночы досвед вайны (пра яго змагла напісаць Святлана Алексіевіч толькі ў 1985 г., выпусціўшы кнігу, частка тэксту якой падпала пад цэнзуру[10]). Тэма масавага забойства яўрэяў перастала абмяркоўвацца таксама, яе растварылі ў наратыве пра калектыўную трагедыю "мірных савецкіх грамадзян". Пра вайну ўспамінаць трэба было толькі тое, што было прынята і дазволена ўспамінаць. Тыя, хто не паспеў эвакуявацца на пачатковым этапе вайны і перажыў яе, знаходзячыся на акупаванай тэрыторыі, таксама знаходзіліся пад грузам страху і магчымых абвінавачанняў у калабарацыі.

Пад канец 1940-х г. у познесталінскім СССР разгарнулася ідэалагічная палітычная кампанія па "змаганні з касмапалітызмам", якая прыняла антысеміцкі характар, што таксама негатыўна паўплывала на мемарыялізацыю нацысцкіх злачынстваў у адносінах да яўрэйскага насельніцтва. У 1948 г. у Мінску быў забіты супрацоўнікамі Міністэрства дзяржаўнай бяспекі СССР старшыня Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта і выдатны яўрэйскі тэатральны дзеяч Саламон Міхоэлс.

Менавіта на гэтым фоне адбываецца фінальная частка падзей кнігі Іны Герасімавай, дзе апісваецца гісторыя Мікалая Кісялёва, што спрабаваў дамагчыся прызнання сваіх заслуг, пра якія раптам стала не прынята казаць – пра выратаванне яўрэяў. І ў кантэксце гэтых спроб узнікае постфактум пытанне, якое задае Іна Герасімава ў цэлым да сітуацыі: а як увогуле так атрымалася, што савецкія ўлады не імкнуліся ратаваць яўрэйскае насельніцтва, што засталося на акупаванай тэрыторыі, ці зрабілі яны ўсё, што было трэба, для сваіх грамадзян? Зразумела таксама, што гэтае пытанне ніколі не падымалася ў рамках афіцыйнай гісторыі вайны, якая стваралася пасля 1945 года ў СССР.

[10] Алексиевич С. А. У войны – не женское лицо… Минск, 1985.

## ГАНЕЦКАЯ, ІРЫНА У. Глускі замак у святле археалагічных даследаванняў і пісьмовых крыніц. Мінск: Беларуская навука, 2018. 415 с., іл.

Археалогію традыцыйна класіфікуюць як дапаможную гістарычную дысцыпліну. Аднак гісторыкі практычна не карыстаюцца яе дапамогай. Археолагі вельмі часта плацяць гісторыкам той жа манетай. Манаграфія ж Ірыны Ганецкай дэманструе магчымасці сінтэзу гістарычных і археалагічных крыніц. З яе старонак у святле няпростай гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай паўстае практычна зніклы з твару зямлі Глускі замак – як родавае гняздо Палубінскіх, а пасля – уладанне Радзівілаў.

Работа падзяляецца на шэсць раздзелаў: I. “Гісторыя вывучэння Глускага замка і крыніцы даследавання” (7–33); II. “Гісторыя валодання замкам” (34–54); III. “Стратыграфія і храналогія культурнага пласта” (55–69); IV. “Аналіз калекцый археалагічных знаходак” (70–155); V. “Фартыфікацыя” (156–174); VI. “Замак як жыццёвая прастора” (175–238). Тэкставую частку дапаўняюць 4 дадаткі, у якіх даецца спіс гаспадароў замка і вынікі даследавання астэалагічнага матэрыялу, рыбінай лускі і рэшткаў раслін, атрыманых з раскопак замка. Шматлікія ілюстрацыі размешчаны як па тэксце, так і ў асобным альбоме, які налічвае 225 фотаздымкаў, графічных замалёвак і табліц.

Кожны раздзел прысвечаны асобнай тэме, але яны цесна звязаны паміж сабой. Прыкладам, з генеалогіяй роду Палубінскіх чытач пачынае знаёміцца ў раздзеле I, прысвечаным гісторыі вывучэння замка і крыніцам даследавання, падрабязна разглядаецца яна ў раздзеле II (“Гісторыя валодання замкам”), і вяртаецца аўтар да асобных прадстаўнікоў роду пры разглядзе пытанняў стратыграфіі, фартыфікацыі і нават аналізе керамічных калекцый (геральдычная кафля). Гэта абумоўлена імкненнем даследчыцы ўвязваць гістарычныя крыніцы з археалагічнымі, што, аднак, месцамі прыводзіць да вымушаных паўтораў. Спецыфічна археалагічныя па змесце раздзелы III і IV, затое наступныя пабудаваны на сінтэзным

выкарыстанні і археалагічных матэрыялаў, і пісьмовых крыніц.

Першы раздзел пачынаецца з падрабязнага аналізу замкавай пляцоўкі, што заўсёды важна для выбару месцаў археалагічных даследаванняў. У кароткім аглядзе гісторыі вывучэння замка І. Ганецкая дае крытычны агляд прац папярэднікаў (А. Рынейскага, Ю. Якімовіча, М. Ткачова, Г. Сагановіча) і вызначае стан даследаванняў. Высветліўшы, што з дзвюх вядомых у пісьмовых крыніцах назваў Глуска (“Пагарэлы” і “Дубровіцкі”) даследаванаму замку належала апошняя, яна сцісла аналізуе дакументы па гісторыі Глуска-Дубровіцкага. Гэта прывілеі, дзельчыя лісты, матэрыялы Метрыкі ВКЛ, купчыя лісты і асабліва – інвентары. У характарыстыцы археалагічных крыніц уражваюць маштабы даследавання: за 13 сезонаў, з 1996 да 2008 г., раскопамі было ахоплена 668 кв. м плошчы аб’екта. Не менш уражвае колькасць апрацаваных знаходак – агулам больш як 60 000 адзінак! Даследчыца адразу звяртае ўвагу на тое, што вывучэнне менавіта масавага матэрыялу дае магчымасць не толькі ахарактарызаваць у цэлым матэрыяльную культуру побыту жыхароў замка, але і асвятліць некаторыя нематэрыяльныя бакі іх жыцця і ўдакладніць некаторыя даты гісторыі помніка. Сцісла апісваюцца ўсе катэгорыі знаходак, бо кожная з іх, як адзначае аўтар, можа нешта расказаць пра жыццё замка. Прыкладам, менавіта будаўнічыя матэрыялы (а гэта не толькі цэгла, дахоўка, драўляныя элементы з пабудоў, а яшчэ і рошчына, цвікі, аконнае шкло) разам з пісьмовымі крыніцамі даюць уяўленне пра выгляд інтэр’ераў замка розных эпох. А статыстычная раскладка ўсіх знаходак па перыядах дазваляе вызначыць інтэнсіўнасць жыцця на замку ў розныя часы і пік гэтай інтэнсіўнасці, які прыпадае на другую палову XVII – XVIII ст. (25).

Дадатковай катэгорыяй крыніц сталі карты, гравюры, схемы, копіі якіх прыведзены ў кнізе (26–33).

Раздзел II прысвечаны падрабязнаму аналізу змены ўладальнікаў замка. Прычым у канву генеалагічных перыпетый уключаны дадзеныя археалогіі, дзякуючы якім высвятляецца, хто з уладальнікаў мог пабудаваць

ці перабудаваць у замку выяўленыя пад час раскопак аб'екты. Аўтар шмат цытуе архіўныя крыніцы, падае вытрымкі з разнастайных дакументаў і змяшчае партрэты ўладальнікаў, якія дазваляюць уявіць гісторыю замка ў вобразах і асобах.

У наступным раздзеле (“Стратыграфія і храналогія культурнага пласта”) падрабязна аналізуецца працэс археалагічных даследаванняў, яго логіка і этапы. Гаворачы пра першапачатковы рэльеф замкавай пляцоўкі, аўтар вызначае яе як пясчанае ўзвышша на нізкім забалочаным беразе Пцічы (57). Дзякуючы дасканаласці апісання раскопаў, шурфоў і траншэй, дапоўненага малюнкамі і фотаздымкамі, праца І. Ганецкай можа паслужыць добрым прыкладам для маладых археолагаў. Стратыграфічны аналіз раскапаных плошчаў праведзены тут па выяўленых этапах будаўніцтва. Акрамя непасрэднага апісання характару адкладанняў, магутнасці слоя і яго лакалізацыі падаецца методыка прачытання профіляў, стратыграфічных асаблівасцяў і інтэрпрэтацыя слядоў тых працэсаў, якія адбываліся пад час будаўніцтва і перабудовы замка. Даследчыца спрабуе не проста фіксаваць, але вытлумачыць усе асаблівасці слоя. Не ігнаруецца, прыкладам, нават вялікая колькасць трэсак у пэўным месцы – гэта магло быць месца для апрацоўкі лесу для будаўніцтва драўлянага замка (58). А там, дзе вугаль спрасаваны са спечанай глінай, – месца знішчанай агнём драўлянай канструкцыі з глінянай абмазкай.

Даследчыца выявіла і рэканструявала цэлую серыю аб'ектаў у межах замка, а стратыграфічныя сляды ў прывязцы да даследаваных шурфоў і раскопаў дазволілі ёй вызначыць ходу самых грандыёзных будаўнічых работ – узвядзення брамы, воднай вежы і земляных умацаванняў.

Найбольш месца ў кнізе аддадзена аналізу калекцый археалагічных знаходак (70–155). Тут разгледжаны літаральна ўсе іх катэгорыі: будаўнічыя матэрыялы, керамічны посуд і іншыя побытавыя рэчы з гліны, шкляныя, металічныя вырабы, вырабы са скуры і астэалагічныя парэшткі. Будаўнічыя матэрыялы класіфікаваны на

прыродныя натуральныя (пясок, гліна, камень, дрэва і іх спалучэнне) і штучныя, да якіх аднесены не толькі будаўнічая кераміка (цэгла, пліткі падлогі і дахоўка), але і рошчына, аконнае шкло і скабянка. Апрацоўка знаходак праведзена па прадуманай, грунтоўнай методыцы. Аналізуюцца памеры цэглы, склад фармовачнай масы і мацавальнай рошчыны, а таксама тэхналагічныя сляды. Па фіксаванай розніцы ў характары нанясення барознаў на цэгле-пальчатцы даследчыцы ўдаецца вызначаць факт таго, што выраблялі яе розныя майстры. У аконным шкле яна таксама знаходзіць залежныя ад перыяду характарыстыкі, якія і дазволілі рэканструяваць інтэр’еры выяўленых пабудоў.

Кафля як архітэктурна-дэкаратыўная кераміка характарызуецца ў звязку з выяўленымі пабудовамі. Даследчыцай апрацавана амаль 4,5 тысячы фрагментаў каробкавай кафлі, якая разгледжана ў храналагічнай паслядоўнасці па аднолькавай схеме: статыстыка, лакалізацыя, тэхналогія вырабу і арнаментыка. Памеры кафлянай пласціны ўключаюць не толькі яе фармат, але і таўшчыню з рэльефам і без яго, вышыню і характар рэльефу (акруглы ці плоскі), вышыню і шырыню рамкі. Фіксуюцца сляды матрыцы пласціны (драўляная ці керамічная, ці выкарыстоўвалася пры фармоўцы тканіна). Пры апісанні арнаменту не толькі адзначаецца характар малюнка і ступень яго захаванасці, але і даецца мастацтвазнаўчы аналіз выявы. Для паліхромнай кафлі каштоўная фіксацыя паслядоўнасці нанясення колераў. Датавана кафля найперш стратыграфічным метадам, а для геральдычнай прыменены яшчэ і дэталёвы аналіз генеалогіі родаў уладальнікаў. Пад увагу бярэцца і стылістычны аналіз выяў – іх адпаведнасць рысам маньерызму ці барока. Даследчыца выказала цікавую гіпотэзу, што ўзорам для кафлі з гербам Аляксандра Гілярыя Палубінскага была творчасць славутага мастака-гравёра XVII ст. Аляксандра Тарасевіча (96). Аналіз фрагментаў гербавай кафлі можа быць прыкладам методыкі аднаўлення малюнка і ідэнтыфікацыі прыналежнасці герба з дадатковым выкарыстаннем пісьмовых крыніц.

Значная частка кнігі прысвечана самым масавым археалагічным знаходкам – керамічнаму посуду, якога вывучана каля 23 000 фрагментаў (105–140). Колькасная характарыстыка матэрыялу зноў звязана з пабудовамі, ля якіх ён выяўлены, і з храналагічнымі перыядамі. Характарызуючы тэхналагічныя асаблівасці посуду, даследчыца адначасова выкладае методыку яго апрацоўкі. Звязваючы рэцэптуру са спосабам фармоўкі, звяртае ўвагу на шматлікія прыкметы вырабу начыння на ручным ці нажным крузе, падкрэслівае важнасць фіксацыі колеру чарапка (бела- ці чырвонагліняны). У якасці збядняльнікаў вызначаны не толькі жарства і пясок, але і тоўчаныя ракаўкі-перлавіцы – рэдкая з'ява ў вытворчасці посуду. Уважлівы аналіз складу фармовачнай масы дазволіў выявіць групу посуду канца XVII – пачатку XVIII ст., зробленага ў архаічнай тэхніцы (на ручным крузе), уласцівай у гэты час толькі сельскаму ганчарству. Да таго ж частка гаршкоў мела клеймы, што не характэрна для посуду таго часу, аднак даследчыца даводзіць, што стратыграфічна яны датуюцца часам пасля 1670 г. Гэта чарговы раз даказвае важнасць стараннага аналізу стратыграфіі пры датаванні знаходак, нават калі высновы, як можа падасца, супярэчаць стэрэатыпам (як у выпадку з клеймамі). Аналізуючы сляды розных тэхналогій абпалу паліванага посуду, І. Ганецкая вызначае прыкметы браку як доказ яго мясцовай вытворчасці. У апісанні арнаментыкі размова вядзецца не толькі пра сляды на посудзе, але і пра магчымыя інструменты ды тэхніку нанясення арнаменту.

Аналіз формаў посуду таксама размеркаваны па храналагічных перыядах. На прыкладзе вылучаных тыпаў непаліваных гаршкоў добра прасочваецца методыка апісання керамікі: колькасць фрагментаў, лакалізацыя, архітэктоніка, тэхналогія, аздабленне, стратыграфічная прывязка і толькі потым – аналогіі. У начыннях складанай формы (рынкі) даследчыца імкнецца апісаць паслядоўнасць працэсу далучэння частак. Склад асартыменту ганчарнага посуду, пададзены ў працэнтах, дае ўяўленне пра суадносіны розных яго відаў, незалежна ад

тэхналагічных груп, у перыяд яго найбольшай разнастайнасці – з XVI да сярэдзіны XVII ст. (116).

Грунтоўна апісаны цэлыя формы посуду: падаюцца прамеры дыяметраў венца, донца, тулава, вышыня максімальнага дыяметра ад падэшвы начыння, вылічваюцца прапарцыянальныя суадносіны іх памераў. Даследчыца імкнецца вызначыць модуль формы, яе гармонію. Заслугоўвае пераймання ўменне лаканічна і дакладна апісаць прафілёўку гаршкоў розных тыпаў, уключаючы нават фіксацыю вугла адхілення венца (120).

У калекцыі шкла аўтарам ідэнтыфікавана каля 200 сасудаў у асноўным з перыяду 1680–1800 г., якія зафіксаваны графічна і ў фотаздымках. Яны апісаны паводле той жа методыкі, што і кераміка, з дадаваннем звестак пра таўшчыню вырабу, ступень пацінізацыі, колеравую гаму і меркаванае месца вытворчасці.

Апісанне і ідэнтыфікацыя металічных вырабаў пры іх фрагментарнасці і дрэнным стане захавання – заўсёды няпростая задача. Аднак даследчыца імкнецца зрабіць вырабы максімальна інфармацыйнымі не толькі праз апісанне, але з дапамогай фота- і графічнай фіксацыі (іл. 162–177). Функцыянальная прыналежнасць некаторых вырабаў гіпатэтычная, але іх крыніцазнаўчая вартасць узмацняецца дакладнай прывязкай да месца знаходкі (пабудовы, слой пажарышча ці мацярык). Тое ж датычыцца і вырабаў з дрэва ці каменю.

Пра гарбарства і прафесіі, звязаныя з рэшткамі вырабаў са скуры, сведчаць не толькі археалагічныя знаходкі, але і матэрыялы інвентароў, у якіх захаваліся прозвішчы двух замкавых майстроў (153). Уважлівы аналіз слядоў на вырабах дазволіў вызначыць ступень зношанасці абутку, наяўнасць слядоў аздаблення, гендарную прыналежнасць, не кажучы пра гатункі скуры.

Тэкставая частка, прысвечаная астэалагічным парэшткам, на жаль, невялікая. Аднак дзякуючы змешчаным у дадатках табліцам вызначэння відаў жывёл, птушак і рыб створана выразная карціна фаўністычных рэсурсаў горада і прылеглых лясоў ад XVI да канца XVIII ст. Гэта інфармацыя можа стаць крыніцай для самастойнага

даследавання заолагаў. Лічбавыя матэрыялы дазваляюць прааналізаваць і дынаміку відавога складу не толькі дзікіх, але і свойскіх жывёл. Зафіксаваны нават парэшткі жаб, мышы і жукоў, што пераконвае ў вельмі якасным працэсе даследаванняў (палявых і камеральных). Па слядах на касцях жывёл аўтар выказвае меркаванне пра спосабы апрацоўкі касцей і іх выкарыстанне. Невялікую, але цікавую калекцыю раслін (дадатак 4), апрацаваную супрацоўнікамі Інстытута батанікі НАН Беларусі, даследчыца перадала ў гербарый названай установы, што робіць яе даступнай для іншых даследчыкаў.

Змест раздзела "Фартыфікацыя" добра дэманструе значэнне археалагічных даследаванняў для аднаўлення вобразу замка. Гіпатэтычная рэканструкцыя замка розных перыядаў тут падаецца на падставе сінтэзу археалагічных матэрыялаў і пісьмовых крыніц. Аўтар аднавіла карціну ўмацаванняў і логіку разбудовы драўлянага замка XVI ст., які быў спалены ўкраінскімі казакамі ў сакавіку 1655 г. Падрабязнае апісанне замка, пры неабходнасці і наяўнасці ў горада сродкаў, можа быць падставай для рэканструкцыі замка у фармаце 3D.

Апісанне фартыфікацыі замка XVII–XVIII ст. базуецца галоўным чынам на пісьмовых крыніцах – пераважна на інвентарах XVIII ст., звесткі якіх дапоўнены вынікамі археалагічных раскопак. У датаванні абарончых збудаванняў і пабудоў выкарыстаны стратыграфічныя назіранні і знаходкі. Сляды будаўніцтва брамы ў выглядзе плям пяску, рошчыны і чырвонай гліны з цэглай, а таксама геральдычная кафля з датамі 1670–1675 г. – усё гэта дазволіла вызначыць час яе пабудовы: паміж пажарам і ўзвядзеннем вала. Манеты і знаходкі сведчаць пра функцыянаванне брамы да канца XVIII ст. Інвентары і раскопкі сталі падставай для апісання інтэр'ераў брамы і яе абарончых элементаў. У даследаванні абарончага вала вызначаны як яго памеры, так і вуглы нахілаў. Апісаны абрысы і памеры бастыённай фартыфікацыі замка, узвядзенне якой аднесена да 1677–1679 г. Падсумоўваючы, І. Ганецкая паказвае, як Глускі замак з другой паловы

XVII ст. паступова ператвараецца ў рэзідэнцыю і цэнтр адміністрацыйнай акругі (174).

У заключным раздзеле "Замак як жыццёвая прастора" І. Ганецкая апісвае планіровачную структуру замкавых пабудоў, заняткі жыхароў і іх харчаванне, а таксама звяртаецца да пытання санітарных умоў і гігіены. Пры ўзнаўленні вобразу пабудоў і іх інтэр'ераў у розныя часы, залежна ад уладальнікаў, можна зноў назіраць добры прыклад камбінацыі пісьмовых і археалагічных крыніц, іх узаемадапаўнення. Прыкладам, калі ў дзельчым лісце 1571 г. толькі згадваецца дом "на подклецех", то археалагічныя раскопкі дазволілі выявіць рэшткі гэтага дома, вызначыць этапы яго будаўніцтва і некаторыя рысы інтэр'еру. Па наяўнасці імпартнага шклянога і керамічнага посуду ці гербавай кафлі даследчыца вызначае статуснасць уладароў замка. Праца дазваляе уявіць не толькі жылыя ці абарончыя, але і разнастайныя гаспадарчыя пабудовы (цэхгаўзы, свірны, стайні, вазоўні і г. д.) Глускага замка, які ў XVIII ст. ператвараецца ў сядзібу, абкружаную магутным валам.

Вывучэнне заняткаў паказвае, што галоўнай турботай уладароў замка была арганізацыя абароны. Пры іх апісанні даецца агляд узбраення, характарызуюцца вайсковыя павіннасці і сама сістэма кіравання замкам ды ўсім маёнткам. На падставе аналізу інвентароў, дзельчых лістоў і іншых крыніц аўтар паказвае ўзаемадачыненні паміж гаспадарамі замка і падуладным ім насельніцтвам. Галоўнай павіннасцю былі "гвалты" на карысць замка, найважнейшы з якіх – узвядзенне і рамонт фартыфікацыйных збудаванняў. Местачковыя рамеснікі і насельніцтва воласці выконвалі іншыя "гвалты", уключаючы выраб прылад працы і рэчаў штодзённага ўжытку. Даследчыца не проста пералічвае местачковых рамеснікаў розных спецыяльнасцяў, але падае іх спісы на канкрэтныя гады (з 1638 да 1755 г.), на падставе аналізу інвентароў.

Пра замкавых рамеснікаў і іх спецыялізацыю шмат звестак даюць археалагічныя матэрыялы. Як падкрэслівае даследчыца, бракаваныя вырабы, інструменты і сляды

вытворчасці, якіх на замку знойдзена нямала, заўсёды можна лічыць доказам мясцовай вытворчасці.

На падставе такіх знаходак, як драўляныя мячы, гліняныя вершнікі, канькі, каменныя ці керамічныя вырабы для настольных гульняў і да т. п., І. Ганецкая змагла аднавіць і традыцыі баўлення вольнага часу жыхарамі замка. Самы распаўсюджаны шляхецкі занятак – паляванне – разглядаецца праз прызму пісьмовых звестак, тады як пра аб'екты кажа пералік сабраных у раскопах рэшткаў жывёл. Знаходкі сведчаць, што з XVII ст. у жыхароў замка з'яўляецца і мода курыць тытунь.

Даследчыца пастаралася вызначыць і рацыён харчавання насельнікаў замка. Яна лічыць, што асноўнымі крыніцамі здабывання харчовых прадуктаў былі фальваркі і гароды, сады з кустамі, лясы з дзічынаю і рака Пціч. Некаторыя прадукты, як гэта вядома з пісьмовых крыніц, прывозіліся з-за мяжы (віно, прыправы) або купляліся на мясцовых рынках. У працы пералічваюцца культываваныя ў Глуску зерневыя культуры, апісаны працэс іх перапрацоўкі і збудаванні, неабходныя для гэтага (млыны, пякарні, сырніцы), а таксама некаторыя нюансы самой перапрацоўкі (222). Па пісьмовых крыніцах прыводзяцца звесткі пра хлеб і пякарні.

Характарызуючы рацыён харчавання, аўтар па працэнтных суадносінах костак жывёл робіць выснову пра паступовае ўзрастанне ў спажыванні долі свініны і зніжэнні долі дзікіх жывёл. Аднак у рацыёне арыстакратыі яны маюць большы працэнт у параўнанні з іншым насельніцтвам. У кантэксце пытанняў гігіены і сацыяльнай дыферэнцыяцыі грамадства разгледжана спажыванне страў, развіццё асартыменту посуду і з'яўленне паліванай керамікі. Хоць знаходка сталовых прыбораў – вялікая рэдкасць, даследчыцы ўдалося прасачыць змены ў эвалюцыі формы відэльцаў ад XVI да XVIII ст.

Па скупых сведчаннях пісьмовых крыніц і выяўленых канструкцыях І. Ганецкая ацэньвае санітарную сітуацыю ў замку. Паляпшэнню апошняй, на яе думку, спрыяла наяўнасць печаў і камінаў, магчымасць для праветрывання ў канструкцыі вокнаў, студні і, верагодна, замкавая

каналізацыі для сцёку нечыстот у раку, а таксама выкарыстанне нягашанай вапны для дэзінфекцыі адкрытых ям-сметніц.

Увогуле трэба адзначыць змястоўнасць апошняга раздзела працы, наватарскага для беларускай археалогіі. Дзякуючы яму чытач можа атрымаць шматбаковае ўяўленне пра побыт і магнацка-шляхецкую культуру беларускага замка ранняга Новага часу.

Багаты ілюстрацыйны матэрыял (выявы ўладароў; планы і графічныя ілюстрацыі збудаванняў, якія ўжо не існуюць; фотаздымкі выяўленых фрагментаў пабудоў, знойдзеных архіўных дакументаў; графічныя рэканструкцыі самага галоўнага ўпрыгожвання інтэр'ера памяшканняў – печаў XVI–XVII ст.; шматлікія фотаздымкі археалагічных знаходак з замка) можа быць карысны для папулярызацыі гэтых ведаў сярод шырокіх колаў насельніцтва. Працэс раскопак і выяўлены археалагічны матэрыял падрабязна зафіксаваны ў графічных ілюстрацыях і фотаздымках. Зручнасці ў карыстанні працай дадае імянны паказнік у канцы кнігі, які ўключае прозвішчы жыхароў воласці, што сустракаліся ў архіўных крыніцах.

У цэлым кніга Ірыны Ганецкай уяўляе з сябе комплекснае, грунтоўнае, можна сказаць – узорнае даследаванне асобнага замка, заснаванае на выніках архітэктурна-археалагічных раскопак з выкарыстаннем звестак усіх іншых даступных крыніц. Даследчыца выканала пастаўленую сабе задачу – паказала Глускі замак як "поліфункцыянальную сістэму – абарончую, адміністратыўную, эканамічную і жыццёвую, створаную людзьмі і для людзей". Адначасова яна прадэманстравала магчымасці інтэрдысцыплінарнага падыходу ў вывучэнні канкрэтнага помніка. Гэтая праца можа выкарыстоўвацца ў якасці прыкладу методыкі апрацоўкі і вывучэння масавага археалагічнага матэрыялу як гістарычнай крыніцы. Несумненна, яна будзе карыснай як для археолагаў, так і для гісторыкаў, краязнаўцаў і экскурсаводаў.

Мінск *Ніна Здановіч*

# "Nowiny Lubelskie" z marca 1569 roku. Źródło do dziejów sejmu unii lubelskiej / Opracowali i wydali PIOTR DYMMEL i HENRYK GMITEREK. Lublin: Archiwum Państwowe w Lublinie, 2019. 102 s.

У 2019 г. навуковая грамадскасць адзначыла 450-гадовы юбілей падпісання Люблінскай уніі. Прадстаўнічыя канферэнцыі, прысвечаныя ўтварэнню Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, адбыліся ў Польшчы, Беларусі, Літве, Украіне, Расіі і іншых краінах. Гэтыя канферэнцыі паказалі, што саюз паміж Каронай Польскай і Вялікім Княствам Літоўскім, заключаны 1 ліпеня 1569 г., меў этапнае значэнне для далейшага развіцця народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Нягледзячы на тое, што вывучэнне Люблінскай уніі 1569 г. мае надзвычай багатую і доўгую традыцыю, увесь час паўстаюць новыя аспекты і вымярэнні гэтай даследчай праблемы. Адпаведна, увядзенне ў шырокі навуковы зварот новых або малавядомых крыніц, звязаных з ходам палітычнай барацьбы вакол заключэння уніі, – вельмі актуальная і важная задача.

Яшчэ ў 1908 г. польскі гісторык Казімеж Пуласкі надрукаваў невялікі артыкул, прысвечаны дакументу пад назвай "Nowiny Lubelskie", з падрабязным апісаннем сітуацыі на сойме ў Любліне на працягу 4–6 сакавіка 1569 г.[1]. На жаль, у пазнейшых даследаваннях, за выключэннем хіба работ Оскара Галецкага і Марэка Ферэнца[2], гэтай крыніцы не аддавалася значнай увагі[3]. І толь-

[1] Pułaski K. "Nowiny Lubelskie", fragment ze sprawozdań z Sejmu Unii 1569 // Nasza Przyszłość. Czasopismo Naukowo-literackie, społeczne i polityczne. Z. 4. Kijów, 1908. S. 593–606.

[2] Абодва гісторыкі карысталіся копіяй рукапісу канца XVIII ст., якая захоўваецца ў Кракаве: Ferenc M. Mikołaj Radziwiłł "Rudy" (ok. 1515–1584). Działalność polityczna i wojskowa. Kraków, 2008; Halecki O. Przyłączenie Podlasia, Wołynia i Kijowszczyzny do Korony w roku 1569. Kraków, 1915; Idem. Dzieje unii jagiellońskiej: w 2 t. T. 2. Kraków, 1920.

[3] Нягледзячы нават на тое, што ў свой час "Люблінскія навіны" былі размешчаны ў свабодным доступе ў сусветнай сетцы Internet: Diariusz sejmu unijnego w Lublinie z dni

кі ў 2019 г. яна дачакалася паўнавартаснага навуковага выдання, падрыхтаванага намаганнямі люблінскіх даследчыкаў Пятра Дымеля і Генрыка Гмітэрэка пры фінансавай падтрымцы Галоўнай дырэкцыі дзяржаўных архіваў у Варшаве. Заўважым, што П. Дымель займае пасаду дырэктара Дзяржаўнага архіва ў Любліне, дзе і захоўваюцца "Люблінскія навіны". У сваю чаргу, супрацоўнік Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне прафесар, доктар габілітаваны Г. Гмітэрэк вядомы сваімі даследаваннямі па гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы XVI–XVII ст.

Кніга распачынаецца "Уводзінамі", якія складаюцца з трох частак. Першая частка (9–17) прысвечана акалічнасцям з'яўлення "Люблінскіх навін" і іх зместу. Г. Гмітэрэк апісвае спрэчкі на сойме ў Любліне паміж кароннай і велікакняскай дэлегацыямі вакол зместу уніі ў студзені – лютым 1569 г. Якраз прынцыповыя разыходжанні ў поглядах на ўмовы будучага дзяржаўнага саюзу прывялі да радыкальнага і, як пасля выявілася, памылковага кроку – у ноч на 1 сакавіка дэлегацыя ВКЛ амаль у поўным складзе пакінула Люблін. Такі дэмарш зрабіў пазіцыю караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста, а таксама кароннага боку больш жорсткай, і ў пачатку сакавіка было прынята рашэнне пра далучэнне земляў Падляшша і Валыні да Кароны. Менавіта ў такіх умовах паўсталі "Люблінскія навіны", якія адлюстравалі спрэчкі і настроі, што панавалі 4–6 сакавіка 1569 г. на паседжаннях сойма, пры каралеўскім двары ды вакол яго. Гістарычны кантэкст апісаны на аснове работ О. Галецкага.

На жаль, у выданні зусім па-за ўвагай засталося фундаментальнае даследаванне Генрыка Люлевіча, прысвечанае ўтварэнню Рэчы Паспалітай і няпростым стасункам паміж палітычнымі народамі ВКЛ і Польшчы ў першыя два дзесяцігоддзі яе існавання[4]. Што датычыць пытання

4–6 III 1569 roku. Mode of access: http://www.dziedzictwo.polska.pl/katalog/skarb,Diariusz_sejmu_unijnego_w_Lublinie_z_dni_4-6_III_1569_roku,gid,205394,cid,1072.htm Date of access: 31.01.2010.

4 Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy (Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588). Warszawa, 2002.

аўтарства рукапісу, то Г. Гмітэрэк падтрымлівае выказанае яшчэ К. Пуласкім меркаванне, што “Люблінскія навіны” былі напісаны пісарам канцылярыі ВКЛ Мацеем Савіцкім для віленскага ваяводы, канцлера Мікалая Радзівіла Рудога (10, 16). У другой частцы “Уводзінаў” (19–34) П. Дымель падрабязна разглядае гісторыю самога рукапісу, адзначае яго выкарыстанне ў навуковай дзейнасці К. Пуласкага і О. Галецкага, а таксама Станіслава Пташыцкага. Звяртае ўвагу на два асобнікі “Люблінскіх навін”, што захаваліся да нашага часу: рукапіс XVI ст. з Дзяржаўнага архіва ў Любліне, якім карыстаўся К. Пуласкі, і копія канца XVIII ст. з Бібліятэкі Музея Чартарыйскіх у Кракаве, якой карыстаўся О. Галецкі. На падставе грунтоўнай знешняй крытыкі крыніцы П. Дымель прыходзіць да высновы, што менавіта польскамоўны рукапіс XVI ст. з’яўляецца арыгіналам “Люблінскіх навін” (22–24). У сваю чаргу, польскамоўная копія канца XVIII ст. была зроблена непасрэдна з арыгінала (25). Акрамя таго, пададзена апісанне знешніх прыкмет рукапісу, а таксама разгледжана пытанне яго назвы. Асобна П. Дымель спыніўся на гісторыі арыгінальнага рукапісу, асабліва ў XIX–XX ст. На старонках выдання (28–34) адкрываецца таямнічая і амаль дэтэктыўная гісторыя падарожжа “Люблінскіх навін” з Бібліятэкі Генеральнага штаба ў Пецярбургу праз познаньскага калекцыянера Марыяна Свінарскага ў Дзяржаўны архіў у Любліне. У трэцяй частцы “Уводзінаў” (35–36) змешчаны прынцыпы выдання крыніцы, а таксама шэрагу матэрыялаў, непасрэдна звязаных з яе вывучэннем. Рукапіс надрукаваны ў адпаведнасці з выдавецкай інструкцыяй 1953 г.: былі мадэрнізаваны арфаграфія, пунктуацыя і правапіс пры захаванні характэрных рысаў старапольскай мовы. Безумоўны плюс выдання – наяўнасць факсіміле арыгінальнага тэксту “Люблінскіх навін” у даволі вялікім пашырэнні (600 ppi) і без усялякага змянення атрыманай выявы (59–80). Лічым, што пры гэтым выдаўцы здолелі дасягнуць сваёй мэты – адлюстраваць рукапіс у макімальна рэальным стане (36). Можна асабіста пазнаёміцца з арыгінальным тэкстам крыніцы,

убачыць уласнаручныя праўкі яе аўтара і чытачоў, пазнакі архівістаў.

Сам тэкст "Люблінскіх навін" падрыхтаваны да друку Г. Гмітэрэкам (39–48). Крыніца насычана рознымі дзейнымі асобамі, фактамі і падзеямі, меркаваннямі і чуткамі. Аднак галоўная яе рыса – надзвычайная эмацыйная напоўненасць. Перш за ўсё можна адчуць тую напружаную палітычную атмасферу, што панавала ў Любліне ў пачатку сакавіка 1569 г. Аўтар, як ён сам сябе называў, "праўдзівы сын земскі Вялікага Княства Літоўскага" (43), не хаваў свайго абурэння рашэннем манарха і палякаў аб адарванні ад ВКЛ земляў Падляшша і Валыні. Каронны бок фактычна ставіўся ў адзін шэраг з галоўным ворагам Вялікага Княства Літоўскага – Маскоўскай дзяржавай: "нажніцы, як даўно абяцана, што вас з аднаго боку Маскоўскі [князь], а з другога боку Палякі падстрыгуць, ужо навастрыліся" (41). Шок выклікала тое, што на такі ўчынак пайшоў найбліжэйшы саюзнік. Вельмі трапна гэта выказаў падканцлер ВКЛ Астафей Валовіч на аўдыенцыі ў Жыгімонта Аўгуста 6 сакавіка 1569 г.: "Калі той вуж хаваўся да гэтага часу ў траве, а цяпер з'явіўся, то лепей бы Ваша К[аралеўская] М[ілас]ць мячом у нас тое вырваў, чым такім фортэлем, які ад прыяцеля і браткі маем, а не ад каўпака[5]. І горш мне цярпець ад брата, чым ад ворага" (48). Цень маскоўскай пагрозы станавіўся яшчэ больш змрочным. Аўтар асцерагаўся, што Маскоўская дзяржава можа выкарыстаць крызісную сітуацыю і рушыць з войскам на Кіеў, Мсціслаў, Віцебск (47). Красамоўна, што на старонках рукапісу зусім сур'ёзна пераказваліся чуткі, якія кружылі тады ў Любліне: Жыгімонт Аўгуст і палякі збіраюць войска, каб падпарадкаваць сваёй уладзе Падляшша, а можа нават ВКЛ і Валынь, усе ўрады ў Вялікім Княстве манарх будзе раздаваць "Ляхам", а тых, хто не захоча прысягнуць на вернасць Кароне, не толькі пазбавяць маёнткаў, але і пакараюць смерцю (40, 42, 45). Больш за тое, рыхтуюцца розныя "фортэлі" супраць жамойцкага старасты Яна Хадкевіча і віленскага ваяводы

[5] Г. зн. ад масквіціна.

Мікалая Радзівіла, нават з пагрозай для іх здароўя (43–44). Дарэчы, аўтар даволі ясна разумеў характар дзеянняў Жыгімонта Аўгуста ў пачатку сакавіка 1569 г.: "Пан выракся прысягі" (43). Манарх стаў выключна на бок палякаў, а ліцвіны ператварыліся ў "нявольнікаў". Аднак далейшыя падзеі паказалі, што палітычная эліта ВКЛ была на той момант проста не гатовай да адпаведных рашучых дзеянняў супраць гаспадара, які парушыў уласную прысягу і абавязак Вялікае Княства Літоўскае "въ границахъ ни въ чомъ не вменшати и овшемъ примножати"[6].

З іншага боку, "Люблінскія навіны" даволі дакладна адлюстравалі рэакцыю як кароннага боку, так і Жыгімонта Аўгуста на нечаканы, без афіцыйнага папярэджання ад'езд дэлегацыі ВКЛ з сойма. Гэты крок адназначна прывёў да радыкалізацыі пазіцыі польскай шляхты. Зноў загучалі словы пра "грубага халопа" Ягайлу, якому палякі далі "шляхетную" каралеўну, пра вольнасці, правы, свабоды і гербы, атрыманыя Вялікім Княствам ад Кароны. Сцвярджалася, што да Крэўскай уніі 1385 г. жыхары ВКЛ былі "грубымі і непрыстойнымі людзьмі, нявольнікамі паноў сваіх". Палякі ўжо больш за 170 гадоў абараняюць ліцвінаў сваёй крывёй і грашыма, але тыя не маюць ніякай удзячнасці і толькі "высакамернымі" сталі. Увогуле, ліцвіны гатовы з масквіцінамі або з татарамі братацца і тым служыць, а не заключаць з палякамі унію (41). У сваю чаргу, Жыгімонт Аўгуст ацаніў палітычны дэмарш вялікакняскай дэлегацыі як адназначную абразу. Калі адзін з "Літоўчыцаў" звярнуўся да манарха з просьбай адкласці рашэнне аб далучэнні Падляшша і Валыні на

[6] Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года / рэдкал. Т. І. Доўнар і інш. Мінск, 2003. С. 77. Між іншым, падканцлер А. Валовіч і земскі падскарбі М. Нарушэвіч (?) ужо 6 сакавіка асабіста нагадалі Жыгімонту Аўгусту, што той павінен тэрыторыю ВКЛ "пашыраць і як мінімум не змяншаць, і наадварот забранае вяртаць" (с. 46). Аднак рашэнне манарха засталося нязменным. Заўважым, што ў крыніцы не ўдакладнена, хто менавіта з падскарбіяў ВКЛ прысутнічаў на аўдыенцыі. Ім мог быць і дворны падскарбі Лаўрын Война, які таксама застаўся ў Любліне ў сакавіку 1569 г.: Ferenc M. Mikołaj Radziwiłł "Rudy" (ok. 1515–1584). S. 337.

далейшае абмеркаванне сойма, то кароль "слова не даў сказаць, з гневам [заявіў], што няхай [ліцвіны] тое піва п'юць самі, якога наварылі" (45–46). Прыкладна тое ж паўтарыў Жыгімонт Аўгуст Астафею Валовічу і Мікалаю Нарушэвічу на аўдыенцыі 6 сакавіка: "А што сабе зрабілі, тое няхай і маюць" (47). Між іншым, на старонках "Люблінскіх навін" раптоўны ад'езд з сойма велікакняскай дэлегацыі ацэньваўся як безумоўная палітычная памылка. На думку аўтара, працяг перамоў мог даць станоўчы для ВКЛ вынік, але сваім ад'ездам толькі "сабе і сваёй Рэчы Паспалітай горш учынілі" (с. 45)[7]. Ён таксама спасылаўся на словы невядомых польскіх сенатараў пра былога віленскага ваяводу Мікалая Радзівіла Чорнага, які пад час перамоў аб уніі (у прыватнасці, на варшаўскім сойме 1563–1564 г.) "каралю і ўсім радам смела казаў, сварыўся, але ніколі так не ад'язджаў уначы, абразы Пану і радам, і сабе ганьбы не рабіў" (45).

Тэкст крыніцы дае цікавыя звесткі пра адносіны ў межах самога палітычнага народа Вялікага Княства Літоўскага. Так, падзеі сакавіка 1569 г. выявілі канфлікт паміж вышэйшай часткай кіроўных колаў ВКЛ і часткай падляшскай шляхты. Аказалася, што паслы Драгічынскага павета Адам Касінскі і Мікалай Буйна з радасцю ўспрынялі далучэнне да Кароны. Абодва заявілі манарху і польскім сенатарам, што "чуюць пагрозы сабе ад Літвы, бо мы былі ў ніх заўсёды ў няміласці, у сварах, і не давяралі нам паны літоўскія, асцерагаючыся нас як сабак" (39–40). Падкрэслівалі, што служаць не віленскаму ваяводу або жамойцкаму старасту, а каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму. Праўда, частка падляшскіх паслоў спачатку падтрымала агульную пазіцыю дэлегацыі ВКЛ. Пасол Бельскага павета Каспер Ірыкавіч не хацеў, каб "паны літоўскія называлі яго здраднікам" (39). Калі верыць аўтару, то і найбольш уплывовыя дзеячы ўкраінскіх

[7] Дарэчы, у крыніцы ўказваецца, што рашэнне пакінуць паседжанні Люблінскага сойма ў ноч на 1 сакавіка 1569 г. было прынята разам М. Радзівілам Рудым і Я. Хадкевічам, а не толькі віленскім ваяводам, як гэта традыцыйна лічыцца ў гістарыяграфіі (46).

земляў з абурэннем аднесліся да адарвання Падляшша і Валыні ад ВКЛ. Так, кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі нібыта заявіў наступнае: "Злітуйся, Божа, што мяне да карчмароў, нягоднікаў, Касінскага махляра і Буйна прыраўнялі. Я ў гэтай кампаніі быць не хачу і, дай Бог, не буду да смерці" (43). Цікава, што, па чутках, такое непрыманне К. Астрожскім далучэння да Кароны падтрымала і яго жонка, прадстаўніца вядомага польскага роду Зоф'я Тарноўская. Нават перад пагрозай магчымай канфіскацыі маёнткаў у Польшчы яна даводзіла мужу: "А калі да чаго-небудзь прыйдзе, каб [ён] хутчэй застаўся пры Айчыне, любячы дабрадзейнасць і пакліканне сваё княскае і продкаў сваіх, і не глядзеў, што яна за ім Полька" (43). Аўтар выказваў шчырае здзіўленне з падобнай яе пазіцыі. Аднак з-за пасіўнасці і расколу ў сваіх шэрагах кіроўныя колы ВКЛ страцілі шанец утрымаць на сваім баку палітычную эліту ўкраінскіх земляў. У выніку магнатэрыя і шляхта Валыні, а пасля і Кіеўшчыны згадзіліся перайсці пад уладу Польшчы[8]. Нездарма аўтар крыніцы заклікаў уладную эліту Вялікага Княства "не ў вёсцы над Нёманам сядзець, а ў Вільні, і мець вока на ўсё… Пра з'езд супольны думаць… бо трэба цяпер злучыцца моцна, як было і на Люблінскім сойме" (42).

Кніга мае некалькі дадаткаў (*Faksymilia*). Па-першае, як ужо адзначалася вышэй, выдаўцы змясцілі факсіміле арыгінальнага рукапісу крыніцы. Факсімільнае выданне дае магчымасць вывучаць не толькі гістарычны змест дакумента, але і асаблівасці польскай мовы, якой карысталіся шляхцічы ВКЛ у XVI ст. Заўважым, што ў тэксце сустракаецца пэўная колькасць "русчызны", запісаная лацінскімі літарамі: "Boh pomahaj kroliowi szto takije choroszyje dajesz" (44), "okajannych", "bolszaja", "nado być obo wsiem" (45), "odno aby na odnoho bieda prudszaja" (46).

[8] Гл. напр.: Litwin H. Kijowszczyzna, Wołyń i Bracławszczyzna w 1569 roku. Między unią a inkorporacją // Праблемы інтэграцыі і інкарпарацыі ў развіцці Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў перыяд ранняга Новага часу: Матэр. міжнар. навук. канф. / навук. рэд. С. Ф. Сокал, А. М. Янушкевіч. Мінск, 2010. С. 186–203.

А гэта, на нашу думку, сведчыць, што на той час велікакняская шляхта існавала ў розных моўных стыхіях. Па-другое, надрукавана факсіміле артыкула К. Пуласкага 1908 г. (83–98), які стаў першай спробай навуковага аналізу "Люблінскіх навін". На с. 101–102 змешчана лічбавая копія аналітычнай запіскі (*Opinia*), спецыяльна прысвечанай дадзенай крыніцы і напісанай у студзені 1925 г. тагачасным дырэктарам Дзяржаўнага архіва ў Любліне С. Пташыцкім. Запіска была падрыхтавана для мясцовых гарадскіх уладаў, якія напрыканцы 1924 г. атрымалі ад калекцыянера М. Свінарскага прапанову набыць у яго рукапіс "Люблінскіх навін" і звярнуліся да вядомага польскага гісторыка і архівіста за прафесійным меркаваннем. С. Пташыцкі правёў знешнюю крытыку рукапісу, паказаў яго гісторыю, а таксама выказаў свой погляд на навуковую вартасць крыніцы і яе рэальны рынкавы кошт. Па ўсім відаць, менавіта ў 1920-я г. арыгінал "Люблінскіх навін" вярнуўся ў Люблін. Падкрэслім, што гэтая запіска друкуецца ўпершыню. Акрамя таго, рэцэнзаванае выданне мае бібліяграфічны спіс, на наш погляд, – даволі абмежаваны (49–50) і разгорнутае англамоўнае рэзюмэ (51–54). На жаль, адсутнічаюць такія важныя элементы навукова-даведачнага апарату, як іменны і геаграфічны паказальнікі, тэрміналагічны слоўнік, што, безумоўна, палегчыла б працу карыстальнікаў.

Такім чынам, можна толькі павіншаваць польскіх калег і ўсіх даследчыкаў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага з выхадам гэтага сур'ёзнага выдання, выкананага на высокім навуковым і тэхнічным узроўні. Для вывучэння Люблінскага сойма 1569 г. і спрэчак, якія разгарнуліся на яго паседжаннях, вакол умоў новай уніі выдадзены рукапіс мае дапаможны характар. Аднак "Люблінскія навіны" з'яўляюцца вельмі важнай крыніцай для даследавання настрояў у шляхецкім асяроддзі ВКЛ і Польшчы, узаемаадносін паміж элітамі абедзвюх дзяржаў, а таксама палітычнай свядомасці велікакняскай шляхты.

Мінск *Уладзімір Падалінскі*

## КОРМИНА, ЖАННА В. Паломники. Этнографические очерки православного номадизма. Москва: Издательский дом Высшей школы экономики, 2019. 349 с.

Новая манаграфія прафесара Вышэйшай школы эканомікі ў Маскве Жанны Кормінай абапіраецца пераважна на палявыя матэрыялы, сабраныя на паўночным захадзе Расіі, аднак назіранні і высновы, зробленыя ў ёй, у значнай ступені рэлевантныя для аналагічных культурных практык у Беларусі. Пры наяўнасці ўласных святыняў беларускія праваслаўныя вернікі актыўна падарожнічаюць да культавых мясцін ў Расіі, а аб'явы наведаць аўтобусным турам мошчы Матроны Маскоўскай ці Пячорскі манастыр можна сустрэць практычна ў любой паломніцкай службе. Тое ж датычыцца праваслаўных кірмашоў: да нас прыязджаюць прадстаўнікі манастыроў і прыходаў з Расіі і Украіны, і досвед наведвання такіх мерапрыемстваў, якія апісвае аўтар, лёгка паўтарыць у Мінску ці ў любым іншым буйным горадзе ў пэўныя дні. Таму праца спадарыні Кормінай заслугоўвае ўважлівага прачытання ў сучаснай Беларусі, і гэтай рэцэнзіяй мне хацелася б звярнуць увагу на асноўныя аўтарскія тэзісы, іх моцныя і слабыя бакі, а таксама магчымасць выкарыстання прапанаваных падыходаў на беларускім матэрыяле.

Назва кнігі "Пілігрымы" ("Паломники") лёгка можа ўвесці ў зман, калі чытач мяркуе даведацца пра тыя доўгія працэсіі, якія з дня ў дзень ідуць пешшу па дарогах да нейкай знакамітай святыні. У кнізе такія формы мабільнасці практычна не згадваюцца. У першую чаргу аўтарская ўвага скіравана на аўтобусных пілігрымаў, якія выпраўляюцца арганізаванымі турамі ў дарогу, звычайна на дзень-два. Шырока спасылаючыся на літаратуру па антрапалогіі турызму, аўтар тым не менш выкарыстоўвае менавіта слова *пілігрымы*, якім называюць сябе самі ўдзельнікі такіх паездак, а словазлучэнне *рэлігійны турыст* лічыць у гэтым выпадку няўдалым і ацэначным. Яе базавая ўстаноўка заключаецца ў тым, што яна адмаўляецца

падзяляць пілігрымаў на “правільных” і “няправільных”, якія не адпавядаюць пэўнаму стандарту.

Ужо ў самым пачатку звяртае на сябе ўвагу стыль аўтара. Гэта вельмі адкрыты, не сціснуты фармальнымі акадэмічнымі рамкамі тэкст. Аўтар піша ад першай асобы, выкарыстоўвае саманазіранні для лепшага абгрунтавання сваёй навуковай пазіцыі, часам тэкст па жанры набліжаецца да рэпартажу, каб пасля зноў вярнуцца ў рэчышча навуковых рэфлексій. Дзякуючы гэтаму кніга лёгка, з цікавасцю чытаецца і пры гэтым ніяк не страчвае навуковай якасці.

Тая ж адкрытасць назіраецца і ў прызнанні аўтарам тых аб’ектыўных складанасцяў і канфліктных момантаў, якія сёння стаяць перад даследчыкам расійскага праваслаўя. Напрыклад, яна прызнае наяўнасць “атмосферы раздражения вокруг РПЦ в академическом, журналистском и интеллигентском сообществах в России” (44). У гэтай сітуацыі позірк навукоўца – найлепшая магчымасць не страціць баланс, пракаментаваць сітуацыю з аднаго з бакоў, далучыцца да спрэчкі: “Если посмотреть на факт раздражения аналитически, то легко заметить, что его базовые причины кроются в естественной человеческой реакции на нарушение класификационных схем. Не всегда ясно, где проходит воображаемая граница между религиозным и светским, и эта размытость и проницаемость границы заставляет одних думать, что происходит насильственная клерикализация их повседневной жизни, а других – что, наоборот, мир вторгается в Церковь, пытается судить её по своим законам” (44).

Трэба прызнаць, што гэта адзіна слушная стратэгія, калі даследчыку даводзіцца закранаць такія далікатныя і канфліктныя тэмы. Таксама аўтар прызнае наяўнасць “атмасферы ксенафобіі”, што нярэдка артыкулюецца ўнутры праваслаўнага асяроддзя як фактара, які часам робіць даследчую працу маральна складанай, а заадно ясна прамаўляе, што не з’яўляецца і ніколі не была верніцай.

Я звяртаю ўвагу на ўсе гэтыя аспекты, бо ў беларускай этналогіі і блізкіх да яе дысцыплінах практыка адкрытай самарэфлексіі і прызнання канфліктнасці “поля”

практычна поўнасцю адсутнічае. Незаўважнасць аўтара ў ягоным навуковым тэксце звычайна прызнаецца натуральнай асновай навуковай аб’ектыўнасці, хоць аўтарскія сімпатыі выдатна прачытваюцца ў такіх уяўна безасабовых тэкстах. Між тым, даследаванне многіх “антрапалагічных” тэм, і рэлігійнасць займае тут не апошняе месца, непазбежна злучана з суб’ектыўным стаўленнем аўтара да пытання, яго перавагамі і сімпатыямі. Адкрытая аўтарэфлексія тут вельмі важная. Позірк навукі, навукоўца – гэта выкарыстанне прынцыпова іншай эпістэмалагічнай сістэмы, адрознай ад той, якую выкарыстоўвае вернік ці святар. Дысананс, канфліктнасць закладзены ад пачатку, і навуковая аўтарэфлексія – гэта адзіны спосаб калі не прыбраць, то зменшыць, кампенсаваць яго эфект.

Ва ўводзінах мы сустракаем яшчэ адну важную аўтарскую заўвагу, якая дапамагае значна лепш, чым назва кнігі, зразумець яе асноўную тэму: “Этнография способов аффилирования с православием, ethnography of belonging, является одной из центральных тем в этой книге” (28). Іначай кажучы, прапанаванае даследаванне ў першую чаргу пра тое, як людзі, якія належаць да праваслаўнай культуры, шукаюць спосабаў рэалізацыі гэтай прыналежнасці па-за сценамі храмаў і ўласных прыходаў.

Адзначыўшы гэта, больш зразумелай становіцца і структура кнігі, якая складаецца з даволі аб’ёмных уводзінаў[1] і чатырох раздзелаў, з якіх толькі першы (“Автобусники”) прысвечаны пілігрымцы як працэсу, а астатнія тры аналізуюць месцы, рэчы і асобаў, якія робяцца кропкамі прыцягнення для пілігрымаў. Яны апісваюць тыя локусы, дзе адбываюцца паза- ці каляцаркоўныя формы афіляванне з праваслаўем.

Першы раздзел, як можна зразумець з назвы, апісвае працэс аўтобуснага паломніцтва – ад выбару тура да спецыфікі паводзінаў у аўтобусе і на месцы прызначэння. Менавіта гэта і выступае, па словах аўтара, галоўнай мэтай большасці ўдзельнікаў такіх паездак – “возможность

[1] З поўным тэкстам уводзінаў можна пазнаёміцца на старонцы выдавецтва: https://id.hse.ru/books/303588987.html

побыть паломниками" (70). Адпаведна, вялікае значэнне атрымлівае сам працэс, дробныя дэталі і паводзіны кіраўніка групы, якія дапамагаюць захоўваць спецыфічны настрой і атмасферу паломніцтва, не выпадаючы з яе. У гэтым спісе асабліва вылучаюцца складанасці падарожжа: нязручны транспарт, адсутнасць нармальнага харчавання і выгод, паломкі ды разбітыя дарогі і нават дрэнная арганізацыя самога паломніцтва. Існаванне ў сакральным модусе становіцца апраўданнем для самых недарэчных сітуацый, уключаючы немагчымасць трапіць да мэты пілігрымкі.

Для чалавека, незнаёмага з практыкай сучасных праваслаўных пілігрымак, могуць падацца незвычайнымі многія іх дэталі. Напрыклад, канцэпт "цуду", яго магчымасці, які стагоддзямі быў рухавіком пілігрымак у заходнім і ўсходнім хрысціянстве, цяпер значна змяніўся, можна сказаць, здрабнеў. Па назіраннях аўтара, пілігрымы сёння, калі выпраўляюцца ў падарожжа, не разлічваюць на цуд у звыклым сэнсе гэтага слова. Кантакт з сакральнымі аб'ектамі яны найчасцей успрымаюць як псіхатэрапеўтычную дапамогу, якая дапамагае ім перажыць штодзённыя складанасці. Хоць цуды ацалення і ў нашы дні яшчэ сустракаюцца, для большасці пілігрымаў яны вядомыя толькі па расповедах і самі яны ўсур'ез на іх не спадзяюцца. Затое цудам, напрыклад, лічыцца здольнасць выстаяць на нагах доўгую царкоўную службу для неафіта, у якога раней гэта не атрымлівалася.

Акрамя звычайнага для любой добрай манаграфіі фактаалагічнага ўзроўню, які дапамагае нам лепш зразумець абраную тэму, кніга Жанны Кармінай карысная тым, што ясна паказвае на неабходнасць рэвізіі асноўных тэрміналагічных паняццяў, якімі мы апісваем сферу рэлігійнага. Пілігрымка, цуд, вернік – гэтыя і іншыя паняцці належаць не толькі навуковай, але і штодзённай мове, і іх змест у значнай ступені сфармаваны сацыяльнымі парадкамі і літаратурнымі творамі XIX ст., хоць аснова іх, вядома ж, сягае значна глыбей. Чытанне манаграфіі ясна паказвае дысананс паміж звыклымі нам значэннямі і тым, што навуковец знаходзіць у час палявых даследаванняў.

Выкарыстанне такіх значэнняў для апісання сучаснага рэлігійнага жыцця істотна скажае яго карціну, прымушае даследчыкаў сярод вялікага аб'ёму матэрыялу свядома ці не выбіраць адпаведнікі гэтым зместам, шукаць аўтэнтычнасць і пакідаць па-за ўвагай матэрыял, які ў такія крытэрыі не ўпісваецца.

Не менш нечаканыя і вынікі разгляду месцаў прыцягнення паломнікаў у наступных частках. У другім раздзеле "Намоленное место" аналізуецца, як аднаўляюцца (ці ствараюцца) і функцыянуюць сакральныя локусы. Цікава, што і тут тэрміналогія ўкарэнена ў гістарычных зменах, часта нядаўніх. На думку аўтара, "похоже, что понятие намоленного места если не появилось, то во всяком случае актуализировалось только в постсоветский период православного ренессанса" (125). Парадаксальным чынам для гістарызацыі сакральнага локуса выкарыстоўваецца даволі новае паняцце.

У той жа час многія формы рэлігійнасці, што рэалізуюцца ў такіх месцах, добра вядомыя даследчыкам і з XIX ст., а таксама канфлікты паміж "народным" і афіцыйным праваслаўем, якія іх суправаджаюць. Царква ў дачыненні да такіх месцаў заўсёды апынаецца перад шэрагам дылем. На першым узроўні яна стаіць перад пытаннем, прызнаць ці не народную святыню, што вызначае далейшую стратэгію паводзінаў. Калі ўсё ж святыня (паклонны крыж, крыніца, месца "цуду" і г. д.) прызнаецца царквою, то наступным этапам выступае спроба рэалізацыі кантролю (улады) царквы над такім месцам. З аднаго боку, царква спрычыняецца да абсталявання і ўпарадкавання месца паломніцтва, даволі часта будуе невялікі храм, каб мець магчымасць праводзіць набажэнствы. Яна спрабуе рэгламентаваць, задаць уласную структуру народнай святыні. З іншага боку, яна імкнецца рэгламентаваць і паводзіны пілігрымаў, якія часта адхіляюцца ад нарматыўнага праваслаўя: людзі мала цікавяцца фармальным набажэнствам, затое, напрыклад, ахвотна ўдзельнічаюць у акунанні ў купелі і г. д. (Канфлікт гэты добра вядомы і ў сучаснай Беларусі ў стаўленні Беларускай праваслаўнай царквы да звычаю акунацца ў ваду ў палонцы на Вадохрышча.

У некаторых рэгіёнах царква нават прынцыпова не асвячае такія палонкі.)

Жанна Корміна выкарыстоўвае тэрмін "воцерковление" ў дачыненні да сакральных локусаў: «"Воцерковление" священником святыни состоит в переводе обнаруженного им там "народного православия" на церковный язык» (146). Аднак, як і з вернікамі, фармальнае "воцерковление" далёка не заўсёды азначае адпаведнасць чалавека ці месца ўсім патрабаванням ці канонам. Падобна, што існаванне зазору паміж фармальнымі патрабаваннямі і тым, што мы назіраем на самай справе, з'яўляецца неад'емнай характарыстыкай праваслаўнай культуры, і ў гэтым зазоры рэлігійныя практыкі дэманструюць надзвычайную ўстойлівасць і вітальнасць.

Адзначым, што далёка не ўсе прыведзеныя аўтарам прыклады ўпісваюцца ў логіку адраджэння і выкарыстання традыцыі ўшанавання пэўнага месца на новы лад. Самы неверагодны кейс датычыцца "Майсеевай крыніцы" ў сяле К. Свярдлоўскай вобласці, якая была створана на роўным месцы ў 2000-я г. у межах дзяржаўнай праграмы "Крыніцы", накіраванай на развіццё крыніц пітной вады ў рэгіёнах. На пагорку каля цэнтра сяла быў зроблены калодзежны зруб, у які падвялі трубамі водаправодную ваду. Крыніцу вырашылі назваць Майсеевай па прозвішчы мясцовага купца-мецэната XIX ст. і асвяцілі. Калодзеж напаўняецца толькі ў патрэбныя дні, звычайна ў царкоўныя святы. Тады адкрываюць кран, і ўсе ахвочыя бяруць з калодзежа ваду ці акунаюцца ў купель пры ім. Тое, што вада падаецца водаправодам, не сакрэт і не шкодзіць папулярнасці "Майсеевай крыніцы". Звязана гэта ў тым ліку з тым, што "в современной России источники и колодцы, обустраиваемые местными или бывшими местными жителями, едва ли не неизбежно становятся православными", і гэты прынцып падзяляецца нават на самыя штучныя варыянты (175).

Прыведзены прыклад зноў вяртае нас да праблемы сапраўднасці і аўтэнтычнасці. З пункту гледжання вонкавага назіральніка, сітуацыя ў сяле К. можа падацца абсурднай і быць успрынятай як прыклад грубай фальсіфікацыі

традыцыі і прафанацыі сакральных практык. Але з перспектывы людзей, якія прыходзяць да Майсеевай крыніцы на чарговае свята, яна выступае сакральным локусам – і паводзяць яны сябе ў адпаведнасці з гэтым. У гэтай сітуацыі ясна, што навуковец, этнолаг не мае права выступаць цэнзарам – яго перспектыва павінна супадаць з перспектывай удзельнікаў тых рытуальных практык.

Фармальная логіка – увогуле не лепшы праваднік па свеце сучаснай праваслаўнай рэлігійнасці. Шмат прыкладаў таму можна знайсці ў другой частцы раздзела, прысвечанага знаходжанню (“обретению”) мошчаў. У цэлым шэрагу выпадкаў адзіным пацверджаннем прыналежнасці знойдзеных парэшткаў таму ці іншаму святому з’яўляецца водар, які пачынаюць адчуваць людзі каля іх. І таму таксама абраная аўтарам этнаграфічная перспектыва ўяўляецца нам найбольш удалай. Яна дазваляе пазбавіцца звыклай розніцы ў стаўленні, з аднаго боку, да народнай рэлігійнасці, якой даруюцца любыя вераванні і нелагічныя пабудовы, бо гэта “фальклор”, “народная культура” – сферы, унутраны змест якіх традыцыйна ляжыць па-за навуковай крытыкай, і з іншага боку – да афіцыйнага праваслаўя, да якога часта звяртаюцца з навуковай меркай і абвінавачваюць у нелагічнасці, забабоннасці і цемрашальстве. Між тым, гэта блізкія паміж сабою сферы адносін з сакральным, роўнааддаленыя ад рацыянальных асноваў, якім яны пярэчаць толькі фармальна, але насамрэч належаць да іншай плоскасці.

Трэці раздзел кнігі называецца “Святыя”, яго тэма – феномен шанавання старцаў, асобаў, якіх людзі пры жыцці лічаць святымі і выпраўляюцца ў пілігрымку, каб сустрэцца з імі. Амаль увесь раздзел прысвечаны разбору кейса старца Мікалая Гур’янава, які другую палову жыцця правёў на востраве Заліта на Пскоўскім возеры, дзе і памёр у 2002 г. Сёння ўжо яго магіла стала месцам, да якога прыязджаюць пілігрымы, а дом, дзе ён жыў, выконвае функцыі музея. Так сітуацыя выглядае звонку, для неабазнанага чалавека. Даследчая оптыка Жанны Кормінай дазваляе ўбачыць яе знутры як сістэму канфліктаў вакол крыніцы сакральнасці за ўладу над ёю і за

права інтэрпрэтацыі гэтай сакральнасці. Яшчэ пры жыцці старца доступ да яго фактычна быў абмежаваны групай "ахоўніц" – жанчын, якія гатавалі ежу і выконвалі хатнюю працу, а заадно вырашалі, каго пусціць у дом, а каго не, бо Мікалай Гур'янаў быў ужо слабы здароўем. Нават пасля смерці яго "дом-музей" і сама спадчына выкарыстоўваюцца для прасоўвання тых ці іншых маргінальных ідэй. Напрыклад, у інтэр'ер дома памерлага старца змяшчаюць ікону Грыгорыя Распуціна, які не прызнаецца святым праваслаўнай царквою, каб давесці, што старац шанаваў яго пры жыцці. І гэтак далей. Характэрна, што афіцыйная царква мае толькі нязначны ўплыў на развіццё культу старца і не можа яго рэгуляваць.

Сюжэты трэцяга раздзела – выдатная нагода задумацца над тым, як даўно складзеная ў нарадазнаўчых навуках дыхатамія народнай і афіцыйнай рэлігіі пакідае па-за ўвагай тое, што знаходзіцца паміж двума названымі полюсамі. Гэтая "шэрая" зона запоўнена разнастайнымі групоўкамі з тымі ці іншымі палітычнымі поглядамі, людзьмі, якія прэтэндуюць быць экспертамі ў пытаннях рэгламентацыі сакральнага, нарэшце, асобамі, якія кіруюцца ўласнымі ўяўленнямі і інтарэсамі і маюць ускоснае дачыненне і да афіцыйнай царквы, і да народнай рэлігійнасці. Гэта маргінальнае, але вельмі актыўнае і таму ўплывовае поле, якое адбіваецца на тым, як успрымаецца ўся праваслаўная культура сёння. Тут карысным будзе нагадаць адно старое, хай сабе і аднабокае, вызначэнне рэлігіі як "сістэмы кіравання сакральным"[2]. Менавіта ўсведамлення катэгорыі ўлады як неад'емнай для разумення феномена рэлігійнасці, у тым ліку народнай, так часта не хапае нашым сучасным этналагічным даследаванням у гэтай галіне.

Апошні (чацвёрты) раздзел, найменшы па аб'ёме, прысвечаны феномену праваслаўных выставаў-кірмашоў, добра знаёмых нават тым, хто да праваслаўнай культуры не мае ніякага дачынення, з-за актыўнай рэкламы

[2] Зенкин С. Н. Небожественное сакральное: Теория и художественная практика. Москва: РГГУ, 2012. С. 57.

такіх кірмашоў у гарадской прасторы, у тым ліку ў Мінску. Аўтар дае нам магчымасць зазірнуць у гэты свет, які аказваецца такім жа пярэстым і вольным ад фармальнай уніфікацыі, як і іншыя апісаныя ёю спосабы афіляцыі з праваслаўнай культурай. Тут мы зноў бачым, якімі запатрабаванымі робяцца пазахрамавыя зоны маніфестацыі праваслаўнай культуры і прыналежнасці да яе, а сакральны локус можа ўзнікаць адвольна – па-за межамі фармальных “святынь” ад храма да крыніцы. “Сакральное пространство, как показывают православные ярмарки, может создаваться практически где угодно и на сколь угодно короткий срок” (305).

Праваслаўны кірмаш – гэта ў першую чаргу магчымасць для аўтара звярнуцца да тэматыкі эканамічнай антрапалогіі і прасачыць, як адбываецца прапанова і спажыванне тавараў і паслуг, як фарміруюцца сувязі, адрозныя ад звыклага грашова-таварнага рынку. Тут плата называецца ахвярай, кошты схаваны ад вачэй, стасункі паміж “прадаўцом” і “пакупніком” адбываюцца ў межах асаблівага этасу даверу, дзе прынцыпова немагчыма праверыць якасць большасці замоўленых паслуг, асноўная з якіх – малітва. Само ўжыванне эканамічнай тэрміналогіі тут можа падацца актам прафанацыі, паколькі яна прынцыпова выключана са сферы ўзаемаадносін паміж удзельнікамі кірмашу, але трэба памятаць, што перад намі аналітычнае даследаванне і ўрэшце ў самой назве такіх мерапрыемстваў заяўлена слова *кірмаш*.

Чытанне прысвечанага кірмашу раздзела прымушае задумацца пра тое, да якой ступені табуяванай застаецца тэма рэлігійнай прагматыкі і эканамічных стасункаў паміж вернікамі і царквою, а таксама альтэрнатыўнымі пастаўшчыкамі рэлігійных паслуг. Гэта тэма, пра якую не прынята пісаць у навуковых даследаваннях у нашай частцы Еўропы, і нават публіцысты рэдка закранаюць яе (без уліку скандалаў, звязаных з праявамі раскошы ў жыцці найвышэйшых іерархаў). Верагодна, тут праяўляецца і культурная ўстаноўка пэўнага піетэту перад царквою як інстытуцыяй, які замацаваўся культурна і сярод тых, хто не належыць да ліку вернікаў. Акрамя таго,

позірк на сферу сакральнага ў такой перспектыве, хай і не аналітычнай, быў уласцівы для навуковага атэізму савецкіх часоў, а таму ў значнай ступені можа лічыцца дыскрэдытаваным. Аўтар даволі смела выводзіць нас з гэтай табуяванай зоны і паказвае, што мова securing эканамічнай антрапалогіі цалкам адэкватная і рэлевантная для апісання такога феномена, як праваслаўны кірмаш.

Нельга не прызнаць, што даследаванне такога кшталту, нават калі аўтар паслядоўна трымаецца на дыстанцыі і пазбягае прамой крытыкі тых ці іншых практык, мае дэсакралізацыйны эфект. Яно выстаўляе на святло логікі і розуму тое, што існуе па сваіх унутраных канвенцыях і ў адпаведнасці з імі стварае сэнсы і зместы. Навуковая перспектыва робіцца дэсакралізацыйнай *per se*, і аўтар, які паслядоўна імкнецца дыстанцыявацца ад гэтага эфекту на працягу кнігі, усё ж завяршае яе даволі нечаканым прызнаннем: “Эта интимность религии, реальная или приписываемая ей опасливыми этически сензетивными секулярными наблюдателями, поддерживает её дюркгеймианскую репутацию чего-то отдельного и запретного и, добавим, непостижимого. Надеюсь, что разговоры о святости и старчестве, мощах и святых местах, юродстве и самотрансформации, чистоте, простоте и намоленности, что велись в этой книге, доказывают обратное” (313).

Калі наяўнасць такога адкрытага выказвання аўтарскай пазіцыі і апраўдана, то можа быць, толькі так, у самым канцы, дзе чытачу пасля кропкі застаецца толькі задацца пытаннем, ці так гэта насамрэч. І ці можна ўсё тое ж самае сказаць не толькі пра рэлігію, але і пра феномен сакральнага, які ляжыць у яе аснове. У адрозненне ад аўтара, я палічу тут за лепшае ўстрымацца ад адказу.

Працу Жанны Кормінай я пастараўся разгледзіць не на прадмет моцных / слабых бакоў, а ў прагматычнай перспектыве вылучэння тых акцэнтаў і высноў, якія дапамагаюць нам лепш зразумець феномен сучаснага праваслаўя – а іх, відавочна, у кнізе больш чым дастаткова. І ўсё ж не лішнім будзе коратка адзначыць і некаторыя крытычныя заўвагі, якія непазбежна ўзнікаюць пры прачытанні манаграфіі.

Па-першае, большасць палявога матэрыялу кнігі паходзіць з Масквы, Пецярбурга і паўночна-заходняга рэгіёна Расіі. Застаецца загадкай, ці існуе ў апісаных формах афіляцыі з праваслаўем хоць нейкая рэгіянальная спецыфіка і наколькі прыведзеныя вынікі рэлевантныя для ўсёй праваслаўнай супольнасці Расіі. Можа быць, у межах такой вялікай краіны гэта і залішняе пытанне, тым больш што і сам фармат даследавання не прадугледжвае нейкай выбаркі, фармальнай рэпрэзентацыйнасці, а ўсё ж яно рэгулярна паўстае пры чытанні даследавання.

Па-другое, у кнізе зусім не разглядаюцца, насуперак назве, традыцыйныя пешыя пілігрымкі, якія сёння таксама практыкуюцца ў Расіі. Без гэтага кніга падаецца няпоўнай, нібы пазбаўленай цэнтра. Незразумелым застаецца, ці мае аўтар на ўвазе, што аўтобусная паездка да святыні нічым прынцыпова не адрозніваецца ад пешай пілігрымкі?

Магчыма, больш увагі можна было аддаць праваслаўю як палітычнай рэлігіі ў сучаснай Расіі, якая моцна звязана з дзяржаўнай ідэалогіяй, што дэманструецца ўдзелам у набажэнствах вышэйшага кіраўніцтва краіны. Праваслаўная культура, у тым ліку пазацаркоўная, транслюе не толькі рэлігійныя, але і палітычныя зместы, а таму афіляцыя з праваслаўем часта ідзе поруч з падтрымкай / дэманстрацыяй пэўных палітычных поглядаў. Тэма гэта не менш вострая, чым эканамічная антрапалогія рэлігійнай сферы.

Але і без гэтага “Паломнікі” застаюцца адной з лепшых прац па этнаграфіі праваслаўнай культуры за апошнія гады, чытаць якую ў Беларусі не менш цікава і карысна, чым у Расіі. Большасць апісаных аўтарам сюжэтаў знаходзяць паралелі ў нашых рэаліях, а зададзеныя ёю эпістэмалагічныя мадэлі, без сумневу, могуць быць паспяхова ўжыты і на беларускім матэрыяле.

Мінск *Сяргей Грунтоў*

# БАГДАНОВІЧ, ВЯЧАСЛАЎ. Царква і дзяржава: выбраныя артыкулы і прамовы / укл. А. С. Горны. Мінск, 2019. 204 с.

У айчыннай гістарычнай навуцы дакументальныя зборнікі крыніц, прысвечаныя дзеячам беларускага нацыянальнага руху, – выданні даволі рэдкія. З перспектывы гістарычнай антрапалогіі вывучэнне персаналій, звязаных з нацыянальным рухам, мае вялікі навуковы і грамадскі інтарэс. Спалучэнне біяграфіі і крыніц, пры выкарыстанні адпаведнай метадалогіі, дае магчымасць прасачыць глыбінныя каштоўнасныя змены ў светапоглядзе асобы, што адбываліся пад час пераломных падзей першай паловы XX ст. і былі звязаны з асэнсаваннем і ўсведамленнем сваёй беларускай ідэнтычнасці. Асаблівую цікавасць у кантэксце фармавання беларускай мадэрнай нацыі выклікае пытанне ролі Праваслаўнай царквы і яе вернікаў, асоб, цесна звязаных з царкоўным і грамадкім беларускім жыццём. Усё гэта актуалізуе рэцэнзаваную кнігу, прысвечананую асобе Вячаслава Васілевіча Багдановіча, якую ўклаў кандыдат гістарычных навук Аляксандр Горны.

Гістарыяграфію біяграфічных выданняў, прысвечаных беларускім рэлігійным дзеячам міжваеннай Заходняй Беларусі, цяжка назваць вялікай[1]. Больш шырокае вывучэнне атрымала пытанне сувязі беларускага нацыянальнага руху і Каталіцкай царквы[2]. У міжваенны перыяд

[1] Адно з найбольш вядомых выданняў, дзе сабраны 172 біяграмы: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.: Жыццярысы, мартыралогія, успаміны / аўт.-укл. Ю. Гарбінскі. Мінск – Мюнхен: Беларус. кнігазбор, 1999.

[2] Мазько Э. А. Уплыў беларускай хрысціянскай дэмакратыі на фарміраванне культурнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі ў 20–30 гг. XX ст.: аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук. Гродна, 2003. 21 с.; Moroz M. “Krynica”: ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu. Białystok, 2001. 230 с.; Мруз М. Каталіцызм на паграніччы: адносіны каталіцкай царквы да ўкраінскага і беларускага пытання ў Польшчы ў 1918–1925 г. / пер. з польск. Мінск, 2009; Сто асобаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі / [укл. П. Севярынец]. Менск, 2017. 231 с.

у Заходняй Беларусі аформіўся Беларускі хрысціянска-дэмакратычны рух на чале з А. Станкевічам[3], В. Гадлеўскім[4], якім прысвечаны шэраг выданняў. У той жа час малавядомай застаецца аналагічная праблематыка, датычная Праваслаўнай царквы. Прысутнасць беларускага нацыянальнага кампанента ў жыцці Праваслаўнай царквы міжваеннай Заходняй Беларусі – пытанне актуальнае[5]. Жыццё і дзейнасць выбітных асоб беларускага руху – С. Паўловіча, А. Каўша, І. Карчынскага і іншых, звязаных з праваслаўем, яшчэ не дачакаліся грунтоўнага манаграфічнага даследавання або публікацыі іх творчай спадчыны[6].

Кніга падрыхтавана як духоўна-асветніцкае выданне, яна выйшла пры падтрымцы Гродзенскай епархіі

[3] Луцкевіч Л. Адам Станкевіч. Вільнюс, 2002. 23 с.; Конан У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі. Мінск, 2003. 127 с.; Вашкевіч А. Адам Станкевіч: прадаўжальнік справы Скарыны і Багушэвіча. Мінск, 2017. 63 с.

[4] Вашкевіч А. Вінцэнт Гадлеўскі: насуперак часу. Мінск, 2018. 185 с.

[5] Больш дэталёва аб праблеме беларусізацыі праваслаўнай царквы: Цымбал А. Г. Праваслаўная царква ў Заходняй Беларусі (1921–1939). Мінск, 2016. 123 с.; Горный А. С. Белорусское национальное движение в православных учебных заведениях Польши в 1920-х гг. // Studia Bialorutenistyczne. Vol. 10. 2016. С. 39–53; Беларусізацыя Праваслаўнай Царквы ў міжваенны перыяд: дакументы і матэрыялы. Ч. 1 / уступ. арт., публ. і заўв. А. С. Горнага // Хронос. Церковно-исторический альманах. 2017. № 5. С. 142–161; 2018. № 6. С. 202–213.

[6] Неабходна згадаць некалькі артыкулаў і невялікіх выданняў, прысвечаных названым асобам: Луцкевіч Л. Аляксандр Коўш. Вільня, 1999. 12 с.; Горны А. С. Протаіерэй Іаан Карчынскі. Старонкі жыцця і творчасці // Труды Комиссии по канонизации в Белорусской Православной Церкви. Жировичи, 2014. С. 38–53; Горны А. Протаіерэй Аляксандр Коўш: вяртанне з забыцця // Гродненские епархиальные ведомости. 2011. № 11. С. 13–17; Святланіч П. Да юбілею Сяргея Паўловіча // Царкоўнае слова. 2015. № 38. С. 13; Кулажанка Л. Сяргей Паўловіч як асветнік і перакладчык: [С. К. Паўловіч] // Царкоўнае слова. 2010. № 38. С. 10–11; Бунеева Л. Нарадзіўся на Драгічыншчыне, спатрэбіўся ў Вільні: [С. К. Паўловіч] // Вечерний Брест. 2010. № 76. С. 2; Вабішэвіч А. "Каб жыць пад сваім небам…": Навукова-педагагічная спадчына Сяргея Паўловіча // Голас Радзімы. 1996. 19 снеж.; 26 снеж.

Беларускай Праваслаўнай царквы. Крыніцай зборніка стала перыёдыка міжваеннага перыяду – “Сялянская Ніва”, “Беларускі звон”, “За свободу”, “Праваслаўная Беларусь”, “Сын Беларуса”, “Сялянская праўда”, “Беларуская крыніца”, а таксама стэнаграфічныя справаздачы Сената Польшчы. Матэрыялы ўтрымліваюць навуковыя каментары і біяграфічныя даведкі асоб, што згадваюцца ў тэксце. Варта адзначыць, што карысным для навігацыі па кнізе быў бы паказальнік імёнаў, які адсутнічае.

Вячаслаў Багдановіч, як падкрэслівае ўкладальнік кнігі А. Горны, належаў да той кагорты старой інтэлігенцыі, якая пасля рэвалюцыі зразумела перспектыўнасць і творчы патэнцыял беларускага нацыянальнага праекта. Яго жыццё, з аднаго боку, – прыклад паслядоўнай абароны сваіх поглядаў і перакананняў, а з другога боку, яно ілюструе трагічны лёс беларускай інтэлігенцыі ў XX ст.

Нарадзіўся В. Багдановіч 26 верасня 1878 г. у мястэчку Дзісна Віцебскай губерні ў сям’і сельскага святара. Атрымаў багаслоўскую адукацыю ў Кіеўскай духоўнай акадэміі. Працаваў выкладчыкам у Віцебскай семінарыі, інспектарам і рэктарам Віленскай духоўнай семінарыі. Ад міран Літоўскай епархіі ўдзельнічаў у Памесным саборы Рускай Праваслаўнай царвы, дзе было адноўлена патрыяршаства. Усё далейшае жыццё ён адстойваў палажэнні і пастановы гэтага сабору. Актыўна займаўся беларускай грамадска-палітычнай і культурнай дзейнасцю ў Заходняй Беларусі, якая пасля Рыжскага міру ўвайшла ў склад Польшчы. В. Багдановіч спрычыніўся да стварэння розных беларускіх арганізацый з мэтай захавання і падтрымкі беларускай ідэнтычнасці ва ўмовах паланізацыйнай палітыкі ўладаў. Ён меў сувязі з Таварыствам беларускай школы, Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры, Беларускім нацыянальным камітэтам, Беларускім каапературыўным банкам. Быў адным з заснавальнікаў Віленскай беларускай гімназіі.

Жыццё В. Багдановіча знітавана з Праваслаўнай царквой. Ён быў паслядоўным прыхільнікам пашырэння выкарыстання беларускай мовы ў царкве, у першую чаргу ў казанях, справаводстве, выкладанні ў школах. Менавіта

з В. Багдановічам звязаны спробы арганізацыі беларускага хрысціянска-дэмакратычнага праваслаўнага палітычнага руху. Ён ініцыяваў стварэнне “Праваслаўнага беларускага дэмакратычнага аб’яднання”. З яго ўдзелам выдаваўся грамадскі і царкоўны часопіс “Праваслаўная Беларусь”.

Палітычная дзейнасць В. Багдановіча звязана і з польскім парламентам. У 1922 г. абраны ў Сенат Польшчы, стаў членам Беларускага пасольскага клуба і на працягу васьмі гадоў фактычна быў галоўным абаронцам праваслаўных беларусаў ад пераследу з боку польскіх уладаў і ціску Каталіцкай царквы. На дзяржаўным узроўні ім уздымаліся пытанні разбурэння і адабрання на карысць Каталіцкай царквы праваслаўных святынь, палітычнага пераследу духавенства і епіскапаў. Асабліва вострым было пытанне аўтакефаліі Праваслаўнай царквы ў Польшчы. В. Багдановіч падкрэсліваў некананічнасць увядзення яе незалежнасці, лічыў неабходным захоўваць сувязі з Маскоўскім патрыярхатам, за што на яго была накладзена анафема ў Польскай Праваслаўнай царкве. Тым не менш, В. Багдановіч карыстаўся павагай і вялікім аўтарытэтам у праваслаўным асяроддзі. Паводле некаторых крыніц, у канцы 1930-х г. ён быў затрыманы польскімі ўладамі і зняволены ў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. З прыходам у Вільню савецкіх войскаў арыштаваны 30 верасня 1939 г. органамі бяспекі. Далейшы лёс невядомы, верагодна, быў расстраляны адразу пасля арышту ў Віленскай турме.

Разгляданае выданне ўяўляе сабой збор творчай спадчыны В. Багдановіча. Гэта пераважна беларускамоўныя артыкулы ў перыёдыцы міжваеннай Польшчы, а таксама некалькі рускамоўных артыкулаў на царкоўную тэматыку. Кніга складаецца з уступнага слова ўкладальніка і пяці тэматычных раздзелаў: аўтакефалія і кананічнасць царквы; царкоўнае жыццё; палітыка, культура, гісторыя; успаміны; прамовы і выступы.

Самая аб’ёмная частка – першая, прысвечаная праблеме абвяшчэння аўтакефаліі і кананічнасці царквы ў Польшчы. Яна складаецца з 9 артыкулаў, у якіх паказана пазіцыя В. Багдановіча ў пытанні царкоўнай самастойнасці. Адлюстроўваецца яго пазіцыя адносна магчымасці

абвяшчэння аўтакефаліі Праваслаўнай царквы ў Беларусі. Багдановіч лічыў гэта магчымым ва ўмовах палітычнай незалежнасці Беларусі з нацыянальнай уладай пры захаванні кананічных патрабаванняў: жадання аўтаноміі ці аўтакефаліі самой Беларускай царквы, духавенства і вернікаў, а таксама згоды той царквы, ад якой яна залежала. Матэрыялы раздзела выразна дэманструюць раскол, які ўзнік паміж вернікамі і іерархамі царквы, што пайшлі на супрацоўніцтва з польскімі ўладамі. Характэрна падабенства думак В. Багдановіча і дзеяча рускай эміграцыі Д. Філосафава наконт стану спраў у царкве і краіне: “Русская иерархия пресмыкалась пред светской властью. Из угодничества пред нею она совершенно забыла о чистоте и святости канонов, чем нанесла жестокий вред церкви и родине. Если бы наши иерархи заботились об этой самой каноничности хотя бы в эпоху Александра III и Николая II, то наша российская разруха не была бы так ужасна” (59–60).

Другі раздзел “Царкоўнае жыццё” склалі публікацыі В. Багдановіча, датычныя ўзамаадносін праваслаўных і каталікоў у Жыровічах, спробаў захопу і рэвіндыкацыі праваслаўных цэркваў на карысць Каталіцкай царквы. Крытыкуюцца адносіны ўладаў і Сінода царквы да ўладыкі Панцеляймона, які выступіў супраць аўтакефаліі. Таксама ўздымаецца пытанне рэлігійнага расколу беларускага грамадства і стварэння асобнай праваслаўнай палітычнай арганізацыі ў Заходняй Беларусі. В. Багдановіч лічыў, што “лепш нам сядзець на розных рэлігійных вазох, але ехаць адным нацыянальным шляхам” (71).

У раздзеле “Палітыка, культура, гісторыя” сабраны публікацыі В. Багдановіча, дзе ён выказвае сваю пазіцыю адносна нацыянальнай палітыкі Польшчы і бальшавікоў, дзейнасці Б. Тарашкевіча і Беларускага пасольскага клуба, змяшчаюцца артыкулы па гісторыі праваслаўя на беларускіх землях, а таксама пра творчую дзейнасць Янкі Купалы і Якуба Коласа. Цікавым уяўляецца аналіз твораў Я. Купалы, прапанаваны В. Багдановічам, які сцвярджаў, што ў савецкай Беларусі паэт перажываў заняпад у творчасці (115–116).

Раздзел "Успаміны" ўтрымлівае два тэксты. Першы з іх прысвечаны дзейнасці Віленскай праваслаўнай семінарыі ў 1915–1927 г. В. Багдановіч імкнуўся паказаць ціск польскіх уладаў на ўстанову шляхам прызначэння лаяльных уладам асоб на кіроўныя пасады, арыштам няўгодных святароў і рэформамі ў кірунку паланізацыі духоўнай адукацыі. Другі артыкул – успаміны В. Багдановіча аб працы Маскоўскага сабору пад час бальшавіцкага перавароту, якія змяшчаюць шмат цікавых назіранняў над грамадска-палітычнай сітуацыяй і настроямі ў царкоўным асяроддзі.

Апошні раздзел "Прамовы і выступленні" складаецца з 6 прамоў і выступаў В. Багдановіча ў Сенаце і на паседжаннях Віленскай гарадской рады. У прамовах Багдановіч уздымаў праблемы варожых адносін польскіх уладаў да праваслаўя, фінансавага становішча царквы, адабрання цэркваў, скасавання прыходаў, пазбаўлення царквы маёмасці, абмежавання правоў праваслаўных, выкладання рэлігіі ў школе, пераследу епіскапаў і стварэння некананічнай царкоўнай улады, барацьбы з сабornасцю і самаўладства польскага Міністэрства веравызнанняў.

Выданне не ставіць кропку ў вывучэнні пытання ўзаемаадносін праваслаўя і беларускага руху ў Заходняй Беларусі, а наадварот, як і кожны зборнік крыніц, патрабуе грунтоўнага аналізу з пошукам адказаў на шматлікія пытанні, якія маюць навуковую і грамадскую значнасць: арганізацыйная форма Праваслаўнай царквы ў Беларусі; ужыванне беларускай мовы ў царкве; узаемаадносіны дзяржавы і царквы; роля Праваслаўнай царквы ў грамадстве; ідэнтычнасць, якую стварала і рэпрэзентавала праваслаўе ў Беларусі.

Мінск *Аляксандр Цымбал*

# Евангельскія хрысціяне ў Беларусі: пяць стагоддзяў гісторыі (1517–2017 гг.) / навук. рэд. УЛАДЗІМІР НАВІЦКІ. Мінск: Пазітыў-цэнтр, 2019. 470 с.

Калектыўная манаграфія "Евангельскія хрысціяне ў Беларусі: пяць стагоддзяў гісторыі (1517–2017 гг.)" напісана чатырма аўтарамі: Наталляй Балтрушэвіч, Людмілай Івановай, Уладзімірам Навіцкім і Сяргеем Паднюком. Першыя тры – прафесійныя гісторыкі, а С. Паднюк – пратэстанцкі тэолаг, рэктар Тэалагічнага інстытута хрысціян веры евангельскай (Мінск). Агульную рэдакцыю ажыццяўляў доктар гістарычных навук У. Навіцкі. Гэта першае сінтэтычнае даследаванне паўтысячагадовай гісторыі беларускага пратэстантызму.

Адразу адзначым істотны недахоп кнігі – ні ў змесце, ні ва ўводзінах не пазначана аўтарства раздзелаў і параграфаў, пералік аўтараў даецца толькі ў пашпарце кнігі, і чытачу незразумела, кім напісаны тыя ці іншыя часткі.

У цэлым даследаванне паказвае, што пратэстантызм выступае адной з ключавых для беларускай культуры канфесій. Доказам, сярод іншага, служыць факт, што з пратэстантамі так ці інакш звязана абсалютная большасць перакладаў Бібліі на беларускую мову. Таму публікацыя згаданай манаграфіі ўяўляе цікавасць не толькі для канфесійных гісторыкаў, але і для гісторыкаў культуры, гісторыкаў філасофскай і палітычнай думкі Беларусі.

"Евангельскія хрысціяне ў Беларусі: пяць стагоддзяў гісторыі (1517–2017 гг.)" з'явіліся не раптоўна і не на пустым месцы. За два апошнія дзесяцігоддзі па-беларуску выйшла 9 кніжных выданняў па гісторыі Пратэстанцкай царквы ў Беларусі[1], спецыяльныя выпускі часопіса "Архэ"

[1] Акіньчыц С. Залаты век Беларусі. Мінск, 2002; Пратэстанцкая царква і беларускі нацыянальны рух на пачатку XX ст.: артыкулы і ўспаміны. Мінск, 2006; Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі: зб. матэрыялаў, артыкулаў і дакументаў. Брэст, 2011: Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць (да 600-годдзя Евангельскай Царквы ў Беларусі): зб. матэрыялаў міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Мінск, 2014;

і "Спадчына"[2], абаронены 3 кандыдацкія дысертацыі[3]. Гэта не лічачы таго, што выходзіла па гісторыі грамадска-палітычнай думкі беларускай Рэфармацыі, беларускай літаратуры эпохі Рэфармацыі і раздзелаў па гісторыі беларускага пратэстантызму ў калектыўных працах гісторыкаў.

Пачынаючы з 2013 г. сумеснымі намаганнямі Мінскай багаслоўскай семінарыі Саюза ЕХБ у Беларусі і Тэалагічнага інстытута ХВЕ (Мінск) кожныя два гады праводзіцца міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць", па выніках якой выдаюцца рэцэнзаваныя зборнікі матэрыялаў (на сёння выйшла тры кнігі). Як правіла, у гэтых канферэнцыях, акрамя беларускіх даследчыкаў, звычайна бяруць удзел калегі з Польшчы, Літвы, Эстоніі, ЗША, Вялікабрытаніі, Швейцарыі і іншых краін.

У 2014 г. на базе Оксфардскага цэнтра місійных даследаванняў (Oxford Centre for Mission Studies) і Мідлэсэкскага ўніверсітэта Лондана (Middlesex University, London) была паспяхова абаронена доктарская дысертацыя амерыканскага даследчыка Бруса Андэрсана па тэме «Палітычная тэалогія Рэфармацыі ў раннемадэрных Беларусі і Літве: на прыкладзе

Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Вып. II: (да 500-годдзя Мікалая Радзівіла Чорнага): зб. матэрыялаў II міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Мінск, 2016; Русецкі У. Пастар Станіслаў Нядзьвецкі і евангельскае прабуджэнне на паўночным захадзе Беларусі. Мінск, 2017; Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Вып. III (да 500-годдзя Рэфармацыі і 500-годдзя беларускай Біблііі): зб. матэрыялаў III міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Мінск, 2018 і інш.

[2] Спадчына. 2003. № 1: спецыяльны нумар "450 гадоў Рэфармацыі ў Беларусі"; Архэ-Пачатак. 2012. № 1-2: спецыяльны нумар "Беларусь эвангельская".

[3] Лисовская Т. В. Неопротестантизм в Западной Беларуси в 1921–1939 гг.: дисс. … канд. ист. наук; БГУ. Минск, 2009; Балтрушэвіч Н. Г. Пратэстанцкія арганізацыі БССР у 1944–1985 гг.: структура, формы дзейнасці, узаемаадносіны з дзяржавай: дыс. … канд. гіст. навук; НАН Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск, 2010; Сушко В. В. Эволюция взаимоотношений государства и неопротестанских организаций в условиях реформирования религиозного законодательства Беларуси (1985–2010 гг.): дисс. … канд. ист. наук; БГУ. Минск, 2015.

працы Андрэя Волана “Аб свабодзе” (1572 г.)». Шэраг артыкулаў Б. Андэрсан апублікаваў у беларускім навуковым друку[4].

Такім чынам, з’яўленне манаграфіі “Евангельскія хрысціяне ў Беларусі: пяць стагоддзяў гісторыі (1517–2017 гг.)” – гэта ў пэўным сэнсе падсумаванне і абагульненне напрацовак беларускіх і замежных даследчыкаў.

Канцэптуальна новае ў разгляданай манаграфіі тое, што аўтары не падзяляюць гісторыю кальвіністаў, лютэран, баптыстаў, хрысціян веры евангельскай, евангельскіх хрысціян і іншых пратэстанцкіх дэнамінацый, а разглядаюць як адно цэлае. Такі падыход, што базуецца на тэалагічным складніку, уяўляецца нам слушным.

Аўтары даследавання наглядна паказваюць, што змены ў заканадаўстве ВКЛ, якія адбыліся пад уплывам Рэфармацыі і пратэстантаў, прадухілілі міжканфесійную канфрантацыю ў нашай старажытнай дзяржаве, і нават наступленне контррэфармацыі не прывяло да крывавых падзей, як гэта адбылося ў шэрагу еўрапейскіх краін. Іншая справа, што з перамогай контррэфармацыі ў ВКЛ быў закладзены глыбінны светапоглядны канфлікт у самім грамадстве, што ўрэшце прывяло да расколу. У выніку аслаб пратэстантызм, аслабла праваслаўе, аслабла Рэч Паспалітая Абодвух Народаў.

У часы Расійскай імперыі пратэстанты часткова існавалі легальна (лютэране і кальвіністы), часткова нелегальна (баптысты, евангельскія хрысціяне, штундысты і інш.). Сітуацыя змянілася толькі ў 1906 г., аднак ненадоўга. Але тут, на нашу думку, аўтарам не ўдалося раскрыць тэму і паказаць беларускі кантэкст развіцця пратэстантызму ў канцы XVIII – пачатку XX ст.

[4] Anderson B. Reformed Political Theology in Early Modern Belarus and Lithuania: Andrzej Wolan’s De libertate (1572). Unpublished thesis for Doctor of Philosophy. Oxford Centre for Mission Studies, Oxford, UK/Middlesex University, London, UK, November 2014; Андэрсан Б. Палітычная тэалёгія Жана Кальвіна ў прысьвячэньнях Жыгімонту II Аўгусту і Мікалаю Радзівілу Чорнаму // Архэ-Пачатак. 2012. № 1-2. С. 35–50; Андэрсан Б. Сацыяльная і палітычная тэалёгія Рэфармацыі ў прадмовах, камэнтарах і іншых дапаможных матэрыялах да Берасьцейскай Бібліі 1563 г. // Архэ-Пачатак. 2017. № 3. С. 277–304 і інш.

Яшчэ адна асаблівасць выдання ў тым, што большая частка кнігі прысвечана савецкаму перыяду. Тут ёсць некалькі важных момантаў. Па-першае, прыводзіцца лічба 1288 арыштаваных і асуджаных беларускіх пратэстанцкіх служыцеляў (гаворка ідзе пра 1937 – пачатак 1938 г.). Па-другое, хіба ўпершыню ў беларускай гістарычнай навуцы апісаны формы пратэстанцкага супраціву савецкім парадкам: адмова ад удзелу ва ўсесаюзным перапісе 1937 г.; адмова ад удзелу ў выбарах у Вярхоўны Савет СССР і БССР (1938); адмова вернікаў-пратэстантаў уступаць у калгасы і саўгасы, а таксама выхаванне дзяцей у "духу рэлігійнага фанатызму". Адзначым, што гэтыя пратэставыя акцыі адбываліся ў гады "вялікага тэрору" і насілі масавы характар, у іх удзельнічалі сотні людзей з розных рэгіёнаў БССР.

Разам з тым кідаецца ў вочы дыспрапорцыя ў асвятленні гісторыі Евангельскай царквы ў БССР і Заходняй Беларусі міжваеннага перыяду. Так, пратэстантам у Савецкай Беларусі прысвечана 56 старонак тэксту, а ў Заходняй – толькі 19. Гэта пры тым, што на захадзе краіны адбывалася, кажучы словамі сённяшняга кіраўніка Саюза ЕХБ, "Вялікае евангельскае прабуджэнне"[5], а на ўсходзе Пратэстанцкая царква была загнана ў глыбокае падполле і часткова знішчана сталінскімі рэпрэсіямі.

Адносна пасляваеннага часу аўтары манаграфіі даюць статыстыку, што ад 70 да 80% евангельскіх цэркваў у БССР былі размешчаны на захадзе рэспублікі. Асаблівая ўвага звернута на дзейнасць незарэгістраваных супольнасцяў Рады цэркваў ЕХБ, якая дала найбольшую колькасць "вязняў сумлення" ў 1960–1970-я г.

Як сведчаць вынікі даследавання аўтараў манаграфіі, 1970–1980-я г. паказалі, што жыццё зарэгістраваных цэркваў стала лягчэйшым з прычыны таго, што ўлады не здолелі ліквідаваць "сектанцкае падполле", г. зн. незарэгістраваныя цэрквы. Калі ў часы перабудовы стала магчымым рэгістраваць цэрквы без тэалагічных саступак

[5] Міховіч Л. Прадмова // Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Вып. II: (да 500-годдзя Мікалая Радзівіла Чорнага). Мінск, 2016. С. 6.

уладам, то пратэстанцкіх цэркваў было зарэгістравана ў 4 з паловай разы больш, чым праваслаўных. Гэта паказвае маштаб “пратэстанцкага падполля” ў БССР.

Апошні раздзел манаграфіі прысвечаны развіццю пратэстанцкіх цэркваў у незалежнай Беларусі. На 2017 г. у Беларусі налічвалася больш за 1000 пратэстанцкіх цэркваў і каля 100 000 вернікаў. Але ў гэтым раздзеле відавочна недастаткова інфармацыі пра культурна-асветніцкую беларускамоўную дзейнасць сучасных беларускіх пратэстантаў, пра іх унёсак у нацыянальную культуру.

Такім чынам, нягледзячы на наяўнасць пэўных недахопаў і прагалаў, манаграфія “Евангельскія хрысціяне ў Беларусі: пяць стагоддзяў гісторыі (1517–2017 гг.)” – знакавае і этапнае для айчыннай гістарычнай навукі выданне.

Мінск *Андрэй Унучак*

## ЯРМУСІК, ЭДМУНД С. Канфесійная гісторыя Беларусі: вучэбны дапаможнік. Мінск: РІВШ, 2016. 200 с.

У сучаснай Беларусі востра адчуваецца запыт на новае пакаленне падручнікаў па сацыяльна-гуманітарных дысцыплінах. Абумоўлена гэта пераважна тымі працэсамі трансфармацыі, якія адбываюцца ў краіне. У маладога пакалення светапогляд сфармаваўся ўжо ва ўмовах плюралістычнага грамадства, у якім адсутнічае афіцыйная ідэалогія. Таму ў студэнтаў існуе featured рознае стаўленне да рэлігіі, і гэта трэба ўлічваць пры выкладанні ведаў пра яе.

На наш погляд, неабходна вырашыць дзве якасна розныя задачы. Па-першае, у рэлігіязнаўстве варта адмовіцца ад старых марксісцкіх схем. Зрабіць гэта не так проста, бо сацыяльна-гуманітарныя дысцыпліны ўтрымліваюць ў сабе выразны светапоглядны кампанент. Марксізм даваў стройную і лагічна несупярэчлівую карціну свету, якой і цяпер карыстаецца значная частка насельніцтва краіны, у тым ліку і ў дачыненні да рэлігіі. Адразу ж адзначым, што гэтая справа запатрабуе шмат часу, бо светапоглядныя сістэмы,

пабудаваныя на іншых у параўнанні з марксізмам падставах, у нашым грамадстве яшчэ не атрымалі пашырэння.

Другая задача – асвятленне гісторыі рэлігіі менавіта з беларускага пункту гледжання. Раней мы ўваходзілі ў каласальную супердзяржаву. Таму і наша гісторыя, у тым ліку і канфесійная, разглядалася як частка агульнасаюзнай. Напрыклад, пры выкладанні гісторыі хрысціянства спачатку гаварылася пра хрышчэнне кіяўлян, а потым пункт погляду неяк плаўна перасоўваўся ў Маскву, і далей падзеі асвятляліся менавіта адтуль. Між тым, Беларусь мае сваю рэлігійную традыцыю, якая істотна адрозніваецца ад расійскай. Напрыклад, у нас існавала поліканфесійнасць, была Рэфармацыя і контррэфармацыя, суперніцтва паміж праваслаўем і каталіцтвам.

Таму сам факт выхаду навучальнага дапаможніка Эдмунда Ярмусіка, у якім асвятляецца гісторыя канфесій у Беларусі, трэба толькі вітаць. Гэта важна для працэсу фармавання нашай краіны як самастойнай дзяржавы. Ніжэй выкажу свае меркаванні наконт выкладзенага ў ім матэрыялу. Адразу адзначу, што мы з аўтарам дапаможніка належым да розных спецыяльнасцяў. Па адукацыі я філосаф і, безумоўна, маё бачанне адрозніваецца ад падыходаў прафесара Ярмусіка – вядомага даследчыка гісторыі рэлігій у Беларусі.

Мяркую, што дапаможнік будзе вельмі карысны для студэнтаў. Матэрыял у ім выкладзены паслядоўна і лагічна, прыведзена шмат фактычных звестак. Яны могуць быць выкарыстаны іншымі даследчыкамі пры напісанні сваіх дапаможнікаў.

Ва уводзінах трэба было б акрэсліць тыя метадалагічныя пазіцыі, з якіх падаецца матэрыял, што зарыентавала б студэнтаў і дапамагло б ім сфармаваць сваё стаўленне да праблем. Як паказвае мой вопыт выкладання рэлігіязнаўства і гісторыі рэлігіі, гэта вельмі спрыяе засваенню курса. Таксама надзвычай добра, калі пазіцыя студэнтаў не супадае з пазіцыяй выкладчыка, і яны выказваюць свае меркаванні, што сведчыць пра спробы самастойнага мыслення.

Добра было б, каб ва ўводзінах аўтар даў азначэнні такіх паняццяў, як “рэлігія” і “канфесія”. Тады было б папярэдне зразумела, што разглядаецца ў дапаможніку.

Выданне прызначана для студэнтаў ВНУ, якія вучацца на спецыяльнасцях "Гісторыя" і "Сацыялогія". Таму ў метадычным плане варта выкарыстоўваць напрацоўкі такіх класікаў у галіне сацыялогіі рэлігіі, як Э. Дзюркгейм, М. Вэбер, Г. Зімель, што надасць матэрыялу больш сістэматызаваны характар.

Таксама пры асвятленні атэістычнай палітыкі ў Савецкім Саюзе трэба ўлічваць, што яна грунтавалася на філасофскіх палажэннях, распрацаваных класікамі марксізму. Рэлігія разумелася імі як форма свядомасці, якая дае ілюзорную карціну рэчаіснасці. Таму вызваленне ад яе разглядалася як адзін з фактараў прагрэсіўнага развіцця. Гэта было б для студэнтаў нагодай задумацца пра парадаксальныя вынікі сацыяльных утопій. Усе яны з'явіліся як імкненне прапанаваць праект справядлівага і шчаслівага грамадства, але ў выніку атрымлівалася нешта накшталт казармы.

Сёння актуальным з'яўляецца выкарыстанне розных падыходаў пры тлумачэнні рэлігіі ў навучальнай літаратуры. Але трэба сказаць, што гэта задача філосафаў, якія працуюць ў галіне рэлігіязнаўства. І яе толькі нядаўна пачалі ставіць.

Слушным, на мой погляд, было б прывядзенне ў дапаможніку тыпалогіі рэлігій. Гэта задало б схему разгляду гісторыі кожнай з іх. Так, хрысціянства як сусветная рэлігія звяртаецца да ўсіх людзей, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці. І таму карысна выявіць сэнс схемы "праваслаўны – рускі, каталік – паляк", якая выкарыстоўваецца і да цяперашняга часу і пра якую гаворыцца ў дапаможніку. Яна абумоўлена палітычнымі прычынамі. Доўгі час ва ўмовах страты ўласнай дзяржавы ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай для палякаў прыналежнасць да каталіцтва была сродкам самаідэнтыфікацыі. Таксама трэба ўлічваць і тую ролю, якую ў XX ст. польскае каталіцтва выканала ў супрацьстаянні камуністычнаму рэжыму.

У Расійскай імперыі праваслаўе было афіцыйнай ідэалогіяй, а на нашых землях – адным з галоўных сродкаў русіфікацыі. Руская праваслаўная царква заўсёды дэманстравала лаяльнасць у дачыненні да дзяржавы. Апошні яскравы прыклад – яе патрыятычная пазіцыя ў гады

Вялікай Айчыннай вайны, і гэта нягледзячы на страшны пераслед з боку атэістычнай дзяржавы ў 20–30-я гады.

Вельмі падрабязна ў дапаможніку разгледжана рэлігійная сітуацыя ў Заходняй Беларусі ў 1921–1939 г. Тут каталіцтва і праваслаўе памяняліся ролямі. Калі ў Расійскай імперыі праваслаўе выкарыстоўвалася ўладамі для русіфікацыі беларусаў, то ў міжваеннай Польшчы каталіцтва стала сродкам паланізацыі.

І ў гэтым плане сёння актуальная праблема пошуку дзвюма названымі хрысціянскімі канфесіямі свайго месца ў незалежнай Беларусі. Кожная з іх імкнецца яе вырашыць, але адбываецца гэта пры дапамозе розных метадаў.

Асобнае месца ў гісторыі рэлігій на тэрыторыі Беларусі займае ўніяцтва. Яго асвятленне – прадмет спрэчак, таму важна заняць неангажаваную пазіцыю. Трэба, каб студэнты ведалі прычыны і ўмовы заключэння Берасцейскай уніі, а таксама асноўныя факты з гісторыі ўніяцтва на нашых землях. У дапаможніку гэта зроблена.

Што да неапратэстанцкіх канфесій, то, на мой погляд, гісторыю кожнай з іх трэба разглядаць асобна. На гэтую частку вернікаў узведзены найбольшы паклёп. Вельмі добра, што пры апісанні іх становішча ў сучаснай Беларусі ў дапаможніку не ўжываецца тэрмін “секта”.

Належнае месца ў кнізе адведзена гісторыі іўдаізму, але пажаданы больш падрабязны разгляд. У прыватнасці, студэнтам карысна было б даведацца пра асноўныя палажэнні хабада, а таксама пра сістэму іўдзейскай адукацыі, у прыватнасці, пра знакамітую Валожынскую ешыву. Паколькі іўдаізм – нацыянальная рэлігія яўрэяў, вельмі цікава было б прасачыць дынаміку іх колькасці на тэрыторый Беларусі. Асабліва гэта тычыцца XX ст. У сучаснай Беларусі колькасць яўрэяў пастаянна памяншаецца за кошт эміграцыі, такім чынам знікае цэлы пласт нашай культуры, у тым ліку і рэлігійнай.

Іслам, гісторыя якога на Беларусі таксама падрабязна разгледжана ў дапаможніку, – адна з сусветных рэлігій. На нашых землях яго носьбітамі традыцыйна выступаюць татары. У кантэксце падзей апошняга часу ўзнік вобраз “ісламскага тэрарызму” актуальна, але нашай краіны

гэта не датычыць. Беларускія мусульмане заўсёды мелі добрыя адносіны з мясцовым насельніцтвам, а таксама займалі патрыятычную пазіцыю.

У дапаможніку каротка разгледжаны нетрадыцыйныя рэлігіі. Ім даецца адмоўная характарыстыка, якую, на наш погляд, у сучасных умовах трэба змякчыць. Яны надзвычай разнастайныя. Сярод іх ёсць і тыя, якія сапраўды ўяўляюць небяспеку для грамадства, аднак пра большасць такога не скажаш. Проста яны ўзніклі на падставе элементаў, запазычаных з іншых культур, і таму для нас незвычайныя. Сёння на Беларусі зарэгістраваны арганізацыі чатырох кірункаў, якія можна аднесці да нетрадыцыйных. Гэта крышнаіты, бахаі, мармоны і будысты (суполка "Шэн Чэн Лінг"). Вялікіх праблем у грамадстве яны не ствараюць.

На наш погляд, сам феномен нетрадыцыйнай рэлігійнасці для студэнтаў-гісторыкаў і сацыёлагаў павінен быць выкладзены больш падрабязна. Магчыма, гэта зроблена ў іншых курсах.

Беларускае язычніцтва – істотная частка нашай рэлігійнай традыцыі. Яго асвятленню прысвечаны шэраг сучасных даследаванняў, пераважна ў галіне этнаграфіі. У дапаможніку ахарактарызаваны такія формы язычніцкіх вераванняў, як фетышызм, татэмізм і анімізм. Не разгледжана магія. Між тым, магічныя абрады займалі важнае месца ў штодзённым жыцці беларусаў. Частка іх выконваецца моладдзю і цяпер як элемент гульні, дастаткова згадаць Каляды і Купалле.

Ва ўмовах сучаснай Беларусі актуальны аналіз узаемаадносін канфесій з дзяржавай і паміж сабой. Таму варта гаварыць не толькі пра асаблівасці беларускага заканадаўства ў сферы рэлігіі, але і пра міжканфесійны дыялог, а таксама пра дзяржаўную канфесійную палітыку.

На завяршэнне лічу неабходным падкрэсліць, што навучальны дапаможнік прафесара Э. Ярмусіка карысны для сістэмы адукацыі. Добра, што студэнты атрымліваюць веды пра гісторыю канфесій у Беларусі. Менавіта на гэтай падставе магчыма яе суаднясенне з рэлігійнымі традыцыямі нашых суседзяў, перш за ўсё Расіі і Польшчы.

Гомель *Віктар Адзіночанка*

# Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках, дапушчаных да абароны ў 2019 г.

## Доктарскія дысертацыі

Кривуть, В. И. Молодежная политика польских властей в Западной Беларуси (1921–1939 гг.): 07.00.02 / Кривуть Виталий Иванович; Ин-т истории НАН Беларуси. – Минск, 2019. – 48 с. – Библиогр.: с. 36–45 (83 назв.)

Смяховіч, М. У. Сельская гаспадарка Савецкай Беларусі ў 1943–1991 гг.: аднаўленне і развіццё: 07.00.02 / Смяховіч Мікалай Уладзіміравіч; Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Мінск, 2019. – 48 с. – Бібліягр.: с. 42–45 (41 назв.)

## Кандыдацкія дысертацыі

Алексашина, Г. В. Наемные работники в городах Беларуси: состав, правовое и экономическое положение (1890–1913 гг.): 07.00.02 / Алексашина Галина Вячеславовна; Ин-т истории НАН Беларуси. – Минск, 2019. – 27 с. – Библиогр.: 23–24 (14 назв.)

Василенко, В. В. Деятельность Всероссийского земского союза и Всероссийского союза городов на территории Беларуси в 1914–1918 гг.: 07.00.02 / Василенко Василий Викторович; Могилёв. гос. ун-т им. А. А. Кулешова. – Могилёв, 2019. – 27 с. – Библиогр.: с. 22–24 (18 назв.)

Вярыга, В. А. Моладзь у грамадска-палітычным жыцці на тэрыторыі Беларусі (канец XIX – жнівень 1914 г.): 07.00.02 / Вярыга Вадзім Аляксандравіч; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2019. – 24 с. – Бібліягр.: с. 20–21 (11 назв.)

Гаркович, Н. В. Деятельность Стефана Зизания в контексте православного братского движения в Речи Посполитой: 07.00.03 / Гаркович Наталья Викторовна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2019. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (15 назв.)

Долгач, Т. В. Губернские по крестьянским делам присутствия на территории Беларуси: формирование, структура, деятельность (1861–1903 гг.): 07.00.02 / Долгач Татьяна Валентиновна; Ин-т истории НАН Беларуси. – Минск, 2019. – 25 с. – Библиогр.: 21–22 (13 назв.)

Дягель, А. В. Иудейская община в персидской провинции Йехуд (VI–IV вв. до н.э.): 07.00.03 / Дягель Анна Викторовна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2019. – 27 с. – Библигр.: с. 20–22 (13 назв.)

Калинина, А. С. Трансформация церковно-приходской жизни православного населения БССР в 1929–1939 гг.: 07.00.02 / Калинина Анна Сергеевна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2019. – 24 с. – Библиогр.: с. 18–21 (21 назв. )

Концевой, П. А. Репарации в восстановлении и дальнейшем развитии промышленногсти и сельского хозяйства Белорусской ССР (1945 – начало 1950-х гг.): 07.00.02 / Концевой Петр Александрович ; Могилёв. гос. ун-т им. А. А. Кулешова. – Могилёв, 2019. – 27 с. – Библиогр.: с. 19–24 (37 назв.)

Мосейчук, Л. И. Теологическое образование приходского униатского духовенства на белорусских землях в 1743–1839 гг.: 07.00.02 / Мосейчук Людмила Ивановна; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2019. – 27 с. – Библиогр.: с. 20–23 (23 назв.)

Навощик, Е. В. Белорусско-шведские отношения (1991–2017 гг.): 07.00.15 / Навощик Елизавета Владимировна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2019. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (11 назв.)

Приборович, А. А. Материалы центральных органов статистики БССР 1919–1939 гг. как исторический источник: 07.00.09 / Приборович Артем Александрович; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2019. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (14 назв.)

Симончик, А. Н. Историография истории культуры Беларуси конца XVIII – первой половины XIX в.: 07.00.09 / / Симончик Александр Николаевич ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2019. – 23 с. – Библиогр.: 22–26 (32 назв.)

Спартак, А. А. Институт царской власти по данным древнеегипетских обелисков: 07.00.03 / Спартак Алла Александровна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2019. – 27 с. – Библиогр.: с. 20–22 (21 назв.)

Стахно, Н. В. Танаталагічныя ўяўленні шляхты Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XVI–XVIII ст.: 07.00.02 / Стахно Ніна Валер'еўна ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2019. – 24 с. – Бібліягр.: с. 20–21 (12 назв.)

Субоцін, А. А. Сацыяльныя аспекты стаханаўскага руху ў БССР (1935–1941 гг.): 07.00.02 / Субоцін Аляксандр Аляксандравіч; Могилёв. гос. ун-т им. А. А. Кулешова. – Могилёв, 2019. – 25 с. – Библиогр.: с. 19–22 (26 назв.)

Сыцько, К. В. Дакументы і матэрыялы канца XVII–XX ст. з парафіяльных архіваў рымска-каталіцкага касцёла як крыніцы па гісторыі Беларусі: 07.00.09 / Сыцько Вірыл Валер'евіч; Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Мінск, 2019. – 26 с. – Бібліягр.: с. 20–23 (28 назв.)

Чараўко, В. У. Пахавальныя помнікі Беларускага Падзвіння XIV–XVIII стагоддзяў: 07.00.06 / Чараўко Віктар Уладзіміравіч; Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Мінск, 2019. – 26 с. – Бібліягр.: с. 18–23 (43 назв.)

Шилко, Т. И. Предмет исторической науки в трактовке российской немарксистской историографии (60-е гг. XIX – первая четверть XX вв.): 07.00.09 / Шилко Таисия Ивановна ; Гродн. гос. ун-т им. Янки купаты. – Гродно, 2019. – 24 с. – Библиогр.: 20–21 (14 назв.)

Ших, К. В. Белорусско-израильские отношения (1992–2015 гг.): 07.00.15 / Ших Константин Викторович ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2019. – 26 с. – Библиогр.: с. 20–23 (24 назв.)

*Наталля Анофранка*

## Аўтары нумара

**Яўген Анішчанка**
зав. Дубравенскі, д. 5, кв 1
220089 Мінск, Беларусь

**Наталля Анофранка**
Інстытут гісторыі НАН Беларусі
вул. Акадэмічная 1
220072 Мінск, Беларусь

**Дзмітрый Віцько**
Часопіс “Arche. Пачатак”
в. Вялікі Трасцянец
Магілёўская шаша, 10 км
Мінскі р-н, Мінская вобл.
223060 Беларусь

**Tomasz Kamusella**
School of History
University of St Andrews
St Andrews, Scotland, UK

**Sviatlana Kul-Sialverstava**
Politechnika Białostocka
ul. Wiejska 45 E
15-351 Białystok, Polska

**Ігор Скочиляс**
Український Католицький Університет
вул. Іларіона Свєнціцького 17
79000 Львів, Україна

**Michihiro Yasui**
Tokiwa College
1-430-1 Miwa, Mito City
310-8585 Japan

# BELARUSIAN HISTORICAL REVIEW

Volume 26 Fascicles 1-2 (50–51) December 2019

## Contents